



ЧЭРВЕНЬ

МІНСК, 1973

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе *



Вокладка **Л. Шукалюкава.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **В. Ждановіча** (стар. 81).





# ПАЭЗІЯ

- Пятрусь БРОЎКА
- Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ
- Таццяна ДЗМІТРУСЁВА



- Вячаслаў КУЛЬЧЫЦКІ
- Сцяпан ГАЎРУСЁЎ
- Алесь ДЗЯТЛАЎ

# ПРОЗА





пятрусь броўка

*

паэзія

*

## Няхай жа вам не сняцца...

Хапіла і героям,
І ўсім: старым, малым...
Мы зведалі такое —
Не верыцца самім.

Зямля крывёй паліта,
Агню слупы, слупы...
Мы бачылі забітых —
Ляжалі, што снапы.

Мы бачылі — ляцелі
Снарады пчол гусцей,
І матак звар'яцелых
Ля згінуўшых дзяцей.

Палалі хаты-свечы,
А дым, як смоль, густы.
Пасля — стаялі печы,
Разявіўшы раты.

Мы бачылі — кідалі
Сялібы галубы
І быццам вуркавалі,
Падобна да кляцьбы.

Вы, дзеці сонца, працы,
Далёка ад вайны —
Няхай жа вам не сняцца
Пра гэта нават сны.

## Карэнні песні

Вялікі дуб.
Яго напевы
Ідуць з карэньчыкаў малых.
І я, нібы карэннем дрэва,
Збіраю песню з душ людскіх.

Кладу,
Чаканю слова к слову,
У гэтым сэнс глыбокі ёсць.
Таму і рознакаляровай
Бывае песні прыгажосць.

І ёй
Аддаўшы ўсё, што маю,
І свой наказ: — У людзі руш!
Сачу, а як яе прымаюць
Мільёны воч, мільёны душ?

## У музеі

Сябры, сябры,
Наш круг радзее —
Хто сам сышоў, хто на вайне...
Ах, колькі вас са сцен музея
Глядзіць сягоння на мяне!

І тыя, што паваявалі,
Што білі ворагаў на скон,
І тыя, што зямлю аралі
Яшчэ на трактары «Фардзон».

І тыя, хто з душой выноснай
Паліў ля буданоў касцёр,
Каму бярозы нашы й сосны
Былі ў час грозны за сясцёр.

І тыя, змагары за волю,
Каго кідаў за краты лёс,
І тыя, з кім у камсамоле
Спявалі мы: «Наш паравоз...»

З кім у асецці і адрыны
Збіралі восені дары,
З кім на вясковай вечарыне
Скакалі часта да зары.

І тыя, з кім калісьці ў першы
Хадзілі мы вучыцца клас,
І тыя, з кім пісалі вершы,
З газет чакаючы адказ.

Пра вас тут весціны такія —
Што смерць...
Здаецца, закрычу —
Бо для мяне вы ўсе жывыя,
Аддаць вас смерці
Не хачу!

## Сэрцалёт

Да пэўнай станцыі ў палёт
Вядуць звышгукавы экспрэс.

А верш — ракета-сэрцалёт.
Прад ім, як ёсць, сусвет увесь.

Каб быць патрэбным дзень пры дні,
Людскія сэрцы паланіць,
Ён на належнай вышыні
Па змесце й форме мусіць быць.

Каб вёў яго натхнення жар,
Каб узляцеў ажно да зор,
Каб крылы рвалі тоўшчы хмар,
Каб ніклі нізка пікі гор.

Каб мог плысці ён — ноч не ноч,
Каб вызначаўся і красой,
Каб быў прываблівым для воч
І часта вабіў навіной.

Яму ляцець бясконца год,
Нікому не злічыць таго,
Бо верш — ракета-сэрцалёт
І безліч станцый у яго.

## Чаму я гэтак вас люблю?

Я не магу на вас забыцца.
Вы ўсе са мной,
Як нават сплю.
Не, вы скажыце, вы скажыце,
Чаму я гэтак вас люблю?

Бярозу тую — многаплачку,
Што ля бацькоўскага двара,
І тую рэчачку Вушачку,
Якой далёка да Дняпра...

І той лужок, дзе давялося,
Брысці не раз між трыснягоў,
І той гаёк з кашлатых сосен,
Якім — куды да тапалёў!

І тую ўтульную мясцінку,
Дзе мы пілі кляновы сок,
І тую вузкую сцяжынку,
Што быццам жоўты паясок.

Чаму ж лавіць, лічу, найлепш я
У нашай ціхай рэчцы рыб,
Чаму здаецца прыгажэйшым
Мне ў нашым лесе кожны грыб?

Чаму ласкавей дождж цярушыць
І пах больш чуткі медуніц,
Чаму адменны смак у грушаў,
У сліў, у вішань, у чарніц?..

Я вас даўно
Пакінуў быццам,
Ды ўсе са мной, як нават сплю...
Не, вы скажыце, вы скажыце,
За што я гэтак вас люблю?!



## Неба

Дыханне ўсіх, і луста хлеба,
І радасць зроку, спеў галля...
Ах, неба,
неба,
неба,
неба —
Як прагне да цябе зямля!

Ты для зямлі — яе патрэба,
Ці ты ў ясноце ці ў журбе.
Ах, неба,
неба,
неба,
неба —
Мы рвёмся змалку да цябе.

Як прагне тваёй ласкі глеба,
Тваіго цяпла, дажджоў тваіх —
Ах, неба,
неба,
неба,
неба —
Краса ты колераў усіх.

То быццам шоўк, то быццам зрэб'е,
То крэп, разгневана калі...
Ах, неба,
неба,
неба,
неба —
Табе малюся і зямлі.

## Рака

З бароў, з дуброў,
З крыніц, лугоў,
Дзе трыснягі,
Дзе асака —
Цячэ рака,
Цячэ рака...

Праз шум травы,
Праз паплавы.
Паміж палёў
І мурагоў —
Як ланцужок,
Як паясок.

Ёй пасабіць
Ручэй бяжыць,
І чым далей,—
Рака шырэй,
Ды ўжо й відны
На ёй чаўны.

Паміж бяроз
Я з ёй узрос,
Лёс выпаў мой

Заўсёды з ёй
Ісці, плысці
Ва ўсім жыцці.

Пад гул гадоў
З ракой ішоў,
Рака шмат раз
Вяла мне сказ,
Ляцела ўдаль
Гамонка хваль.

Шмат пекнаты
Схавала ты —
Кахання жар,
Юначых мар,
Гульні разбег,
Дзіцячы смех.

Але й жуды
Былі гады,
Што неслі кроў
Да берагоў.
Паўнела скрозь
Рака ад слёз.

Ды ў днях цяжкіх
Прагнала ўсіх
Ад берагоў
Ты чужакоў,
Свой змыла кут
Ад злых пакут.

Рака, мой лёс!
З табой я рос,
Я рад вітаць
І адчуваць,
Як ты плывеш,
Як ты пяеш!

## Каўказскія замалёўкі

У сінь вышынь Каўказ прыбраны.
Між стромых гор —
Лугі, палі,
І, як зялёныя фантаны,
Таполі рвуцца з-пад зямлі.

І шум ядлоўцу на сцяжынках,
І клёкаты арла
Здалёк,
І гоман срэбнай ручаінкі,
Нібы гаранкі галасок.

А горы скрозь, куды ні выйсці.
Гняздо на іх —
То горца дом.
А скалы, скалы...
Хто калісьці
Насек іх дужым калуном?

Глядзіш на іх. Расце здзіўленне —
У бяздонне гледзячы
на дол,
Сасна трымаецца карэннем,
Як быццам кіпцямі арол.



А воблакі, нябёсаў хвалі,
Што пух,
Напоўнілі прастор.
Няздарма бога малявалі
На гэтых воблаках між гор.

## Любая мясціна

Відаць, я ў гэтым не адзіны,
Відаць, што кожнага кране
На ўсё жыццё адна мясціна.
І ёсць такая і ў мяне.

За тое месца над ракою
Не знаю большае красы,
Яно заўжды, заўжды са мною,
Дзе б я ні быў, ва ўсе часы.

Туды ніякае дарожкі,
Ні нават сцежак лугавых —
Кусты ляшчынніку, бярозкі,
Малы ядлоўчык паміж іх.

Я там вясновай раніцою
Сустрэчы першае чакаў,
Калі ж прыйшла, дык я пра тое,
Пра што хацеў, і не сказаў.

Наогул анямелі словы,
Куды адвага ўся сплыла?..
Ды і яна, бы выпадкова,
Мяне на беразе знайшла.

Стаяла ціш, дзе мы сышліся,
І толькі чуў, узнёслы, я —
Дрыжэла песня жаўра ў высі,
А больш за ўсё — душа мая.

■

Быў слоў нібы гусіны статак
Крыклівы, ды без ладу ў ім —
Паэзіі маёй пачатак
Быў і складаным і цяжкім.

Як па жвіры ішоў я босы,
Мяне калола і пякло.
Душа ірвалася ў нябёсы,
Ды ведаў-крылляў не было.

І я, як тая рыба, біўся,
Як свой кірунак выбіраў,
І ў недавучаных вучыўся,
Недапаэтаў прызнаваў,—

Пакуль не выбіўся, як трэба,
Бо верыў, смела ў даль глядзеў
І чорнаму не здрадзіў хлебу,
Які з вялікім смакам еў.

## *Абы-якой не заставайся!*

Каб старасць
Рана не спасцігла —
Дай пагарэць сваёй крыві,
Не будзь, як халадзец, застыглай,
А ўсімі фарбамі жыві.

Ты перасудаў не лякайся,
Што людзі зложаць у паспех,
А ты мяняйся, ты мяняйся,
Як гнеў —
На любасць,
Плач —
На смех.

Прывабнага не адцурайся
І выпі шчасця поўны коўш.
І ты мяняйся, ты мяняйся —
Як зморк —
На сонца,
Суш —
На дождж!

## *Вясёлка*

Ах, як нам вясёлкі ззялі
У юначую вясну!
А яшчэ Вясёлкай звалі
Камсамолку мы адну.

Усміхнецца, зарагоча,
Жарты з вуснаў агнявых...
А галоўка, твар і вочы —
Колькі колераў жывых.

Нас Вясёлка ў высі звала,
Што з'яўлялася, як госць,
І паўнеба чаравала...
Ну, а наша — ўсіх, як ёсць!

Нас усіх яна скарыла,
Мы хадзілі чарадой,
А яна найболей кпіла,
А надзеі — ніякой.

Ды прыпала ж ёй, гарачай,
На адным пагляд спыніць...
З тых часоў — вясёлку ўбачу, —
Ажно сэрца зашчыміць!..







*алесь пальчэўскі*

# ЧОРНЫ ДЗЕНЬ

## АПОВЕСЦЬ

Мал. **Л. Дубара**

Вакзалы, вакзалы... Колькі іх, розных: чыгуначных і аўтобусных, рачных і марскіх, вірлівых і спакойных, гаманкіх і ціхіх! Натоўпы людзей, як марскія хвалі, то раптам запоўняць іх, то схлынуць, пакідаючы дзе-нідзе на шырокіх, гамузных канапах-лаўках пасажыраў, што чакаюць сваіх маршрутаў.

Завітаем на адзін з вакзалаў, на чыгуначны Мінскі, паназіраем, як выходзяць людзі з маскоўскага цягніка. Мітусліва, як тыя пясчынкі ў крынічных ручаях, усе стараюцца хутчэй у горад. Перон увачавідкі пусцее. Скончыліся абдымкі, пацалункі з доўгачаканымі гасцямі. Гэтыя выходзяць апошнімі. Ім спяшацца няма ўжо асаблівай патрэбы. Праз некалькі хвілін лягчэй будзе сесці ў аўтобус ці трамвай або ўзяць таксі на стаянцы, калі гэта не зроблена загадзя.

Сярод апошніх пасажыраў выйшаў на Прывакзальную плошчу чалавек з плашчом на левай руцэ і з чамаданчыкам — у правай. Яшчэ ў вагоне ён даведаўся ад правадніцы, калі ідзе прыгарадны на Койданава. Часу ў яго было ў запасе, а таму чалавек і не надта спяшаўся. Ён акінуў вачыма мітуслівую плошчу і затрымаў позірк на двух высозных будынках — нібы слупах гарадскіх варот. Разглядаючы іх, прыпомніў, што было раней на гэтай вуліцы. Уявіў аднапавярховыя пад шалёўкай драўляныя домікі, пафарбаваныя ў зялёны колер, з аканіцамі, а перад імі, абапал бруку, купчастыя ліпы. У адным з гэтых домікаў былі калісьці пры нэпе мэб-

ляваныя пакоі пад гучнай назвай «Эльбрус». Тут можна было пераначаваць, выпіць вечарам і раніцай шклянку чаю, гаспадыня магла сама схадзіць ці паслаць дачку купіць вам што на снеданне... Успомніўся пачатак трыццатых гадоў. «Пачакай, а як жа называлася тады гэта вуліца?.. Здаецца, Адзіннаццатага ліпеня. Канечне, у гонар вызвалення Мінска ад белапалякаў перайменавалі Міхайлаўскую. Цікава, як жа яна цяпер называецца?»

Чалавек перайшоў цераз плошчу, прачытаў на вышынным доме: вуліца Кірава. Пастаяў трошкі, паглядзеў адсюль на будынак вакзала, прыгадаў, што да вайны на старым будынку быў умураваны вялізны электрычны гадзіннік, якія ўваходзілі тады ў моду, і гэта было вельмі зручна пасажырам. Затым успомніў, што трэба і на вакзале даznацца яшчэ, калі ўсё ж ідзе яго цягнік, і вярнуўся назад.

Часу да ад'езду, як даведаўся, заставалася. Можна было пайсці паблукаць па горадзе, паглядзець, як адбудаваўся ён. Час дазваляў на агледзіны, але чалавек адклаў іх на пазней: калі будзе вяртацца назад. А цяпер зайшоў у пачакальню ў надзеі прысесці, сабрацца з думкамі. Вольных месцаў не знайшлося. Тады перайшоў цераз вестыбюль на другую палавіну вакзала. І тут усе месцы былі заняты. Пачаў узірацца, на якой канапе хоць трошкі вальней. Падышоў да адной, паставіў на падлогу, каля ног, чамадан і абапёрся на спінку лаўкі, побач з пасажырам, які чытаў ранішнюю газету.

Чалавек паправіў на руцэ плашч, пазіраючы на пасажыра, ці не здагадаецца той трошкі пацясніцца, каб даць яму месца. Упэўніўшыся, што яго ніхто не заўважае ў гэтым людскім тлуме перапоўненай залы, чалавек нахіліўся і нясмела папрасіў:

— Ці нельга каля вас, дарагі, прысесці на часінку?

Пасажыр апусціў на калені газету, зняў акуляры і раней, чым адсунуцца, паглядзеў у твар таму, хто прасіў. Нешта знаёмае, даўно бачанае і даўно забытае мільганула ў рысах прадаўгаватага твару з крапінкай над брывом, у вострым позірку запалых ужо вачэй гэтага пажылога чалавека. Адсоўвацца не было вельмі куды, аднак пасажыр з газетай моўчкі пацясніў трошкі суседа і сцяўся, як мог, сам.

— Дзякую, хоць на краёчку, усё ж не на нагах стаяць,— апусціўся чалавек з плашчом на руцэ на лаўку, падсунуў бліжэй чамадан і прыціснуў яго нагамі.

Тое, што новы сусед па лаўцы здаўся знаёмым, не давала цяпер спакою пасажыру з газетай у руцэ. Ён сіліўся ўспомніць, дзе яны маглі бачыцца, і не прыгадваў. І, як заўсёды бывае ў такіх выпадках, пачаў распытваць, куды едзе чалавек.

— У Бярэжу, а там яшчэ кіламетраў сем да Прудкоў дабірацца. Куды адтуль дарога ляжа — не ведаю.

— Калі не сакрэт, здалёк завіталі ў наш край?

Чалавек зняў з рукі плашч, акуратна склаў яго, палажыў на каленях, а наверх — капялюш, дастаў з верхняй кішэні пінжака расчоску і правёў ёю некалькі разоў па рэдкіх пасівелых валасах.

— А які тут можа быць сакрэт? — павёў ён брывамі.— Жыву на Далёкім Усходзе, а прыехаў сюды шукаць сына.

Пасажыр з газетай у руцэ мелькам зірнуў у твар суседу і, баючыся, што можа ён не расслухаў, нясмела перапытаўся:

— Прабачце, сына ці ўнука?

— Я сказаў — сына,— паўтарыў чалавек з плашчом на каленях.— А можа, і ўнукаў знайду, калі жывы дзе мой Толя ды мае дзяцей,— дадаў лагодней.

— Даўно прапаў?



— Перад вайной.

Пасажыр раптам пачаў скручваць газету ў трубачку.

— І ўвесь час не бачыліся?

Папраўляючы плашч на каленях, чалавек кіўнуў галавою.

— На першым часе не шукаў, думаў, самі мяне знойдуць. А тут скора вайна пачалася. Беларусь трапіла пад акупацыю. Потым іншыя клопаты мяне агарнулі... Цяпер еду ў тую вёску, адкуль Толікава маці. Можа, сваякі ведаюць што пра іх. Дзед з бабай наўрад ці жывыя, тады пажылымі былі ўжо.

— Нялёгкая сітуацыя, нялёгкая — праз столькі гадоў шукаць страчанае,— паспачуваў пасажыр, нервова раскручваючы газету.

І назва вёскі, у якую ехаў чалавек з плашчом, і імя — Толік — насцярожылі яго. «Няўжо нашы дарогі скрыжаваліся на гэтым вакзале?» — падумаў, стараючыся не выдаць трывогі.

Жыццёвыя шляхі людзей — тыя ж зямныя дарогі. Бясконцыя бальшакі перасякаюцца карацейшымі дарогамі, палявымі, ляснымі, а то проста сцяжынкамі на адзін след. І вельмі часта сустрэчы пасля доўгіх разлук адбываюцца іменна на гэтых вузенькіх пакручастых сцяжынках, што бягуць праз шырокія палеткі каласістых ніў, зялёных лугоў, лясістых узгоркаў.

Іншы раз аж дзіва бярэ, як маглі сустрэцца гэтыя людзі на такой дарозе... А то яшчэ сыдуцца твар у твар на шматлюднай вуліцы, быдта знарок падстроена кім-небудзь гэтая сустрэча, каб яны маглі ўсклікнуць: «Ты? Дзе, што робіш?» «А ты дзе?..»

Пасажыр з газетай у руцэ не мог сказаць так. Яго ўсё яшчэ мучылі сумненні: можа, гэта і не той чалавек? Заставалася — спытацца імя і па бацьку. І ён першы, быдта між іншым, назваў сябе:

— Прабачце, мяне завуць Аляксей Пятровіч. А як вас, калі не сакрэт?

— А які сакрэт? Іван Самсонавіч Крушынін, інжынер на пенсіі.

«Вось гэта сітуацыя!» — здрыгануўся пасажыр з газетай. І толькі шматгадовая вайсковая загартоўка — умець стрымліваць сябе ў любых абставінах — памагла яму астацца спакойным.

— А маё прозвішча — Ганчарэнка, падпалкоўнік у адстаўцы,— дапоўніў сказанае раней чалавек з газетай у руцэ.

Гаворачы, спадзяваўся калі не на выбух гневу, то на вялікае здзіўленне, але Крушынін успрыняў пачутае абыякава. «Значыць, маё прозвішча нічога не нагадвае табе? Тым лепш,— падумаў Ганчарэнка і цяпер ужо з большай цікавасцю пачаў разглядаць суседа. Дык вунь каго я сустрэў!.. Пастарэў жа ты, пастарэў, Іван Самсонавіч! Гады бяруць сваё. Нідзе ад іх не дзенешся, ніяк не ўтоіш... А што каб пайсці з ім у зацішнае месца ды пагаварыць пра ўсё? Гэта ж цікава было б Тані ведаць»,— зірнуў Аляксей Пятровіч на гадзіннік.

— Як вы глядзіце, Іван Самсонавіч, на такую прапанову: падняцца на другі паверх і перакусіць за кампанію ў рэстаране? Да ад'езду і ў мяне, і ў вас шмат яшчэ часу.

— Можна схадзіць. Як там будзе з пачастункам у Прудках, невядома. Ды і калі яшчэ туды дабяруся,— згадзіўся Крушынін.

Яны ўзялі рэчы, зайшлі ў рэстаран і занялі ў далёкім куточку вольны стол. Ганчарэнка прабег вачыма меню, спытаўся ў суседа, што таму падабаецца, заказаў два абеды і дзвесце грамаў каньяку.

— На маю долю каньяку не заказвайце,— напомніў Іван Самсонавіч.— Не ўжываю.

Тады Ганчарэнка паразаказаў на сто грамаў, аднак папрасіў дзве чаркі.

I

Пасля інстытута Крушынін мог астацца інжынерам на Мінскім заводзе, а Тацццяна — пры медыцынскім інстытуце на навуковую працу. Але Іван настояў на сваім: ехаць на Далёкі Усход, паглядзець сваімі вачыма свет. У той час асабліва пачалі надаваць вялікую ўвагу гэтаму аддаленаму ад Масквы краю, і людзі розных прафесій патрэбны былі ў любым яго куточку.

І яны паехалі. Тацццяна — урачом, а Іван — інжынерам-будаўніком.

— Паглядзіш, Танечка, мы адразу станем на ногі: адзенемся, абуемся і сотню-другую будзем мець пра запас,— падахвочваў ён жонку.— Слухай толькі мяне...

— Ды ўжо ж прыйдзецца слухаць,— згадзілася Тацццяна.— Куды іголачка, туды і нітачка, кажуць людзі...

Трапіў Крушынін у інстытут пасля трох гадоў работы тэхнікам-будаўніком на шашы Масква—Мінск. Гэта асфальтавая магістраль не толькі між дзвюма сталіцамі, але і між захадам і ўсходам краіны лічылася тады ўдарнай. Кожная навучальная ўстанова з будаўнічым ухілам пасылала сюды, па разнарадцы камісарыята асветы, некалькі сваіх выпускнікоў як з сярэдняй, так і з вышэйшай адукацыяй. Івана і яшчэ двух хлопцаў прыслаў Новасібірскі палітэхнікум.

Тацццяна паступіла ў медыцынскі інстытут адразу па сканчэнні дзесяцігодкі. На першым часе бацькі вельмі непакоіліся, як там іхняе дзіця прыжывецца ў горадзе сярод чужых людзей. І нават тады, калі Тацццяна была ўжо на чацвёртым курсе, маці ўсё ж лічыла яе бездапаможнай у асабістым жыцці. Кожны раз, як дачка прыязджала дахаты, першае, што пыталася маці — ці не змаркоцілася яе Танечка без бацькоў і Мішы, свайго малодшага брата?

Дык і не дзіва, што яна была вельмі радая, калі аднаго дня дачка прыехала ў Прудкі знаёміць бацькоў са сваім мужам.

— Цяпер, дачушка, будзе каму заступіцца за цябе, калі хто надумае пакрыўдзіць. Ёсць на чыё плячо абаперціся... Толькі як жа гэта вы пайшлі рэгістравацца без бацькоўскага благаславення? — папракнула яна ўсё ж.

І Тацццяна і Іван трошкі збянтэжыліся: не было чым апраўдвацца. Мікалай, Тацццянін бацька, заўважыў разгубленасць маладых:

— Зрабіць добрую справу, Марыйка, ніколі не позна. Не блаславіла, калі ішлі рэгістравацца, дык блаславі цяпер — на шчаслівае жыццё. Бог не пакрыўдзіцца, прыме шчырыя матчыны пажаданні, хоць і запозненыя.

Тады ж маці пахваліла сам-насам даччын выбар: «Гэта добра, што ён трохі старэйшы за цябе. Больш практычнасці мае і самастойны, відаць, не які там узвей-вецер. Будзеш слухацца — паняй пражывеш век...» Аб прыгажосці зяця нічога не сказала, бо лічыла, што і дачцэ ніхто ганьбы не дасць.

На радасці Тацццяна адразу расказала мужу пра гаворку з маткай. Пазней Іван не прамінӑў зручнага моманту, каб не напомніць жонцы жартам, а то і ўсур'ёз цешчыну параду.

Прыехалі Крушыніны на новае месца раніцай. На станцыі чакала іх грузавая машына. Шафёр здзіўлена спытаўся, як убачыў сваіх пасажыраў з невялікімі чамаданамі:

— Гэта і ўсяго рэчаў?



— А якія могуць быць рэчы ва ўчарашніх студэнтаў? — пажартаваў Іван.

— І то праўда,— згадзіўся шафёр.— Начальнік, відаць, не знаў, хто вы, а то мог прыслаць легкавушку... Тады паехалі.

— А далёка нам ехаць? — пацікавілася Тацццяна.

— Не, кіламетраў дзесяць. Дарога, праўда, неважнецкая, на скорую руку пракладзена...

Тацццяна села ў кабіну, побач з шафёрам, а Іван з чамаданамі — у кузаў. Шафёр час ад часу папярэджваў сваю пасажырку:

— Трымайцеся, зноў калдобіна.

Пасёлак будаваўся між лесу. Прыходзілася высякаць дрэвы, кусты, каб паставіць часовыя палаткі, пакуль пабудуюцца баракі для тых, што прыехалі і прыедуць сюды на работу.

— Бачыла, у якое хараство трапілі? Усю дарогу кветкі і кветкі,— сказаў Іван да Тацццяны, калі яны прыехалі на будоўлю.— Збірай, якія падабаюцца. А што за паветра! Цуд! Дыхні на поўныя грудзі. Адчуваеш?

Яна згадзілася і паказала на прыгажосць асмужаных сопак, да якіх, здавалася, рукой падаць.

Быў харошы, пагодлівы дзень. Зранку прыпякала ўжо сонца.

Начальнік, чалавек пажылых гадоў, з ніткамі сівізны на скронях, як толькі да яго зайшлі Крушыніны, падняўся і выйшаў з-за стала. Сказаў, як зваць яго, і папрасіў прабачэння, што некаторы час давядзецца ім жыць у бараку-інтэрнаце.

— Праўда, там выдзелены для вас асобны пакой. Пазней трохі атрымаеце добраўпарадкаваную кватэру. Сямейным у нас перавага.

— Тады зусім добра, Андрэй Піліпавіч,— зарадаваўся інжынер.— Да прыезду сюды мы жылі ў розных інтэрнатах, а тут — разам, ды яшчэ — асобны пакой, а пасля кватэра. Чаго нам больш хацець, Танечка, праўда?

Андрэй Піліпавіч акінуў іх позіркам і ледзь прыкметна ўсміхнуўся: «Як мала трэба людзям на пачатку жыцця». Ён разумеў Крушыніных вельмі добра, бо самому давялося на першым часе адведаць тут гаркоты. Першапрыходцам, як і першапраходцам, заўсёды дастаецца... І лягчэй заўсёды жывецца тым, хто ідзе ў лепшае ад горшага. Пасля кароткага знаёмства начальнік папрасіў Крушыніных зайсці ў аддзел кадраў аформіцца. Там ім скажуць пра работу і пакажуць, дзе жыць.

Пасля сталічнай мітусні Крушыніным падабалася і цішыня, і спакой між зеляніны. Работа, кватэра і сталовая для ІТР — інжынерна-тэхнічных работнікаў — былі паблізу і не адбіралі шмат часу. Было радасна, што пасля інстытуцкіх нагрузак і спешак яны могуць адчуваць сябе вальней.

Іван з першага дня ўзяўся весці ўсе выдаткі па іх маленькай гаспадарцы сам. Тацццяна ахвотна ўступіла матрыярхат, як толькі муж сказаў, што грашыма ў хаце павінен распараджацца нехта адзін: добра было б, каб гэтым чалавекам быў ён.

Тацццяне спадабаліся мужавы турботы. Свае пад'ёмныя, а пазней і аванс з першае выплаты яна ўсе аддала Івану: няхай думае, куды і на што траціць. Пасля тых мізэрных стыпендый, што яны атрымлівалі не так даўно, гэта былі ўжо вялікія грошы. Аднак і выдаткі сталі большыя за студэнцкія. Колькі чаго патрэбна было купіць і ў хату, і на сябе кожнаму з іх!

— Не ўсё адразу, Танечка,— стрымліваў Іван, калі жонка пачынала нагадваць, чаго нестае ў іхняй кватэры.— Перш-наперш заложым аснову, цвёрды падмурак, каб не думаць потым штодня, дзе дастаць

грошай на абед ці на кавалак хлеба... Мы ж не студэнты. Ды тут і пазычаць нязручна... Бацька вучыў мяне жыць так: каб хлеб заходзіў за хлеб, сала — за сала, а зароблены рубель клаўся на невыдатканы...

Каб словы не былі пустыя, а задуманае не адкладвалася надоўга, Іван з другой палучкі не прынёс дахаты ўсіх грошай. Разам з некалькімі чырвонцамі ён палажыў ашчадную кніжку на стол, за якім сядзела Таццяна і чытала новы нумар медыцынскага часопіса.

— А гэта што?— узяла Таццяна кніжку.

— Падмурак пад новую будоўлю, Танечка. Той, пра які я табе казаў. Забылася, ці што?

Таццяна насупіла бровы, прыгадваючы, калі і дзе адбывалася такая гаворка. Іван заўважыў жончыну заклапочанасць і прыйшоў на дапамогу:

— Як табе лепей растлумачыць? НЗ. Недатыкальны запас, разумееш? А наша маладое сямейнае жыццё — новая будоўля. Трэба табе ведаць — той гмах даўгавечны, пад якім моцны падмурак. Калі сказаць гэта пра людзей, то лягчэй жывецца тым, хто мае запас на чорны дзень.

— Ух ты, здорава як абгрунтавана!.. Падмурак, гмах!.. Не быў бы то будаўнік,— усміхнулася Таццяна.— Ну што ж, няхай будзе НЗ, калі палажыў. Толькі, па-мойму, можна было з гэтым, як ты кажаш, падмуркам трохі пачакаць...

Іван добра разумеў, чаму так гаварыла жонка. Але ён ведаў і другое: каб адстаяць сваё мужчынскае права быць поўным гаспадаром сям'і, трэба цярпліва вытрымаць усё: і пранізлівы позірк, і кпіны, і нават дакоры, калі яны будуць. Потым гэта ўсё акупіцца.

— Мог жа з дому занесці,— далей гартала часопіс Таццяна, сямтам затрымліваючы ўвагу на загалоўках.— Памеркавалі б, колькі, на што патраціць... Ці, можа, я не заслугоўваю таго, каб са мною раіцца?

— Адкуль ты ўзяла такое? Я з табою раіўся і буду раіцца, але не па грашовых пытаннях.

— Вунь як! Я — адно, а грошы — другое? Што ж табе даражэй: жонка ці чырвонцы? — глянула ў твар мужу і зноў нахілілася над часопісам.

— І адно і другое. Паглядзі, якія новенькія... Ласкунчыкі. Чуеш, як шамацяць,— пацёр у пальцах.

Таццяна не падняла галавы і не зірнула. Іван не пакрыўдзіўся за гэта. Седзячы за сталом, ён пазіраў на жонку і па-свойму, дакорліва, шкадаваў яе ў думках: «Не ведаеш ты яшчэ, даражэнькая, што такое грошы, змалку не прывучылі цябе бацькі ашчаджацца на ўсім. Трапіла б ты пад уладу майго бацькі — выхаваў бы ён з цябе добрую гаспадыню, навучыў бы берагчы кожную капейку...»

— Ну, чаго ты ўтаропіўся? — адчуўшы на сабе мужаў позірк, спыталася Таццяна.

— Пра цябе думаю. Толькі другі месяц ты на сваім хлебе і мала яшчэ разбіраешся, што да чаго ў гаспадарцы, а я колькі часу жыву самастойна. Лягчэй было мне ў інстытуце займацца, калі меў сёе-тое пра запас. Дакараеш, чаму не прынёс усае палучкі дахаты? З дому цяжэй адносіць грошы ў касу. Калі адразу паложыш, дык, выходзіць, быццам і не зарабіў іх. А дома заўсёды знойдзецца прорва на любую суму. Я пераканаўся на сабе. Грошы — вада ў жмені. Чуць паслабіш пальцы, глядзіш — пуста на далоні...



Таццяна чмыхнула.

— А я і не ведала пра такую грашовую тэорыю. Твая ўласная, відаць?

— З практыкі,— адказаў Іван, хаваючы кніжку ў чамадан з падручнікамі і сшыткамі.

— Ну што ж, гаспадарнічай. Пагляджу, што далей прыдумаеш,— здалася Таццяна.

Перад новым годам Крушынін перааформіў звычайны ўклад на тэрміновы і вечарам, падлічваючы будучы прыбытак, пацяшаў жонку, што цяпер будзе ісці не тры капейкі, а пяць на кожны рубель.

А маладой жанчыне хацелася мець выхадныя туфлі і лішнюю сукенку на змену з моднага ў той час крэпдэшыну.

— Танечка, ні ты ні я не ходзім босыя і абшарпаныя. Калі набываць што, дык людскае. Бо не такія мы багацеі, каб ганяцца за таннымі рэчамі,— паўтарыў ён чутае ад бацькі. Самсон часта адкараскваўся гэтак ад надакучлівых дзяцiных просьбаў: таннага не варта купляць, бо скора зношваецца, а на дарагое няма грошай.— Да таго ж трэба мець на ўвазе, што ў нас хутка будзе сын.

Таццяна ўспыхнула:

— А можа дачка!

— Толькі сын, Танечка. Я ўжо імя выбраў: Толя. Анатоль Іванавіч... Тады, можа, прыйдзецца патрошку здымаць з яе,— патрос ашчаднай кніжкай,— на трэцяга сем'яніна.

Але нічога не змянілася ў сям'і Крушыніных і пасля нараджэння сына, бо ў добрай гаспадыні трэці пры двух заўсёды паабедае,— лічыў Іван.

Прымірыўшыся з мужавым парадкам, Таццяна не трацiла ўсё ж надзеі: «Калі ж небудзь задаволіць ён сваю прагнасць, стане чалавекам». І аднаго разу яна ўлучыла момант, калі муж весела падгоцкваў Толіка, абняла іх абодвух і ласкава напомніла:

— Ты ж, Ванечка, нічога не купіў мне ў падарунак за сына. Такую радасць прынесла табе.

На нейкі момант жончыны словы ашаламілі Івана. Хіба гэта толькі яго радасць? У яе большае права на ўцеху: яна маці. Дакараць, што нічога не купіў? Хто ж тады набраў на сукенку цёмна-сіняга крэпдэшыну? Дзядзька? Брат? Сват?

Таццяна не толькі не пакрыўдзілася на мужа за такі адказ, але наадварот, стала лагаднейшаю. Давялося пайсці на ласкавыя хітрыкі:

— Танна ты хочаш адкупіцца, Ванечка, за такога сына,— пацалавала яна мужа ў шчаку, а Толіка ў лоб.— Прыгледзься, ён жа — увесь ты.— І, каб надаць просьбе большую моц, прыцішаным голасам, нібы выдавала вялікую тайну, сказала:— Сёння на рабоце пыталі, чым ты парадаваў мяне за сына.

Іван параіў не вельмі слухаць тую бабскую гаворку: жанчынам абы языкамі памянціць. Паклаў сына ў калыску і тут жа, быццам нячысцік пацягнуў за язык, спытаў, што Таццяна хацела б мець у падарунак?

— Што? — з надзеяй зірнула яна мужу ў твар.— Шубку, коцікавую. За тысячу пяцьсот. Як у жонкі нашага галоўурача. А табе паліто драпавае, як у яго. Чым, Ванечка, мы горшыя за іх?

«Адразу аддаць столькі грошай? Гэта ж вар'яцтва! Сяброўкі падбухторылі, а яна і рада старацца»,— зірнуў Крушынін у вочы жонцы: жартуе, ці сапраўды дамагаецца такога дарагога падарунка?

— Чаго ты здзіўляешся? Я так мала на сябе трачу. З пудрай і то ашчаджаюся, як магу.

Іван ухапіўся за апошнія Таццяніны словы:

— Падзякуй мне, што стала такою. Студэнткай ты зусім не ўмела берагчы грошай. Дадуць стыпендыю — і праз тыдзень на хлеб няма ўжо.

— У цябе ж не прасіла ні разу, здаецца.

— Не прасіла ў мяне, дык у таткі з мамкай, каб памаглі дажыць да новай палучкі... Цяпер ні ты, ні я не можам чакаць бацькоўскай помачы... Хоць я ў сваіх,— спахапіўся Іван,— і студэнтам не прасіў.

— Гэтага яшчэ не хапала!

— Люблю здагадлівых! Цяпер, думаю, ты сама згодзішся, што прыйдзецца пачакаць з шубкай да лепшага часу.

— Да якога гэта лепшага часу? Ці не спадзяешся на аблігацыю выйграць? — кальнула Таццяна.

Іван вытрымаў і гэты раз.

— Можа і на аблігацыю выйграем. Шанцуе ж людзям: прараб наш тысячу выйграў у апошнім тыражы... Гатоўка можа на што іншае спатрэбіцца...

— А на што іншае? Ці не збіраешся адчыняць краму ці майстэрню? Дык жа час не той, каб у нэпманы падавацца...

— Ніхто не збіраецца, Танюша, падавацца ў нэпманы, але ж ніхто і не ведае, калі ён надарыцца, той чорны дзень. Вось чаму трэба быць гатовым да яго.

— Ну і дэмагог жа ты! — узарвала Таццяну.— Ды, калі на тое пайшло, у нас там не толькі на шубку і паліто назапашана, а і на твой чорны дзень, гары ён пропадам, астанецца, і на тваю старасць хопіць!..

Толік не засынаў. Ён учапіўся ручкамі за білца, каб устаць, але бацька зноў палажыў яго на падушачку і скалыхнуў калыску. Іван адчуваў, што злосць у жонкі яшчэ не выкіпела, і праз сілу стрымаў сябе, каб не абурыцца за такую абразу. Ведаў, што злосць на злосць і гнеў на гнеў — дабра не прыносяць.

Ледзь толькі дзіця заснула, Крушынін пайшоў да Таццяны на куханьку, каб давесці жонцы сваю праўду.

— Што ў цябе, Таня, за мода дзяліць на «тваё» і «маё»? І старасць, і той чорны дзень, калі ён, часам, надарыцца, будуць не толькі маімі. Цяпер жа ў нас усё непадзельнае. Хіба мне аднаму гэты запас патрэбен? Зразумей, наперадзе ўсё жыццё...

Таццяна памкнулася пярэчыць.

— Ведаю, ведаю, што скажаш,— выставіў Іван перад сабою рукі, быдта бараніўся ад жончынага нападу:— Сорамна перад людзьмі? Дык у такіх выпадках мой бацька некалі казаў: сорам — не дым, вочы не выесць... Гарадок наш невялікі, і амаль кожны жыхар ведае — мы з табою нядаўна з інстытутаў, і калі што не так, даруе.

Ні Таццяна, ні яе бацькі ніколі не збіралі багацця. Ашчаджаліся, вядома, як робяць многія. У Мікалая нават адмысловая прымаўка была, калі траціў грошы: «Мы іх набывалі, а не яны нас...»

Таццяна пераняла позірк на пакой, дзе спаў сын, і думала сваё: «Ён жа і Толіка можа выгадаваць такога, як сам...»

Іван заўважыў, што Таццяна не слухае яго, і крануў за руку:

— І яшчэ запомні, калі ласка, Толік прынёс у хату не толькі радасць, але і выдаткі: на ўсё грошы ідуць... Раіў пачакаць яшчэ з дзецьмі, каб не мець лішняга клопату на першым часе. Не паслухала. А магла...



— Вунь да чаго ты дагаварыўся! Засушыў мазгі, засушыў!

— Я ж не кажу, каб зусім... Але можна было пачакаць...— спахапіўся Іван.

— Колькі гадоў? Два, пяць, дзесяць, дваццаць?.. А ты чуў, што кажуць людзі; «Раннія дзеці — палёгка бацькам на старасці». Хаця адкуль табе чуць...

Яна ўзяла кубак і каструлю з вадою і выйшла з куханькі паліць вазоны.

Толік прачнуўся і заплакаў. Іван падышоў і загаварыў да сына.

— Наша мама злуе, сынок. Яна гаварыць з намі не хоча...

Дзіця змоўкла. Здавалася, яно разумее бацькавы словы, ды не можа разабрацца, чыя ўсё ж праўда: татава ці маміна?

Таццяна палівала вазоны і, зрэдку кідаючы позірк на мужа, думала: «Расказваў, што ў бацькі прапалі тысячы мікалаеўскіх, захаваных пад печчу. А сам які? Шафу для адзення і то са слязьмі выманчыла. Суседкі вунь як абсталявалі кватэры, а мы ўсё прыбядняемся... Каб я, пасля сягоннямняй гаворкі, папрасіла ў яго чаго? Раней язык у мяне адваліцца»...

Жончына маўчанне гняло Крушыніна, нават палохала. І ён шукаў уцехі ў словах да сына.

— Перастань блазнаваць! — кінула пагардлівы позірк Таццяна, ідучы з пустой пасудай на кухню.— Сабе хоць купі паліто людскае, а то жабраком ходзіш. Інжынер, называецца!..

— Па мне, Танечка, не бядуй. Такое паліто, як маё, два-тры сезоны праносіцца.

— Ты і дзесяць сезонаў праходзіш у ім,— кінула папрок Таццяна з кухні.

У сям'і Крушыніных усталяваўся халадок. Хутка суседзі заўважылі гэта і пачалі шаптацца між сабой. Здагадкі нічога пэўнага не давалі ім, а цікавасць разбірала. Тады адна з суседак не вытрымала і спытала ў Таццяны, ці не перабег між ёю і мужам чорны кот. З болем у сэрцы прыйшлося Таццяне першай пайсці на прымірэнне: не даваць жа расці плёткам. Ведала, за каго ішла замуж? Ведала... Прыгадалася, як хадзілі ў кіно студэнтамі. Сяброўкі, з якімі жыла ў адным пакоі, сядзелі са сваімі хлопцамі на самых лепшых месцах, а яны — на самых танных. Маніла ім: Іван далёка не бачыць, а насіць акуляры саромеецца. Спадзявалася, пажэняцца, перайначыць яго на свой лад. А выйшла, як з тым жарабяткам: нарадзілася з лысінкай, з ёю век дажыло.

«Гэта ж толькі пачатак нашага жыцця. А як жа будзе далей?» — не раз думала Таццяна, астаючыся падоўгу адна з сынам, калі Іван затрымліваўся на рабоце.

Аднаго выхаднога дня Іван пайшоў на пару гадзін у кантору і затрымаўся: не сыходзіліся ў справаздачы лічбы. Таццяна чакала яго абедаць і, седзячы з Толікам на канапе, чытала ўголас вершы. Хлопчык уважліва слухаў, хоць нічога не разумеў, але яму добра было каля мамы.

— Ого, паэзіяй займаешся? Медыцына і лірыка! — усклікнуў, распранаючыся, Іван.— Чые? — асцярожна, каб не перашкаджаць чытанню, прыпадняў ён вокладку. Убачыў на ёй беластвольную бярозку і прозвішча аўтара — адышоўся.

— Апякло? — усміхнулася Таццяна.

— А ты знаеш, што ён зараз не ў пашане?.. Быў час — ім захаплялася моладзь.

— Сам ты чытаў хоць што яго?

Іван пакруціў галавою:

— У праграму дакладных навук не ўваходзіў... А захапляцца не было патрэбы.

— У нас таксама не ўваходзіў, аднак даставалі, дзе маглі, і чыталі.

— А чула, які забулдыга быў? Усё, што зарабляў на сваіх вершах — прапіваў, то з сябрамі, то з жанчынамі.

Таццяна дакорліва паглядзела ў твар мужу:

— Гэта ты пачуў і запомніў, а пачытаць не знайшоў часу.

— Мажа б і знайшоў, ды лічу непатрэбным займацца гэтым. Будаўніцтва завода і паэзія! Медыцына і паэзія! Каму патрэбны такія кантрасты?

— Знайшоў кантрасты!..

— Не будзем, Таня, залазіць у высокія матэрыі. Няхай гэтым займаюцца тыя, каму належыць. Мы людзі канкрэтнай работы. Кожнаму сваё... Прабач, што затрымаўся: заходзіў браць білеты на «Закройшчык з Таржка». Старая, але вясёлая, кажуць, карціна. Паабедаем ды пойдзем паглядзім... Толіка ў суседзяў пакінем.

Таццяна палажыла кніжку на тумбачку і пачала збіраць на стол.

Кінатэатр быў часова на новай вуліцы ў бараку. Тут многае яшчэ было часовым, пачынаючы з дашчаных тратуараў. Сям-там віднеліся нявыкарчаваныя пні.

— Навошта было высякаць тут падчыстую лес? — заўважыла Таццяна мужу.

— Так лягчэй будаваць, нішто не перашкаджае. Потым насадзяць.

— «Насадзяць...» — паўтарыла Таццяна.— А калі яны вырастуць, тыя дрэўцы? Канечне, лягчэй будаваць на чыстым месцы... Толькі на добры лад можна было і на заводскім двары пакінуць кудзеркі лесу, не кажучы пра асобныя дрэвы на вуліцах...

— Можна было, ды не пакінулі. Не мая віна ў гэтым. Я толькі будаўнік-выканаўца...

Каля ларка, дзе прадавалі сельтэрскую, Іван падняў пяць капеек і неяк дзіўна ўцешыўся.

— Знайшоў, з чаго радавацца! Аддай прадаўшчыцы.

— З якой ласкі? Гэта ж не яе,— апусціў манету ў кішэню Іван.

Таццяна паглядзела на мужа і адвярнулася.

## II

— Вось такі характар мела Таццяна,— уздыхнуў Іван...— Падумайце, ці ж заслугоўваў я таго, каб два дні не размаўляць са мною з-за тых пяці капеек? Прынцып: не паслухаў — адчуй гнеў і зацятасць. А як было слухаць? Па-вашаму, на чыім баку была праўда: на маім ці на яе?

— Можна было паслухаць... Жонка ўсё ж, ды і пытанне не прынцыповае,— адказаў Аляксей.

Афіцыянтка прынесла графінчык з каньяком, малюсенькія чарачкі і закуску. Аляксей узяўся разліваць каньяк, а Крушынін летуценна гаварыў далей:

— «Паслухаць»... Ім толькі і трэба таго, каб наш брат-мужчына хоць у дробязі ўступіў... Быў такі выпадак са мною, калі адзін раз паслухаў. Колькі часу прайшло, а і цяпер не магу дараваць сабе.

Яны паднялі чаркі.

...Улетку передлетняга года Крушыніны збіраліся паехаць да Таццяніных бацькоў. Яны мелі адпачынак за два гады і спадзяваліся добра правесці час у Прудках: пакупацца ў азярку, пагрэцца на сонейку, паказаць дзеду і бабе ўнука.



Перад самым ад'ездам, калі ўсё было ў зборы, Крушыніна не адпусцілі. Нешта не ладзілася з планам на будоўлі, і трэст адмяніў адпачынкі тэхнічнага персаналу ў летні час.

Таццяна з сынам ад'язджалі адны. Іван купіў ім білет у купейны вагон і, аддаючы, параіў на перасадцы ў Маскве дастаць да Мінска ў плацкартны: усё некалькі рублёў сэканоміцца.

Параіць параіў, аднак грошай даў на купейны вагон. З такога ж разліку адлічыў на праезд, расклаў іх па канвертах з надпісам, колькі ў ім грошай і для чаго. Адны параіў «далей палажыць, каб узяць бліжэй», а тыя, што на дарогу, трымаць у сумачцы, напашэве. Купіць што дзіцяці прыйдзецца ці сабе.

— На такую вялікую дарогу даеш толькі дваццаць пяць рублёў?— марудзіла браць Таццяна.

— А навошта яны больш? Яшчэ згубіш ці ўкрадзе хто... Яды з сабою набралі, а прыедзеце да бацькоў — там усё сваё.

Таццяна не стала дамагацца больш.

Першы ў купэ зайшоў з чамаданам у руцэ Іван.

— Відаць, гэта наша месца? — спытаў ён ні то ў пасажыраў, ні то сам у сябе.

— Гэта вольнае,— адказаў вайсковы і падняўся з пасцелі.

— Верхняе? — зазірнула з дзвярэй Таццяна.

— Якія ёсць. Сама ведаеш, цягнік ідзе здалёк, бярэш тое, што даюць.

— А як жа мы там з Толікам будзем?

Хлопчык тым часам выткнуўся наперад і сваімі чорнымі вочкамі ўтаропіўся на пасажыра ў вайсковай форме. Іх позіркі сустрэліся. Вайсковец устаў з лаўкі:

— Займайце маё. Як жа вам з дзіцем на верхатуры ехаць?

Тады з другой ніжняй лаўкі падхапіўся малады хлопец.

— Што вы, таварыш лейтэнант, не турбуйцеся, я ўступлю сваё. Там, наверсе, мне яшчэ лепш будзе,— і ўмомант пераклаў туды сваю пасцель.

— Ну, вось бачыш, Танечка, усё выйшла як не трэба лепш. Мне і ў касе сказалі: свет не без добрых людзей. Зараз мы паложым пад лаўку твой чамадан... Падзякуй, сынок, дзядзю за ласку.

Яны ўсе трое прыселі на лаўку, але два ўдары ў звон на станцыі не далі расседжвацца. Іван пацалаваўся з сынам і Таццянай і сказаў ім глядзець праз акно на платформу, дзе ён будзе стаяць.

Маці падняла сына. Цягнік крануўся ў дарогу, і хлопчык замахаў тату абедзвюма рукамі: за сябе і маму.

Таццяна пасадзіла хлопчыка побач з сабою, але таму не вельмі хацелася сядзець. Ён падняўся на калені, каб зірнуць, што робіцца за акном, ды тут жа адхінуўся і прыпаў тварам да матчынага пляча: у купэ шугануў клубок едкага дыму ад паравоза.

Лейтэнант устаў і зачыніў акно.

— Усё, можаш глядзець,— сказаў ён хлопчыку.— Больш дыму не будзе.— Цябе, здаецца, Анатолем зваць?

Хлопчык насупіўся, паглядзеў спадылба на незнаёмага дзядзьку і неахвотна адказаў:

— Не, Толік.

— А едзеш куды?

Тут ужо маці памагла сыну.

— Скажы, сынок: за Мінск, да бабулі і дзядулі ў госці.

Той паўтарыў матчыны словы і зноў прыпаў да акна, за якім насупраць цягніку беглі тэлеграфныя слупы, дрэвы.

— О, дык нам з вамі ў адну дарогу,— неяк дзіўна зарадаваўся лейтэнант, як пачуў, куды едзе жанчына з сынам.— Землякі, значыць... Прабачце, я чалавек вайсковы і люблю яснасць у абстаноўцы. Мяне зваць Аляксей Пятровіч, а як вас па бацьку? Імя мы чулі ўжо ад вашага мужа.

— Мікалаеўна. Таццяна Мікалаеўна.

Астатнія двое маладых пасажыраў, што слухалі гаворку, назвалі толькі свае імёны. Ехаць разам прыйдзецца не адны суткі.

У лейтэнанта аказалася з сабою даміно, а ў Таццяны — карты. Надакучыць гаварыць, даміно прыходзіць на разрывак, а то ў карты засядуць. Летні дзень — год. Трэба ж неяк скаратаць яго.

Аляксей хутка пасябраваў з Толікам. Выйдзе ў калідор пакурыць, а той следам за ім. Падыме яго Аляксей на рукі, і доўга глядзяць абодва, як мільгаюць паблізу людзі, чыгуначныя будынкі, жывёла на пашы каля насыпу. А то і адкінуць лаўку, прытуліцца Аляксей да сцяны, каб не замінаць нікому, возьме Толіка на калені, і пачнуцца казкі. Старэйшы ўмеў цікава расказваць, а меншы — уважліва слухаць.

— Дзядзя Лёша, дзядзя Лёша, зноў жарабяткі,— перапыняў Толік часам казку. І яны абодва ўзіраліся ў чараду коней, пакуль цягнік не мінаў яе.

Падабалася і Таццяне бавіць час бясконцай дарогі ў гутарцы з Аляксеем. Як толькі хлопчык засынаў, яна выходзіла ў калідор. Так непрыкметна ўсталявалася даверлівасць.

— Гэта хвароба, працілеглая марнатраўству,— заўважыў Аляксей, калі Таццяна расказала пра сваё сямейнае жыццё.— Адны да капейкі могуць растранжырыць усё, не думаючы пра заўтрашні дзень, другія адмаўляюць сабе ў неабходным і кожную капейку трацяць з болем у сэрцы.

На вялікіх прыпынках Аляксей часта выходзіў купіць сёе-тое з ласункаў. Першыя дні Толіку, а пазней і на долю маці.

Пад добры настрой Таццяна расказала аднаго разу пра Івана.

— Ды што ён у вас за чалавек?! — усклікнуў Аляксей.— Вы ж багіня, Таццяна Мікалаеўна!.. Не разумею такога мужа... Вас жа на руках насіць трэба!

Таццяна ўсміхнулася з узнёслых Аляксеевых слоў і ўпершыню падумала: «Не суджана было мне мець такога мужа, каб на руках насіў». Яна раптам адчула, як сціснулася сэрца ад жалю, як уcплылі крыўды, большыя і меншыя...

— Так і скажу свайму Ваню, як вярнуся, што гаварылі вы пра мяне, Аляксей Пятровіч.

— Скажыце толькі — ён такую рэўнасць закоціць, што ўвесь Далёкі Усход стане цесны для вас.

— Ха-ха-ха! — рассмяялася Таццяна.— Іван і рэўнасць... Не ўяўляю сабе. Яго больш цікавіць ашчадная кніжка, чым душа жонкі, няхай сабе і багіні, па-вашаму.

Аляксей яшчэ раз напомніў:

— Глядзіце, каб пасля не каяліся. Бо як да скнарлівасці далучыцца яшчэ рэўнасць — жыцця вам не будзе ад такіх сяброўак.

Тую дарожную гаворку Таццяна не раз потым успомніць.

За дзевяць дзён дарогі хлопчык так прывык да Аляксея, што аж расплакаўся, калі яму сказалі перад Масквой пра недалёкае расставанне.

— З татам, сынок, ты лягчэй развітаўся,— папракнула маці.



— Праўда, тата ніколі і не аддаваў табе столькі ўвагі, як дзядзя Лёша.

Аляксей пачырванеў трошкі ад такой пахвалы.

— Я люблю дзяцей, Таццяна Мікалаеўна. Мне пасля сямігодкі варта было ісці ў педагагічны тэхнікум, а не ў Аб'яднаную Беларускую вайсковую школу.

— Што любіце дзяцей — гэта відаць. Бо «по ком ребятишки захныкали, тот наверно был доброй души!» — У дзяцей жа адчуванне добрага і благога вельмі абвостранае... А што не сталі настаўнікам, не перажывайце: вашым падначаленым таксама патрэбна чулая душа камандзіра....

— Вы — тэрапеўт, вам лепш ведаць не толькі людскія хваробы, але і іхнія душы... Пра сябе скажу: гэтае падарожжа астанецца ў маёй памяці на ўсё жыццё. Адчуваю, як цяжка будзе развітацца з Толікам.

— Толькі з ім?

— Не, чаму ж?..— уздыхнуў Аляксей.— Каб вы толькі ведалі, Таццяна Мікалаеўна, колькі я чаго перадумаў!

Тут і ведаць не было чаго. Пільнае жаночае вока не раз заўважала за дарогу, як чырвань часам залівала лейтэнантавы шчокі, як бянтэжыўся ён, калі Таццяна, адчуваючы на сабе чужы позірк, паварочвалася да Аляксея. Тады ён апускаў вочы і маўчаў. Прафесія ўрача прывучыла Таццяну не выдаваць ні вачыма, ні голасам, ні рухам таго, што вядома толькі ёй. І таму, як мага спакойна, спытала:

— Наколькі я зразумела, вы перажываеце дарожны раман без узаемнасці?

Стараючыся не глядзець у твар Таццяне, Аляксей адказаў:

— Вам лепей ведаць, з узаемнасцю ці не.

На гэту гаворку з іхняга купэ выйшаў пасажыр пакурыць. Таццяна пакінула курцоў адных.

Толік спаў, ссунуўшы галаву на самы край падушкі. Маці паправіла, сама прысела збоку і ўзяла «Стеньку Разина». Думала, чытаннем заглушыць думкі, выкліканыя гаворкай з Аляксеем, а тыя сляпіцаю лезлі ў галаву, мітусілі кніжныя радкі.

У Маскве яны не рассталіся. Аляксей не пайшоў наведваць сябра па вайсковай школе, які служыў у маскоўскім гарнізоне і з якім ён перапісваўся ўвесь час. Адклаў сустрэчу на пазней, калі будзе вяртацца назад. Тут блізка, спішуцца і прызначаць на пэўны дзень тую сустрэчу.

Цягнік на Мінск адыходзіў хутка, і трэба было спяшацца закампасціраваць білеты. Каля кас тоўпіліся чэргі. Пасажырскія самалёты толькі ўваходзілі тады ў моду, а пра аўтобусы і гаварыць не прыходзілася. Цягнікі былі адзіным сродкам далёкіх пераездаў. Ды і хадзіла іх небагата.

— Паспрабую ў воінскай касе дастаць і сабе і вам. Скажу, жонка з дзіцем.

Жанчына ўсміхнулася ад пачутых слоў, але адмаўляцца ад ласкі не стала.

— Сам бог, калі ён ёсць, паслаў мне такога спадарожніка,— пажартавала Таццяна, беручы білет з плацкартай.

— Адно дрэнна,— ненадоўга,— пашкадаваў Аляксей.

Таццяна зрабіла выгляд, што не пачула сказанага. Пасля той гаворкі ў вагоне яна баялася размоў на тэму ўзаемнасці.

Хлопчык папрасіў вады.

— А мы сходзім і нап'ёмся ў буфеце ліманаду. Хочаш, Толік? — узяў яго Аляксей за руку. Той кіўнуў галавою.

На шумным вакзале хлопчык трымаў сябе ціха, быдта дзіця пад-

мянілі. Куды толькі падзелася тая весялосць і жвавасць, што былі ў дарозе?

З буфета Аляксей вярнуўся са слоікам вінаграднага соку і мяшэчкам апельсінаў.

— Дайце Толіку і самі ешце,— падаў апельсіны Таццяне,— а я схаджу вазьму з яды чаго-небудзь на сваю і вашу долю.

Таццяна дастала з сумкі чырвонец.

— Разлічымся ў дарозе,— кінуў на хаду Аляксей.

Ахопленая думкамі пра Аляксееву ўвагу да Толіка і яе, Таццяна ўзялася ачышчаць апельсін.

Хлопчык браў у руку пахучыя шалупінкі і смачна іх нюхаў. Потым маці давала яму ў рот па адной дольцы. Толік раскусваў, цмокаў і прасіў яшчэ. Апельсіна ўвачавідкі не стала.

— Цяпер, мама, ачышчай гэты,— выбраў ён найбольшы,— будзем удваіх есці: адзін раз мне, другі — табе. Добра? Ну, давай, куды ты глядзіш?

— Добра, сынок, добра,— адарвалася жанчына ад нахлынуўшых думак.— Але на тры часткі трэба дзяліць. Ты забыўся на дзядзю Лёшу? Гэта ж яго апельсіны.

— А дзядзі Лёшы няма. Як прыйдзе, тады будзем дзяліць. Вунь яшчэ колькі іх,— зазірнуў Толік у мяшэчак.

«Ці не твой тата перадаў табе часцінку сваe прагнасці? — усміхнулася маці і ўзяла другі апельсін. Ачышчала, а думкі зноў вярталі яе да Аляксея: — Колькі ў яго чалавечай дабраты, сціпласці. Чакае некага шчасце. А можа знойдзена ўжо кім-небудзь, хоць і кажа, што не жанаты»...— карміла сына Таццяна і сама зрэдку брала ў рот сакавітую дольку.

У купэ яны ўжо ехалі адною сям'ёй. Таццяна, як рупная гаспадыня, заслала сурвэткай столік, расклала яду і запрасіла, жартуючы: «Мужчынкі, з печы, з полу проша да столу. Будзем есці, што бог паслаў, а дзядзя Аляксей прыдбаў».

Аляксей злез з верхняй лаўкі, Толік падсунуўся бліжэй да століка, і ўсе трое пачалі сілкавацца. Таццяна запрасіла і суседзяў па купэ, але тыя адмовіліся.

Пад'язджаючы да Мінска, Аляксей паказаў Таццяне і Толіку сваю станцыю: драўляную, невялічкую, між купчастых клёнаў і ліп.

— Недалёка за ёю наша вёска. Хлапчукамі мы часта прыходзілі сюды гуляць, асабліва ў выхадныя дні. Ведалі, якія калі цягнікі ідуць, і з зайздрасцю паглядалі, як праносіліся вагоны з людзьмі перад намі. Стараліся найбольш заўважыць, каб потым было што расказаць.

— Прыходзяць і зараз. Бачыце, колькі іх стаіць? — паказала Таццяна на купку хлапчукоў.

— І таксама з зайздрасцю паглядаюць, цяпер ужо і на нас з вамі, і мараць, калі самі выпраўяцца ў вялікую дарогу...

— Для іх цяпер гэта не праблема. Разам з бацькамі яны не раз, напэўна, былі ў горадзе.

Удалечы віднеўся ўжо Мінск.

— Каб хаця надарылася фурманка,— непакоіўся Аляксей, праводзячы Таццяну ў вагон,— а то як жа вы будзеце дабірацца з дзіцём і рэчамі?

— Тут ужо бяда невялікая, Аляксей Пятровіч. З вашай дапамогай самая цяжкая дарога адолена.

— Для вас цяжкая, а для мяне... самая незабыўная...— сказаў Аляксей.— Такое падарожжа я з радасцю паўтарыў бы...

Таццяна нічога не адказала.



У вагоне Толік учапіўся за Аляксееву гімнасцёрку і настойліва ўпрошваў ехаць да яго дзядулі і бабулі. Маці пагразіла сыну пальцам, каб не перашкаджаў гаварыць.

Хлопчык змоўк, а праз хвіліну зноў пачаў сваё, тузаючы ўжо за руку Аляксея. Таццяна нахілілася і напаўголасу сказала:

— Не прыставай, сынок, да дзядзі, а то ён не прыедзе да нас у госці. Чуеш?

Што гэта было: супакойванне сына ці намёк лейтэнанту, цяжка зразумець.

## III

«Магла ж яна суцешыць Толіка чым-небудзь іншым? Магла. Тады да каго больш адносілася яе «чуеш?» Да сына ці да мяне?.. А можа гэта проста жаночая інтрыжка, жарт: праверыць, клюну на кручок ці не? А потым разам з сяброўкай пакпіць з нашага брата-мужчыны? Бывае і такое ў жыцці»...— думаў Аляксей, едучы дахаты.

Дома ён не знаходзіў упынку. Маці хутка заўважыла сынаву тугу: трохі здагадвалася, трохі адчувала сэрцам яе прычыну і сілком пачала выпраўляць Аляксея на вячэрнія пагулянкі. Але і там ён не надта развясельваўся. Гаворыць ці жартуе з дзяўчынай,— у вёсцы іх было шмат: і прыгожых, і вясёлых,— пазірае ёй у твар, а бачыць засмучаную Таццяну пры расставанні... Чаго толькі потым дома, у бяссонныя ночы, не абяцаў ён Таццяне! Якіх толькі святліц не будаваў для яе!..

Нарэшце Аляксей не змог больш перасільваць сябе. Узяў дарожны чамаданчык, купіў ласункаў для Толіка і выправіўся ў дарогу. Маці сказаў: едзе да сябра.

Надвор'е стаяла сонечнае, і Таццяна з сынам хадзілі штодня на бераг азерца. Той невялікі гарадок, адкуль яны прыехалі ў Прудкі, не меў блізка рэчкі. А што гэта за летні адпачынак без вады?!

Ні ў школьныя, ні ў студэнцкія гады ў Таццяны не было столькі вольнага часу. Прыходзілася памагаць па гаспадарцы дома, хадзіць часта ў калгас на работу. Хацелася вярнуцца ў інстытут з добрай даведкай, каб не чырванець увосень на сходзе, калі ацэньваюць работу, зробленую кожным студэнтам на канікулах.

Цяпер яна мела ўсе выгоды за шмат гадоў. Нават старшыня калгаса па-іншаму глядзеў на яе прыезд. Не спытаў пры сустрэчы: «Калі ж, Таня, на работу да нас?» — як рабіў гэта раней. Пацікавіўся толькі здароўем ды пахваліў за наведванне родных мясцін: «Не трэба забывацца на той куточак, дзе нарадзіліся, і тых людзей, між якіх выраслі...» Таццяна сама напомніла пра работу. Старшыня і гаварыць не даўся:

— Што вы, Таццяна Мікалаеўна, управімся самі. Адпачывайце. Не ісці ж вам, дактарцы, з віламі сціртаваць салому! А от калі хто захварэе з калгаснікаў, буду прасіць палячыць. З медыцынскай дапамогай у нас яшчэ блага... Хочаце, залічым вас на ўвесь адпачынак у штат калгасным доктарам? Грошай на дарогу заробіце.

Навошта Таццяне тое залічэнне ў штат? Яна і так паможа. А грошы на дарогу ў яе ёсць.

Таццяне падабалася ўтульнае месцейка пад вярбою. Добра тут было: пакупайся, пазагарай ды ў цянёк, а там — вышывай, рабі мярэжку ці кніжку ў рукі ды чытай. Толік сваёй работай заняты: то хатку робіць з пруточкаў, то студню каля вады капае. «Будзеш, відаць, будаўніком, як тата»,— думае Таццяна, паглядаючы на сынавы заняткі.

Надакучыць хлопчыку забаўляцца, можна паглядзець, што робіцца за лазовымі кустамі. Тым больш — паблізу дарога са станцыі праз іхнія Прудкі ідзе. То грузавая машына прамчыцца, то нехта пройдзе з клункам. Усё гэта цікава малому. Праўда, мама не дазваляе яму далёка адыходзіць, а то колькі чаго можна было б убачыць яшчэ!

Толік першы заўважыў Аляксея. Таццяна ляжала ў цяньку і чытала кнігу, як пачула радасны сынаў голас:

— Ма-ама, дзядзя Лё-оша!— гукнуў і кінуўся насустрач. Падбег і моцна ашчаперыў Аляксея за ногі. Той прыгнуўся, скамандаваў узлазіць на спіну і трымацца ручкамі за яго шыю. Выпрастаўшыся, Ганчарэнка паглядзеў вакол: дарослых не відаць было. Тады спытаў:

— Ты што, адзін тут гуляеш?

— Не, з мамай. Яна вунь там,— адпусціў хлопчык руку і паказаў на азерца.— Хадзем туды.

Таццяна падхапілася, зірнула між галля кустоў: сапраўды там Аляксей. Борзда накінула сукенку, паправіла прычоску і зноў села чытаць. Аляксей з Толікам за плячыма і чамаданчыкам у руцэ ішоў да азерца.

Аставалася Аляксею прайсці некалькі крокаў да берагу. Перабіраючы рукамі, Толік ссунуўся з Аляксеевых плячэй і памчаўся наперад:

— Дзядзя Лёша, во мама! — спыніўся і паказаў на куст.— Ідзіце сюды.

— Сынок, што ты гаворыш? Які дзядзя Лёша? — паднялася з кнігай у руцэ Таццяна. Калі ж з-за куста паказаўся Аляксей, для прыліку здзівілася: — Аляксей Пятровіч? Які вецер занёс вас у нашы мясціны?

— Не вецер, а бура... Нават ураган прымчаў на ваша азерца, Таццяна Мікалаеўна... Не чакалі?.. Я ненадоўга,— адказаў вінавата Аляксей і спыніўся, трымаючы ў руцэ чамаданчык. Толік таксама трымаўся за ручку чамадана і ўважліва пазіраў маці ў твар.

Таццяна падала руку, зірнула ў вочы Аляксею. Пачуцці, што ў апошнія дні выклікалі ў яе то самотнасць, то неўраўнаважанасць, адчуліся яшчэ больш.

Аляксей паставіў чамаданчык на зямлю і ўзяў Толіка на рукі.

— Прыязджаў да сваякоў, па суседству з вамі жывуць,— назваў ён вёску,— ды ўспомніў, што ў Прудках ёсць мае цудоўныя спадарожнікі. Дай, думаю, праведаю. Спадзяюся, не пакрыўдзіліся?

— Толік часта ўспамінаў вас. Бачыце, як прыгарнуўся. Злазь, сынок. Ты ж вялікі ўжо, каб на руках сядзець у чужых людзей.

Аляксей мацней прытуліў хлопчыка. Той адчуў гэта і не вельмі спяшаўся злазіць.

— Няхай пабудзе, не такі ўжо я чужы яму,— глянуў Аляксей спадцішка на Таццяну.— Ён усе гэтыя ночы са сваёю мамаю сніўся мне.

— І мы з ім снілі вас. Значыць, квіты.

Крадком ад маці хлопчык цмокнуў Аляксея ў шчаку і заварушыўся злазіць. Аляксей таксама пацалаваў Толіка і апусціў на зямлю.

— Дзядзя Лёша, а што ў вас тут? — паспрабаваў падняць чамаданчык Толік.

— А мы зараз паглядзім з табою,— прысеў Аляксей на кукішкі.— Можа там зайчык, а можа вожык, а можа яшчэ што...

Толік таксама нагнуўся над чамаданчыкам. Знарок корпаючыся ў замку,— быдта вечка ніяк не адчыняецца,— Аляксей кідаў позіркі то





на хлопчыка, то на яго маму. Толік раіў цягнуць зашчапку мацней і сам памагаў. З ласкавай усмешкай Тацццяна пазірала на гэтага добрага чалавека.

Нарэшце замок пстрыкнуў. Аляксей асцярожна пачаў падымаць вечка, наказваючы:

— Глядзі, каб не ўцёк наш зайчык.

Хлопчык сцішыўся, затаіў дух і прыгнуўся ніжэй, каб праз шчылілінку сачыць за звярком.

— А дзе ж зайчык? — ускрыкнуў ён, калі вечка паднялося высока.

— Пашукаем зараз. Можа ён схаваўся дзе ў куточку,— не пераставаў інтрыгаваць хлопчыка Аляксей. Ён падняў газету. Толік глянуў і адразу забыўся на зайчыка:

— Ой, мамачка, колькі цукерак у дзядзі Лёшы! І пячэнне ёсць. Во, во, бачыш! — трымаў ён у адной руцэ пячэнне, а ў другой — цукеркі.

Тацццяна пагразіла пальцам:

— Сынок, нельга самому браць. Палажы назад. Табе дзядзя Лёша дасць.

Хлопчык умомант схаваў за спіну рукі з ласункамі і паглядзеў на старэйшых. Тыя пазіралі на яго і ледзь прыкметна ўсміхаліся. Толік заўважыў лагоднасць на іхніх тварах і адкусіў кавалачак пячэніны.

— Мама, палажыць?

— Не трэба. Гэта я табе прывёз. Еш,— дазволіў Аляксей.— Ты ж любіш пячэнне і цукеркі, праўда?

Толік матнуў галавой і са здзіўленнем перапытаў:

— Усё, усё мне?

— Усё, а з'ясі — яшчэ куплю,— адказаў Аляксей.

Узрадаваны такім багаццем, Толік сеў на зямлю і пачаў разглядаць прыгожыя малюнкі на цукерачных абгортках.

— Сядайце, калі ласка, здарожыліся, нябось,— запрасіла Тацццяна.— Пехатой, відаць, ішлі ад сваякоў?

— Не было ад чаго здарожыцца. Гэта, можна сказаць, прагулка ў параўнанні з салдацкімі паходамі...

— Усё роўна сядайце. Пагаворым,— села першая Тацццяна.

Ганчарэнка таксама сеў.

— Скажыце, Аляксей Пятровіч, чаго вы прыехалі? Вам добра вядома маё сямейнае становішча... Вы самі бачылі майго мужа... У нас дзіця...

— Я разумею і ваша і сваё становішча. І ўсё ж не мог не прыехаць. Каб вы ведалі, як цяжка мне... Пасля нашага развітання я не меў ні аднаго спакойнага дня. Маці стала пасмейвацца: «Хто там хоць за яна, што затлуміла не на жартачкі майму сыну галаву?..» Вы ўрач, парайце, чым і як лячыцца ад такой хваробы...

— Да мяне ніхто не прыходзіў з падобнай скаргай. Вы першы... Колькі гэта дзён мы не бачыліся? Пяць, кажаце? Значыць, трэба было дачакацца вам шостага, магло прайсці,— адказала Тацццяна так, што нельга было зразумець, быў гэта жарт ці сапраўдная парада.

— Выходзіць, я дрэнна зрабіў, што прыехаў? Сячыце яе, неразумную,— апусціў ён галаву.— Няма чым? Тады ганіце мяне прэч, не пускайце на свой двор. Адно ваша слова, і мы не ўбачымся больш ніколі.

— А вы хочаце пачуць такое слова?

Аляксей сцяўся, зірнуў Тацццяне ў вочы і пакруціў галавою.

— Ну вось бачыце? А напрошваецеся,— ласкава папракнула Тацццяна і перавяла позірк на сына. Сказала, каб не еў больш салодкага, бо забаліць жывоцік, і папрасіла Аляксея зачыніць чамаданчык.

Аляксей падцягнуў чамаданчык і раней, чым зачыніць яго, запрасіў Тацццяну частавацца. Толік параіў маме, якія з цукерак смачнейшыя. Яна ўзяла адну, але разгортваць не стала. Трымала ў руцэ і пазірала на другі бераз азерца, дзе каля густога чароту плавалі тры дзікія качкі.

Толік узяўся за сваю работу: капаць на беразе студзеньку.

— Вы так нічога пэўнага і не сказалі мне,— напомніў, трошкі счакаўшы, Аляксей.

Тацццяна адвяла позірк ад возера і злёгку ўсміхнулася:

— А што вы хацелі б пачуць?

— У любой сітуацыі чалавек спадзяецца на лепшае, хоць чакае горшага, Таня.

Яна адчула, як мацней забілася сэрца ад ласкавага слова.

— Нельга прынявольваць замужнюю жанчыну, да таго ж з дзіцем, на паспешлівы адказ,— была просьба ў яе голасе.

— Я магу пачакаць. Да вечара яшчэ ёсць час,— згадзіўся Аляксей.

— Ну хто гэта вас адпусціць аднаго, на ноч гледзячы? Я ж не сказала, добра вы зрабілі ці не, што наведалі нас, а вы адразу: «Сячыце маю галаву, не пускайце на свой двор...» Падумайце раней, з чым вы астанецеся, калі адсекчы вашу галаву?.. «Скажыце адно слова...» А тое адно слова цяжэй сказаць, чым дзесяць іншых. Вы гэта ведаеце? А раптам памылішся? Можа быць такое? Можа...

Аляксей моўчкі слухаў і дакараў сябе: «Сапраўды, нагаварыў столькі глупства за адну хвіліну...»

— Маці ведае, куды і да каго вы паехалі? — перамяніла гаворку Тацццяна.

— Сказаў, еду ў госці да сябра... Як я зразумеў, вы не збіраецеся адправіць мяне начаваць у чужую хату? А як паглядзяць на гэта вашы бацькі?

— Не ведаю. Вы чалавек вайсковы, арыентуйцеся самі ў такой, як вы кажаце, сітуацыі. Відаць, і маім бацькам гаварыце тое ж...

Толік два разы падбягаў ужо ласавацца цукеркамі і пячэннем. Апошні раз ён падкраўся і з-за плячэй ашчаперыў Аляксея за шыю. Той галасна войкнуў, быццам спалохаўся, і гэта ўзрадавала хлопчыка.

Маці пагразіла сыну, каб не дурэў, сказала збірацца дахаты і сама памкнулася ўставаць. Аляксей падхапіўся і падаў руку.

— Ну што ж, шаноўны спадарожнік, пойдзем на паклон да маіх бацькоў, папросім пакарміць нас: адных — з дарогі, другіх — з гулянкі. А то я частую толькі дакорамі. Што бралі з Толікам на абед, з'елі да вашага прыходу.

— Дзякую за клопат, я не такі ўжо галодны.

— Вы наш госць, і мы павінны клапаціцца. Да таго ж і пра начлег пара падумаць...

— Тады яшчэ раз дзякую за клопат. А цяпер дазвольце акунуцца ў вашым цудоўным азерцы. Я чамусьці і ўяўляў яго такім, калі вы расказвалі ў цягніку.

— Прашу. Яно такое ж і ваша, як і маё ці вунь тых дзяцей, што цэлымі днямі не вылазяць з вады,— кіўнула Тацццяна ў бок, адкуль даносілася гамана.— Купайцеся і даганяйце нас... Хадзем, сынок,— узяла Толіка за руку.

Яны прайшлі трохі, раптам няўрымслівы хлопчык вызваліў сваю руку з матчынай.

— Мама, ідзі, мы з дзядзем Лёшам прыйдзем... Я толькі вазьму цукерку.

Маці гукнула вярнуцца назад, але Толік не паслухаў і пабег да возера. Баючыся, каб сын не палез у ваду, Таццяна заспяшалася следам.

— Мама, глядзі, вунь дзядзя Лёша. А ты не можаш так далёка?

Аляксей плыў ужо да берагу.

Неўзабаве яны ўсе трое ішлі вуліцай да Таццяніных бацькоў. Не даходзячы да хаты, Толік пакінуў маму з Аляксеем адных, а сам пабег наперад.

У хаце хлопчык доўга не затрымаўся: ён даў бабулі цукерку, схапіў яе за руку і сілком пацягнуў на двор, а там — да веснічак. Хацеў як найхутчэй паказаць таго добрага дзядзьку, што частаваў яго ўсю дарогу ў вагоне, а сёння на беразе азерца смачнымі ласункамі.

«Дык вунь чаго ты хадзіла ўсе гэтыя дні, як пад зямлёю! — папракнула ў думках дачку Марыя, убачыўшы Аляксея.— Баялася, не прыедзе, а ён з'явіўся, бач!.. Адкуль той смех знайшоўся ў цябе, дачушка...»

Аляксей убачыў каля веснічак Таццяніну маці і ціха сказаў:

— Сітуацыя, скажу вам, не з прыемных чакае мяне.

— Будзьце мужчынам. Не да твару камандзіру гаварыць такое,— прысароміла Таццяна.

— Бабуля, во той дзядзя з цукеркамі,— першы адрэкамендаваў Аляксея Толік, калі яны падышлі да варот.

Следам за сынам сказала ўжо Таццяна:

— Прымайце, мама, госця. Наш спадарожнік, пра якога я вам расказвала.

На Аляксеева прывітанне Марыя адказала стрымана, саступіла ў бок ад веснічак і запрасіла праходзіць на двор.

У вішняку віднелася хата. Толік першы пабег па дарожцы, клічучы дзядзьку Лёшу ісці за ім. Адстаўшы крыху ад унука і Аляксея, маці строга спытала ў дачкі:

— Што гэта за госць, скажы ты мне?

Таццяна падала знак маці памаўчаць.

## IV

Сваю злосць на дачку Марыя не магла ўтаіць: «Скрытная ты, дачушка, на ўме сабе. Каторы дзень выходзіла насустрач яму, а мне казала,— загарацЬ ідзеш... Хоць вазьмі ды напішы пра ўсё Ваню. Няхай бы прыехаў ды ўшчуў трохі сваю дакторку. Ведала б тады, як хвастом круціць, адвінуўшыся на месяц-другі ад мужа...»

Яна толькі магла думаць так, нават сказаць дачцэ ў вочы, але напісаць зяцю пра ўсё — не паважыцца. Матчына сэрца больш ласкавае, чым гнеўнае, а на подласці і зусім не здатнае. Маці ні на хвіліну не выпускала з-пад нагляду Таццяну: то работу знаходзіла якую, то размаўляла з ёю адною, то перапыняла іхнюю гаворку. Аляксей забаўляўся з Толікам і быццам не заўважаў нічога. Хлопчык увесь час круціўся каля яго. Святая дзіцячая душа, яна была адзіная ў хаце, што магла адкрыта радавацца госцю!

Позна надвячоркам вярнуўся з трактара Таццянін бацька. Марыя яшчэ на двары заўважыла мужа, узяла чыстае адзенне і выйшла насустрач. Яны зайшлі ў другую палавіну хаты. Пакуль Мікалай перадзяваўся, жонка паспела расказаць, што за госць сядзіць у іхняй святліцы.



— Не будзем, Марыйка, умешвацца ў чужыя справы,— лагодна сказаў Мікалай, выслухаўшы строгія жончыны нараканні.

— Адкуль ты ўзяў, што чужыя? Хіба Таня не наша дачка?

— Наша. Ну і што?

— А тое, што ні ў якія госці ён не едзе,— раззлаваў Марыю спакойны мужаў тон.— І няхай не туманіць мне, старой кабеце, вачэй. Як піць даць, да Тані прыджгаў... Залётнік мне аб'явіўся да замужняй жанчыны! Дзяўчаты пазводзіліся, ці што? Пагавары з ім як след. Раскажы, як адсюль назад ехаць...

Мікалай складваў акуратна рабочае адзенне і не спяшаўся з адказам.

— Ну, чаго ж маўчыш? — падганяла жонка.

— Нічога гэтага я гаварыць не буду, а тым больш выганяць чалавека з хаты.

— Чаму? Язык адваліцца ці, можа, карона спадзе з галавы, калі пагаворыш?

— І язык не адваліцца, і карона не спадзе, калі на тое пайшло, але і ўмешвацца ў іхнія інтарэсы не хачу і табе не раю... Яна вучаная больш за нас, свой розум мае... Чула, што расказвала пра свайго Івана?

— Чула, ды не хачу, каб яна рабіла сіратой сына, які б той муж ні быў. Пажывуць далей-болей, паразумнеюць абое, прывычаяцца адно да аднаго. Мы толькі яе крыўду чулі і нічога не ведаем, якая яна сама ў сям'і.

Гаворка зайшла так далёка, што, здавалася, не будзе ёй канца, але раптам Мікалай схамянуўся:

— Пачакай, пачакай, Марыйка. Скажы мне, калі ласка, адкуль ты ўзяла, што яна збіраецца мяняць мужа? Што гэта мы, ні села ні пала, аддаём замужнюю жанчыну замуж? Ды каго яшчэ аддаём — дачку родную.

Мужавы развагі ані не збянтэжылі Марыю. На яго пытанне яна сыпанула сваімі:

— А чаго ён тады прыпёрся? Чаго? Скажы, калі ты разумнейшы за другіх?.. Закарцела даведацца пра здароўе спадарожніцы? Пазабаўляцца з яе сынам? Пазнаёміцца з яе бацькамі? А можа захацелася Прудкі нашы пагледзець?

— Што яму там закарцела, зноў жа не нам разбірацца,— усё тым жа спакойным голасам адказаў Мікалай.— А што мы павінны прыняць чужога чалавека па-людску, вось гэта ўжо наш абавязак... Там паўлітэрак павінен быць,— кіўнуў галавой на шафу,— пастаўіш, ды на закуску паглядзі чаго...

— Цьфу ты, што за чалавек! Ты яму пра каноплі, а ён — пра гарох! — Марыя добра ведала мужаў нораў: сказаў — адрэзаў, і не стала больш настойваць на сваім.

Таццяна і Аляксей таксама вялі гаворку не менш важную. Быў зручны момант для Аляксея раскрыць сваю душу.

— Паверце мне, Таня, я не мог не пабачыцца з вамі,— загаварыў ён усхвалявана.— Вы маеце права забараніць мне прыязджаць сюды. Можаце і зараз не дазволіць глядзець на вас, але ў сэрцы сваім я ўсё жыццё буду насіць ваш вобраз, прыгадваць нашу незабыўную дарогу. Тут ужо не ў вашай сіле зрабіць што-небудзь...

Баючыся, каб Толік не зразумеў чаго з іхняй гаворкі, Таццяна параіла Аляксею асцярожней падбіраць словы.

— Ці не лепей усё ж пайсці? Пераначую ў полі пад сціртай саломы. А заўтра, калі дазволіце, завітаю на бераг азярца,— падняўся з крэсла Аляксей.

— Зноў вы пра сваё? — устала Таццяна.— Не ўздумайце рабіць гэтага! Што падумаюць тата з мамай. Сядайце...

Ён паслухаўся, як нявольнік.

Толік заўважыў, што ніхто на яго вельмі не глядзіць, і выйшаў пагуляць на двары. У сенцах убачыў прачыненыя дзверы ў іх пакой і зазірнуў туды. Сваім з'яўленнем ён напомніў бабулі пра маму і Аляксея, і яна заспяшалася ў святліцу.

Увайшла маці і сказала дачцы збіраць на стол вячэру. З двара ўбег Толік, вясёлы, жвавы, убачыў, што Аляксей адзін, кінуўся да яго, і адразу на калені.

— Не дакучай, унучак, чужому дзядзю,— папракнула бабуля, перастаўляючы букет кветак са стала на шафку.

Хлопчык павярнуў галаву ў той бок, адкуль пачуўся пагрозлівы голас, і мацней прытуліўся да Аляксеевага пляча. Злазіць ён і не думаў.

— Толік, каму сказана? Злазь! — гэта ўжо быў загад.

— Марыя Апанасаўна, ён мне не дакучае. Няхай сядзіць,— уступіўся за хлопчыка Аляксей.— Я люблю забаўляцца з малымі.

Непаслушэнства ўнука, а тым больш заступніцтва за яго чужога чалавека зусім раззлавалі гаспадыню. Была зручная нагода дапячы Аляксею:

— Не толькі, відаць, з малымі любіце забаўляцца? — сказала, засцілаючы стол чыстым абрусам, і тут жа перавяла дакор на Толікаву маці: — Распесціла цябе мамка, а цяпер і чужым людзям не даеш прабыту.

З куханькі выйшла Таццяна з нарэзаным на талерцы хлебам. Яна чула матчыны папрокі і ўступілася за сына:

— Мама, не прыставайце, калі ласка, да Толіка. Ён нічога благога не робіць вам. Горш будзе, калі пачне плакаць ці капрызіць.

— А ты ўвядзі ў вушы, каб плакаў ды капрызіў... Увядзі...

Здавалася, вось-вось вырвецца ў Таццяны крыўда на маці, ды прымусіла сябе змаўчаць: выцягнула шуфлядку ў стале і пачала раскладваць відэльцы.

Увайшоў гаспадар. Таццяна пазнаёміла бацьку з Аляксеем. Прытрымліваючы рукою Толіка, Аляксей падняўся з крэсла і павітаўся. Дзед паказытаў унука за падбародак. Хлопчык задрыгаў нагамі, гучна засмяяўся, і адразу павесялела ў хаце.

Першую чарку Мікалай падняў за таго, хто не абмінуў іхняй хаты.

— Дзякую,— прыўзняўся Аляксей.

— Не ведаю, па якой прычыне занёс вас бог у нашы мясціны, але чужому чалавеку мы заўсёды рады...

— Іду да сябра,— паспяшыў запэўніць гаспадара госць,— ды вырашыў заадно па дарозе наведаць былых спадарожнікаў. Унук у вас цудоўны...

— Добры малец,— згадзіўся дзед і напомніў яшчэ раз Аляксею: — Дык за ваша здароўе.

— І за вашага ўнука,— дадаў госць.

Пасля вячэры маці сказала Таццяне:

— Будзеце спаць, дачушка, сёння тут, разам з намі, а ў той палавіне няхай паначуе госць. Там яму будзе спакайней, ды і заўтра зможа даўжэй паспаць уранку... Схадзі, падрыхтуй пасцель... Але не, лепш мый пасуду, я сама пасцялю і прыбяру там.

Таццяна зразумела матчыну трывогу і не стала пярэчыць.

Застаўшыся адны ў святліцы, мужчыны загаварылі пра нядаўнія халхін-голскія падзеі.

Мікалай быў з тых калгаснікаў, што выпісвалі газеты і цікавіліся навінамі. Калі ж чаго не разумеў, то не саромеўся спытаць пра гэта ў другіх, хто больш разбіраўся: у настаўніка ці старшыні калгаса. І Ганчарэнка быў для яго добрым субяседнікам.

Увайшла Марыя, пастаяла нейкі момант, паслухала, што гавораць мужчыны, і напомніла, што пара спаць.

Аляксей падняўся першы. Марыя выйшла следам паказаць, дзе паслана.

Гэта быў прыбудаваны пакой з незамазанымі яшчэ глінай пазамі: спадзяваліся на асадку сцен. Да прыезду Таццяны ніхто ў ім не жыў. Прыбудоўку да глухой сцяны зрабіў малодшы Таццянін брат, які цяпер служыў у арміі. Хацелася хлопцу мець свой куточак, бацькі не маглі сыну, бо разумелі: кідае хлапец за сабою, каб знайсці потым перад сабою. Адслужыць, вернецца дахаты, будзе гатовы прытулак для новай сям'і.

У пакоі цьмяна гарэла васьмілінейная лямпа. Першае, што кінулася Аляксею ў вочы, як толькі пераступіў парог і зачыніў за сабою дзверы,— руплівая жаночая рука. На ўсіх трох вокнах віселі просценькія марлевыя фіранкі, абмярэжаныя ўнізе і з вышытым васільком пасярэдзіне. Гэта ўжо тут, на беразе азярца, Таццяна даводзіла іх да ладу. А да сцяны на двух кранштэйнах быў прымацаваны туалетны столік, зроблены бацькам па просьбе дачкі. Тапорная Мікалаева работа скрашвалася засланай белай марляй. З трох бакоў яна звісала амаль да самай падлогі, з тымі ж блакітнымі васількамі, як на фіранках.

«Пад адзін стыль усё»,— падумаў Аляксей і, падкруціўшы ў лямпе кнот, нахіліўся над столікам паглядзець, што за фатаграфія стаіць за каробачкай пудры. Павярнуў трошкі да святла і пазнаў на ёй Таццяну, яе мужа і Толіка, маленькага. Пазнаў і адчуў сябе злодзеем, які залез сюды.

Тут жа, на сцяне, вісела ў рамцы пахвальная грамата ад Навасёлкаўскай МТС трактарысту Міхасю Касценічу за ўдарную работу. Дата паказвала трыццаць дзевяты год. «Малайчына, добра пастараўся перад арміяй»,— пахваліў у думках Аляксей і прыгадаў, як цешылася з брата Таццяна. За доўгую дарогу да Масквы яна ўсё расказала пра іхнюю сям'ю. Быў яшчэ ў Таццяны старэйшы брат, але той загінуў ад маланкі. Яна была тады на трэцім курсе інстытута і страшэнна перажывала разам з бацькамі недарэчную смерць Васіля...

Побач са столікам стаяў жалезны ложак, засланы ружовай капай. Аляксей адхінуў яе, паглядзеў на бялюткія просціны і зноў накрыў. Памкнуўся быў прысесці, ды схамянуўся, што пакамечыць капу і адкінуў ражок. Сеў на краёчак ложка, абвёў вачыма пакой. Гэты раз больш уважліва. Зноў позірк затрымаўся на фотакартцы. І міжволі набегла думка: «Чаго табе, Аляксей, трэба тут? Што скажаш ты, калі зараз адчыняцца дзверы, зойдзе нахмураны Іван Самсонавіч і грозна спытае: «Цікава, па якому праву вы збіраецеся спаць на гэтай пасцелі?»

«Па якому праву?» — паўтарае Аляксей і тут жа адказвае: — «Па праву кахання. Я люблю Таццяну...»

Аляксеевы думкі перапыніў стук у дзверы. Гэта маленькім кулачком стукаў Толік. Хлопчык ніяк не хацеў спаць на новым месцы.

— Хачу на нашым ложку, з дзядзем Лёшам.

Таццяна прыкінулася пакрыўджанай.

— А мяне ты ўжо не любіш?

— Люблю, мама, люблю. Вось так,— моцна, моцна прыгарнуўся да маці. А як адпусціў рукі, зноў напомніў пра сваё.

Нарэшце яны дамовіліся: пойдуць развітаюцца на ноч з Аляксеем і будуць спаць.

Тацццяна ў сенечным прыцемку трымала сына за руку. Як толькі з пакоя на Толікаў стук пачулася «прашу», яна нахілілася і шапнула сыну, што сказаць. Той гукнуў: «Спакойнай ночы, дзядзя!»

Аляксей адчуваў, што разам з Толікам за дзвярыма стаіць маці, ускапіўся з ложка, загарнуў ражок капы: думаў, зойдуць. Пачуўшы, як сталі аддаляцца іхнія крокі, зразумеў, што Таццяна пабаялася матчыных дакораў.

## V

Толік спаў і час ад часу смачна цмокаў губамі, *нешта* мармытаў праз сон. Што ён гаварыў, зразумець было цяжка, ды маці і не старалася вельмі разабраць. Яе турбаваў іншы клопат. Як змацаваныя між сабою колцы складаюць ланцужок, так нечым суцэльным і бясконцым здавалася Таццяне знаёмства з Аляксеем.

Да малюсенькіх драбніц прыгадвалася ёй доўгая дарога. І тая звычайная ўжо на першым часе Аляксеева ўвага да яе, як да пасажыркі аднаго купэ, уяўлялася цяпер нечым большым.

«Сапраўды, што ж гэта творыцца са мною? — соладка пацягнулася праз дрымоту Таццяна, ахінула плечы льняной капай і адчула, як лёгкі халадок прабег па целе. Думала, накрыецца і хутчэй засне, а выйшла іначай: не толькі сон, але і дрымота прапала.— Няўжо ад таго, што на новым месцы? — прыгадала свой ложак і падумала: — Цікава, ён таксама не спіць?..»

Не вельмі спалася і Аляксею. Пасля таго, як Толік пажадаў «спакойнай ночы», ён ціхенька выйшаў на двор (спадзяваўся, можа гэта быў Таццянін знак) і добрую гадзіну тупаў па ім. Вярнуўшыся, лёг *на мяккі, напханы саломай сяннік адпачываць*. Узяў са століка кніжку «Нервные болезни» і падсунуў бліжэй да пасцелі лямпу з самаробным папяровым абажурам на шкле. Пагартаў, паглядзеў малюнкі, палажыў кніжку і ўкруціў кнот. Агеньчык усхліпнуў і пагас.

Аляксей павярнуўся на бок. Думаў, засне, але сну і блізка не было.

«А ці не скажа тое ж яна, што Эма тры гады назад? — сама сабою ўсплыла крыўда, прычыненая яму.— Яна мае большае права зрабіць гэта: у яе муж, дзіця... А можа гэта толькі флірт, жаночыя хітрыкі: «Муж не разумее, інтарэсы розныя...»

Па характару Аляксей быў чалавек даверлівы. Два гады дружыў ён з Эмай. Пакуль вучыўся ў вайсковай школе — і спатканні прызначала, і на вечары да іх прыходзіла, і самога два разы запрашала да бацькоў, каб паказаць, што за хлопец сустракаецца з ёю.

Эма трымала сябе строга. І гэта асабліва цаніў Аляксей. Перад заканчэннем школы ён аднаго вечара сказаў ёй: «Час і нам, Эмачка, схадзіць у ЗАГС. Некаторыя з маіх сяброў пажаніліся ўжо...»

Такую сур'ёзную прапанову дзяўчына ператварыла ў жарт: «Паспеецца, не гарыць жа... Збудзь з галавы адзін клопат — вучэнне, тады возьмеш на шыю другі... Май на ўвазе, я капрызная. Набярэшся яшчэ са мною гора. Пахадзі пакуль нежанаты».

Толькі пазней Аляксей зразумеў, чаму адкладвала з дня на дзень сваё замужжа Эма: хацела ведаць, куды яго прызначаць.

«Аж на Далёкі Усход ехаць? — здзівілася яна.— А хіба тут, паблізу, нельга табе астацца?»

«Дысцыпліна ў арміі, Эмачка, на першым плане. Куды пасылаюць, туды ідзеш ці едзеш...»



Дзяўчына сказала, што пагаворыць раней дома.

Апошняе спатканне прайшло коратка. Эма зваліла віну на бацькоў: яны не адпускаюць. «А ты што, свайго розуму не маеш?» — стараўся дапячы Аляксей. Дзяўчына адкараскалася жартам: «Ёсць, але невялічкі, на далёкую паездку не хопіць...»

Цяжка было прызнацца сябрам, што так усё скончылася. Зняслаўлены, абражаны, Аляксей даў тады сабе слова не дружыць больш ні з адной дзяўчынай...

Цяпер, у начной цішыні, ён зноў прыгадаў падарожжа. «Так бы, здаецца, усё жыццё быць нам разам: у дарозе, дома, у паходах...» — Потым думкі пераносяць яго ў сваю часць. Вось ён знаёміць калег-камандзіраў і іх жонак з Таццянай. Некаторыя з жанчын дапытлівым позіркам аглядаюць яе, трошкі зайздросцяць, што яна ўрач і зможа працаваць тут. Людзі з такой прафесіяй усюды патрэбны і заўсёды знойдуць сабе работу. Іх цікавіць, як прызвычайваецца Таццяна да ціхіх мясцін пасля шумнага горада. Ім чамусьці здаецца, што яна абавязкова з вірлівай сталіцы.

Колькі так мінула часу, Аляксей не ведаў. Зірнуў у акно і нейкі момант не мог уявіць, ці то быў сон, ці мроілася. Устаў, падышоў да акна, каб зірнуць на гадзіннік, колькі часу. За акном свяціў вышчарблены месяц. Цень ад хаты падаў на двор. Раптам рыпнулі дзверы з кухні ў сенцы. «Здалося мне ці сапраўды выйшаў хто з тае палавіны?» — насцярожыўся Аляксей. Больш нічога не было чуваць. Тады паціхеньку прачыніў свае дзверы: калі гэта выйшла цішком Таццяна, дык няхай ведае, што і яму няма спакою.

Дзверы рыпнулі зноў. Усё ж нехта выходзіў. Не да сну стала Аляксею. «Хто ж бы гэта? Таццяна ці маці? Калі Таццяна, то зайшла б, хоць на хвілінку, чула ж, як прачыніў дзверы... Значыць, матулька. Сочыць, як за злодзеем якім,— не зачыняючы дзвярэй, лёг на пасцель.— Сысці, пакуль там спяць»,— вырашае Аляксей.

Ён устаў, запаліў лямпу, прысеў каля століка, вырваў з блакнота лісток, падзякаваў за гасціннасць. А пра тое, чаму так рана пакідае гаспадароў, напісаў: «Лепш будзе ісці халадком да сябра, а вам — менш клопату з чужым чалавекам». У постскрыптуме дадаў па-нямецку чакаць пісьма. Меркаваў, калі запіска трапіць у рукі бацькоў, то ім не зразумець, а Таццяна разбярэцца.

Аляксей палажыў карталюшку на разгорнутую кнігу, адзеўся, высыпаў на столік цукеркі і пячэнне: «няхай ласуецца Толік». Сам узяў пусты чамаданчык і асцярожнымі крокамі выйшаў з хаты.

На ўсходзе пачынала світаць.

## VI

Увесь дзень Таццяна не знаходзіла ўпынку. Ідучы на бераг, спадзявалася чамусьці, што ён там. І не застала. Зусім нямілымі раптам сталі і азерца, і ўзятая з сабою кніга. Ужо на трэцяе месца яна перанесла коўдру: то грудочкі немаведама адкуль узяліся на зямлі і мулялі бок, то цень засціў сонца. Нарэшце знайшла больш-менш утульнае месцейка.

Колькі разоў падбягаў ужо Толік то спытаць што, то пазабаўляцца, як рабіў гэта тыя дні, але ў засмучанай мамы не было ранейшай ахвоты ні на размовы, ні на забаўку. Крыўда на Аляксея за яго неабдуманы прыезд і яшчэ большая за неспадзяваны ад'езд не давала спакою.

Падвечар у Таццяны разбалелася галава, і яны пайшлі раней даха-

ты. Дома прыняла таблетку — боль хутка прайшоў, а туга ўсё ж не пакідала. Гэта адразу заўважыла маці, вярнуўшыся з поля:

— Журышся?

— Адкуль вы ўзялі?

— Матку не ашукаеш, дачушка.

У далейшую гаворку Таццяна не пусцілася. Пасля вячэры забрала Толіка і пайшла ў свой пакой. Узялася слаць пасцель, і думкі, што ўвесь дзень не давалі спакою і якія трохі ўтаймаваліся падвечар, зноў нахлынулі.

Яна выйшла ў куханьку і вярнулася з тазікам цеплаватай вады. Памыла Толіку ногі і палажыла яго ў пасцель, потым апусціла свае ў тазік і апаласнула. Пазалкі выносіць не стала, зробіць гэта заўтра, і сама лягла каля сына. Хлопчык прывык за дарогу спаць побач з маці і цяпер не хацеў разлучацца.

Ноч Таццяна спала трывожна. Толькі змружыць вочы — здаецца, нехта пастукаў у шыбу. Насцярожана прыслухоўвалася, пакуль зноў лёгкая дрымота не стуляла павек. Так прахоплівалася некалькі разоў.

Нарэшце, не вытрымала. Устала, падышла да акна, паглядзела ў адно, у другое, нікога не ўбачыла і лягла з надзеяй заснуць.

«А што, калі б я сапраўды адважылася звязаць свой лёс з ім? Хіба можна параўнаць Аляксея з Іванам?» Успомніла мужа, і да драбніц паўсталі ўсе крыўды, што ён калі-небудзь зрабіў ёй. Узбуджаныя нервы не маглі больш стрымаць жалю да самой сябе, і яна ціхенька заплакала, уткнуўшыся ў падушку. Колькі так праляжала, не ведала.

У сенцах рыпнулі дзверы. Зірнула ў акно і ўбачыла, як маці пайшла дваром у хлеў даіць карову.

Ці ад таго, што выплакалася, ці ад святла новага дня, яна адчула палёгку. Падаткнула пад сябе край коўдры, сцялася, прытуліла Толіка і моцна заснула.

Разбудзіла маці, здзівіўшыся, чаму так разаспаліся.

— Звечара не магла заснуць доўга,— соладка пазяхнула Таццяна.

— Пра яго ўсё думаеш? Выкінь з галавы, дачушка, і адразу палягчэе... Есці бярыце самі. Я пайду на работу.

Маці выйшла, а Таццяна яшчэ некаторы час ляжала ў пасцелі і думала над яе парадай. Шукала спосабу паслухацца і не знаходзіла.

За якую толькі работу ні бралася яна ў той дзень! І чым толькі ні развейвала надакучлівых думак! А яны выплывалі адсюль-адтуль і напаміналі пра Аляксея. Прыгадваліся то цэлыя фразы, то асобныя яго словы. Зараз яны чамусьці набывалі зусім іншае значэнне.

З дня на дзень Таццяна чакала абяцанай вестачкі. Ведала, калі прыносяць пошту ў Прудкі, і старалася сустрэць пісьманоску сама. Не хацелася, каб пісьмо трапіла ў рукі бацькам. Чытаць не стануць, вядома, а распытваць будуць,— ад каго. Прыйшло яно аж на чацвёрты дзень.

Таццяна па некалькі разоў перачытвала адно і тое месца і знаходзіла нешта новае для сябе.

«...Я Вам казаў ужо, Танечка, пры спатканні і яшчэ раз хачу запэўніць у гэтым пісьме, якія б нашы ўзаемаадносіны ні былі ў далейшым, Вы маеце ў маёй асобе свайго вечнага сябра. Магчыма, Вы станеце смяяцца з такога запэўнівання. Няхай сабе. Аднак маё каханне да Вас не мае межаў...»

Яна хадзіла цяпер, як сама не свая, думаючы, што адказаць: «Парадаваць ці азмрочыць? Абяцаць ці адмовіць?.. А што, калі, адмовіўшыся, я адцураюся свайго шчасця? Хто ведае, а можа гэта мімалётнае захапленне і ў яго і ў мяне? Як тады?..»

Так прайшло некалькі пакутных дзён. Не дачакаўшыся адказу, Аляксей зноў прыслаў пісьмо.

«Кахаеш, значыць, даражэнькі мой, калі трывожышся»,—зарадавалася Таццяна, беручы ад пісьманоскі блакітны канверт са знаёмым почыркам.

Аляксею сапраўды было чаго трывожыцца. Вяртаючыся з Прудкоў, ён яшчэ ў Мінску напісаў Таццяне пісьмо. Хацелася, каб хутчэй даведалася пра яго перажыванні. Да таго ж трэба было папрасіць прабачэння за раптоўны ад'езд.

Зацяжное маўчанне не на жарт устрывожыла Аляксея. То яго мучыла сумненне, ці не трапіла пісьмо ў матчыны рукі, то думаў яшчэ горшае,— ці не захварэла Таццяна. Разумеў: шмат непрыемнасцяў натварыў ён сваім прыездам.

Чытаючы, Таццяна ўсё больш адчувала віну перад Аляксеем за нядадзены адказ.

«Самі знаеце, паказацца ў Прудках на вочы Вашым бацькам я не магу больш, а расказаць пра ўсё тое, што на сэрцы, паперы не хопіць»,— учытваецца ў кожнае слова Таццяна і згаджаецца: «Вядома, любы мой, нельга табе больш прыязджаць сюды, на вочы маме».

«Наша спатканне, Таня, залежыць толькі ад Вас. Знайдзіце якуюнебудзь прычыну і прыходзьце ці прыязджайце спадарожнай фурманкай на станцыю дваццатага ліпеня. Я прыбуду ў Бярэжу ў той жа час і тым жа цягнікам, якім ехалі Вы з Мінска... Хочацца пабачыцца з Вамі, пагаварыць пра ўсё, усё. Цалую Вашы рукі і спадзяюся на сустрэчу. Аляксей».

І агарнулі думкі Таццяну: «Знайсці прычыну можна, канечне, але пра што гаварыць на тым спатканні? Схадзіць у Бярэжу ці не? Пабачыцца яшчэ раз ці махнуць рукою і паставіць на ўсё крыж?»

Было над чым падумаць жанчыне. Хто можа ведаць, як складзецца жыццё з новым чалавекам? А Таццяна была ўпэўнена, што гаворка пойдзе пра гэта, і палохалася.

І ўсё ж у назначаны Аляксеем дзень Таццяна за снеданнем сказала маці, што хоча схадзіць на станцыю, даць мужу тэлеграму.

— Абяцаў штодня пісаць, а тут прыслаў адно пісьмо і змоўк.

— Не канечне самой ногі хвастаць за блізкі свет, прыпаручы пісьманосцы. Што ёй, цяжка аднесці тваю дэпешу?

— Ай, сама прайдуся. Можа фурманка надарыцца. За адным заходам пагляджу, ці няма чаго людскага ў краме. Кажуць, тканіны бываюць там прыгожыя.

Пад'ехаць так і не ўдалося Таццяне. Са станцыі ішло шмат парожніх фурманак: адвозілі нарыхтоўку збожжа і цяпер вярталіся ў свае калгасы. Сёй-той з маладых вазакоў жартаўліва спачуваў, што не ў адну дарогу з імі такая маладзіца, а то можна было б падвезці.

Ішлося Таццяне лёгка з пустой сумкай у руцэ і сандалях на нагах. Да прыходу цягніка аставаўся час, і Таццяна пайшла ў краму. Набрала сабе паркалю на сукенку, а матцы купіла квяцістую хустку. Падыходзячы да станцыі, бачыла, як цягнік рушыў у дарогу.

Здалёк заўважыла на невялікім апусцелым пероне Аляксея. Той разгублена паглядаў на бакі і трывожыўся: дзеля каго прыехаў — не было. Не ведаў і не здагадваўся нават чалавек, што жанчына наўмысна не спяшалася, каб не сустрэцца з кім з прыезджых, хто ведае яе. Пачнуць распытваць, чаго тут, ці скора дахаты?

Таццяна пайшла на перон не праз вароты, як рабілі гэта многія па-

сажыры, а праз вакзал. Аляксей, страціўшы надзею на сустрэчу, накіраваўся таксама туды, каб даведацца, калі праходзіць цягнік на Мінск.

Тут, у дзвярах, яны і сустрэліся. Праз шкляную шыбу Таццяна ўбачыла Аляксея, і яе працягнутая рука апусцілася, не дакрануўшыся да дзвярной ручкі.

— Прыйшлі ўсё ж? — не верыў Аляксей яшчэ сваім вачам.

— Не спадзяваліся ўбачыцца?

— І спадзяваўся, і сумняваўся...

Яны прыселі на лаўку і нейкі момант глядзелі адно аднаму ў вочы. Таццяна ўсміхнулася, і ў гэтай усмешцы адчувалася: «Доўга мы яшчэ будзем маўчаць?» Загаварыў Аляксей:

— А я так непакоіўся... Маліўся ўсім святым, каб хаця вы атрымалі маё другое пісьмо.

— Дайшла, бачыце, ваша малітва,— не адводзячы позірку ад яго блакітных вачэй, пажартавала Таццяна.

— Першае таксама атрымалі?

Яна кіўнула галавой. Чаму не было на яго адказу, Аляксей распытваць не стаў.

У пустым станцыйным зальчыку заседжвацца не выпадала: усё тая ж боязь, каб не перадаў хто Таццяніным бацькам, з кім сустракалася іх дачка, непакоіла жанчыну. Ды і дахаты пара было брацца Таццяне. Аляксей пайшоў праводзіць. Выбралі кружную дарогу, дзе найменш маглі напаткацца знаёмыя.

Хутка яны ўвайшлі ў невялікую кудзерку лесу і адразу адчулі халадок.

— Вы не надта спяшаецеся, Таня, дахаты? Можа прысядзем у цяньку на якую часінку? Ну хоць бы вунь пад тою купчастаю елкаю,— паказаў Аляксей.

— Стаміліся ці проста заманулася сесці? — спынілася і строга паглядзела ў вочы Аляксею Таццяна. Быццам вывучала, што хаваецца за гэтай прапановай. Чамусьці ні з сяго ні з таго прыгадалася матчына гаворка пра мужчынскія кпіны.

— Ды не, што вы! — разгубіўся Аляксей.— Ніякай стомы... З вамі я гатовы хоць сто кіламетраў ісці...

— Вы згодны на такое, бо ведаеце, што я першая прыстану,— краёчкам вока глянула Таццяна.

Аляксей зусім збянтэжыўся: не трапляў ніяк у лад.

— Танечка, гэта ўсё не тое... Нам трэба сур'ёзна пагаварыць. Я таму і параіў прысесці, каб спакойна, без спешкі...

Таццяна ўсміхнулася.

— А хіба ідучы нельга размаўляць пра сур'ёзнае і без спешкі? — і першая ступіла з месца.— Я слухаю, кажыце.

Аляксей не быў падрыхтаваны да такой раптоўнай гаворкі. Спадзяваўся, пачнецца яна з другараднага, а потым усплыве само сабою і тое галоўнае.

— Ну, што ж вы маўчыце? — напомніла Таццяна.— Я чакаю.

— Я не магу без вас, Таня. Я казаў ужо і кажу яшчэ раз... Вы добра разумееце, чаго я зноў прыехаў...

Таццяна разумела, вядома, прычыны Аляксеевых прыездаў, але гаварыць не спяшалася: «Няхай скажа сам...»

— Я не абяцаю вам райскіх выгод... У нашым вайсковым жыцці, а я звязаў свой лёс назаўсёды з арміяй, усё можа быць. У адным магу запэўніць: вечна кахаць вас. Тут я гаспадар слова...

— У прыродзе, Аляксей, няма нічога вечнага, апрача матэрыі, калісьці вучылі нас, ды і вас,— паспрабавала яна звесці ўсё на жарт.



— Ёсць, Таня, духоўная вечнасць... Вечнасць кахання. Яе і абяцаю вам... Мая рука ў вашай,— Аляксей злёгку пацісну Таццяніну,— прашу прыняць як апору.

Ад цёплай рукі і пачутых слоў, быццам ад лёгкага электрычнага току, скаланула Таццяну. Хвіліну якую яна стаяла разгубленая. З Іванам усё было неяк проста: дружылі, хадзілі ў кіно, на інстытуцкія вечары, гулялі па вуліцы, часам у парку, і аднаго дня без ніякай пышнасці, зусім па-простаму, зайшлі ў ЗАГС. На нейкую долю секунды мільгануў Іван. Убачыла не ўвесь твар, а толькі шчаку, калі, павярнуўшыся ад дзвярэй, казаў: «Да сустрэчы». Так рабіў ён штодня, адыходзячы першы на работу, і яна адказвала: «Шчаслíва». Следам за мужам прамільгнуў вобраз маці: роспачлівы, грозны...

Не вызваляючы свае рукі з Аляксеевай, яна пазірала на сухія сасновыя шышкі ўздоўж сцяжынкі. Аляксей цярпліва чакаў адказу. Павольна міналі секунды. Абое маўчалі. Нарэшце яна падняла галаву, зірнула на Аляксея і ўпершыню назвала яго ласкава ўголас:

— Мы надта мала ведаем адно аднаго, Лёша, і раптам пачуць такое замужняй жанчыне,— вызваліўшы руку, палажыла на плячо Аляксею і з лёгкім дакорам сказала: — У нас жа толькі дарожнае знаёмства. Разумееце?

— А хіба гэтага мала, Таня?

— Мала, Лёша, вельмі мала...

— Мне думаецца, людзі могуць пазнавацца не толькі ў бядзе, але і... у дарозе.

— Я веру, вы шчыра кахаеце мяне, але ўсё гэта надта паспешліва... Да таго ж, сын у мяне...

— Ваш сын не можа служыць перашкодай, Таня. Я люблю яго, гэта вы самі бачылі...

Раптам Таццяна спытала:

— Колькі дзён асталося яшчэ вашага водпуску?

— Васемнаццаць без сягоняшняга.

— Тады ў нас яшчэ ёсць час: мне — падумаць, вам — раздумаць.

— Кажу вам адразу, Таня, са мною такое не станецца. Раздумваць і адступацца ад свайго шчасця я не збіраюся.

Развітвацца Таццяне не хацелася. Нейкая таемная сіла трымала яе, цягнула да гэтага чалавека. Яна апусціла долу вочы і, пазіраючы то на запыленыя Аляксеевы чаравікі, то на свае сандалі, думала: «Калі ж той дождж пройдзе і хоць трохі прыб'е пыл?»

Аляксей прыгарнуў яе да сябе, цалуючы пышныя валасы, загарэлую шыю. Потым нахіліў трошкі ўбок сваю галаву і пацалаваў у шчаку. Таццяна зняла руку з пляча і вызвалілася з Аляксеевых абдымкаў.

— Лёша, я пайду. І вы вяртайцеся на станцыю.

— Ну, як жа вас адных адпусціць сярод лесу? — пацінуў плячыма Аляксей.

— У такім разе, праводзьце да поля. Яно ўжо недалёка.

Што кудзерка лесу хутка скончыцца, мала ўсцешыла Аляксея. Ён згодзен быў бясконца ісці ды ісці побач з Таццянай у шырокі свет. Тут нечакана ў Аляксея з'явілася зусім новая думка:

— Ведаеце, што мне прыйшло ў галаву? Пайсці абоім да вашых бацькоў і смела расказаць пра наша рашэнне.

— Ніякага рашэння ў мяне яшчэ няма, Лёша. І не прыспешвайце. Дайце час асвоіцца з такой акалічнасцю... Ды і вы лішні раз падумайце...

На ўзлеску яны развіталіся. Аляксей сказаў чакаць яго пісьма.

## VII

Крушынін адрэзаў кавалачак падсмажанага мяса і пачаў намазваць гарчыцай.

— І што вы думаеце, дарагі мой, прайшло нешта з месяц пасля ад'езду, прыходзіць ад Таццяны пісьмо з разводнай. Усцешыла, называецца, мужа. Я — не іх, яны — не мае. Вам спадабалася б такое? — крануў ён за руку Аляксея.

Штосьці гнеўнае і пагрозлівае было ў Іванавых вачах. Ганчарэнка марудзіў з адказам: «Ці не пазнаў ён усё ж мяне? І цяпер прыпірае да сцяны, каб я сам сабе вынес прысуд?» — думаў ён.

— Вядома, не спадабалася б,— адкусіў кавалачак мяса Крушынін.— І я так успрыняў. Павінен жа мець чалавек хоць трошкі гонару ў сабе. «Не трэба мне тваіх аліментаў»,— заявіла ў пісьме. Адкуль узялася гэта гордасць, скажыце? Аліменты я ўсё ж адкладваў сам, усе гады, на асобую кніжку,— раптам адумаецца і запатрабуе,— а яе шукаць не стаў. Дрэнна, вядома, зрабіў, што не спытаў у яе бацькоў, дзе яна апынулася... Дзеля сына. Характару свайго перасіліць тады не змог. Заела: ні туды ні сюды. Кінула, зраклася, ну і жыві... Каго яна там знайшла сабе, які ўдавец спакусіўся, розуму не дабяру.

— Чаму вы думаеце, што яна выйшла за ўдаўца? — здзівіўся Аляксей.

— А што, за хлопца, ды, можа, яшчэ за прыгожага?.. Вы самі ўзялі б, будучы маладым, жанчыну з чужым дзіцем? Узялі б? Не расказвайце баек. Гэта цяпер гаворыце так, дачакаўшыся, відаць, унукаў, а тады, нябось, выбіралі стройненькую ды прыгожанькую, ды каб яшчэ дзяўчынай вам дасталася. А як жа інакш? Чужое дзіця гадаваць і вечна думаць, што гэта не тваё,— радасць невялікая...

— А я ўзяў жонку з дзіцем, хоць вы і не верыце, і ніколі не думаў, што гадую чужое дзіця. Так і другі хто: бачыў, каго браў, з кім браў, з чым браў, калі па каханні, вядома, браў, а не па разліку, дык і будзь чалавекам,— паклаў Аляксей нож і відэлец на талерку і адсунуў яе на сярэдзіну стала.— Скажу вам, ды вы і самі добра ведаеце, у сямейным жыцці многае залежыць і ад нашага брата-мужчыны. Мы толькі вінавацім заўсёды жанчын, а самі таксама бываем добрымі цацамі. Любім сваё «я» паказваць, дзе трэба і не трэба. Нават тады, калі яўна трэба ўступіць жонцы, не ўступаем...

Крушынін адламаў кавалак хлеба і абмакнуў у падліўку.

— Характары людскія, дарагі мой,— бездань. У сям'і гэта найбольш выяўляецца. Аднаму здаецца: яго паводзіны, яго жыццё — павінны быць узорам для другога. А той другі ці другая не прызнае гэтага. От і пачынаецца калатэча... Мая Таццяна паняй хацела быць з маладых гадоў, а я раіў: абжыцца спачатку, агледзецца, сёе-тое мець пра запас на чорны дзень... Транжырка яна была, во хто: не любіла, каб рубель які аставаўся на пасля. Убачыць што ў людзей — падавай і ёй тое самае. Шубку коцікавую, сукенкі самыя дарагія, туфлі найдаражэйшыя... Добра, што тады пярсцёнкі не былі ў модзе, як цяпер, а то і іх падавай. Ды не абы-якія, а залатыя, з дарагімі каменнямі... Яны, жонкі, так глядзяць на нас: узяў замуж, дык і забяспечвай усім, што ёй уздумаецца, што спадабаецца...

Аляксей усміхнуўся прытоенай усмешкай. «Гавары, гавары, ды меру знай»,— адчувалася ў яго поглядзе, а Крушыніну сказаў:

— Перабольшваеце, Іван Самсонавіч. Не ўсе жанчыны такія, як вы кажаце. У тым ліку і ваша былая жонка...



— Прабачце, Аляксей Пятровіч, каму лепш ведаць, як не мужу, якая была мая жонка? Скажыце, вы задаволены сваім сямейным жыццём? Задаволены. Нават вельмі? Тады вам пашчасціла. І цяпер па сабе мяркуеце, што ўсе так жывуць ці прыблізна так. А ў многіх бывае інакш. Я гэта са свайго вопыту ведаю. Вам колькі год?

— Пяцьдзесят шэсць.

— Значыць, маладзейшыя трохі за мяне. Равеснік Таццяне. Ёй таксама столькі, калі жывая дзе...

— Жывая,— не стрымаўся Аляксей, як пачуў такое пра сваю жонку, і дадаў: — Жанчыны жывучыя.

— Як знаць? Яна ўрач, а іх вунь колькі было на вайне і не вярнулася назад. У нас мабілізавалі адну з амбулаторыі нумарнога завода. Муж інжынерам працаваў у мяне і нешта праз год атрымаў пахавальную. Так што невядома, дарагі мой, што і як з Таццянаю сталася. Столькі часу прайшло...

«Ну і сітуацыя!» — падумаў Аляксей.

Крушынін, відаць, таксама быў заняты думкамі пра былую жонку. І каб Аляксею не прыйшло ў галаву, што ён усё яшчэ перажывае драму трыццацігадовай даўнасці, сказаў:

— Таццяна да слова прыйшлася. Мне цяпер усё роўна: жывая дзе яна ці не... Хачу толькі сына знайсці ды падзяліцца з ім сваімі зберажэннямі. Няхай бы сабе машыну купіў ці дачу. Цяпер гэта модна...

«Тым лепш, тым лепш,— зарадаваўся Аляксей.— Калі цябе, Іване, Таццяна не хвалюе, то мне і расказваць не трэба пра яе»...

А расказаць у Ганчарэнкі было пра што. Расстаўшыся з Таццянай на ўскрайку лесу, ён цвёрда вырашыў не адступацца ад свайго. Прыгадалася вычытанае ў кнізе, што ў каханні, як на вайне. Выйграе той, хто не апускае рук пры першай няўдачы.

Дахаты Аляксей вярнуўся невясёлы. Маці заўважыла гэта і, падаючы вячэру, быдта між іншым, спытала:

— Ну, як з'ездзілася, сынок? Застаў хоць дома сваю красуню?

— Таню? Застаў. Толькі красуняй назваць яе нельга.

— Дык а чаго ж ты ўлягаеш так за ёю?

— Душа ў яе багатая, мама. Яна была б шчасцем не толькі для мяне, але і для вас, як нявестка.

— А што ж перашкаджае? Спадзяецца на лепшага?

— Не адважваецца жанчына... Дзіця на руках.

Маці ледзь не выпусціла з рук міскі.

— А сыночак жа мой, дык гэта ты хочаш браць тую, што ехала з табою ў цягніку, пра якую расказваў?

Аляксей кіўнуў галавой.

— Вой, вой, вой!.. А дзіцятка маё, ды што ж ты надумаў? Не жаніўся, не жаніўся і выбраў нарэшце...— усхліпнула маці.— Навошта чужыя дзеці табе? Знойдзеш дзяўчыну па сэрцы,— сваімі будзем цешыцца. Ці ж мала іх у нашай вёсцы?

— Матуля мая, не будзе ў мяне жыцця без Тані...

І ласкавыя сынавы словы, і той жаласны тон, якім яны былі сказаны, выклікалі ў жанчыны спагаду.

— Трэба ж так затлуміць галаву чалавеку. Быдта яна адна на свеце...— гаварыла маці сама сабе, сцелючы пасцель.— Глядзі, каб пасля не каяўся... Перастань думаць пра яе, дык і забудзецца...

А яна не забывалася... І Аляксей зноў сеў за пісьмо. Не ладзіўся пачатак: усё было не тое, што хацелася сказаць. Нарэшце настроіўся на пэўны лад. «Сваім каханнем і пакутамі бяссонніцы я хачу заслужыць Вашу любоў, Таня, да мяне. Толькі вы адна можаце ашчаслі-

віць таго, хто не пакідае думаць пра Вас... Калі асмеліцеся ступіць свой першы, так жаданы для мяне, крок (я яшчэ раз прашу зрабіць гэта), напішыце. Я буду чакаць Вас у Мінску на вакзале... Чацвёртага жніўня. Забірайце сына і прыязджайце вячэрнім цягнікам. У мяне яшчэ астанецца некалькі дзён адпачынку, мы зможам афарміць па закону наша новае жыццё, пабыць у горадзе ці з'ездзіць да мае мамы, калі Вы пажадаеце гэтага, або спыніцца на дзень ці два ў Маскве, схадзіць у Маўзалей, паглядзець горад...

Цалую Вашу руку і яшчэ раз прашу Вас ашчасліціць мяне.

Аляксей».

Пісьмо ён не спяшаўся адсылаць. Перачытваў, папраўляў.

Гэтым разам адказ быў кароткі, але радасны для Аляксея: «Сустракайце вячэрні цягнік у назначаны Вамі дзень і час. Таня».

Аляксей не знаходзіў сабе месца ад радасці. Цалаваў лісткі Танінага пісьма, быдта яе шчокі.

— Глядзі, сынок, каб не каяўся потым,— напомніла Марфа зноў. Ведала, што надарма гаворыць, але сказаць лічыла патрэбным для заспакаення свайго матчынага сэрца.

— Не каюся, што пайшоў у вайсковую школу, і тут, спадзяюся, не буду каяцца,— пацалаваў ён некалькі разоў маці ад радасці.

— Дай божа, сынок, чутае бачыць,— прымірылася Марфа.

І Аляксей пачаў нецярпліва лічыць дні, калі яны сустрэнуцца, каб не расстацца ўжо больш ніколі.

Пра Аляксеева пісьмо Таццяна вырашыла не гаварыць бацькам. Сказала ў апошні дзень перад ад'ездам, што хварэе Іван.

Маці вельмі блізка прыняла да сэрца зяцеву хваробу, калі Таццяна сказала ёй.

— Ну што ж, дачушка, зробіш, вядома, трэба ехаць. І што ж бо з ім сталася?.. Не піша?

— Не, толькі хоча, каб прыязджалі хутчэй.

Гэтага нельга было назваць святою маною, але ж і праўду гаварыць Таццяна не магла.

— Дык ты хочаш заўтра ехаць ужо? — затурбавалася маці.

— Чым раней, тым лепш.

— Яно канечне, чаго ж адкладаць... Мала вы і пагасцілі ў нас. Можа, няхай бацька паедзе з табою да Мінска ды паможа сесці ў цягнік? У Бярэжу я вас адвязу сама.

Таццяна не згадзілася, каб ехаў з імі бацька.

На станцыю дачку і ўнука адвозіў Мікалай на калгасным кані. Маці праводзіла іх аж за вёску і на развітанні запрасіла, каб на тое лета прыязджалі разам з Іванам. Сказала і заплакала. Быдта нядобрае штό прадчувала сэрца.

У Мінску яны затрымаліся, як і разлічваў Аляксей, тры дні. Трэба было Таццяне ўзяць развод, зарэгістравацца ім, купіць білеты на цягнік. Разводы ў той час даваліся вельмі проста: захоча каторы з дваіх скасаваць шлюб, піша заяву загадчыку ЗАГСа і атрымлівае разводную, асабліва калі няма прэтэнзіі на аліменты.

Скончыўшы свае турботы ў горадзе, яны купілі сёе-тое ў падарунак Аляксеевай маці (ён угаварыў усё ж Таццяну паехаць да яе) і выправіліся ў вёску.

Марфа прыняла нявестку з сынам ласкава: што ж, падабаецца яна і яе дзіця Аляксею, павінны падабацца і ёй.

— Ну што ж, дзеткі, мне астаецца блаславіць вас і пажадаць аднаго: няхай вам бог дасць любоў, шчасце ды здароўе на доўгія гады.



Шкадуйце адно аднаго, слухайцеся, паважайце, калі лёс звёў жыць разам...— пацалавала яна Таццяну і сына.

І Аляксей і Таццяна ўздыхнулі з палёгкай.

— Трэба ж вас, дзеткі, прывеціць з дарогі чаркай,— узялася накрываць стол Марфа.

— Мама, давайце я памагу вам,— падахвоцілася Таццяна. Сказана гэта было так проста, шчыра, што пачутае ўпершыню ад чужога чалавека «мама» не выклікала ніякага здзіўлення ў Марфы. Быдта даўно яны ведаюць адна адну і свякроў чула ўжо гэта слова ад нявесткі шмат разоў.

А на другі дзень маладажоны ад'язджалі на Усход.

Яны зноў утраіх у купэ. Толік не называе больш Аляксея дзядзькам. Яшчэ ў мінскай гасцініцы «Беларусь», дзе яны спыняліся, Таццяна сказала сыну, пасля рэгістрацыі шлюбу, як трэба звяртацца да Аляксея. Першыя часы Толік мыляўся і зваў новага тату па-ранейшаму: «дзядзя Лёша». Таццяна кожны раз не прамінала папраўляць яго.

Зноў мільгаюць вялікія і маленькія станцыі, паўстанкі. Аляксей з Таццянай стаяць у калідоры і ўспамінаюць, як месяц назад ехалі зусім чужымі па гэтай чыгунцы.

— Нездарма кажуць людзі: выязджаючы з дому, чалавек не ведае, што чакае яго ў дарозе,— напомніў чутую прымаўку Аляксей.

— Праўда,— летуценна пазіраючы праз акно ўдалеч, згадзілася Таццяна.— Ці ж думала я, што так можа стацца са мною, калі пакідала Першамайск? Або ты сваю часць...

І чым бліжэй пад'язджалі яны да той станцыі, дзе сустрэліся ўпершыню, тым больш агортвала Таццяну трывожнае пачуццё. У такім настроі прылегла яна каля сына. «А што, калі Іван атрымаў маё пісьмо і разводную раней і нейкім цудам апынецца ў гэтым вагоне? — з'явілася думка, і... раптам пачуўся знаёмы голас: «Адкуль ты ўзяла, што лёс памыліўся, калі зводзіў нас разам? Няхай будзе па-твойму: «характары ў нас розныя», дык хіба гэта прычына, каб не жыць адною сям'ёю? Нікуды нашы дарогі разысціся не могуць. На сына аліментаў не хочаш браць — не бяры. Баба з калёс — каню лягчэй. Толькі ведай, я ад яго не адмаўляюся. Навошта мне пытаць сынаў адрас у тваіх бацькоў? Сын у маіх руках цяпер. На дзіця толькі спасылка. Прычына другая... Я разумею ўсё. Коцікавая шубка вінавата...»

«Не, не, гэта твае дадумкі,— пярэчыць Таццяна.— Я напаткала чалавека блізкага па душы... Табе не зразумець гэтага...

«Хопіць гаварыць пустое...— чуе Таццяна пагрозлівы голас.— Адзявай Толіка ды збірайся хутчэй сама. Цягнік стаіць тут нядоўга...»

«Нікуды я не пайду. Мы з табою чужыя... І сына не аддам!.. Не смей бра-а-аць! — закрычала Таццяна.

— Таня, Танечка, што з табою? — саскочыў з верхняе лаўкі Аляксей, прысеў на лаўку каля жонкі, узяў руку, пацалаваў.— Ты так моцна закрычала. Бачыла што ў сне?

— Яго,— палажыла Таццяна сваю другую руку на Аляксееву.— Толіка хацеў забраць, а я не аддавала...

— Думала ўвесь час, вось і прыснілася.

— Скора Першамайск?

— Праехалі ўжо.

— Праўда? — сціснула яна ў сваіх руках Аляксееву.

— Праўда. На станцыі села толькі адна жанчына.

— Тады ідзі спі. Я таксама пастараюся заснуць.

Цягнік імчаўся і імчаўся на Усход.

## VIII

Куды падзелася тады Таццяна з дзіцем, асталося для Крушыніна тайнай... Каб на тым часе не заця́ўся так на яе ды пачаў шукаць, то знайшоў бы. Нават і пасля вайны людзі раілі даць на розыск — не паслухаў. Хацеў, каб яго шукалі.

— А цяпер як у вас з сям'ёй? Ёсць? — спытаў Ганчарэнка.

— Была. Нават два разы пасля Таццяны. Зараз няма. Матляюся адзін...

— Даўно?

— З часоў другой грашовай рэформы.

— Чаму так?

Крушынін дастаў з кампота палавінку сухой грушы, узяў яе за хвосцік і адкусіў. Зярняткі і хвосцік палажыў у талерку з-пад супу, задумліва паглядзеў на суседа і сказаў:

— Якая вам ахвота слухаць чужыя звадкі? Падумаеце, што скарджуся, а гэта не ў маёй натуры. Я магу тут перанесці ўсё,— пастукаў рукой па грудзях,— а спагады людское не цярплю. Не прызвычаены змалку. Бацька вучыў толькі на свой розум і сілу спадзявацца...

— Воля ваша, Іван Самсонавіч. Я не настойваю.

Аляксеева шчырасць падахвоціла Крушыніна на далейшую размову.

...Нешта з месяц нікому не гаварыў на тым часе Іван пра жонку. Тое, што Таццяне напаткаўся чалавек блізкі душой і характарам, як пісала яна ў пісьме, ён не прызнаваў за прычыну, каб распалася сям'я, і ніяк не мог прымірыцца.

Так ішлі дні.

Не надта гаваркі Крушынін і зусім прыціх. Стаў больш строгі да сваіх падначаленых, пануры. Самая нікчэмная дробязь на рабоце выводзіла з раўнавагі. Усе, хто сутыкаўся з ім на будоўлі ці ў канторы, здзіўляліся з такой перамены характару, здагадваліся аб нейкай непрыемнасці ў іхняга інжынера, але пэўнай прычыны ніхто не ведаў. Высвятлілася гэта зусім выпадкова.

Аднаго разу, калі Іван Самсонавіч быў у добрым настроі — квартальны план па будоўлі на яго ўчастку быў перавыкананы, напярэдзе былі не толькі пахвала і падзякі ад трэста, але і прэміі рабочым, а таксама і яму,— нарміроўшчыца Зіна Серпікава спытала, ці хутка вернецца Таццяна Мікалаеўна з адпачынку.

— Яна больш не вернецца. Знайшла сабе лепшага Івана...— буркнуў Крушынін.

— Што вы кажаце? — здзівіліся разам з Зінай яе суседкі, што сядзелі за сталамі ў канторы.

— Тое, што чуеце,— кінуў ён і хуценька выйшаў за дзверы, каб не пускацца ў далейшыя размовы, каб не верадзіць яшчэ свежую рану.

Нейкі момант жанчыны моўчкі пераглядваліся. Нават адзіны мужчына ў гэтым пакоі, Панцялей Іванавіч, намеснік галоўнага бухгалтара, перастаў ляскаць лічыльнікамі. Навіна была немаленькая: пачутае ад самога інжынера не толькі пацвердзіла іх здагадкі, але і давала падставу для гаворкі, чаму такое магло стацца ў гэтай невялікай і, здавалася, шчаслівай сям'і.

Не ведаючы, хто вінаваты ў гэтай сямейнай гісторыі, жанчыны спачувалі Івану, як абражанаму, адвергнутаму жонкай. У часе адной такой размовы Зіна, уздыхнуўшы, сказала:



— Дастанецца некаму добры муж.

Зіна была адзінай жанчынай з шасці канторскіх супрацоўніц, у якой не было мужа. Другі год пайшоў, як аўдавела яна. Муж яе працаваў тэхнікам на будоўлі, быў вельмі заўзяты да работы і неяк у спешцы сарваўся з рыштаванняў, моцна пакалечыўся, і дактары не змаглі ўратаваць.

Вось чаму, калі Зіна выказала патаемную жаночую зайздрасць да той, невядомай, што стане жонкай Крушыніна, рахункавод Барсукова ні то жартам, ні то ўсур'ёз сказала:

— Той жанчынай будзеце вы, Зіна.

Быдта сыпанулі жарам у твар Серпікавай.

— Што вы, што вы, Насця Сямёнаўна! Я нават думаць не магу пра гэта. Ён знойдзе не раўню мне.

— А што ж вы, гультайка, калека? Мець вас за жонку — мець поўную хату шчасця... На правах старэйшай я бяру на сябе гэты клопат...

Барсукова цішком папрасіла намесніка галоўнага бухгалтара выведаць, як думае далей жыць іхні інжынер. З прадбачлівасцю спрактыкаванай свацці, хоць ёй і не даводзілася быць у гэтай ролі, Насця павучала:

— Пагаварыце, Панцялей Іванавіч, спачатку як мужчына з мужчынам, паспачувайце яго адзіноце. А тады, быдта між іншым, намякніце, чаму яму не прыглědзецца да Зіны.

Невясёлую вестку прынёс намеснік галоўнага:

— Супраць нашай Зіны ён нічога не мае, але сказаў, што ні адна жанчына не пераступіць больш яго парога. Хапіла, кажа, аднае...

— Гэта пакуль утаймуецца крыўда, ён так гаворыць. Важна было напомніць пра добрую жанчыну...

Адчуваючы, што гаворка Панцялея Іванавіча была падобнаю на сватаўство, Крушынін яшчэ больш адасобіўся ад людзей. Не, цяпер ён будзе разумнейшы... Даволі адной памылкі.

Вайна змяніла многае. Шмат каму з будаўнікоў давялося замяніць кельму або сякеру на вінтоўку ці аўтамат. Прыбавілася работы і тэхнічнаму персаналу. Людзей паменшала, а планы асталіся тыя ж. Прыйшлося Крушыніну заняць месца прараба, якога на другі дзень вайны адклікалі ў ваенна-інжынерную часць.

Іншы раз пасля зацяжных падлікаў ды разлікаў Крушыніну прыходзілася і заначоўваць у кабінеце, бо нішто не вабіла дахаты. У такія хвіліны не раз прыгадвалася Таццяна. «Дзе яна, як сын?» Потым гэтыя думкі сплывалі, і чамусьці на змену ім заўсёды прыгадвалася размова з Панцялеем Іванавічам. «Заўтра ж трэба будзе перакінуцца некалькімі фразамі з Зінай. Ну што гэта за жыццё аднаму? Ні ты каму ласкавае слова, ні табе хто...»

Новы дзень прыносіў новыя турботы на будоўлі, і сваё асабістае, што вечарам здавалася важным, раніцай зноў станавілася для Крушыніна другарадным, нязначным. І толькі ў сорак чацвёртым, увосень, Крушынін і Зіна пажаніліся.

З першых дзён новага сямейнага жыцця Іван зноў дамогся свайго.

— Люблю, каб у хаце парадак быў, каб грошы не растыцкваліся куды папала, каб пад маім кантролем была наша маленькая гаспадарка,— даводзіў ён лагодна Зіне.— Яны цяпер і так не дарагія, а калі сілай не прытрымліваць, то сплывуць з рук, што і паёк не будзе за што выкупіць.

Зіну гэта здзівіла. Яна не прывыкла да такога кантролю. Пры мужу грошы ляжалі ў шуфлядцы і браліся на патрэбныя выдаткі. Гаварылі

адно аднаму, на што бяруцца, і ўсё. Потым жыла адна і таксама не транжырыла: кожны чырвонец меў сваё прызначэнне. А тут адразу недавер.

— Прыйдзецца некаторы час трошкі паашчаджацца, Зіначка, пакуль я не вярну ўзятыя з запасу грошы на наша вяселле,— напомніў Крушынін пасля першае зарплаты.

Якое там вяселле?! Смех людзям казаць. Зініны сяброўкі з кантора ды яго, Крушыніна, некалькі падначаленых — інжынеры, тэхнікі — сабраліся павячэраць разам. Сякія-такія выдаткі былі, вядома. Не абышліся пайковым пачастункам, сёе-тое купілі і на рынку. Але ж ці варта было пра такое нагадваць?

Зіна моўчкі згадзілася з мужам, а неўзабаве ў новай сям'і Крушыніных адбылася першая непрыемная размова. Канторскія служачыя атрымалі два талоны на абутак.

— Адзін талон даць Зіне,— сказала Барсукова,— хоць і не яе чарга, а другі — таму, хто па спісу першы.

Можа ў каго была і большая патрэба ў тым абутку, але ніхто з жанчын не стаў пярэчыць. Разумелі: няхай парадуе маладзіца мужа абноўкай...

Крушынін доўга аглядаў строгім позіркам туфлі, потым паставіў на табурэцік і пакруціў галавой.

— Не падабаюцца? — спытала Зіна.

— Відаць, увесь аванс аддала? — замест пахвалы і добрага пажадання, як гэта робіцца нават чужымі людзьмі ў такіх выпадках, спытаў Крушынін.

— Пяцьдзесят рублёў асталося,— не заўважаючы яшчэ ў мужавых словах дакору, шчыра прызналася Зіна.

— На кіло рыначнага хлеба. А жыць як будзем да другой палучкі, падумала?

Што магла адказаць на такое жорсткае пытанне жанчына? Збянтэжаная, яна стаяла сярод пакоя з бульбінай і нажом у руцэ і ўпершыню параўноўвала свайго першага мужа з Іванам. «Сярожа расцалаваў бы мяне ад радасці, каб я прынесла такую пакупку...» Яна паставіла туфлі ў шафу і, ледзь стрымліваючы жаль, каб не расплакацца, выйшла на куханьку.

Іван зразумеў свой залішні дакор і пайшоў следам за жонкай, там ужо сказаў, каб насіла здаровая, аднак не ўпусціў моманту напомніць:

— Трэба ўсё ж раіцца з мужам, Зіначка, купляючы дарагую рэч. Шклянку кедравых арэхаў купіш, і то ўжо непрадбачаныя выдаткі ў сямейнай гаспадарцы, а тут вунь колькі адразу траціцца.

Назаўтра, як толькі Зіна зайшла ў кантору, Насця спытала, ці спадабаліся ж хаця мужу туфлі. Яна хадзіла памагаць выбіраць у магазіне.

Зіна расказала, як яно было ўчора вечарам дома. Жанчыны гнеўна абурыліся. Адна з іх параіла сабраць патрачаныя на туфлі грошы, каб Зіна аддала мужу.

— Што вы, любыя, што вы? Ваня пакрыўдзіцца, а мне жыць з ім...

— Тады я сама з ім пагавару,— падахвоцілася Барсукова.

— Не рабіце гэтага, прашу вас. Усё будзе добра, паверце. Са сваім характарам я з любым чалавекам ужывуся...— шкадавала ўжо Серпікава, што выдала хатнюю тайну.

— Глядзі, а то, калі што якое, не тойся. Мы цябе ў крыўду не дадзім. Мала важна, што ён праараб,— не пераставала вайдаваць Насця.— Жаніх, называецца! Што б ён рабіў, каб вярнулася даўнейшая мода: узяў жонку, дык і ўтрымлівай на свой заробак?.. Ды каб такое сказаў мне мой, я не ведаю, што зрабіла б яму...

— Ці не па гэтай прычыне збегла ад яго першая жонка? — заўважыла адна з супрацоўніц.

І гаворка адразу перакінулася на Таццяну. Ад таго, што яе ніхто блізка не ведаў, пачаліся розныя здагадкі. Расказанага Зінай хапіла аж занадта для наракання на Крушыніна.

Слухаючы, Зіна зразумела сваю памылку і дала сабе слова нікому не скардзіцца больш на мужа, не выносіць, як кажуць у народзе, смецця з хаты.

Колькі радасці было ў Зіны, калі ўрач сказаў, што яна стане маці! І не дзіва. Хацелася жанчыне мець сваю ўцеху ў жыцці, а не радавацца толькі з чужых дзяцей. Яна згатавала вячэру, а Івана ўсё не было з работы. Не ведала, што ў мужа нарада. Тэрміны падцiскалі, а план паддаваўся туга. З людзьмі палягчэла, затое з матэрыяламі цяжэй стала. Усё ішло на адбудову разбураных вайной раёнаў.

Вярнуўся Крушынін заклапочаны. Не давала спакою тэлеграма трэста: «Шукайце рэсурсаў на месцы». Шукалі ўвесь вечар гуртам: і тэхнікі, і брыгадзіры, і майстры. Сёе-тое знайшлося ў запасе, але не столькі, каб хапіла справіцца з квартальным планам.

Мыючы рукі, збольшага расказаў жонцы, чаму спазніўся.

— Усё будзе добра, павер мне,— супакоіла Зіна мужа,— сядай, еш цёплае.

За вячэрай расказала, што была ў паліклініцы.

— А што з табою? Ты ж не скардзілася на хваробу,— здзіўлена зірнуў на жонку Іван.

— Ці ж толькі з хваробамі ходзяць туды? — і, апусціўшы вочы, неяк сарамліва прызналася:— Сям'я наша скора павялічыцца, Ванечка.

Крушынін бразнуў відэльцам аб стол.

— Мала мне яшчэ турбот на рабоце?

— Ванечка, ты не рады? У цябе ж памочнік будзе...

— Напамагаюць такія памочнікі!.. Ад клопату з ім не ацярэбішся!

Зіна не магла зразумець адразу, куды хіліць гаворку муж, і ласкава, па-жаночаму, пачала выказваць сваю радасць:

— Ванечка, на гэтым жа свет трымаецца. Сям'я без клопатаў не бывае. Нашы бацькі гадавалі нас, а мы — сваіх дзяцей...

— Давай спачатку павячэраем. Я прагаладаўся, як цуцык,— паначальніцку, як рабіў гэта на будоўлі, загадаў Крушынін.

Зіна спадзявалася парадаваць мужа, а выйшла наадварот. Палічыла вінаватай сябе: не ў пару сказала. Прыгадаўся зноў Сяргей. Яму так хацелася мець сына. Кожны раз, як толькі яна вярталася ад доктара, першымі словамі былі: «Ну, што сказалі сёння?» Зіна пацiскала плячыма: «Усё тое ж, не траціць надзеі». І вось доктаравы словы спраўдзіліся.

Пачутае ад жонкі турбавала Івана. Ён ляжаў на канапе задуменны, а Зіна моўчкі цыравала яго шкарпэткі.

— Нам, Зіначка, трэба добра абмеркаваць тое, пра што ты сказала за вячэрай...— парушыў цішыню Іван.

— А што тут абмяркоўваць? Будзем чакаць дзяўчынку ці хлопчыка. Ты хлопчыка хочаш, праўда? — ласкава зірнула на мужа Зіна, не перастаючы цыраваць.— Усе мужчыны, кажуць жанкі, толькі і мараць пра наследнікаў. У каго ж небудзь і дзяўчынкі павінны быць...

Крушынін прыўзняўся на локаць, падпёр далоняй галаву.

— Ты не дала дакончыць думку,— перапыніў ён.— Другое турбуе мяне. Сама бачыш, як цяжка пасля вайны людзям. А тут яшчэ малое



пры такой дарагоўлі. Будзе гэта хлопчык ці дзяўчынка — якая розніца?

— Ванечка, усім жа цяжка, не толькі нам, але ж дзеці не перастаюць ад гэтага нараджацца, і людзі гадуюць іх. Усё будзе добра і ў нас, павер мне,— усё з той жа ласкавасцю даводзіла Зіна.

— Адкуль яно можа быць тое добра? Панчохі сабе ды шкарпэткі мне, самыя простыя, і тыя, бачыш, прыходзіцца цыраваць... Другія жанчыны неяк жа сцерагуцца... Ці робяць аборты. Трэба і табе падумаць...

Усяго магла чакаць Зіна ад мужа, толькі не такога дакору і парады. Яна ўстала, загарнула клубочак у шкарпэтку, уваткнула іголку, палажыла ўсё на крэсла і села на краёчак канапы.

— Садзіся глыбей,— адсунуўся Крушынін.

— Любы мой, я ж табе расказвала, колькі пахадзіла да розных дактароў, і зусім не спадзявалася ўжо на такое,— вінаватым тонам апраўдвалася Зіна. Быдта зрабіла непрыстойны ўчынак і вымольвала прабачэнне.— А пра тое, што ты гаварыў... Ты адвык ад сям'і, дык цябе і палохае гэта. Павер мне, усё будзе добра...

Бяда здарылася нечакана. Аднае раніцы, спяшаючыся на работу, Крушынін дастаў з кішэні дробязь і стаў пералічваць, ці хопіць на аўтобус. Дваццацікапеечная манета выпала з рук, бразнула аб падлогу і закацілася пад шафу. Звычайна ў такіх выпадках робіцца вельмі проста: прыгнецца чалавек ці прыкленчыць і выгарне прутком. Іван зрабіў іначай: адсунуў шафу ад сцяны і падняў тыя злашчасныя грошы. Апусціў манету ў кішэню і ў спешцы не паставіў шафу на месца.

Зіна выходзіла на работу пазней. Будаўнікі пачыналі працаваць з васьмі гадзін, а бухгалтэрыя — з дзевяці. За гэты разбежак у часе яна заўсёды паспявала прыбраць у кватэры. Узялася і ў тую раніцу наводзіць парадак. Убачыла, што шафа адсунута ад сцяны, вымела пыл і, забыўшыся на цяжарнасць, хацела паставіць на месца. Паднапялася, скранула і... адчула вострыя колікі ў паясніцы. У вачах усё замітусілася.

Яна прыхінулася да сцяны, пастаяла крыху, збялелая ў твары, і падалася да канапы. Думала, паляжыць трошкі, аціхне боль у сярэдзіне—і пойдзе на работу. Мінула гадзіна, другая — колікі не сунімаліся. Устала, каб расхадзіцца, і адчула яшчэ вастрэйшы боль. Тады вярнулася назад, прысела і пачала зваць на дапамогу людзей, але ніхто не мог пачуць яе голасу — суседзі выходзілі з дому раней за яе. Спалохалася, што так можна і загінуць. Праз сілу паднялася, каб выйсці на двор, а там — на вуліцу і даць знаць людзям пра сваю бяду. Не дайшла да дзвярэй, галава закружылася, павяло ў бакі і, беспрытомная, асунулася на падлогу. Тут і застаў яе Крушынін, прымчаўшыся з канторы, калі ў абедзенны перапынак даведаўся, што Зіна не прыходзіла на работу.

Ні хуткая дапамога, ні бальнічныя дактары не змаглі выратаваць Серпікавай.

## IX

— І больш не жаніліся? — трошкі счакаўшы, спытаў Аляксей, як Іван змоўк.

— Была яшчэ трэцяя і... апошняя.

— Чаму такі зарок? Можа і чацвёртая натрапіцца...

Крушынін прыжмураным вокам глянуў на Аляксея. Было ў тым позірку нешта недаверлівае і да субяседніка, і да яго слоў.

— А што дзіўнага? Старэйшыя за вас жэняцца...
— Са мною гэтага не будзе, дарагі, хопіць!... Цяпер я добра ведаю, чым жыве, чым дыхае кожная з жанчын!.. Трэцяя навучыла розуму. Такой гаротніцай, такой бяздольнай прыкінулася, хоць бяры на рукі ды шкадуй, як дзіця. А пасля...— ён змоўк, думаючы, відаць, расказваць, як было, ці не.
— А пасля што?
— Што? Такой драпежнай кошкай аказалася — свет не бачыў! Дзесяты год ідзе, а без дрыжыкаў не магу ўспомніць пра яе афорт,— у яго сапраўды задрыжала ў руцэ шклянка з недапітым кампотам.
...Панцялей Іванавіч пайшоў на пенсію, а яго месца заняла Алеся Ігнатаўна Рубанава. Што прымусіла жанчыну немаладога ўжо веку прыехаць у Першамайск, ніхто не ведаў, а сама яна не пускалася ў гаворку пра гэта.
Убачыўшы Крушыніна першы раз у канторы, Алеся ўважліва змерала яго позіркам, але распытваць у супрацоўніц нічога не стала, перамагла сваю жаночую цікаўнасць. І толькі за трэцім ці чацвёртым наведваннем, і то між іншым, спытала ў жанчын, што за чалавек іхні прараб. Тыя расказалі, што ведалі.
Хутка Рубанава перайшла з агульнага пакоя канторы ў пакой галоўнага бухгалтара: спачатку замяшчаць свайго непасрэднага начальніка, калі той пайшоў у адпачынак, а пазней і яе стол перанеслі туды.
— Прыйшлася да спадобы галоўнаму наша Алеся Ігнатаўна,— перашэптваліся ў бухгалтэрыі.— Панцялей Іванавіч колькі гадоў прасядзеў з намі, а яна туд-сюд — і падладзілася.
— Затое нам павальнела.
— А ёй і зусім вольна стала...
Выходзіла, усе выйгралі.
Аднаго разу пад канец рабочага дня Рубанава папрасіла жанчын перадаць Крушыніну, як убачаць, зайсці да яе наконт ведамасці.
Прараб з трывогай у сэрцы зачыніў за сабою дзверы ў пакой галоўнага. Ён ведаў, што ведамасці правераны ім да макулінкі і нічога там лішняга няма, і ўсё ж, калі начальства выклікае цябе само, ды яшчэ для зверкі лічбаў, то прыемнага ад такога візіту ў чалавека заўсёды мала. Рубанава адарвала на момант позірк ад паперы, прывіталася і папрасіла прысесці, сама зноў унурылася ў лічбы. Праз хвіліну якую адсунула паперы ўбок. Заўвага была дробязная, і Крушынін, неяк па-дзіцячаму, быў рады, што ўсё так добра скончылася.
— Вось па гэтай графе вы маглі і менш выдаткаваць,— паказала яна на справаздачу.— Падчыстка пляцоўкі пад будоўлю заўсёды мае рэзервы. І тут прарабы стараюцца эканоміць, каб мець запас на потым... Вы мужчына, а мужчыны павінны быць ашчаднымі не толькі са сваімі рублямі, але і з дзяржаўнымі капейкамі... Капейка рубель беражэ, кажам мы, бухгалтары,— і тут жа дадала для большага ўражання: Транжырыць грошы — гэта наша, жаночая справа, асабліва, калі ў мужа слабавольны характар...
Вяртаючыся дахаты, прараб шмат думаў пра гаворку з Рубанавай. «Разумная жанчына і дзелавая, відаць»,— прызнаў ён і пачаў знаходзіць прычыну часцей завітваць да намесніка галоўнага: то параіцца, то выпрасіць што-небудзь з дэфіцытных матэрыялаў. Прымяркоўваў візіт пад канец дня, каб мець больш вальнейшага часу. Рубанава ведала ўжо, дзе жыве Крушынін, і аднаго разу неяк сказала пасля размовы ў кабінеце:
— Вы дахаты? Пойдзем разам, нам у адну дарогу. Трэба сяброўку наведаць, жыве блізка ад вас.



Яны не дайшлі два ці тры дамы да кватэры Крушыніна і развіталіся.
А праз некалькі дзён Іван ужо сам спытаў, ці не збіраецца Алеся наведаць сяброўку. Пайшлі б у адну дарогу.
Рубанава адказала стрымана, нават абыякава:
— Мы дамовіліся сустрэцца заўтра, але за кампанію з вамі схаджу сёння.
Гэты раз, быдта загаварыўшыся, яны мінулі месца, дзе развітваліся той раз, і падышлі да дома, у якім жыў Крушынін. Ён запрасіў зайсці. Рубанава паціснула плячыма і спаслалася на боязь выклікаць рэўнасць у Іванавай жонкі.
— Вам ніхто хіба не казаў, што я ўдавец? — здзівіўся Крушынін.
— Я ні ў кога не пытала,— прытварылася Алеся.— А суседзі ў такім разе не абгавораць вас, што жанчын прыводзіце вечарам? Кажаце, суседзі добрыя, то зайду на хвіліну якую глянуць.
Яшчэ адмыкаючы дзверы, Крушынін папрасіў прабачэння, калі што не так у кватэры.
Асаблівага непарадку ў хаце не было, аднак, каб паказаць густ і зрабіць усё ж нейкую заўвагу Крушыніну, яна пераставіла мяккае крэсла на другое месца, а на канапе ўзяла падушачку, што ляжала на валіку, і прыставіла да спінкі на сярэдзіне.
— Глядзіце, зусім інакш стаў выглядаць пакой нават пасля нязначнай пертурбацыі. Праўда? І пыл трэба часцей выціраць вільготнай анучкай,— правяла пальцам па падаконніку і спагадліва паглядзела ў вочы прарабу: — Эх вы, мужчыны, мужчыны, чаго вы варты без нас, жанчын!
— Святую праўду кажаце, Алеся Ігнатаўна,— пагадзіўся Іван.
За чаем Рубанава збольшага расказала пра сябе. Паскардзілася на адзіноцтва, папракнула былога мужа за яго настойлівасць мець дзяцей.
— А вы што, не хацелі абзаводзіцца сям'ёю?
Яна сумелася, апусціла вочы і, памешваючы лыжачкай у шклянцы чай, з жалем у голасе павініла няшчасную долю.
— З маёй другой жонкай было так. Вылечылі дактары. Праўда, цяжарнасць і загубіла яе ў маладым веку.
— Мне дактары не памаглі... Са слязьмі прыйшлося згадзіцца на развод.
— Ну што ж ён так? — абурыўся Крушынін.— Можна было захаваць сям'ю і без дзяцей. Або ўзяць з дзіцячага дома.
— Яму надта хацелася мець сваіх.
Гаварыла яна проста, са спачуваннем і да сябе, і да былога мужа.
Прайшло не многа часу, і Рубанава са сваім небагатым скарбам пераехала да прараба. Калі ж Алеся прынесла першую зарплату ў хату і параіла адкладваць сёе-тое пра запас, Крушынін быў да таго здзіўлены, што толькі і змог спытаць, на чыё ж імя яна збіраецца класці.
— На гаспадарова, вядома. Можна на агульную кніжку з дзвюма подпісамі: тваім і маім.
Нарэшце Крушынін знайшоў жонку па сваім характары: нават не заікалася, каб класці толькі на сваё імя. І пра яго зберажэнні слоўцам не азвалася: ёсць яны ў яго ці няма.
Каб заслужыць у Івана большую павагу, а можа і каханне, Алеся час ад часу нагадвала:
— Ты, Ванечка, павінен богу дзякаваць, што такую маладую жонку займеў. А то і жыў бы адзін, як мядзведзь у бярлозе.
— Знайшла чым ганарыцца! За сорак бабе, а маладзёнкай сябе лі-

чыць. Ды, калі на тое пайшло, Зіне трыццаць два было, як мы сыходзіліся.

— Дык тады ж і ты быў маладзейшы... Разбежка ў дванаццаць гадоў — многа значыць, Ванюша. Май на ўвазе...

На што намякалася, Крушынін зразумеў і адразу ж насупіўся. Алеся толькі і хацела гэтага.

— Дурненькі мой, я знарок сказала такое, каб паглядзець, ці можаш ты раўнаваць... Знаеш, мне падабаецца, калі табе зайздросцяць нашы жанчыны, што ў цябе такая жонка.

— А можа табе, што такога мужа маеш? — не паддаваўся Крушынін.

Сышліся на адным: ім абоім зайздросцяць.

Крушыніну здавалася, не будзе канца яго шчасцю, а канец той падкрадваўся спадцішка. Ва ўсім, што сталася пазней, ён у многім вінаваціў сябе: «Паказала яна сваю кніжку, у дадатак да той, што клала на дваіх,— ну і добра. А мне варта было паглядзець, пахваліць для прыліку, а то і пазайздросціць, і на гэтым канец. Дык не —падштурхнуў нячысцік лезці на ражон самому...»

Ласкаю і какетлівасцю Алесі ўдалося размагніціць жалезныя дзверы, за якімі хаваў Іван тайну сваіх укладаў. Падшыхнула чалавека пахваліцца, што і ён не лыкам шыты.

— Чуў, Ванюша, зноў грошы мяняць будуць,— прыйшоўшы аднаго разу з работы, сказала Алеся мужу пад сакрэтам.— Як у сорак сёмым. Толькі гэтым разам кожны атрымае талон на абмен пэўнай сумы рубель на рубель, астатнія зноў — дзесяць за адзін новы. Трэба адну тваю кніжку перапісаць на мяне. Вунь колькі выйграецца.

Пачутае ўстрывожыла Крушыніна. Ён ведаў, як добра выйшла пры тым абмене. Грошы яго, што ляжалі ў касе, за сямю замкамі, далі добры прыбытак, а тыя, хто хаваў дома,— кусалі локці.

І пасля некаторага вагання і роздуму Іван паслухаў жончыну параду, а як закончыўся абмен і мінулася трывога, ён сказаў:

— Нарабілі панікі людзі, і ты, Алеська, паддалася ёй сама і мяне падбухторыла паверыць.

— Ты ж нічога не страціў ад гэтага абмену, а выйграць мог.

— Страціць не страціў, а лішняга клопату нарабіў сабе. Зноў, бачыш, трэба ісці ў касу, здымаць іх з аднае кніжкі, перапісваць на другую.

— А навошта іх перапісваць? Розніцы няма.

Крушынін цмокнуў:

— Ого, як гэта няма? Розніца вялікая, галубка мая. А раптам ты вільнеш хвастом, сказаўшы «адзью»? Як тады сысктваць свае кроўныя грошы? Судом?

— А ты хіба хочаш, каб я кінула цябе?

— Палоханая варона і кусту не давярае,— спаслаўся Іван на людскую прыказку.

— А ты, выходзіць, мне? Нішто сабе сям'я ў нас... А можа і тым жонкам ты не давяраў? — кальнула Алеся.

Такое нечаканае пытанне зусім збянтэжыла Крушыніна.

— Кажы, кажы смялей,— падганяла Алеся, бачачы мужаву разгубленасць.

— Давяраю, толькі не ў грашовых справах,— паўтарыў гаворанае калісьці Тацццяне.— Тут няхай кожны будзе гаспадаром сваіх.

— Вунь куды крывая вынесла: сям'я на паях! У каго большы пай, той большы пан?.. За каго ж ты мяне лічыш у доме? За парабчанку





на сваім хлебе, якая павінна весці ўсю хатнюю гаспадарку, дагаджаць табе на кожным кроку толькі за тое, каб називацца прарабавай жонкай? Ды плявацъ я хацела, калі да гэтага дайшло, на такое званне! Абыдуся без яго... Усе вы, мужчыны, паразіты...

— Ну, мілая, ты ўжо занадта крута загнула,— развёў рукамі Крушынін, праз сілу стрымліваючы сябе.

— Крута ці роўна, а грошай на тваё імя адпісваць не стану! Так і знай! Няхай і ў мяне будзе, па твайму прынцыпу, што-небудзь на чорны дзень. Чым я горшая за цябе?

— Алеська, я ж не супроць, каб і ты мела пра запас сёе-тое. Адкладвай сабе на здароўе, як можаш. Тыя, што кладзеш на дваіх, няхай будуць адной табе, але не квапся на чужое...

І лісліві тон, і такая парада зусім вывелі з цярпення Рубанаву.

— Гэта ты мне чужы? Нішто сабе дагаварыўся, прараб! Пайшла, значыць, крывая ўгору: разыходзіцца дэбет з крэдытам. Мне сёе-тое, а сабе — усе тысячы? Што ж, калі ўсё тваё для мяне чужое, дык і мяне лічы для сябе чужою!..

Жыццё ў доме Крушыніных разладзілася. «Паглядзім, чыё возьме»,— думаў кожны з іх. Каса найшла на камень і павінна была вышчарбіцца.

І вышчарбілася.

Запазніўся Крушынін з прымірэннем. Спахапіўся тады, калі ў кватэры апынуўся чужы чалавек, якога папрасіла Алеся перанесці яе рэчы.

— Ты што, звар'яцела? — загарадзіў Іван дзверы, калі ўбачыў, што жонка падала падрыхтаваны загадзя чамадан чалавеку, а другі, меншы і лягчэйшы, узяла сама.

— Пакуль пры сваім розуме, але мог давесці да гэтага. Адну ты выжыў, другую, больш цярплівую, у зямлю загнаў, а я люблю сама даваць афорты... Вучыць вас, такіх, трэба!.. Так што — адзыю! — адштурхнула лёгенька ад дзвярэй разгубленага Івана, прапусціла памагатага з чамаданам наперад, бразнула дзвярыма і выйшла.

З такім «афортам» Крушынін ніяк не мог потым прымірыцца. Ледзь не звар'яцеў. Было ад чаго!

Рубанава адразу ж перайшла на суседні завод у цэнтральную бухгалтэрыю, а трохі счакаўшы, зусім з'ехала з Першамайска.

Афіцыянтка палажыла на стол рахунак і ўзялася прыбіраць пасуду. Крушынін зірнуў на лічбы і заляпаў рукамі па кішэнях.

— Не турбуйцеся, Іван Самсонавіч. Вам яшчэ спатрэбяцца грошы ў дарозе. А я ўжо дома, можна сказаць, і расплачуся сам.

— З якой радасці чужы чалавек павінен плаціць за мяне?

— А мы не чужыя, Іван Самсонавіч,— і ледзь не сарвалася з языка ў Ганчарэнкі, як яны прыходзяцца адзін аднаму, ды стрымаўся, сказаў іншае: — Вы госць Беларусі...— і падаў афіцыянтцы шэсць рублёў. Тая палажыла ў кішэню, дастала ў жмені дробязь і пачала корпацца ў ёй, марудзячы са здачай. Аляксей падняўся і пайшоў да дзвярэй. Крушынін забраў здачу і дагнаў яго каля вешалкі.

— Няўжо вам так лёгка прыходзяцца яны? Я кажу пра грошы...

— Дробязь,— махнуў рукой Ганчарэнка.

— Бярыце, бярыце, гэта вашы законныя. Не мне ж іх забіраць. Досыць і таго, што заплацілі маю долю за абед...— апусціў ён манеты ў кішэню Ганчарэнкавага пінжака.



Рэпрадуктары абвясцілі пасадку адразу на два прыгарадныя цягнікі.

— Спачуваю вашай жонцы. Не лёгка, відаць, жывецца ёй, калі ў мужа такая шырокая натура? — ласкава дакараў Крушынін Аляксея, ідучы к тунэлю.

— Не ведаю, ні разу не наракала. А вашы словы ёй перадам... Каб вы толькі ведалі, хто ў мяне жонка! Што за цудоўны характар у яе!

Ганчарэнка спадзяваўся, што, нарэшце, Крушынін пацікавіцца, што за жанчына з цудоўным характарам трапіла яму на жыццёвай дарозе, і на развітанні, калі той будзе садзіцца ў вагон, скажа пра Таццяну. Але Крушынін не стаў распытваць, падзякаваў яшчэ раз за пачастунак, за добра праведзены час і, ціснучы руку, сказаў:

— Шчаслівы тады вы чалавек! Добрая жонка — гэта скарб у сямейным жыцці.

Крушынін пайшоў па прыступках на чацвёртую платформу, а Ганчарэнка вярнуўся назад і, падымаючыся на другую, ціхенька напяваў сам сабе з даўно чутай ім песенькі:

Мы с тобой два экспресса ночных,
Во степи обменялись гудками.
Повстречались и вновь разошлись,
На мгновенье мелькнувши огнями.

## X

У Бярэжы Крушынін толькі перайшоў чыгунку, як следам нагнаў яго хлапец. Крушынін спытаў, ці правільна ён ідзе ў Прудкі. Дзяцюк паціснуў плячыма.

— Ніякіх Прудкоў у гэтай старане няма.

— Як жа няма? — здзівіўся Крушынін і паказаў на ўсход.— У тым баку.— Ён добра памятаў, як прыязджалі з Таццянай і пераходзілі цераз пераезд. Іншае што мог забыць, а гэту дарогу ніколі.— А самі вы адкуль і як вас зваць?

Хлапец адказаў.

— Правільна, Пятро,— падхапіў Крушынін.— Побач з вашымі Пятровічамі яшчэ нейкае паселішча ёсць. Забыўся толькі, як называецца.

— Паблізу нас — Віркі.

— Во, во,— зарадаваўся Іван,— а налева ад іх, кіламетры два — Прудкі. Хіба ж ты не ведаеш?

Толькі цяпер дайшло да Пятра, пра якія Прудкі хоча даведацца чалавек з чамаданам у левай руцэ і плашчом на правай. Быдта знайшоўшы даўно згубленую рэч, хлапец аж усклікнуў:

— Вунь пра якія Прудкі вы пытаеце! Няма іх, дзядзька. Немцы разам з людзьмі спалілі... А вы што, прудковец самі?

Крушынін сказаў, адкуль ён, чаго едзе, пацікавіўся, можа хлапец чуў што пра Касценічаў. Той пакруціў галавою.

Тады Іван спыніўся, паставіў на зямлю чамадан, палажыў на яго плашч, выцер хустачкай на лбе пот і разгублена сказаў:

— Выходзіць, трэба вяртацца назад?

— Чаму так адразу? Сходзім у нашу вёску, можа што даведаецеся. Ці не знае часам мая мама што...

І яны пайшлі ў Пятровічы. Крушынін ішоў і не пазнаваў дарогі. Маладыя хвайнякі — ранейшая прыкмета дарогі — выраслі ў гонкія дрэвы.

Пятро не памыліўся, параіўшы Крушыніну схадзіць у Пятровічы. Яго маці добра ведала Касценічаў. Таксама знала, што іх адразу пасля вайны шукала дачка з дзецьмі і мужам.

— Былі яны, чалавеча, тут, былі. Некалькі дзён жылі ў сваячкі Альжбеты Тарасюк, як мы завём, Божачкавай... Падсілкуйцеся, ды хлапец завядзе да яе. Там усё даведаецеся...

Альжбета скрэбла бульбу на вячэру, як мужчыны зайшлі ў хату. Даведаўшыся, чаго тыя завіталі, замітусілася і, выціраючы фартухом то адну, то другую табурэтку, гаварыла:

— Божачка, дзіва што ведаю. Пяць дзён была ў мяне Таццяна з дваіма дзецьмі і мужам...

Яна падставіла табурэткі бліжэй да таго месца, дзе скрэбла бульбу, і запрасіла садзіцца. Пятро падзякаваў — яму не было часу расседжвацца — і выйшаў.

Крушыніну не цярпелася хутчэй даведацца пра сына.

— Дык вы добра ведалі Касценічаў?

— Божачка, мы тут усе адны адных ведаем... А вам Касценічы як даводзяцца? Вы першы муж Таццяны? I большы хлопчык, кажаце, ваш? Харошы хлопчык, жвавы такі, шустры. Кожны дзень памагаў мне скрэбсці маладую бульбу на вячэру. Божачка, божачка, трэба ж так ёй абысціся з вамі... Куды яны паехалі адсюль? Не ведаю. Не казалі нічога... Пакінулі толькі на карталюшцы адрас, каб перадала брату яе, Міхасю, калі часам заявіцца. А як ён мог заявіцца, той Міхась, калі пахаронку на яго прыслалі ў сельсавет. Таццяна бачыла яе, але спадзявалася на цуд: а раптам вернецца...

— А дзе тая карталюшка? — нагадаў Крушынін, абнадзееньі ўжо шчаслівым канцом свайго падарожжа.

— Дзе карталюшка? Нешта гады два ці тры назад выкінула. Перабірала з унучкай мужавы пісьмы з фронту, наткнулася на яе, блакітная паперачка такая, і выкінула. Магла захаваць, кажаце? А навошта? Калі б той Міхась быў жывы, то даўно падаў бы голас... Скуль жа я ведала, што спатрэбіцца вам? Божачка, канечне, хлеба яна не прасіла!..

— А можа ўсё-такі дзе-небудзь у вашых паперах завалілася? Можа вы думалі толькі выкінуць, ды не выкінулі. Пашукайце, прашу вас. Давайце разам...

Жанчына перастала скрэбсці бульбу, выцерла аб фартух рукі, дастала з куфра, акутага жалезнымі абручамі, невялічкую драўляную скрыначку і паставіла на стол.

Крушынін асцярожна разгортваў кожнае пісьмо, прабягаў яго з пятага ў дзесятае вачыма і клаў асобна. Пісем было нямнога, і ён хутка ўзяў апошняе. На самым днечку скрыначкі ляжалі даваенныя, акладныя лісты і квітанцыі на аплату страхоўкі. Іх таксама перабраў.

«Баба ёсць баба. Выкінула ўсё-такі...— зірнуў ён з крыўдай і злосцю на Альжбету, якая распальвала на прыпечку пад трыножкай агонь варыць бульбу на вячэру.— Трыццацігадовай даўнасці акладныя лісты і квітанцыі хавае, а карталюшцы не знайшлося месца... Можна сказаць, нітка была ў руках і выслізгнула...»

Крушынін бразнуў вечкам і падаў жанчыне скрыначку.

— І, відаць, ніхто больш не паможа мне тут?

Альжбета развяла рукамі: наўрад ці знае хто, дзе яны. Не чуваць было, каб у іхніх Пятровічах гаварылі пра Таццяну Касценічавых.

Крушынін пераначаваў. Назаўтра Альжбета схадзіла з ім на прудкоўскія могілкі. Ён моўчкі пастаяў каля магільнай агароджы, адшукаў на агульным помніку блізкія імёны — Марыі і Мікалая Касценічаў — і яшчэ раз пашкадаваў, што не застаў іх жывымі.



У той жа дзень ён выехаў дахаты. Затрымацца ў Мінску не змог: знаёмых нікога не меў тут, а вольных месц у гасцініцах не знайшлося. Зрабіў круг на тралейбусе ад вакзала да кальца і назад, палюбаваўся шырокім Ленінскім праспектам і вечарам пакінуў горад.

## XI

Вярнуўшыся ў Першамайск, Крушынін стаў яшчэ больш маўклівы і пануры. Ён мог цэлымі днямі прабыць у сваёй аднапакаёвай кватэры, не паказваючыся на людзі.

Думкі — зацятыя гаспадары самотнага чалавека. Яны каго захочуць, таго выклічуць. Не да спадобы — праганяць прэч, зачэпяцца за іншае і пойдуць выкопваць з глыбінь памяці і добрае, і благое. Ім не вельмі загадаеш. Наадварот, чым больш адкараскваешся, тым больш прыстаюць.

Так аднаго разу яму прыйшло ў галаву пакінуць Першамайск і падацца туды, дзе прайшло далёкае дзяцінства. Ён расказаў пра гэта суседу.

— Што вы надумалі, Іван Самсонавіч? — здзівіўся той.— Кідаць абжытую кватэру са ўсімі выгодамі ды ехаць да некага ў падсуседзі? Колькі людзей тут ведае вас! Тут вы сам сабе гаспадар, а там — дагаджай ды дагаджай гаспадыні.

Суседавы словы навялі Крушыніна на роздум. Сапраўды, колькі тут знаёмых у яго! Куды ні глянь — відаць яго работа. А што ў той Сцяпанаўцы? «Стрыечныя браты ці сёстры... Дагаджай, хадзі на пальчыках...» — думае Іван і цвёрда вырашае нікуды не ехаць.

Прызвычаены за шмат гадоў працы дзяліць суткі на пэўныя адрэзкі, Крушынін і зараз жыў так: па-ранейшаму ўставаў а сёмай гадзіне, рабіў просценькую гімнастыку, снедаў і спешна выходзіў на вуліцу. Толькі не на працу, як у свой час, а на ранішнюю праходку. Іншы раз завітваў на будоўлю, дзе былога прараба заўсёды рады былі бачыць і інжынеры, і кадравыя рабочыя.

— І чалавек харошы, і працавік быў добры: работу сваю ведаў на зубок, а шчасця на яго долю не дасталася...— гаварылі часта пра Іванава адзіноцтва сябры. Ніхто з іх глыбока не дакопваўся прычыны, чаму так здарылася з чалавекам, а шкадаваць шкадавалі.

Нешта тыдні два Ганчарэнка таіў ад жонкі сваю сустрэчу з Іванам: баяўся, каб не натварыць бяды ў хаце. Нарэшце адважыўся, пачаў здалёк:

— А цікава ўсё ж, як склалася Іванава жыццё без цябе?

— Знайшоў недзе пад сваю натуру жанчыну і жыве... Ёсць і сярод нашае сястры розныя. Пасля вайны столькі асталося і дзяўчат-перастарак, і ўдоў.

— А ты не шкадуеш, што так зрабіла тады, выйшаўшы замуж за мяне?

— Што гэта за рамантычныя ўспаміны раптам нахлынулі на цябе? — здзівілася Таццяна.

— Ды так... Прыйшло ў галаву... А ведаеш, я не супраць быў бы спаткацца з ім, пагаварыць. А ты?

Таццяна скрывілася.

— Каб вельмі хацелася, дык не. Выветрылася ўсё... Глядзі, ці пазнала б яшчэ... Магу толькі сказаць: першае, што спытала б пры су-

стрэчы, з кім ён пражыў жыццё: з грашыма ці з людзьмі? І другое: якіх дзяцей выхаваў для грамадства?

— Дык можа дрэнна я зрабіў, што не запрасіў яго сюды, каб ты магла спытаць гэта?

У Таццяны выцягнуўся твар, і на нейкі момант яна ўся скамянела.

— Ты сустракаўся з ім? Калі? — спытала, як трошкі адышло здранцвенне.

Аляксей сказаў, дзе яны бачыліся.

— І мог столькі маўчаць?.. Каб пачула ад каго пра такую скрытнасць, не паверыла б.

— Цябе шкадаваў... І так часта кволішся на сэрца...

Таццяна маўчала. Чамусьці, як ніколі, захацелася ўбачыць Івана. Замільгалі ўперамешку моманты з іхняга жыцця: студэнцкага, на Далёкім Усходзе. Добрае перамешвалася з благім. Крыўднага аказалася больш, і гэта пачало супакойваць Таццяну.

— Можа і лепей, што не запрасіў...— сказала яна неяк задумліва.

— А як жа з Толікам, скажам ці не?

— Што ты, Лёша! — страпянулася Таццяна.— Расказаць, няхай сабе і даросламу ўжо,— значыць выклікаць знявагу да нас... А ці ж ты быў благі бацька? Ці ж ён не меў таго, што мелі Славік з Людай? Ці ж ён не адчувае нашых клопатаў і цяпер?.. І нашым дзецям — ні гу-гу...

Аляксей зарадаваўся, пачуўшы такі адказ.

— Выходзіць, Танечка, і ты такое думкі, як я... Гэта добра...

— А што ён казаў пра мяне? — закарцела даведацца Таццяне, як толькі трошкі ўляглося хваляванне.

Аляксей не стаў пераказваць да драбніц іхнюю гаворку. Ведаў, Таццяна не раз яшчэ будзе распытваць, ці не было такой размовы, ці не пытаўся пра сына, ці крыўдуе на яе? І прыйдзецца, вядома, расказваць.

А пакуль што Таццяна дакарала мужа:

— Чаму табе не сказаць было, дзе нашы бацькі? Ты ж бачыў іх магілу. Чаго ты паціскаеш плячыма? Можна было назвацца жыхаром суседняй вёскі, калі не хацеў выдаваць сябе.

З лёгкай усмешкай Аляксей глянуў жонцы ў твар, паківаў галавой.

— Навошта? Чалавек усё роўна паехаў бы. За тысячы вёрст дабіраўся, а тут пад бокам Прудкі — і не пабачыць сваімі вачыма хоць папялішча? Паверыць словам нейкага стрэчнага-папярэчнага чалавека... Скажы, на яго месцы ты хіба не паехала б?

Таццяна падумала трошкі і згадзілася:

— Канечне, паехала б.

— Ото та ж.

І раптам чалавечная спагада да былога мужа ахапіла Таццяну. Яна не шкадавала, што не з ім цяпер. Не, проста спачувала яго адзіноцтву. Хацелася быць абыякавай да мінулага, а ў сэрцы тварылася зусім адваротнае, супярэчлівае.

— Не сказаў, дык хоць напішы праўду. Раскажы, як ёсць, супакой яго сэрца. Дзе жыве, можна ў Першамайскім адрасным стале даведацца.

— Шкода стала? — задрапалі кошкі кіпцюрыкамі па Аляксеевым сэрцы.

— А чаму не пашкадаваць? Чалавек жа ён,— адказала Таццяна і павярнула твар да акна.

Тое, як гэта было сказана, насцярожыла Аляксея. Рэўнасць да жонкі ўпершыню праявілася ў яго за столькі гадоў. Пашкадаваў, што распачаў гэту гаворку. Цяпер думаў рознае: «А што, усё можа быць. Першае каханне, кажуць, адзываецца часам і ў глыбокай старасці. Былі такія выпадкі. Людзі мелі новыя сем'і, пагадавалі дзяцей з другімі жонкамі ці мужамі, а потым зноў сышліся дажываць век з першымі. Быдта адно для аднаго нарадзіліся яны на гэты свет»...

Таццяна адчувала на сабе пранізлівы Аляксееў позірк і марудзіла адхінацца ад акна. Нарэшце мелькам глянула, і шкада, шкада стала Аляксея.

— Не затлумляй, Лёша, галавы лішнімі думкамі,— усміхнулася.

— Адкуль ты ведаеш, пра што я думаю?

— Ведаю, я ж урач-тэрапеўт. А тэрапеўт яшчэ і псіхолаг. Баішся, каб не вярнулася да яго?

— Было такое ў думках, Танечка, было...

— Толік прыехаў! — усхапілася Таццяна і заспяшалася да дзвярэй.

Анатоль працаваў дырэктарам сярэдняй школы ў суседняй вёсцы, меў там сваю сям'ю і часта, асабліва ў канікулы, наведваў бацькоў.

Яны абое выйшлі з хаты насустрач сыну.

Больш напамінаць пра пісьмо Таццяна не стала. Сама прыгадвала часам Івана і дома, і на службе ў бальніцы, а з мужам пра яго ні слова. Ведала, што таму запала ў сэрца зерне сумнення, і ўсімі сіламі асцерагалася, каб яно не пусціла карэнняў. Ад людзей чула, ды і сама разумела, якую шкоду можа нарабіць неасцярожнасць...

Павольна міналі аднастайныя дні ў жыцці Крушыніна. Вярнуўшыся з праходкі, ён любіў прылегчы на канапу пачытаць газету, кнігу, пагартаць тэхнічныя часопісы, якія браў рэгулярна ў гарадской бібліятэцы.

Так было і гэты раз. Начытаўшыся, Іван збіраўся ісці абедаць па суседству ў сталоўку, як пачуўся званок. Ён паклаў на табурэтку часопіс і адчыніў дзверы.

— Пенсію прынесла вам,— сказала пісьманоска і, не чакаючы запрашэння, пераступіла парог.— Распішыцеся.

— Нешта гэты месяц на дзень раней,— пералічваючы грошы, сказаў Крушынін.

— Нам далі раней, і мы раней прынеслі. А гэта яшчэ пісьмо і газета.

Перш-наперш Крушынін заняўся грашыма: адлічыў пятнаццаць рублёў на чарговы ўзнос, палажыў іх у ашчадную кніжку, каб, ідучы на абед, аднесці ў касу. Астатнія схаваў у шафе, дзе ў адной палавінцы стаяў сякі-такі посуд, а ў другой вісела адзенне: выхадны гарнітур, куплены па талону пасля вайны, зімовае паношанае паліто і чорны непрамакальны плашч, той, у якім ездзіў у Прудкі. Грошы ён схаваў між дзвюма талеркамі, прычым наверх паставіў з адбітым краёчкам, каб менш было спакусы для таго, хто залезе ў хату з благім намерам.

Упарадкаваўшыся з грашыма, Іван Самсонавіч прысеў на канапку чытаць пісьмо.

«Паважаны Іван Самсонавіч!

Доўга я не адважваўся пісаць Вам. Можа і не напісаў бы, ды вядомая Вам Таццяна Мікалаеўна настаяла. Можна сказаць, сілай прымусіла.

Спадзяюся, Вы не забыліся пра сустрэчу з адным чалавекам на Мінскім вакзале? Ён цяпер і піша гэта пісьмо.

З размовы я ўпэўніўся, што Вы не зналі, за каго выйшла Таццяна Мікалаеўна замуж, куды паехала з Прудкоў. Дык ведайце, хоць з за-

пазненнем. Яна стала маёй спадарожніцай у жыцці і вельмі ашчаслівіла мяне. Ды і сама яна не раз казала мне і людзям, што знайшла сваю долю са мною.

Цяпер разумееце, чаму я не згаджаўся, калі Вы даводзілі, што ні адзін мужчына не стане гадаваць чужога дзіцяці без аліментаў пры жывым бацьку. «Яго будзе распякаць злосць і крыўда, што гадуе не сваё»,— сцвярджалі Вы і не верылі, што я ўзяў жанчыну з дзіцем сабе за жонку. Для мяне Толя не быў чужы, бо я кахаў Таню. А калі кахаеш жонку ўсім сэрцам, усёю істотаю, то і дзіця яе будзе любым і дарагім...

Некалькі слоў пра Толю. З твару ён вельмі падобны на Вас. Жыве самастойным жыццём, мае сына Андрушку. (Так што вы ўсё ж дзядуля!). Працуе на добрай пачэснай рабоце. Сэрца мае шчырае, адкрытае. І Таццяна і я стараліся выхаваць у яго змалку любоў да людзей. І людзі за гэта паважаюць і любяць Анатоля цяпер.

Пра нашу сустрэчу мы нічога не казалі быламу Вашаму сыну. Палічылі непатрэбным рабіць гэта. Таццяна калісьці пісала Вам, што Толікаў адрас можна ўзяць у яе бацькоў, але Вы ні разу не пацікавіліся ім. Не цікавіліся — значыць, не памяталі сына... Да Вас наўрад ці прыхінецца ён, ці знойдзе ў сабе сынаву любоў, а нам страціць Толю як сына будзе вельмі балюча... І мы на гэта не пайшлі і не пойдзем...

Вы хацелі ашчаслівіць яго: даць грошай на машыну. Спазніліся, Іван Самсонавіч. Анатоль мае ўжо «Масквіча». Набытае працай рук сваіх больш цэніцца, чым тое, што лёгка даецца. Так што ўклады Вашы астануцца некранутымі і надалей...»

«Астануцца некранутымі,— паўтарыў Крушынін.— А навошта тады я ашчаджаўся столькі год?»

Ён адчуў, як сціснулася сэрца, падняўся з канапы, шпурнуў пісьмо на стол, дастаў з шафы каробачку з лякарствамі і прыняў таблетку валідолу.

Трацілася ўсталяваная надзея, якою жыў апошні час — купіць сыну легкавушку і тым самым хоць трохі зменшыць сваю віну перад ім.

Крушынін зноў узяў пісьмо і, стоячы, пачаў дачытваць.

«...Уклады свае, калі іх шмат, можаце ахвяраваць дзіцячаму дому, каб успаміналі Вас дзеці добрым словам. Ды і самі пажывіце як чалавек. Усё павінна мець меру — раім шчыра і я, і Таццяна. Яна расказвала, як Вы адмаўлялі і сабе і ёй ва ўсім неабходным...»

— Таццяна нагаворыць! — ускіпеў Іван.— Слухай толькі... Каб паддаўся тады на яе ўгаворы, то цяпер старасць мая была б невясёлая, без рубля ў запасе.

Яшчэ раз прачытаў Аляксееву параду: «Ды і самі пажывіце як чалавек. Усё павінна мець меру...» — і злосна чмыхнуў:

— Знайшоўся мне дарадчык на чужыя грошы!.. Сваімі распараджайся... Ды не вазьмі ён Таццяны, то дзе ёй дзецца з дзіцем? Прыехала б тады назад...

Крушынін гаварыў сам сабе, а позірк, быцам фотааб'ектыў, фіксаваў чужую параду: «Пажывіце як чалавек».

— А што, і пажыву! — са злосцю вымавіў раптам Крушынін.— Пачну есці, што захочацца, а то і вып'ю часам пад настрой... Навошта мне цяпер тыя грошы? Для каго я збіраў іх усё жыццё? Якога чорнага дня чакаць мне больш? Што яшчэ можа быць чарней за сённяшняе пісьмо? «Уклады свае можаце ахвяраваць дзіцячаму дому...» Раіць другому — лягчэй за ўсё... А з якой ласкі ахвяроўваць? Што ён, той дзіцячы дом, гадаваў мяне?..— перабягалі думкі з аднаго на другое.— Сягоння ж пайду абедаць не ў сталоўку, а ў рэстаран, закажу самыя





дарагія стравы, віна сто грамаў вазьму»,— і ён адразу ж пачаў збірацца ісці абедаць.

Па дарозе Крушынін аднёс у ашчадную касу чарговы ўзнос, а выйшаўшы — збочыў ў Лясны завулак, адтуль на рынак: пацікавіцца, што ёсць на прылаўках. Убачыў бабулю з кошыкам яек і падумаў: «Няма чаго па тых рэстаранах бадзяцца на старасці. У маладыя гады не ведаў туды дарогі, дык і цяпер няма патрэбы знацца з імі. Лепш куплю дзесятак яек, дык мне іх вунь на колькі хопіць. Дома ёсць яшчэ крыху малака ад снедання, алей вядзецца, спяку добрую яечню, каву згатую, вось і будзе ў мяне цудоўны абед». Спытаў, колькі каштуе дзесятак, моўчкі пакруціў галавою, пацмокаў і перайшоў да другой жанчыны. Пачуў тыя ж паўтара рубля, не ўтрымаўся і прысароміў:

— Сумлення ў вас няма столькі прасіць! Спекулянткі!..

— А вам што, можа за грыўню аддаць дзесятак? Пакупец мне знайшоўся...— упікнула жанчына.

Яе падтрымалі малочніцы, што стаялі побач:

— Ідзіце рэдзьку купіце вунь у тым радзе,— паказала з насмешкай прадаўшчыца яек на прылавак, дзе прадавалі гародніну.— Гэта вам танней абыдзецца...

«А чаму сапраўды не зрабіць так: купіць рэдзьку, прыстроіць з цыбулькай, алеем, соллю, зварыць да яе некалькі бульбін? — ператварыў Крушынін у добрую параду жанчыніны кпіны.— Гэта ж ні з адным каралеўскім пачастункам не параўнаеш...»

Ён выбраў невялікую, на адзін раз, гладзенькую рэдзьку, заплаціў дзесяць капеек і, усцешаны, што не дорага абыдзецца абед, вярнуўся дахаты.





***тацццяна дзмітрусёва***



ПАЭЗІЯ



## З пісьмаў дадому

А на Волзе цвітуць сады:
Белапенна буяе квецень,
І пялёсткаў ружовы дым
Па кургане разносіць вецер.
А на Волгу такая ціша
Надвячоркам прыходзіць веснім,
Калі ўдалеч — за зоркі вышай —
Адлятаюць птушыныя песні.
На Паволжы спакойна спіцца
І салодка раніцай шызай.
...Свішча ветрам, нібы
сініца,
На кургане іржавая гільза.

■

Яна не вінавацiла мяне.
Не галасіла — нельга на дарогу.
Змачыла вусны ў маладым віне,
Маўклівая, застыла ля парога.

А я пайшла.
Каторы год іду...
Калі ж бывае горка ад няўдачы,
Я азірнуся, сцішыўшы хаду,—
І ўвачавідкі постаць мамы бачу.
Маё святло і мера дабраты,
Вас аніяк не выпадае страціць.
Як ранні зазімак — на скронях стынь...
Надзеі ўсплёск — мяне чакае маці...

■

Снегу хочацца, снегу чыстага
І бялюткага, як паркаль...
Неба хмурыцца хмарай-выспаю,
Пад дажджом шамаціць рака.

Вечар ціха сапе ля коміна,
Мне ж на печы — паўднёвы рай.
Я ад восені позняй стомлена,
Так і мроіцца снежны край.

Так і мроіцца, бо чакаецца
Прычашчэнне — пара зімы.
...Засынаю. Прачнулася. Валіцца
Снег бялюткі!.. Цвітуць дамы.



ПРОЗА



*вячаслаў кульчыцкі*

# ДВА АПАВЯДАННІ

Мал. **У. Чарнышова**

## ВЯЛІКАЯ ВАДА

Вада той вясной была, як кажуць па-тутэйшаму, вялікая. Такая, што нават рэзала лугавыя берагі, валіла тоўстыя кучаравыя вербы і кідала іх, каціла, нібы восеньскі вецер перакаці-поле. Яна не супынілася і перад невялікім драўляным мостам: падмыла пáлі, сарвала мост і раскідала па бервяну. Дарога — дзве каляіны ад машын — здавалася цяпер, як пераваная нітка.

Тут і супыніўся наш аўтобус.

— Вось табе і на-а! Як карова языком злізала,— сказаў невялічкі худы мужчына, падобны на замерзлага вераб'я. Ён паківаў галавою, узяў салдацкі рэчавы мяшок і выйшаў з аўтобуса. Шафёр таксама выйшаў і весела, быццам гэта была вунь якая добрая навіна, дыктарскім голасам адрэзаў:

— Усё, грамадзяне пасажыры, далей не едзем!

Пасажыраў было ўсяго два — я і гэты невысокі мужчына. Мы пераглянуліся. Мне было ўсё роўна — туды ці назад. У невысокага мужчыны, відаць, былі другія планы. Але ён маўчаў і толькі скуб сябе за голены падбародак, нібы там была барада.

— Хто хоча, можа ехаць назад. Бясплатна... А не, то чакайце перавозу,— зноў, нібы з дынаміка, прагучэў выразны шафёраў голас.

— Чакай Пятра — сыру з'ясі,— адазваўся невялічкі мужчына. Ён агледзеў мяне з ног да галавы, нібы прыцэньваючыся.

— Ну што, малады чалавек, па-

тэпаем? — I растлумачыў: — Тут кружочак невялікі, усяго кіламетраў тры... Там перавязуць ці самі пераедзем. Затое к вячэры будзем у вёсцы,— запэўніў мяне мужчына.

Ён ускінуў мяшок на плячо і, не гледзячы на мяне і не чакаючы адказу, пайшоў.

Доўга не думаючы, закінуў і я за плечы сваю спартыўную сумку, памахаў шафёру.

Мой спадарожнік ішоў крыху ўперадзе. Ён, можна сказаць, не ішоў, а пятляў, таму што сцяжынка вілася берагам, а рака тут рабіла бясконцыя павароты і выкрутасы. Чалавек ішоў роўным размераным крокам, рэзка стаўячы ногі і ледзь згінаючы іх у каленях. Так ходзяць тыя, хто доўга служыў у арміі, падумаў я, але адразу адагнаў гэтую думку: вельмі ж худы і зусім шчуплы быў мой спадарожнік. Ну які з яго салдат? «Памаж салам, дык кот з'есць»,— гавораць пра такіх. Праўда, доўгае не па росту, старога крою паўпаліто рабіла яго трохі вышэйшым.

Ісці ззаду і маўчаць было не ў маім характары, ды, відаць, і майму спадарожніку стала сумна. Ён супыніўся, нібы папраўляючы мяшок, але я здагадаўся — чакае мяне.

Цяпер мы ішлі побач, і я мог яго разгледзець. Сухі абветраны твар, кароткі востры носік і трошкі косыя насцярожаныя вочы. Зусім непрыкметны твар, якіх сустракаеш тысячы. Пройдзеш — глянеш. Знік з вачэй — і ніколі больш не ўспамянеш.

Першы перарваў маўчанне мой спадарожнік:

— Ну і вада-а. Гля... усё заліла,— ён акінуў позіркам нізкі процілеглы бераг, далёкія лугавыя пакосы, па якіх бурліва, з шапкамі пены, кацілася каламутная веснавая вада.

Я пачуў, што ён ужывае рускія словы. Гэта мяне здзівіла: чаму ў яго мяшаная мова, тут, у глухім кутку Палесся?

— Вы што, не з гэтых мясцін? — пацікавіўся я.

— Быў не з гэтых, а цяпер з гэтых,— прамовіў спадарожнік, націскаючы на «гэтых».

Твар яго адразу пацямнеў, нібы на яго найшоў цень. Ці то ён штс ўспомніў, ці яму непрыемна было гаварыць пра гэта — невядома. Я ўжо адчуў, што тут не ўсё проста, але замоўк. А мой спадарожнік, быццам баючыся, што гутарка абарвецца, жвава загаварыў:

— Добра, што мы яе чакалі з восені.

— Каго чакалі? — не зразумеў я.

— Ды ваду... А то было б бяды. Натварыла б. Ай-я-яй, калі раптам нахлыне! Пасевы змые, ды і самі сядзім, як кулікі. Ні к нам, ні ад нас,— ён зноў пачаў скубці сябе за падбародак.— А цяпер не страшна. Вось толькі мост. Ды не бяда, паром калгасны наладзім.

— Чаго ж раней паром не ладзілі?

— Раней? Плытка, да вёскі за кіламетр паром не падыходзіў, а рукамі дарогі не насыплеш. Цяпер другая справа — трактары. Такую дарогу да парома насыпалі, што хоць на Маскву.

Так разважаючы пра іхнія вясковыя і другія клопаты, мы прайшлі з паўдарогі. І тут мой спадарожнік змоўк, патроху пачаў адставаць. Потым я пачуў, як ён цяжка, з перарывамі, дыхае. Я азірнуўся. Твар у яго быў жоўты, што сухі дубовы ліст, зрэнкі звузіліся ад нейкага ўнутранага напружання, абветраныя губы варушыліся, і быў ён увесь, як жывы аголены нерв. Што такое? Я здзіўлена глядзеў на яго.

— Перакурым,— не сказаў, а як прастагнаў мой спадарожнік глухім голасам, які ішоў аднекуль з глыбіні яго вузкіх грудзей. Дастаў папяросу і хацеў размяць яе, але пальцы дрыжэлі, і ён яе зламаў.



I толькі калі другая папяроса была прыкурана, ён цяжка ўздыхнуў і прашаптаў:

— Тут... быў мой першы бой...— І махнуў рукой на далёкі ўзгорак.— Там былі немцы — пяхота і танкі,— апусціў руку,— мы тут... Рота няпоўная,— і рэзка, са злосцю, дадаў: — Сем танкаў супынілі. Адзін — мой...

Не вельмі верылася ў пачутае. Зусім не падобны быў гэты чалавек на тых, каго мы прывыклі лічыць і ўяўляць героямі.

Я маўчаў. Калі будзеш ахаць ды перабіваць, распытваць — выйдзе адна блытаніна. Не трэба яму перашкаджаць. Захоча — раскажа сам. І спадарожнік мой як бы адгукнуўся на мае думкі.

— Сібірак я. З Омскай вобласці,— голас яго крыху дрыжэў, відаць, успаміны нахлынулі на яго, каціліся, як гэтыя рачныя хвалі, выходзячы з берагоў.— Прызвалі нас у саракавым. Усе хлопцы — дубы, адзін я сярод іх, што сучок. Крыўдна да слёз, а тут яшчэ насмешкі. Ну хоць утапіся. І, мусіць, з-за свайго росту трапіў я ў капцёрку. Але што зробіш, служу. Прывык да хлопцаў, зжыўся, смяяцца перасталі. Эх, служыць бы ды служыць! Аж тут вайна ўсчалася. Ну і закруціла мяне, заматала. Не паспеў апамятацца — Беларусь. Дабраліся мы якраз сюды надвячоркам. Давай акопвацца. Немца яшчэ не відаць, толькі гул на захадзе ды неба, як у пажары, барвовае. Акапаліся. Ноч. А сну няма. І такая ноч здалася доўгая, ну, што год! Лягу, думаю, прыкархну крыху. Куды там! Лезе ў галаву абы-што: то як дзеда свайго калісьці пужаў, то як мяне карова малога на рогі ўзняла. Ну прама як во,— і ён крутнуў пальцам каля скроні.— Тут вайна, смерць вакол косіць, а ў мяне дзяцінныя думкі... Ці мо што я той смерці яшчэ не бачыў, ці што там, толькі ў галаве адна несур'ёзнасць. Тут, можа, праз гадзіну бой будзе, а я...— Спадарожнік мой махнуў рукой, памаўчаў.— Так і не заснуў. А ранкам пачалося. Толькі-толькі вылезла сонца — матацыклісты іхнія пруць, што на парадзе. Гляну я — і, ведаеце, нешта во тут,— ён палажыў руку на грудзі,— пахаладзела. Ні то ад страху, ні то чорт яго ведае ад чаго. Трэба страляць — з акопа баюся выглянуць. Так і не памятаю, як выглянуў, як страляў... Ну, а матацыклістаў усё-такі трохі палажылі, астатнія назад драпанулі. Хлопцы рады, крычаць: «Так ім, гадам! Хай знаюць, дзе ракі зімуюць». А я вачэй не магу ўзняць — здаецца, усе глядзяць на мяне. І, ведаеце, сам сабе такі брыдкі стаў, што каб змог, дык, здаецца, плюнуў бы сабе ў вочы. Мучыўся, мучыўся, а потым думаю сабе: «Пайду і ротнаму ўсё раскажу. Хай судзяць». Падумаў — і неяк лягчэй на душы стала. Аж здарылася інакш. Як кажуць: «Прыйдзецца беднаму жаніцца, дык і ноч кароткая». Так і ў мяне — не паспеў сходзіць, расказаць. Заляскала, загуло за горкай так, што зямля ходырам захадзіла. Пайшла па целу ў мяне млосць, проста сілы няма руку падняць, і ў галаве неяк пуста стала.

А танкі ўсё вылазяць, аж дзевяць. З белымі крыжамі... Вылезлі ды і секанулі з кулямётаў...

Закруціліся ў маёй галаве дурныя, паганыя думкі: «Ну куды мне, чарвяку?.. Гэта ж машына, сталь... гармата». А танкі тым часам паўзуць, такім выступам,— ён склаў клінам рукі,— і самы першы, гляджу, прама на мяне, на мой акоп... Ах ты, маць часная!.. Тут бы мне і выскачыць насустрач, ды куды там: кручуся ў акопе, як вуж на вілах, зад не магу адарваць ад зямлі. Э-э, ды што там казаць! Адным словам, трухануў моцна. Выскачылі другія: Міхееў, мой зямляк, і Карніенка, з-пад Палтавы. Выскачылі збоку, далей ад танка, чым я, таму і... не дабеглі... Разам упалі і не падняліся. Гляджу я на іх — і

вачам сваім не веру: быццам жывыя ляжаць, рослыя, здаровыя. Карніенка зусім блізка ад майго акопа. Прыгледзеўся я, а ў яго, мёртвага, сляза коціцца, коціцца...

Расказчык захліпнуўся, павекі яго часта заморгалі. Ён па-дзяцінаму шмыгнуў носам і, не саромеючыся, выцер малым кулачком свае вочы. Далей ён гаварыў ціха, натужна, нібы выціскаў з сябе:

— Паглядзеў я на іх — і нешта перавярнулася ў душы. Адкуль усё ўзялося: і злосць і смеласць — проста звар'яцеў. «Ды за што ж вы іх, гады?» — крычу з акопа, а сам кручуся, нібы юла. І, мусіць, расплюскаў бы мяне там немец, бо круціўся я без толку, калі б не бутэлька... Былі ў нас такія бутэлькі, напоўненыя бензінам, з кнотам, запалі кнот і кідай... Вось такая бутэлька і трапіла мне на вочы. Ухапіў я яе і палез з акопа. Паўзу па траве — і на́ табе: казяўка, самая звычайная казяўка з кропелькамі расы на спіне... Навокал агонь, смерць, а яна, бедная, паўзе сваёй дарогай. Глянуў я вакол — і як на свет нарадзіўся. Да таго мне стала ўсё мілае: і казяўка, і трава, і кропелькі расы,— што да слёз мяне праняло. Пражыў два дзесяткі — і быццам першы раз на зямлю глянуў. Можа, вам цяпер і смешна, а я праўду кажу... Паўзу, а сам плачу і зямлю цалую. І здаецца мне, што яна пахне хлебам свежым, нібы яго толькі з печы дасталі...

Ён зноў цяжка засоп, але хутка супакоіўся, дадаў цішэй:

— Ад таго бою, можна сказаць, на сябе, на свет па-іншаму глянуў. Хоць і ростам я не ўдаўся і не зрабіў нічога геройскага, але ж бачу — трэба быць чалавекам! Хоць самым звычайным, непрыкметным, але ж — чалавекам. — Спадарожнік мой памаўчаў крыху і дадаў: — Танк той я запаліў. Сам пасля не верыў, што зрабіў сваімі рукамі. Раніла тады ж. Моцна раніла, увесь бок распарола. Там мяне ўвечары Нюра, жонка мая цяперашняя, і падабрала.

Спадарожнік мой прыязна ўсміхнуўся:

— Пры смерці быў, але выхадзіла...

Ён зноў дастаў папяросу, зацягнуўся разы два. І расказваў далей:

— Стаў на ногі — і зноў панесла мяне па свеце. Дзе толькі ні быў: і ў партызанах, і ў арміі. Варшаву браў, Берлін. Як ні кідала вайна, як ні ламала, а дажыў да перамогі. Радасць якая! Думаў, забяру Нюру і махну ў Омск. Любіў яе моцна. Але тут пісьмо — маці памерла. Прачытаў — і закацілася для мяне сонейка, хадзіў з месяц як сам не свой. Потым паехаў, пасядзеў на магілцы, развітаўся...

Ён худой, жылістай рукою выцер на лбе кропелькі поту.

— З таго часу я жыву тут. Да поля гэтага прысох. Прыйдзеш, пасядзіш. Цішыня такая, аж не верыцца. Хлопцаў успамянеш...

Мне трэба было ў суседнюю вёску, і я спытаўся, колькі туды кіламетраў.

— Недалёка, кіламетры са два,— адказаў мой спадарожнік. А потым спахапіўся: — А чаго вам на ноч гледзячы ісці? Пераначуйце ў мяне, месца хопіць.

Я хацеў застацца, але, глянуўшы яму ў вочы, сказаў: «Не». Такі ў гэтых вачах быў боль, такая пакута, нібы ён толькі што зноў перажыў усё. У такія хвіліны лепей чалавеку пабыць аднаму.

Больш мы не гаварылі. Толькі калі плылі па зорным плёсе ракі на старэнькай лодцы, мой спадарожнік неяк ціха, нясмела прамовіў:

— А адразу вы, мусіць, мне не паверылі?

Хіба я мог схлусіць гэтаму чалавеку? Тут патрэбна толькі праўда. Праўда, хоць горкая, але чыстая, як сама сляза. І я адказаў:

— Адразу не паверыў. Даруйце мне...





Словы гэтыя не ўкалолі яго, яны хутчэй узрадавалі. Ён усміхнуўся ветла, шчыра.

Лодка мякка ўткнулася ў бераг, заскрыпеў наносны пясок. Мы вылезлі, развіталіся. Спадарожнік ускінуў на плячо свой мяшок і размеранай — цяпер я ведаў: салдацкай — хадой пайшоў да вёскі.

Калі ён быў ужо далекавата, я спахапіўся: як жа яго прозвішча, чаму не спытаўся?

Ды што прозвішча! Я добра ведаў, што гэта сапраўдны чалавек. Ён цяпер цвёрдым гаспадарскім крокам ішоў па зямлі, якую ён паліў крывёю і потам...

## ПЯТРУСЬ

«Дзень добры, мае родныя. Прабачайце і не гневайцеся на мяне, што доўга не пісаў. Я пакуль што жывы і дужы, чаго і вам жадаю.

Не пісаў, бо часу няма. Ваюем дзень і ноч. Ужо дайшлі аж да самага фашысцкага логава. Так што яшчэ трохі — і буду дома. Вельмі хочацца пабачыць вас, ды і да зямлі цягне. Цяпер якраз самая пара сеяць, ці ўправіцеся вы там без мяне? Я, можа, на сяўбу паспею, усе так гамоняць. А калі пачнеце без мяне, то сейце спачатку на старым селішчы. Там месца вышэй і раней праграецца, а можа, будуць дажджы, то не вымакне. І яшчэ вам раю — не арыце самі, а карову запрагайце. Я такое тут бачыў, ездзяць і аруць каровамі, як валамі. Ну, на гэтым усё. Пісаць болей няма чаго. Вось даб'ём Гітлера, і сам буду дома. Перадавайце мой паклон усім родзічам, а таксама нашаму суседу Мікалаю Хомічу.

Петрусёк няхай слухае маці, я яму за гэта багата падарункаў пры-

вязу. Ты ж, сынок, цяпер у хаце адзін мужчына — гаспадар, так што не падвядзі тату.

Пішыце, як здароўе, надвор'е, хто вярнуўся з фронту. Бо мне тут усё з радзімы цікава знаць.

Цалую вас і абнімаю.

Ваш гвардыі яфрэйтар Мікалай Курловіч».

Ганна-паштарка дачытала пісьмо, згарнула лісткі і паклала на стол. Адразу ж да гэтых лісткоў пацягнуліся рукі бабулі Фросі і Петрусёвай маці. Пятрусь ведаў, што цяпер яны самі будуць чытаць пісьмо і плакаць. Часам і самому Петрусю, гледзячы на іх, хацелася плакаць, але ён чуў, што сапраўдныя мужчыны не плачуць, і, каб не зганьбіць свой мужчынскі гонар, ён, закусіўшы губы, са слязамі на вачах выбягаў з хаты. Сягоння ж пра слёзы не магло быць і гаворкі. Маленькае сэрца Петруся з радасці чуць не выскоквала з грудзей. Як жа не радавацца — тата хутка прыедзе і падарункі прывязе!

І як толькі бабуля з маці пачалі чытаць пісьмо, Пятрусь мігам шмыгнуў на вуліцу. Хутчэй да хлопцаў, хай ведаюць, які ў яго добры тата. Праз хвіліну яго нястрыжаная, калматая, як ячменны сноп, галава мільгала сярод хлапчукоў.

— Хлопцы! — з усёй сілы закрычаў Пятрусь.— Мой тата з фронту скора прыедзе і падарункаў прывязе ой-ой колькі, сам напісаў!

— Чаго хвалішся? — падскочыў да яго самы большы сярод хлапчукоў, Міхась.— Чаго трашчыш тут, як сарока? Ну што ён табе прывязе? Вунь у Мішы Косара бацька лісапет прывёз. Во-о падарунак!

— А мой... А мой... мацыклет прывязе,— заікаючыся, прамовіў Пятрусь і пачырванеў. Ніколі яму не даводзілася хлусіць, а тут схлусіў — з зайздрасці.

— А ты, Канаплянік, не брэшаш? — зноў падступіўся рослы Міхась.

Ах, як хацелася Петрусю мець матацыкл! А можа, і праўда, тата прывязе, ён жа напісаў, што падарункаў будзе багата.

— Не верыш, не верыш? — загарачыўся Пятрусь.— Хочаш — зямлю буду есці?

— Ну, ціха, Канаплянік,— згадзіўся Міхась,— скажаш бацьку, каб мяне першага правёз, зразумеў? А цяпер гуляй, нікога не бойся.

Але Петрусю не гулялася. Ногі самі неслі яго на край вёскі, да бальшака.

Вечарам, улёгшыся ў бабулінай пасцелі, ён доўга не спаў. «Во калі і праўда тата прывязе мацыклет»... І Пятрусь уяўляў, як яны з татам імчацца па сяле, а з двароў выбягаюць людзі: «Глядзіце, глядзіце! Вунь Пятрусь паімчаўся. Ай ды маладзец, не хлопец, а вецер...»

А яшчэ яны будуць ездзіць на луг да ракі глядзець беленькія параходы. Кажуць, што калі ідзе параход уверх, то цяжка-цяжка ўздыхае і ледзь лапоча: «Не да-е-ду да Ма-зы-ра», а калі ўніз, на Кіеў, то хуценька сыпле: «Не бярыся — не дагоніш, не бярыся — не дагоніш».

Петрусю даўно хочацца да ракі, каб пабачыць параходы, але туды далёка і страшна там. Кажуць, русалка можа злавіць і заказытаць, а потым яшчэ і ўтапіць. Не-е, цяпер ён не будзе баяцца русалкі. Яго тата — салдат, медалі мае, а значыць — храбры, бо трусам медалёў не даюць. Так што тата сам можа злавіць тую русалку і ўтапіць.

А яшчэ яны паедуць у горад і будуць піць сітро. Пятрусь аднойчы яго піў. Прыязджаў да суседа Хоміча сын палкоўнік з фронту і прывозіў цэлую бутэльку. Дзед Хоміч паклікаў тады Петруся, наліў сітра ў кварту і кажа: «На, паспрабуй, унучак, вельмі ж смачная вада, як цукеркі».



Пятрусь узяў кварту, паднёс да рота: праўда, запахла цукеркамі. Пацягнуў... Ах-х, які смак! Вады было мала, усяго два глыткі, але Пятрусь піў яе доўга, нібы там была цэлая кварта. Потым ён бегаў па вёсцы і ўсім хваліўся, а ў роце было так салодка, быццам там хто памазаў мёдам.

Цяпер жа ён будзе піць сітро колькі ўлезе, а калі захоча, дык тата яшчэ і марожанага купіць. Праўда, марожанага Пятрусь не спрабаваў, але чуў, што гэта снег, перамешаны з маслам і так засыпаны цукрам, што калі ясі, дык нават губы зліпаюцца.

А яшчэ...

Пятрусь зачмокаў, скруціўся абаранкам і заснуў. Назаўтра, калі ўжо добра прыгрэла сонца і каля хаты, выцягнуўшы ў пяску ногі, драмалі куры, Пятрусь прачнуўся. Спусціў з ложка худыя, з сінімі пражылкамі ногі, працёр кулаком вочы.

— Ба-аба, га, баба, татка яшчэ не прыехаў?

— Не-е, унучак, няма твайго таткі. Ваюе яшчэ, але ж скора прыдзе. Я сон такі бачыла...

Пятрусь доўга і старанна наліваў ваду на руку і цёр сябе па носе, па вушах, па шыі. Потым працягнуў ручніком па твары, схапіў скарынку хлеба — і на вуліцу.

— Куды ж ты, унучак? Паснедай! — бабуля кінулася за Петрусём. Выскачыла з хаты, а таго і след прастыў.— Ах, доля мая! Куды ж цябе чэрці панеслі?

А Пятрусь тым часам быў у канцы вёскі. Выбег на выган — Міхась насустрач.

— Канаплянік, давай у баланды гуляць!

— Не, няма калі,— адмовіўся Пятрусь.

— А што ты будзеш калоць? — не адставаў Міхась.

— Тату пайду сустракаць,— і Пятрусь важна падняў кірпаты аблуплены нос.

— А ў мя... мяне таты больш не будзе...— губы ў Міхася скрывіліся і задрыжэлі.

Шкада стала Петрусю Міхася. Хоць і празваў Міхась яго Канаплянікам, але як жа ён будзе без таты?

— Хочаш, няхай мой тата будзе і тваім? — ціхенька прамовіў Пятрусь.

Міхась паглядзеў у ясныя, нібы бяздонная сінь, вочы Петруся і таксама ціха, але з недзяцінай горыччу ў голасе сказаў:

— Добры ты малец, Канаплянік, толькі нічога яшчэ не кумекаеш.

— А хочаш, я табе палавіну падарункаў аддам? — зноў азваўся Пятрусь.

— Дурны ты яшчэ. Ідзі сустракай бацьку,— Міхась павярнуўся і пакрочыў да вёскі.

Пятрусь яшчэ доўга стаяў і думаў: навошта ў Міхася забілі тату? «Хіба ж яго тата быў паганы? Не-е, вось сустрэну свайго тату і скажу, каб Міхася да нас забраў».

Ён тут жа паддаў ходу. Яго кароткія ножкі замільгацелі хутка, нібы спіцы ў коле. Бо ісці яшчэ во куды, аж да самага акопа. Туды ўсе ходзяць сустракаць і датуль праводзяць хлопцаў, што ідуць на фронт. Там Пятрусь быў — хадзіў патроны збіраць. Кажуць, калі немцы ўцякалі, дык пакідалі... Акоп быў вялізны і глыбокі — залезеш у яго, то ўсё роўна, што ў склеп. А зверху, збоку, куча зямлі насыпана. Пятрусь яе і аблюбаваў — далёка будзе відаць, аж да самага краю неба. Петрусю не раз хацелася дайсці да сіняга краю, але ж хіба да яго дойдзеш? Хлопцы казалі, што ідзі хоць дзень і ноч, а ўсё роўна



не дойдзеш. Вось калі тата мацыклет прывязе... Толькі чаго ён так доўга не едзе, можа мацыклет зламаўся? А можа...

Худзенькае цела Петруся паволі спаўзло з бруствера на выбеленую дажджамі і сонцам леташнюю траву...

Спаў ён доўга і прачнуўся толькі тады, калі на бальшак апускаўся па-вясноваму свежы, напоўнены таемнымі шолахамі вечар. Раскрыў Пятрусь вочы, успомніў усё і кінуўся бягом да свае вёскі.

«Правароніў татку, праваронiў. А мо ён ехаў мацыклетам, таму і не бачыў мяне, а мо не пазнаў, я ж цяпер вялікі стаў»,— задыхаючыся, шаптаў Пятрусь.

Прыбег да свайго двара, пераскочыў цераз пералаз — няма мацыклета і таты няма. Застукала сэрца, закалацілася. Няўжо не прыехаў? Адчыніў Пятрусь дзверы ў хату, увайшоў. На стале паперка ляжыць. Маці з бабуляй глядзяць на яе і заходзяцца-галосяць. Мацней застукала сэрца ў Петруся, затрапяталася, нібы ліст пад ветрам. Маці, як нежывая, павярнула да яго галаву. Яе крык разануў, ударыў Петруся ў самае сэрца:

— Сыно-очак мой, сірата няшчасная!.. Няма-а нашага таткі, няма-а! За-абі-іў праклятая Гітлер...

Пятрусь з жахам і нейкім дагэтуль не вядомым болем глядзеў на паперку. Потым губы яго ўздрыгнулі і зламаліся, а маленькае худое цела зайшлося ад бязгучнага плачу.





*сцяпан гаўрусёў*





ПАЭЗІЯ

■

Атуленае звонкай цішынёй,
У нерушы ёсць возера лясное
З неверагодна яснай глыбінёй,
Што люстрам зіхаціць перада мною.

Зялёны лес — у непралазі спрэс,
І неба перавернутым здаецца.
Далёкім гулам прашуміць экспрэс —
І рэха ў лёгкіх хвалях аддаецца.

Галіны расхінаючы ўбакі,
Дзе бляск у міліярды сонц драбіцца,
Я абдзіраў далоні аб сукі,
Каб да люстранай цэльнасці прабіцца.

Так блізка сонца, хоць рукой вазьмі,
І растае ад промняў павалока,
І поўнае стаіць перад вачмі
Прыроды незамутненае вока.

■

Зацярушаныя стрэхі,
Змрок і стынь — ва ўсе канцы.
Лушчаць спелыя арэхі —
Як замоўнікі — хлапцы.

Звонка хрумстаюць шкарлупкі,
Хоць і цёмна — не бяда:
Ад напаленае грубкі
Цеплыня і лагада.

Ад вугалляў незвычайна
Мітусіцца язычок,
Як вавёрка, што адчайна
Свой сціскае кулачок.

Не прыйшла б яна пад стрэхі
І не гойсала б, — але
Пазабралі ўсе арэхі
У прытоеным дупле.

Ля арэхавага гаю
Ходзяць ветры табуном,
І да раніцы мільгае
Хвост вавёркі за акном.

■

Да берага, асмужанага спёкай,
Прычаліў вечар — белы параход.
І горы за празрыстай павалокай
Вітаюць зор суладны карагод.

І стомленага мора выдых цяжкі
Нясе к прычалу пеністы прыбой.
Нейлонавыя кофты і цяльняшкі
Мяцеляць, як вясновы цветабой.

У строгім задуменні кіпарысы
Кладуць да трапа свой ажурны цень.
І нейкай неразгаданасці рысы
Паклаў на сцены адышоўшы дзень.

У далечы зара гарыць барвова,
Праймае грудзі тонкім халадком.
І перад рэйсам заўтрашнім нанова
Успыхне зорка дальнім маяком.

■

Летам ноч — як звесці вока:
Прамільгнула і пайшла.
І туманаў павалока
У лагчыны паплыла.

Нецярплівае спатканне
Ля адчыненых сянец.
І займаецца світанне —
Ясны пеўнеў грабянец.

Жуpавель скрыпіць рухава
І, прачнуўшыся, рака
То налева, то направа
Коціць серп маладзіка.

■

Спакойна зашчапіўшы дзверы,
Кладуся спаць пасля вячэры.
Нічога, быццам, не забыў
З важнейшых спраў,— усё зрабіў.

Усё? Чамусьці на паперы
Застаўся толькі накід шэры,
Не праступае глыбіня
Навекі страчанага дня.

Пегас пасецца без супоні,
А хтосьці стаў ля падаконня.
Хто? Я выглядваю з акна:
Мая лянота і віна.

Наступіць час — спакоем вечным
Мы будзем спаць на ложы млечным,
І ўжо адтуль не зазірнуць
У дзень, які нам не вярнуць.







*алесь дзятлаў*

# РАНІШНІ НЕСПАКОЙ

## АПАВЯДАННЕ

Мал. У. Пашчасцева

Шадура цяжка павярнуўся і колькі секунд ляжаў, глядзеў у душную густую цемень хаты; адтуль глухавата, нібы прыдушаны гэтай цемнатою, чыкаў насценны гадзіннік; дзесьці на сталі, бліжэй да печы, тачыўся шашаль. Шадура прыўзняўся, адкінуў коўдру да сцяны, выпрастаў ногі і адчуў, што сон прайшоў, што больш нізавошта не засне, хоць будзе ляжаць да раніцы.

Шадура падняўся, басанож пратупаў да акна; шыбы замерзлі, і толькі каля рамы святлелася вузенькая, няроўная палоска чыстага шкла. «Добры марозік ухапіўся,— падумаў ён.— І цемень — плоту не відно».

Падышоў да печы, вобмацкам усунуў ногі ў старыя, падшытыя скурай на задніках валёнкі, ля парога зняў з крука і накінуў на плечы кажух, пасунуўся ў халодныя цёмныя сенцы. Адкінуў засаўку, адчыніў дзверы на вуліцу. Набраклыя цяжарам ад марозу, яны жаласліва-працяжна рыпнулі; амаль роўна з плотам ляжаў снег — цяжкі, утрамбаваны ветрам і марозам. Як не да ніжніх галін быў засыпаны снегам сад, і здавалася, што гэта кусты ўтыркнуты ў шэрую бель; далей, за нешырокім лужком няпэўна віднеўся лес. Вось туды і глядзеў Шадура. Пастаяў гэтак з мінуту, адчуў, што мароз дабіраецца да спіны, паволі зачыніў дзверы. Але на засаўку не ўзяў, патаптаўся ў ціхай цемені сенцаў і пайшоў у хату, на цяпло.

«Што са мною, чаго ўстаў, чаго хаджу? Не, штосьці чуе душа... Мо што

там, у лесе? Відаць, трэба прайсці. Снег зляжалы, роўны. Два дні мяло, слядоў мала. Пайду». Шадура акуратна павесіў кажух, уключыў святло. Успыхнула лямпачка ля печы, невялікая, на сорак ват. Вокны ўраз пасінелі. За адгародку, дзе спалі жонка і сын, гэтае святло не даходзіла. Ён нерашуча пастаяў, потым усё ж зайшоў у спальню, ціхенька разбудзіў Насцю.

— Пайду, штось не спіцца. Ды і разднее хутка, не турбуйся.

Шадура часцяком вось так, без ніякай прычыны, выпраўляўся шчэ з цемнатою ў лес. Жонка прывыкла, што ён падымаецца рана, цэлымі днямі прападае ў лесе, не здзівілася і на гэты раз, толькі памкнулася ўстаць, каб сабраць яму што падсілкавацца.

— Не, не трэба. Скора прыйду: якраз на сняданак паспею.

Апрануў цёплы паўкажушак, зняў з крука стрэльбу, закінуў яе за плячо.

Шадурава хата стаяла на самым крайку вёскі. Амаль ад глухой сцяны пачынаецца нешырокі роўны поплаў, пад самым лесам віецца па ім неглыбокі раўчук, па берагах якога растуць вольхі і густыя лазовыя кусты. Каб не гэтая аздоба, то і не прыкмеціш таго раўчука. А далей пачынаўся лес, яго, Шадуры, леснікоўскія ўладанні, ажно да самага Гонтавага балота.

Вёска яшчэ спала. Было неяк нязвыкла ціха — нават лес не шумеў. Густы іней бухмата абчапляў кусты, асеў на ельнік, густа абсыпаў сосны. Пад нагамі рыпеў снег. Такое марознае, да звону, надвор'е часта надараецца ў пачатку сакавіка, калі адгудуць шалёныя лютаўскія завеі, ноччу ціснуць марозы, а ўдзень ад яшчэ нізкаватага, але зырка-сляпучага сонца растае верхні пласт снегу. Ноччу ён падмярзае, становіцца цвёрды, а раніцай, як ападзе на яго іней, зіхціць тысячамі іскраў.

Шадура ішоў і ішоў. Той неспакой, які авалодаў ім яшчэ ў хаце, не праходзіў. Акурат такая трывожнасць, як калісь, калі разам з маці жылі ў партызанскіх буданах, хаваліся ад блакады, а потым ўцякалі ў лес, у густую страшную цемнату і дрыготка чакалі, што вось-вось з бліжэйшага куста выблісне зыркі агонь аўтамата ці бухне граната...

Кончыўся малады густаваты падлесак, пачаўся высокі тонкі соснік. Стала святлей. Струнка застылі сосны, нібыта чуйна ўслухоўваюцца ў навакольную глухую цішыню. Чутно, як ад марозу патрэскваюць старыя дрэвы. «Да Гонтавага балота яшчэ кіламетраў з пяць, там павярну налева, прайду да Базылёвага хутара, а адтуль дадому. К дзесяці гадзінам упраўлюся»,— рашыў Шадура. Падумаў пра сям'ю і ўявіў, як яго Насця ўвіхаецца ля печы — маладая, румяная ад жару, як кладзе на скавародку цеста, ставіць яе ў печ, а другую вымае, кідае на стол гарачыя, пухнатыя аладкі. І так утульна ў хаце... Думкі памчаліся далей, у маленства. Спахмурнеў Шадура, міжволі цяжка ўздыхнуў. Калісь, шчэ да вайны, яны жылі ў лесе, бацька, як цяпер ён, быў леснікам. Вось тут, недалёчка, іх колішняя сядзіба: ён знарок кожны раз абмінаў яе, каб не лезлі ў галаву ўспаміны. І сёння ўзяў крыху лявей. Хоць і цёмна, але ўсё роўна бачны на белай паляне стары калодзежны журавель. У сорак трэцім леснікову хату прашылі буйнакаліберныя кулі з фашысцкага бронетранспарцёра, і на падлозе засталіся мёртвыя яго маці і Віцька з Міколкам, меншыя браты. Як дачуўся тады Піліп Шадура пра гэта, ірваў на сабе сарочку, хацеў бегчы біць гадаў, ды не пусцілі: на верную гібель пайшоў бы чалавек. Не бярог ён сябе пасля, але кулі абміналі яго.



Пасля вайны Піліп знайшоў старэйшага Івана ў суседняй вёсцы, у чужых людзей: хлапчук ратаваўся цудам.

У тую жахлівую раніцу ён гуляў у вайну на ўскрайку лесу з сваімі сябрукамі з Гацілавіч. Пачулі яны ляскат гусеніц, схаваліся ў раўку. А калі пачалася страляніна, спалохаліся, пабеглі ў вёску... Добрыя людзі не пусцілі Івана, прытулілі.

Стары Піліп пабудаваўся ў вёсцы — не мог жыць у лесе. Але леснікову пасаду не кінуў, бярог лес, гадаваў сына. А калі Іван падужэў, вырас ды прывёў у хату маладзіцу з Гацілавіч, Мацейкаву Насцю, то Піліп цвёрда сказаў:

— Бяры, сын, маю стрэльбу і заступай на пасаду. А я стары, на спачын пара.

І стаў яго сын Іван Шадура леснікам.

Снег, нібы крухмал, хрустка рыпаў пад валёнкамі. Шадура, відаць, аглух бы ад цішыні, калі б не гэты рытмічны скрып. Цалік цвёрды, ісці лёгка. Ляснік ямчэй закінуў за плячо стрэльбу, паправіў на грудзях рамень.

Ён ужо амаль прайшоў просеку, на якой снегу было больш, чым у лесе, але азірнуўся, уважліва паглядзеў назад і прыкмеціў дзве няроўныя тонкія палоскі ад палазоў, а між імі і ўзбоч — сляды людзей. Палоскі, збочыўшы з шырокай просекі, вільнулі за сасновы камель і прапалі... Шадура прайшоў управа, убачыў на слядах чорныя плямкі, прысеў на́йколенцы, нізка прыгнуўся долу. Кроплі крыві глыбакавата ўбіліся ў снег. «Відаць, узялі дзіка. А нядаўна, халера, не больш гадзіны. Двое іх. А хто?»

Ён узняўся, абабіў з каленяў снег, прайшоў яшчэ крокаў дваццаць у той бок, куды павялі сляды. Крыві больш не было відаць. Сляды абмінулі купку густых маладзенькіх бярозак, убіліся ў саснонік... «Няйначай, кіруюць да Гонтавага балота, там месца глухое. Раніцай, відаць, і раздзеляць там тушу. Хітрыя, чэрці, лес ведаюць. Значыць, тутэйшыя, раслі тут».

Думаў ляснік, тупаў на адным месцы. Яго клопат — лес, і ўсё астатняе ў лесе — яго таксама. Ісці па слядах? Ці мо пайсці заявіць? Знойдуць трыбухі. А зладзюгі — толькі і памінай іх.

Шадура вярнуўся назад, пастаяў, потым памкнуўся ісці, але спыніўся. «Ну, пайду я за імі, высачу, а што далей? Іх жа двое... А што я ім?»

Ляснік тупаў на адным месцы, пастукваў валёнкамі адзін аб другі, грэўся. Неўпрыкмет святлела. Лес як бы шырэў, адсоўваўся далей.

Раптам ён адчуў, што баіцца. Халодныя дрыжыкі мурашкамі прабеглі па спіне. Ён убачыў на міг тых двух са стрэльбамі і сябе насупраць, праз такую вось палянку; а лес вялікі, густы, і людзі далёка, а ён адзін. Адступаць няма куды, ён бачыў, ён сведка... «Вось цяпер павярні назад, ідзі па сваіх слядах дадому, да жонкі і дзяцей — і ўсё». Хтосьці агідны, нібы шаптаў, хіліў схавацца, пайсці адсюль.

Але Шадура не ішоў... Нейкая сіла сарвала раптам яго з месца, ён амаль пабег па тых двух тоненькіх палосках, прадзёрся праз густы сасняччок, пралез праз хмызы, за якімі пачыналася балота. Сляды віхлялі то ўправа, то ўлева, абыходзілі купкі дрэў, вялікія купіны. Ён бег. Яму стала горача. Сляды бачыў як праз туман. Упёрся ў густы лазняк, зразумеў, што даўно бяжыць па балоце, спыніўся. Страх амаль прайшоў, і нейкая ўпартая злосць авалодала ім. І гэтая злосць зусім выгнала з яго страх, ён мо ўпершыню за гэтыя некалькі хвілін убачыў усё па-іншаму. «Відаць, калі не дурні, то дзесьці тут атабарыліся. Лепшага месца не знойдзеш». Шадура не вылез на голае месца,



з-за алешыны прасачыў, што сляды зніклі ў густым кустоўі; ён узяў лявей, паціху падаўся наперад. Ішоў асцярожна, часта спыняўся, слухаў, выцягнуўшы шыю, пільна глядзеў у шараваты рэдзенькі змрок. Ён амаль усутыч падышоў да шырокага альховага куста і ад нечаканасці ажно прысеў: з таго боку, на невялікай палянцы, віднеліся дзве постаці. Толькі цяпер пачуў іх ціхую гаворку. Угнуўшыся, Шадура прасунуўся яшчэ метры на два, бліжэй да куста; дыхаць было цяжка, і ён, каб не выдаць сябе, адкрыў рот. Чамусьці глянуў



уверх: над ім віслі бухматыя белыя галіны. «Нібы белыя рогі алення»,— падумаў недарэчы.

А тыя, двое, спяшаліся ўправіцца да відна. Адзін — у кароткай паддзёўцы, расшпіленай на ўсе гузікі, без шапкі, тоўсты і нізенькі. У яго нож. Другі — вышэйшы ростам, у лёгкім кажушку. «Ды гэта ж Федзька з Сарок. Па бацьку пайшоў — усе яны, Бурыя, зладзеі,— пазнаў Шадура.— А другі — не наш, не тутэйшы».

Шадура хутка ўзняўся на ногі, ажно хруснула нешта ў каленях, нямоцна крыкнуў у прагал між галін:

— Стой!

Ад крыку пасыпаўся іней, нібы мука. Федзька спрытна скочыў убок, прысеў за кустом. Той, што ў кажушку, застаўся стаяць, бы ўкапаны, спінаю да Шадуры. Федзькі не відно з-за куста, толькі край рукава.

— Выходзь, Федзька, кідай нож,— ужо цішэй, але строга сказаў Шадура.— Выходзь!

— Ты? Шадура? Высачыў?

— А як ты думаў?

— Слухай, Шадура, цябе ж гэта не тычыцца!

— Тычыцца ці не, а покуль гаспадар тут я. Панятна?

— Ідзі адсюль, Іван. Ты мяне не бачыў, я цябе таксама,— голас спакойна-спалоханы, нат ліслівы.— Табе жыць тутака, і мне...

— Не дуры, Федзька. Нашкодзіў, то і давядзецца адказваць. Куды схаваешся? Куды пойдзеш пасля? Падумай!

За кустом маўчанне. Стрэльба Федзькава на гэты бок куста, вісіць на чорнай галіне. Вешаў — іней строс. «З двума — не справіцца,— думае Шадура.— Прыдушаць. Федзька — адчайны. Летась толькі з турмы выпусцілі, за калгасны ячмень сядзеў. Цяпер во на дзічыну пацягнула».

— Вот што, Федзька. Давай дабром. Бяры дзіка, вязі за мною. Скажу, што па добрай волі здаўся. Мо і судзіць не будуць. Штраф дадуць.

— Не будуць, кажаш? Я ўжо сядзеў. І не хачу туды яшчэ. А штраф — дзе грошы ўзяць. Лепш ідзі адсюль, га! Ідзі — і ўсё... А інакш — месца тут глухое. Глухое, зразумеў? І балота — глыбокае...

— Зразумеў, але і ты зразумей. Проці закона ідзеш. Разбой у лесе!

— Твой гэта лес? Я што, парася ў цябе з хлява выцяг? Гэта — усіхнае. А ты прайдзі міма. Чаго ўспёрся пончы?

Федзька змоўк, было чутна, як цяжка ён соп за кустом. Потым загаварыў зноў:

— Слыш, Шадура. Давай падзелім, раз такая няўдача выйшла. Бяры колькі хочаш... Ці сам прывязу табе. Га? Прама ў хату. Га? Для жонкі, дзяцей. Га?

Шадура маўчаў мо з мінуту, узважваў. Дзяліць крадзенае? Ніколі!

— Не, Федзька. Не прадаваўся ніколі, і цяпер — не. Не дазваляе сумленне.

— Плюнь на сумленне! Каму яно трэба, тваё сумленне? Усе цягнуць, дзе плоха ляжыць. Адзін — капейкі, другі — рублі. А я вот дзіка прышчаміў. Аднаго, нічыйнага. Ну, паймі ты, Шадура...

— Не ў дзіку справа, Федзька. Сёння дзіка прышчаміў, заўтра лася, а пасля... Не, парадак павінен быць...

— Эх, Шадура, Шадура! Ты чэсны, таму што дурны, як вось гэтая алешына. Жыць не ўмееш, Шадура. Мне б тваю пасаду — у золаце б

хадзіў. I не ў такой бы хаце жыў, як ты. Эх, дурань ты, а шчэ калісь у адным класе вучыліся...

Паплечнік Федзькаў ціха павярнуўся і паволі, цяжка, як усё роўна яму павесілі на ногі пудовыя круглякі, пасунуўся ўбок, сеў проста на снег, і цяпер Шадура бачыў яго ў профіль: тонкі гарбаты нос, худая шыя. Доўгія рукі нервова ляжалі на каленях.

— Трэба здавацца, Федзя,— сказаў ён ціха.— Заплоцім штраф. Што зробіш?

— Цыц ты! Разам білі — разам будзем і тут.

— Праўду кажа чалавек,— умяшаўся Шадура.— Дзявацца вам няма куды. Глядзі, каб што горшае не было...

Але Федзька як бы не пачуў ягоных слоў:

— Усё ж, Шадура, давай мірна разыдземся. Мы ж не ворагі.

— Давай, Фёдар. Маё апошняе слова — выходзь, а то...

— Што «а то»? — закрычаў той.— Ты не страш, пужаныя ўжэ. Ідзі адсюль, кажу! Ідзі! Не даводзь да граху!

Голас адчайны, злосны. Не прывык Федзька Буры кланяцца. На сваім хоча паставіць, не ўважыць нікому. Ведае яго Шадура, ой, добра ведае: побач жа вёскі, праз поплаў. Калі і разыдуцца добра, то ўсё роўна Федзька для яго вораг цяпер. На ўсё жыццё, да самай магілы будзе помніць ён і Гонтава балота, і гэты шэры ранак.

— Давай! Выходзь! — крыкнуў Шадура.

Ён памкнуўся абысці купіну, на момант павярнуўся бокам да куста, за якім сядзеў Буры, і ў гэты момант нешта сляпучае грымнула там, тупа і балюча ўдарыла ў грудзі, кінула вобземлю. Шадура ляжаў на халодным цвёрдым снезе, а з куста на яго сыпаўся іней, збіты шротам: паспеў Федзька выхапіць стрэльбу.

Не чуў і не бачыў Шадура, як двое, азіраючыся, цяжка сапучы, беглі далей, углыб Гонтавага балота, як адзін з іх, у паўкажушку, адстаў, упаў у снег і ляжаў, пакуль той, першы, не схаваўся ў белай шэрані...

Рыпелі сані, коўзаліся туды-сюды па шырокай езджанай дарозе. Шадура расплюшчыў вочы, убачыў шырокую спіну, жоўты кажух. Ён варухнуўся, застагнаў — тупы боль упяўся ў грудзі. Кажух варухнуўся, чалавек спагадна зірнуў на Шадуру:

— Вот і добра, жыць будзеш. Падлюга, шротам пацягнуў... Выратавала цябе кухайка...

Чалавек падагнаў лейцамі каня, зноў павярнуўся да лесніка:

— Як пачуў стрэлы, каня запрог — і па слядах. А тут яшчэ стрэлілі... Адзін з іх вярнуўся, памог цябе перавязаць, на сані пакласці. Сёння возьмуць і Бурага. Відно, збаяўся, што прыпомняць яму і старыя грахі — і ласіху, і яшчэ... Даўно я яго меў на прыкмеце, ды ўсё не мог спаймаць. Хітры, падлюга.

Толькі цяпер Шадура пазнаў егера Захарошку.

— А ты нічога, не збаяўся. Пайшоў на двух...

Захарошка яшчэ нешта гаварыў.

Мякка коўзаліся сані, тупацеў наперадзе конік; з ноздраў яго вырываліся клубкі пары і доўга раставалі на марозе. Кружыліся, адбягаліся назад сосны ў белым густым інеі, а на іх вяршалінах гарэла сонца; калі дуга чаплялася за галінкі, што звісалі над дарогай, тады на сані сыпаўся бязважкі белы пыл.

Шадуру працяў боль, ён заплюшчыў вочы.

# ПУБЛІЦЫСТЫКА



● Уладзімір ПАДРЭЗ ● Міхась ТЫЧЫНА ● Валянцін ЖДАНОВІЧ ● Васіль КАСЦЮЧЭНКА ● Аляксандр ЧАРНЯК
● Ніл ГІЛЕВІЧ ● Арсень ЛІС ● Яўген ЛЕЦКА ● Хведар ЯФІМАЎ ● Марат БАЦВІННІК
● Лідзія ЦЯГАКА, Інэса САЛІВОН ● Віктар РУДАКОЎСКІ ● Юры ТАПАРАШАЎ ● Сяргей БОБАЎ ● Ізот ЛІЦІНЕЦКІ ● Макс ШАВЕЛЬ ● Рыгор ІГНАЦЕНКА ● Рыгор ЛАЗУРКІН



Дырэктар Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР кандыдат тэхнічных навук Алег Ігнатавіч Семянкоў.

● **Уладзімір ПАДРЭЗ,**
**першы сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі**

# ПАД СЦЯГАМ ДРУЖБЫ І МІРУ

Юнацтва планеты збірае сваіх пасланцоў у дарогу—на X Сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. З многіх краін пяці кантынентаў дарога гэтая пралягае да Берліна — сталіцы Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Тут з 29 ліпеня па 6 жніўня адбудзецца свята міру, на якім моладзь свету прадэманструе сваё адзінства і згуртаванасць пад дэвізам «За антыімперыялістычную салідарнасць, мір і дружбу!»

На сцягу сёлетняга фестывалю стаіць лічба «X». У маштабе гістарычным гэта не так і шмат. Тым не менш з пачуццём гонару і радасці гаворым мы пра тое, што юнацтва планеты збіраецца на свой форум ужо ў дзесяты раз.

Ідэя правядзення сусветных фестываляў нарадзілася адразу ж пасля пераможных салютаў 1945 года. Яшчэ куродымілі папялішчы вайны, балючыя раны не давалі людзям спаць, а памяць апякала душы мільёнаў. І ў гэты час у Лондане сабраліся на Сусветную канферэнцыю прадстаўнікі моладзі з усіх кантынентаў. Было гэта ў лістападзе 1945 года. Ад імя 40 мільёнаў юнакоў і дзяўчат розных нацыянальнасцяў свету ўдзельнікі канферэнцыі рашуча заявілі аб сваім імкненні «дабівацца адзінства моладзі ўсяго свету, усіх рас, усіх колераў скуры, усіх нацыянальнасцяў, усіх рэлігійных кірункаў. Знішчыць на зямлі ўсе астаткі фашызму. Змагацца за справядлівы і трывалы мір. Пакончыць з галечай і беспрацоўем».

За гэту рэзалюцыю лонданскай канферэнцыі галасавалі і дэлегаты Савецкай Беларусі: М. Зімянін, П. Машэраў, Т. Яршова, В. Парахневіч, Н. Траян, В. Лівенцаў, паэт Аркадзь Куляшоў. Грудзі маладых пасланцоў нашай рэспублікі П. Машэрава, В. Лівенцава, В. Парахневіча, Н. Траян упрыгожвалі зоркі Герояў Савецкага Саюза. Члены беларускай дэлегацыі прымалі актыўны ўдзел у рабоце шматлікіх секцый. На пленарных пасяджэннях неаднаразова выступаў тагачасны сакратар ЦК ЛКСМ Беларусі М. Зімянін.

На той канферэнцыі ў Лондане было вырашана правесці I Сусветны фестываль летам 1947 года ў сталіцы Чэхаславакіі—Празе. Моладзь свету горача адгукнулася на гэты заклік. У першую фестывальную сталіцу сабралася 17 тысяч юнакоў і дзяўчат з 72 краін. Дэлегаты прынялі ўдзел у аднаўленні спаленай фашыстамі чэхаславацкай вёскі Лідзіцэ. «Такое не павінна больш ніколі паўтарыцца! Юнакі і дзяўчаты планеты павінны адстаяць мір!»—заявілі яны. Ідэя міру стала адной з галоўных і ва ўсіх наступных фестывалях.

Скептыкі прадказвалі, што фестывалі не атрымаюць папулярнасці ў моладзі, ворагі прыкладалі нямала сіл, каб перашкодзіць правядзенню маладзёжных форумаў. Але ўжо праз два гады ў Будапешце адбыўся другі Сусветны фестываль моладзі. А потым сталіцамі фестываляў станавіліся Берлін, Бухарэст, Варшава, Масква, Вена, Хельсінкі, Сафія. З кожным годам расла папулярнасць і аўтарытэт фестывальнага руху. Дастаткова сказаць, што ў дзевяці святах моладзі прыняло ўдзел звыш 220 тысяч юнакоў і дзяўчат амаль з усіх краін свету. Фестывалі сталі своеасаблівымі ўрокамі сацыяльнай і палітычнай барацьбы. Яны служаць важным сродкам для ўцягнення ў антыімперыялістычны фронт міжнароднага дэмакратычнага руху ўсё новых сіл.




Члены дэлегацыі беларускай моладзі на Сусветным кангрэсе моладзі ў Лондане. Лістапад 1945 г.



Падрыхтоўка да сёлетняга Сусветнага фестывалю праходзіла асабліва актыўна, з удзелам многіх арганізацый, такіх, як Сусветны Савет Міру, Сусветная міжнародная студэнцкая асацыяцыя садзеяння ААН і інш. Нават у ФРГ — упершыню за ўсю гісторыю фестывальнага руху — створаны ініцыятыўны камітэт. У яго ўвайшлі прадстаўнікі сацыялістычнай нямецкай рабочай моладзі — «Маладых сацыялістаў», «Сокалаў», нямецкіх маладых дэмакратаў, прафсаюзнай моладзі. Шмат зроблена нацыянальнымі падрыхтоўчымі камітэтамі ў Францыі, Вялікабрытаніі, Даніі, Фінляндыі, у краінах Лацінскай Амерыкі, Афрыкі і Азіі.

Як заўсёды, актыўна ўдзельнічала ў падрыхтоўцы да фестывалю моладзь сацыялістычных краін. Пытанне аб удзеле ў фестывалі разглядалася на з'ездах Саюза маладых камуністаў Кубы, Дзімітраўскага камуністычнага саюза моладзі Балгарыі, Сацыялістычнага саюза моладзі Чэхаславакіі. Некаторыя саюзы моладзі сацыялістычных краін разглядалі гэтае пытанне на пленумах цэнтральных камітэтаў.

Савецкая моладзь — пастаянны ўдзельнік фестывальнага руху. І на гэты раз, яшчэ ў чэрвені 1972 года, быў створаны Савецкі падрыхтоўчы камітэт фестывалю. Сярод членаў яго — лётчык-касманаўт Валянціна Нікалаева-Церашкова, лаўрэат Ленінскай і Нобелеўскай прэмій, акадэмік М. Г. Басаў, чэмпіёны свету і Алімпійскіх гульняў Людміла Турышчава і Васіль Аляксееў, балярына Маліка Сабірава. Задачы Ленінскага камсамола ў падрыхтоўцы да X фестывалю былі вызначаны на VI пленуме ЦК ВЛКСМ, пленуме Камітэта маладзёжных арганізацый СССР. Палепшыць выхаванне моладзі ў духу камуністычнай ідэйнасці, дружбы народаў СССР, пралетарскага інтэрнацыяналізму, узмацніць масава-палітычную і культурна-асветную работу сярод моладзі, мабілізаваць яе на плённую творчую працу — вось асноўныя з гэтых задач.

Год крочыў па нашай краіне Усесаюзны фестываль савецкай моладзі. Можна з поўным правам сказаць, што ён стаў своеасаблівым аглядам радоў Ленінскага камсамола, садзейнічаў аўтарытэту маладых гвардзейцаў пяцігодкі. Згодна з палажэннем аб фестывалі, у спаборніцтве за высокае званне лаўрэатаў маглі ўдзельнічаць практычна ўсе юнакі і дзяўчаты. Рабочая моладзь — у конкурсах прафесійнага майстэрства. Аматары самадзейнасці — у творчых конкурсах спевакоў, танцораў, музыкантаў. Званне лаўрэата маглі атрымаць маладыя перадавікі вытворчасці, якія дасягнулі найвышэйшых вынікаў у працы і прымалі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, камсамольска-маладзёжныя калектывы — пераможцы сацыялістычнага спаборніцтва. Такое спаборніцтва стала масавым сярод моладзі Беларусі, ахапіла практычна ўсе 15.596 пярвічных камсамольскіх арганізацый.

Сёння ўжо надышла пара падвядзення вынікаў зробленага. У Маскву з'язджаюцца пасланцы ўсіх рэспублік Савецкага Саюза, дзе пачнуцца заключныя ўрачыстасці Усесаюзнага фестывалю. У дарозе і дэлегацыя нашай рэспублікі. Яна вядзе ра-



**Вольга Цішына, студэнтка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

парт поспехаў і здабыткаў. Давайце ж перагартаем некаторыя старонкі...

Для пачатку адзначым такія лічбы: у індывідуальным і брыгадным сацыялістычным спаборніцтве пад дэвізам «Пяцігодцы—ударная праца, майстэрства і пошук маладых» удзельнічае каля 800 тысяч юнакоў і дзяўчат, большасць з якіх паспяхова выконваюць свае абавязацельствы; 450 тысяч змагаюцца за камуністычныя адносіны да працы, 170 тысяч юнакоў і дзяўчат дамагліся высокага звання ўдарніка камуністычнай працы. Гэтыя лічбы расказваюць пра многае. Найперш пра тое, што ўдарная праца моладзі стала з'явай масавай, творчай. У красавіку гэтага года Бюро ЦК ЛКСМБ і Прэзідыум Белсаўпрофа падвялі вынікі грамадскага агляду выкарыстання рэзерваў вытворчасці і рэжыму эканоміі на прадпрыемствах і ў арганізацыях рэспублікі за 1972 год. І вось толькі некаторыя дадзеныя: унесена 144,7 тысячы рацыяналізатарскіх прапаноў, 103 тысячы з якіх укаранёны ў вытворчасць з эканамічным эфектам больш за 140 мільёнаў рублёў; сэканомлена 322 тысячы тон умоўнага паліва, 236 мільёнаў кілават-гадзін электраэнергіі і 702 тысячы гігакалорый цеплавой энергіі.

У ходзе фестывалю ў рэспубліцы нарадзіўся масавы рух моладзі пад дэвізам «У кожнай вёсцы, у кожным горадзе — ударная камсамольская справа!» Асноўная задача яго ў тым, каб кожны малады чалавек, дзе б ён ні працаваў — за станком ці на калгасных палетках, на рыштаваннях будоўляў ці ў канструктарскім бюро,— не толькі выконваў зменныя заданні, але і працаваў творча, быў дбайным гаспадаром. З гэтых пазіцый кожная камсамольская арганізацыя — абласная, гарадская, раённая, пярвічная,— кожная камсамольская група вызначыла для сябе ўдарную справу. Для мінскіх трактарабудаўнікоў, напрыклад, ёю стаў выпуск 50 звышпланавых трактараў, для камсамольцаў завода імя Арджанікідзе— дадатковая электронна-вылічальная машына з сэканомленых матэрыялаў і сродкаў. Камсамольска-маладзёжны ўчастак Яроміцкага БМУ трэста «Брэстводбуд» змагаецца за асушэнне ў 1973 годзе звыш плана 300 гектараў зямель. А камсамольска-маладзёжны ўчастак імя Зоі Касмадзям'янскай цэха № 7 Брэсцкага электрамеханічнага завода вырашыў выканаць васьмімесячную вытворчую праграму да дня адкрыцця X Сусветнага фестывалю моладзі і студэнтаў.

У Брэсце нарадзіўся пачын дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, слесара Барыса Юзафовіча «Пяцідзёнку — за чатыры дні, а пяцігодку — за чатыры гады!» Характэрна, што гэты патрыятычны пачын моладзь рэспублікі не толькі шырока падхапіла, але і па-свойму скарэкціравала. Ткачыха Віцебскага дыванoвага камбіната Раіса Хірувімава, падлічыўшы свае магчымасці, выступіла з ініцыятывай завяршыць заданне пяцігодкі за тры гады. Яе прыкладу паследаваў кожны трэці член ВЛКСМ на камбінаце.

Ініцыятыву станкабудаўнікоў Гомельскага завода імя Кірава «Высокая эфектыўнасць на кожным рабочым месцы» падхапілі маладыя рабочыя заводаў «Гомсельмаш», «Электраапаратура», «Гідрапрывод» і іншыя. Па прыкладзе Магілёўскага завода штучнага валакна імя Куйбышава, калектыў якога вырашыў нарошчваць тэмпы вытворчасці за кошт выкарыстання рэзерваў і павышэння прадукцыйнасці працы, сёння працуюць 584 прадпрыемствы і арганізацыі...

Ударная вахта моладзі нараджае ўсё новыя ініцыятывы і пачыны. Гамяльчане, напрыклад, спаборнічаюць за авалоданне спецыяльнымі прызамі ветэранаў—перадавікоў вытворчасці. На прадпрыемствах металаапрацоўчай прамысловасці ідзе барацьба за прыз імя Васіля Мікалаевіча Хурсана — Героя Сацыялістычнай Працы, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР, каваля завода «Гомсельмаш». У моладзі прадпрыемстваў дрэваапрацоўчай і лёгкай прамысловасці — за прыз Героя Сацыялістычнай Працы, сталяра Гомельскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання Уладзіміра Тарасавіча Чуракова...

З вялікім уздымам працуе і моладзь вёсак. Камсамольскія арганізацыі прымалі актыўны ўдзел у рамонце тэхнікі, падрыхтоўцы да сяўбы і самой сяўбе. Толькі ў Мінскай вобласці ў часе трохмесячніка па нарыхтоўцы і вывазцы арганічных угнаенняў працавала звыш 1000 камсамольска-маладзёжных атрадаў і звенняў. У пасяўной трэцяга рашаючага года пяцігодкі самы дзейсны ўдзел прынялі звыш трох тысяч маладзёжных экіпажаў. Механізатар з калгаса імя Ульянава Асіповіцкага раёна Анатоль Паланейчык за тры дні красавіка засеяў 60 гектараў ячменю пры дзённай норме 10,7 гектара. Пераможцам у Баранавіцкім раёне стаў камсамольска-маладзёжны экіпаж Васіля Мядзведзіка і Івана Паўлоўскага з калгаса «Зара».

Яшчэ ў 1971 годзе ЦК ЛКСМ Беларусі аб'явіў жывёлагадоўлю ўдарнай справай камсамола рэспублікі. І ў фестывальны год камсамольскія арганізацыі нямала зрабілі для ўздыму гэтай галіны нашай сельскай гаспадаркі. За 1972 год і першы квартал 1973 года рады маладых жывёлаводаў выраслі на 1573 чалавекі, 1025 з іх пайшлі працаваць непасрэдна на фермы.

Законам для маладых працаўнікоў стала патрабаванне партыі: сёння працаваць лепш, чым учора. Менавіта гэтым лозунгам кіруецца больш чым мільённы атрад камсамольцаў рэспублікі, 7.839 камсамольска-маладзёжных калектываў, уся моладзь Савецкай Беларусі.

Сярод лаўрэатаў фестывалю—і пераможцы конкурсаў. Нялёгкім быў іх шлях да лаўрэацкага звання. З 144 тысяч удзельнікаў конкурсаў прафесійнага майстэрства толькі 210 атрымалі дыпломы пераможцаў. Пра кожнага з іх можна доўга расказваць, яны вартыя і натхнёнага слова, і звонкай песні.

Вось Леанід Дзяцел — лепшы малады токар рэспублікі. Ён працуе на Брэсцкім электралямпавым заводзе. Творчыя адносіны да працы, натхнёнасць, неспакой — яго характэрныя рысы. План першага квартала 1973 года Леанід выканаў на 213 працэнтаў і ўжо ў красавіку працаваў у лік кастрычніка. Да таго ж ён—член бюро Брэсцкага абкома камсамола, часта выступае ў маладзёжных аўдыторыях...

Цудоўныя працаўнікі Валянціна Купрыянава з Віцебскага раёна — лепшая сярод даярак і трактарыстка Галіна Ількевіч з Сялецкага аддзялення «Сельгастэхнікі» — лепшая сярод механізатараў. Лепшым слесарам аказаўся Мікалай Яўстаф'еў з Магілёўскага завода «Строммашына», повара



**Удзельніцы мастацкай самадзейнасці з Новалукомля Людміла Чысцякова, Галіна Трацціяк, Рыма Голубева, Нэла Няс:лелава і Іра Гушчына.**

рам — Галіна Кароль з рэстарана «Мінск», майстрам-цырульнікам — Ліля Лісіцына з мінскага салона «Прыгажосць».

Валеры Кучынскі — таксама лаўрэат фестывалю. Ён — спявак, якога ўжо добра ведаюць не толькі ў Беларусі, а і далёка за яе межамі. Валеры ўдзельнічаў ужо і ў міжнародных конкурсах. І прыемна, што ў рэспубліканскім конкурсе маладых выканаўцаў савецкай песні побач з ім былі таксама таленавітыя спевакі — Вольга Цішына, Алег Купчанка, Мікола Янчанка, Іван Краснадубскі, Кацярына Бут-Гусаім. На іх адзінадушную думку, такія конкурсы з'яўляюцца добрым урокам павышэння свайго прафесійнага майстэрства.

У рамках Усесаюзнага фестывалю прайшлі ў рэспубліцы конкурс калектываў і салістаў мастацкай самадзейнасці, агляд-конкурс маладых кампазітараў, кінадакументалістаў, літаратараў, народных умельцаў. Сярод маладых кампазітараў званне лаўрэата атрымаў Рыгор Сурус—за вакальна-танцавальную сюіту «Сваток» (па п'есе В. Вольскага «Несцерка»). Бясспрэчны поспех спадарожнічаў студэнту Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя Луначарскага Алегу Запятнёву. Яго вакальнаму цыклу «Рус-

**Звеннявы механізаванага звяна па адкорму жывёлы калгаса «Ясная Паляна» Ашмянскага раёна Вітольд Грыц.**



кая песня» на вершы Аляксея Кальцова журы адзінадушна прысудзіла другое месца. Прызёрамі сталі маладыя кампазітары Уладзімір Буднік і Людміла Шлег.

Сярод кінадакументалістаў перамаглі Д. Міхлееў і В. Цяслюк (фільм «Птушка ікс»), С. Лук'янчыкаў і Ф. Кучар («Гульня)». Другое месца заваяваў тэлевізійны фільм «Вяснянка», які стварылі работнікі галоўнай рэдакцыі перадач для моладзі Беларускага тэлебачання Таццяна Лунёва і Мікалай Паўлаў.

Актыўна ўдзельнічалі ў літаратурным конкурсе маладыя паэты, празаікі. Разам з пачынаючымі падалі свае работы на конкурс і вядомыя ўжо аўтары — Ніна Мацяш, Юрка Голуб, Генрых Далідовіч, Галіна Каржанеўская, Віктар Ярац, Таццяна Дзмітрусёва...

*Правядзенне фестывалю садзейнічала паляпшэнню культурна-масавай работы,* умацаванню супрацоўніцтва камітэтаў камсамола з установамі культуры. Дастаткова сказаць, што толькі ў рэспубліканскім аглядзе мастацкай самадзейнасці прыняло ўдзел звыш 600 тысяч чалавек, каля 25 *тысяч самадзейных калектываў.* У Брэсцкай і Віцебскай абласцях у ходзе фестывалю створана 153 новыя калектывы мастацкай самадзейнасці, 196 агітбрыгад, якія пазнаёмілі са сваёй творчасцю звыш чатырох з паловай тысяч чалавек. У Лельчыцкім раёне, напрыклад, арганізавана *аб'яднаная харавая капэла «Славяне»,* у якую ўвайшло больш як 100 жыхароў вёсак Глушковічы Гомельскай і Копішча Жытомірскай абласцей.

Удзел юнакоў і дзяўчат рэспублікі ва Усесаюзным фестывалі моладзі, які з'яўляецца формай падрыхтоўкі савецкага юнацтва да X Сусветнага фестывалю ў Берліне, прынёс шмат новага ў работу камсамольскіх арганізацый. Гэта і фестывалі палітычнай песні, агляды-конкурсы агітбрыгад, і тэлевізійны конкурс «Славім молат і песню», і здача новага фізкультурнага комплексу ГПА, і паходы па месцах славы савецкага народа, і мітынгі ў падтрымку народаў, якія змагаюцца за сваё вызваленне ад імперыялістычнага прыгнёту. Адзін толькі пералік ужо дае падставу меркаваць аб шырыні і размаху праведзенай работы. Прывяду толькі некаторыя лічбы: у VI этапе паходу, прысвечанага 50-годдзю ўтварэння СССР, *прыняло ўдзел* больш двух мільёнаў юнакоў і дзяўчат;

камсамольцы і піянеры рэспублікі шэфствуюць над 120 тысячамі ветэранаў вайны і працы, 63 тысячамі сем'яў загінуўшых;

больш як 350 тысяч юнакоў і дзяўчат здалі нормы новага комплексу «Гатовы да працы і абароны СССР»;

за 1970—1972 гады за мяжу па турысцкіх пуцёўках выязджала 5.250 нашых юнакоў і дзяўчат. За гэты ж час у нашай рэспубліцы пабывала больш васьмі тысяч маладых замежных турыстаў і 17 тысяч—з усіх саюзных рэспублік, краёў і абласцей нашай краіны.

Прадстаўнікі беларускай моладзі выязджалі ў складзе дэлегацый ВЛКСМ, КМА СССР і ЛКСМ Беларусі ў розныя краіны свету. Усяго ў міжнародных маладзёжных мерапрыемствах у 1972 годзе ўдзельнічала каля 100 юнакоў і дзяўчат рэспублікі. У фестывальны перыяд узмацнілася супрацоўніцтва абласных камсамольскіх арганізацый з адпаведнымі арганізацыямі сацыялістычных краін. У канцы 1972 года ўстаноўлены прамыя сувязі камсамола Беларусі з маладзёжнымі арганізацыямі Харватыі (СФРЮ).

У цэнтры ўвагі камітэтаў камсамола рэспублікі *знаходзілася* далейшае развіццё салідарнасці з гераічным народам і моладдзю В'етнама і іншых краін Індакітая, арабскіх краін, якія падвяргаюцца імперыялістычнай агрэсіі, з нацыянальна-вызваленчым рухам краін Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі...

*Нялёгкая справа — раскасаць* пра ўсё, што зроблена Ленінскім камсамолам, нашай моладдзю ў часе падрыхтоўкі да фестывалю. Відавочным становіцца адно: гэта быў перыяд далейшага арганізацыйна-палітычнага ўмацавання шэрагаў ВЛКСМ, узмацнення актыўнасці савецкай моладзі на міжнароднай арэне ў агульнай барацьбе маладых змагароў свету за антыімперыялістычную салідарнасць, мір і дружбу. У склад савецкай дэлегацыі, якая збіраецца зараз на Сусветны фестываль, уваходзяць і прадстаўнікі Савецкай Беларусі. Пажадаем жа ім поспеху ў выкананні ганаровай місіі!

■ ■ ■





# ВОЛАТ НАД СЛУЧЧУ

### ТУТ ПАЧЫНАЮЦЦА ФЕРМЫ-КОМПЛЕКСЫ

Два рады бялюткіх бяроз. Высокі насып шашы з віядукам над чыгункай — нібы мяжа між землямі мясцовага калгаса і новабудоўляй, шматлікія карпусы якой раскінуліся на плошчы ў трынаццаць гектараў. Апранутыя ў бетон пад'язныя шляхі, унутрыкамбінатаўскія праезды. Зелянее парк. І не верыцца, што тры гады назад на гэтым месцы была пустэча-забалаць, што першыя *па́лі* будаўнікі ПМК-80 трэста «Слуцксельбуд» забівалі пад крыкі кулікоў і кнігавак.

Мы ідзём па тэрыторыі камбіната з прадстаўніком генпадраднай арганізацыі — начальнікам ПМК-80 Віктарам Антонавічам Корбутам, і ён тонам чалавека, які пераадолеў у жыцці вельмі сур'ёзны рубеж, расказвае, з чаго пачыналася ўдарная камсамольская будоўля, якія цяжкасці давялося адолець.

— Нашым сур'ёзным праціўнікам былі грунтавыя воды. Працавалі помпы днямі і начамі, ледзь паспяваючы адкачваць ваду з катлаванаў. Самі бачыце: мясцовасць тут нізкая, грунт забалочаны. Справу ўскладняла і тое, што будаўніцтва камбіната вялося паралельна з яго праектаваннем. Адным словам, работы пачыналіся па меры паступлення тэхнічнай дакументацыі. Распрацоўваў яе і дасылаў нам Цэнтральны навукова-даследчы інстытут эксперыментальнага праектавання сельскага будаўніцтва. Такі метад даваў выйгрыш у часе, аднак ён быў звязаны і з шэрагам няўвязак. Тэхнічная дакументацыя нярэдка паступала са спазненнем, недапрацаванай, ды



Майстар цэха Віталь Зінчанка і фармоўшчыца Ніна Васіна.

ўсё ж... Першыя кубаметры грунту мы вынялі ў лютым 1971 года, а сёння можна з поўным правам гаварыць, што камбінат будаўнічых канструкцый жывёлагадоўчых комплексаў—у страі. Ён разлічаны на выпуск 66,3 тысячы кубаметраў зборных жалезабетонных канструкцый, 25 тысяч кубаметраў таварнага бетону, 45,3 тысячы кубаметраў пенаполісціролу плюс пяці тысяч квадратных метраў аблегчаных металічных варот для ферм у год. Гэтых матэрыялаў будзе дастаткова, каб зманціраваць два комплексы для адкорму буйной рагатай жывёлы (на 9,6 тысячы галоў кожны) і два комплексы для адкорму 108 тысяч свіней у кожным.

Віктар Антонавіч на хвіліну замаўкае, нібы даючы мне магчымасць занатаваць нагаданыя ім лічбы, затым працягвае:

— Што такое наш камбінат? Гэта 55 вытворчых і дапаможных аб'ектаў. Большасць з іх ужо здадзена, на некаторых завяршаюцца ўнутрыцэхавыя наладачныя работы. Будаўнікі, а іх засталося чалавек з пяцьдзесят, «падчышчаюць хвасты», эксплуатацыйнікі асвойваюць імпартнае тэхналагічнае абсталяванне, якое паставіць адна італьянская фірма. Яе спецыялісты, дарэчы, прымалі ўдзел у шэфмантажных работах...

Аб тым, які ўклад ва ўзвядзенне камбіната ўнеслі камсамольцы і моладзь, мне расказаў сакратар камсамольскай арганізацыі ПМК-80 Уладзімір Носікаў:

— У самы напружаны час—летам мінулага года—на аб'ектах працавала звыш сямісот юнакоў і дзяўчат, у тым ліку 120 студэнтаў Беларускага політэхнічнага інстытута. Былі створаны тры камсамольска-маладзёжныя брыгады цесляроў-бетоншчыкаў. Узначальвалі іх вопытныя брыгадзіры Барыс Салахненка, Мікалай Аўтуховіч і Фелікс Ясіновіч. Адзін з іх—камсамолец, двое—маладыя камуністы. Усе тры брыгады працавалі на адным з адказных участкаў—выконвалі земляныя і бетонныя работы на так званым нулявым цыкле. І як працавалі! Усе работы выконвалі з адзнакай «выдатна» і «добра».Шкада, што зараз ніводнай брыгады тут няма—пераведзены на іншыя аб'екты. А то хлопцы расказалі б, як змагаліся з грунтавымі водамі, з непаваротлівасцю забеспячэнцаў...

Добры ўспамін пакінулі аб сабе брыгады Салахненкі і Аўтуховіча. Яны закладалі падмуркі пад склад цэменту і кампрэсарную. Калі не было перабояў з падачай бетону, кожны працаваў за дваіх. Аднойчы некалькі дзён прастаялі з-за таго, што з завода жалезабетонных вырабаў не падалі бетону. Нерваваліся хлопцы, урэшце выпусцілі лісток «Камсамольскага пражэктара», прапясочылі забеспячэнцаў і кіраўнікоў завода. І тут званок: у нядзелю дадуць шмат бетону. Брыгада Барыса Салахненкі прыбыла ў поўным складзе і за дзень уклала 130 кубаметраў бетону. Па выніках Усесаюзнага сацыялістычнага спаборніцтва камсамольска-маладзёжных брыгад за першае паўгоддзе мінулага года яна заняла трэцяе месца, ёй быў уручаны





Будаўнік Міхась Шчарбачэня.



пераходны вымпел ЦК ВЛКСМ, Міністэрства сельскага будаўніцтва СССР і ВЦСПС. Уручалі яго на камсамольскім сходзе. Барыс Салахненка, прымаючы вымпел, заявіў, што і надалей яго хлопцы будуць працаваць з агеньчыкам. І слова яго аказалася цвёрдае.

Па выніках работы за другое паўгоддзе мінулага года брыгада заняла першае месца, сэканоміла каля 300 квадратных метраў руберойду, 100 кілаграмаў бітуму, 70 кілаграмаў цвікоў і 2 кубаметры піламатэрыялаў...

Гудуць пад шынамі самазвалаў бе-

Камсамольска-маладзёжная брыгада Барыса Салахненкі.





Слуцкі камбінат будаўнічых канструкцый жывёлагадоўчых комплексаў.





Кранаўшчыца Галіна Пакіна.

тонныя, адглянцаваныя да бляску камбінатаўскія дарогі.

— Гэта добры след студэнцкіх будаўнічых атрадаў,—заўважае Носікаў.—Асабліва хочацца адзначыць атрад Васіля Прадуна з БПІ. Усё лета студэнты—пад кіраўніцтвам нашага майстра Валянціны Поляк—пракладалі дарогі, бетанавалі пляцоўкі на складзе гатовай прадукцыі. Перад ад'ездам дадому мы ўручылі студэнтам граматы, грашовыя прэміі. А на ўзвядзенні падмуркаў галоўнага вытворчага корпуса выдатна папрацаваў атрад Мікалая Дзяркача з таго ж БПІ...

## ФАРМОВАЧНЫ — ЦЭХ НУМАР АДЗІН

Галоўны вытворчы корпус, пад дахам якога размясціліся два вядучыя



Мантажнік упраўлення «Хіммантаж» Леанід Кулік.

на камбінаце цэхі—арматурны і фармовачны,—займае трынаццаць тысяч квадратных метраў. Пад столлю змантаравана дзевяць маставых кранаў. Паблісквающь ніткі пад'язных чыгуначных пуцей. Чатыры цэнтральныя пралёты займае фармовачны цэх, які будзе выпускаць поўны комплект аблегчаных будаўнічых канструкцый для жывёлагадоўчых комплексаў: рамы, сценавыя пліты, перакрыцці, рашоткі для падлогі, каналізацыйныя трубы і г. д.—усяго каля 170 назваў. Увесь вытворчы працэс—ад падачы бетону з раствора-бетоннага вузла да адгрузкі гатовай прадукцыі—цалкам механізаваны і аўтаматызаваны. Роля аператараў зведзена да ўключэння неабходных тумблераў, да кантролю за якасцю фармоўкі канструкцый і да выканання некаторых дапаможных ручных аперацый. Цэх ужо зараз выдае прадукцыю, хоць на праектную магутнасць ён павінен выйсці ў трэцім квартале будучага года.

Гутару з начальнікам цэха Барысам Савельевічам Міхайлавым. Зусім нядаўна ён, як і большасць яго падначаленых у цэху, быў будаўніком. Новую вытворчасць асвойвае, як кажуць, у працэсе работы, многае паспеў спазнаць яшчэ ў ходзе будаўніцтва.

— Пакуль што ў цэху працуе каля васьмідзесяці чалавек, а трэба будзе мець каля чатырохсот. Але і з гэтым невялікім калектывам асвоілі ўжо выпуск рашотак для падлогі жывёлагадоўчага комплекса калгаса «Мір» Баранавіцкага раёна. Трэба нам паставіць туды дзесяць тысяч такіх рашотак. Думаю, што справімся своечасова. Вось калі кіпаўцы адладзяць аўтаматыку і бетон пачне паступаць канвеерна, тады працаваць будзе зусім весела. Усяго да канца года мы павінны даць для сельскай гаспадаркі 17 500 кубаметраў зборных жалезабетонных канструкцый.

— Барыс Савельевіч, з чаго пачынаўся вытворчы працэс і хто выдаў першую прадукцыю?

— Пачалі работы з адладкі гіпрапрэса. Вунь ён, пры ўваходзе. Нашы камсамольцы Мікалай Караневіч, Валянцін Гарохаў і Грыша Пекар сабралі яго, адрэгулявалі і ўжо асвоілі выраб каналізацыйных труб вялікага дыяметра. Харошыя, дружныя хлопцы і дзяўчаты, можаце пазнаёміцца.

Каля гіпрапрэса—каля двух дзесяткаў гатовых для адпраўкі на склад труб. Знаёмлюся з гаспадарамі гэтай цікавай і паслухмянай машыны. Мікалай Караневіч раней працаваў слесарам у Салігорску, Грыша Пекар — учарашні салдат, Валянцін Гарохаў працаваў да гэтага ў мантажна-меліярацыйным упраўленні. Усіх іх прывяла сюды любоў да тэхнікі, жаданне набыць новую спецыяльнасць і, шчыра прызнаюцца хлопцы, надзея ў хуткім часе атрымаць жыллё: камбінат плануе пабудаваць каля дзесяці шматкватэрных жылых дамоў, дзіцячыя дашкольныя ўстановы, інтэрнат.

— А галоўнае—тут цікава працаваць,—гаворыць Валянцін Гарохаў.— Столькі механізмаў, аўтаматыка ўсюды...

Сакратар камітэта камсамола камбіната Аляксандр Драбушэвіч таксама навічок. Працаваў на Пухавіцкім палігоне жалезабетонных вырабаў. Прыязджаў адпачываць у родную вёску пад Слуцкам—зглянуў на камбінат. І вырашыў застацца. Атрымаў накіраванне ў арматурны цэх—кранаўшчыком. Камсамольцы неўзабаве выбралі яго сваім важаком.

Аляксандр на паўдня становіцца маім гідам. Ён водзіць мяне па цэхах, паказвае і расказвае пра ўсё з такім веданнем справы, быццам усё жыццё быў знаёмы з вытворчасцю. У арматурным цэху Аляксандр пазнаёміў мяне з маладым камуністам, былым слесарам-мантажнікам, а цяпер брыгадзірам Анатолем Гулякевічам. Яму— 33 гады. Студэнт-завочнік палітэхнікума. Рыхтуецца да абароны дыпломнай работы.

— Будоўля дарагая мне тым,— гаворыць Анатоль,—што тут у маі 1971 года я ставіў першую калону на галоўным вытворчым корпусе. І апошнюю—таксама. А ўсяго мы тут іх паставілі каля дзвюх соцень. Цяпер кірую брыгадай арматуршчыкаў. Без нас, вядома, фармовачны цэх не можа працаваць. Мы стараемся не падводзіць, з заданнямі спраўляемся. Дапамагае тое, што ў цэху—шмат надзейных механізмаў. І людзі падабраліся дружныя, працавітыя. Нядаўна прыйшла ў брыгаду вопытная апаратчыца Масхуда Чарніцкая. Яна—татарка, а муж—беларус. Масхуда ўмее працаваць і кранаўшчыцай, і газазваршчыцай— майстар на ўсе рукі. Муж яе працуе электраслесарам тут жа, непадалёк...

Першыя кубаметры зборнага жалезабетону ўжо адпраўлены на будоўлі, дзесяткі кубаметраў чакаюць сваёй чаргі для адпраўкі на гіганцкі склад гатовай прадукцыі. Аб яго памерах гаворыць тое, што ён разлічаны на захоўванне дзесяцідзённага аб'ёму прадукцыі фармовачнага цэха—гэта амаль два чыгуначныя эшалоны.

## ЁСЦЬ ПЕНАПОЛІСЦІРОЛ!

Афіцыйная назва гэтага аб'екта— блок дапаможнай вытворчасці. У яго ўваходзяць майстэрня з бытавымі памяшканнямі і цэх пенапалісціролу— найноўшага цеплаізаляцыйнага матэрыялу, які знаходзіць шырокі ўжытак на будаўніцтве.

— Вось гэта навінка, ёсць на што паглядзець!—гаварыў Аляксандр Драбушэвіч, ведучы мяне праз лабірынты калідораў у цэх, дзе вырабляецца самы лёгкі ізаляцыйны матэрыял. На дзвярах—таблічка: «Камсамольска-маладзёжны цэх». Амаль усе работнікі цэха—камсамольцы. Сярэдні ўзрост іх—26 гадоў. Ручной працы тут, па сутнасці, няма: усе працэсы аўтаматызаваны.

Інжынер-тэхнолаг, член камітэта камсамола камбіната Валянцін Гапеенка тлумачыць мне «сакрэты» вытворчасці. Выходным матэрыялам для вырабу лёгкіх (вага аднаго кубаметра—19—20 кілаграмаў) цеплаізаляцыйных блокаў з'яўляецца падобны на дробныя рысавыя крупы бісер, які пры павышэнні тэмпературы да 100 градусаў павялічваецца ў аб'ёме ў шэсцьдзесят разоў! Пасля папярэдняга «ўспучвання» бісер на працягу двух-пяці сутак «выспявае», затым падаецца ў камеры, адкуль ужо вымаюць гатовыя бліскучаста-белыя блокі памерам чатыры метры на метр. Пасля прасушвання блокі распілоўваюцца спецыяльным электрычным нажом на лісты неабходнага памеру.

— Першую прадукцыю мы выдалі 26 студзеня гэтага года,—расказвае Валянцін Гапеенка.—І ўявіце сабе: прымаўка пра першы блінец, які выходзіць комам, не спраўдзілася. Мы атрымалі першы блок што трэба. Хлопцы ад радасці намалявалі на ім велізарную адзінку і сфатаграфавалі яго. А сёння мы маем запас пенапалісціролу мінімум на два комплексы. Калектыў у нас невялікі, але слаўны. Выдатна працуюць аператары камсамольцы Віктар Пятровіч і Уладзімір Грыцкевіч...

Дырэкцыя камбіната паклапацілася аб падрыхтоўцы кадраў. Частку набралі з учарашніх будаўнікоў і мантажнікаў, нямала спецыялістаў падрыхтавана на вучэбных курсах у Мазыры. Адтуль прыбыло, напрыклад, дваццаць кранаўшчыкоў і сем апаратараў для бетоназмешвальнага цэха. Акрамя таго, на месцы падрыхтавана больш чым пяцьдзесят фармоўшчыкаў і каля трыццаці стропальшчыкаў.

...Камбінат—гэта не толькі вытворчыя карпусы і магутнае абсталяванне. Пры ўсіх вядучых цэхах абсталяваны бытавыя памяшканні з душавымі ўстаноўкамі і пакоямі для адпачынку, побач з адміністрацыйным корпусам зззяе чысцінёй вокнаў і нікелем электрычнай кухні сталовая, куды ў слоту ці зімовую непагадзь можна прайсці проста з цэхаў, не выходзячы на двор. Насупраць будынка сталовай разбіты прыгожы сквер, на клумбах шмат кветак...

У ліпені на базе камбіната будзе праведзена Усесаюзная нарада па праблемах будаўніцтва ў вёсцы з прымяненнем аблегчаных жалезабетонных канструкцый. Калектыў прадпрыемства старанна рыхтуецца да гэтай важнай падзеі, імкнецца як мага хутчэй асвоіць вытворчыя магутнасці, выканаць заданні па вырабе і пастаўцы канструкцый для аб'ектаў, якія ўжо ўзводзяцца ў гаспадарках рэспублікі.

А ў будучым годзе камбінат павінен выйсці на запраектаваную магутнасць, і тады адсюль, ад берагоў Случы, у розныя куткі Беларусі і за яе межы, пабягуць магутныя аўтатралеры (на камбінаце будзе свая аўтакалона) з наборам жалезабетонных канструкцый для жывёлагадоўчых комплексаў—механізаваных і аўтаматызаваных фабрык ялавічыны і свініны. З гэтых канструкцый можна будзе сабраць штогод чатыры жывёлагадоўчыя комплексы. Так запланавана. Так будзе.

**Міхась ТЫЧЫНА.**

Фота **Вячаслава ДУБІНКІ.**

г. Слуцк.

■ ■ ■



Будынак Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН БССР.

# «ІТАКАНЫ» З ДЫНАСТЫІ РОБАТАЎ

Традыцыйнае «кім быць» на парозе сталасці сёння амаль у палове моладзі атаясамліваецца са словам «інжынер», прычым яму часта надаецца адназначны сэнс — «канструктар». Семнаццацігадовыя рамантыкі, што мараць стаць інжынерамі-канструктарамі, у светлых далях сваёй будучыні бачаць звышгукавыя самалёты, на крылах якіх чырвонымі літарамі будуць выведзены іх прозвішчы... За пяць гадоў вірлівага студэнцкага жыцця рамантычны арэол паступова згасае, але на размеркаванні будучыя інжынеры ўпарта просяцца на работу ў канструктарскія бюро. І крыху пазней ім усё яшчэ будзе здавацца, што звонкае «эўрыка» хоць раз на тыдзень ды сарвецца з іхніх вуснаў. Але мінае час, і ў небе ўсё тыя ж «ТУ» і «АНы», і нават маркі аўтамабіляў мяняюцца не хутчэй, чым растуць дзеці канструктараў, а самі канструктары робяць разлікі карэтак для даўно прыдуманага веласіпеда...

Сталыя інжынеры добра разумеюць, што канструяванне і вынаходніцтва — зусім розныя бакі іх дзейнасці. Канструяванне — хлеб надзённы, вынаходніцтва — пяро жар-птушкі, якое не кожнаму ўдаецца здабыць, і патрэбны тут не абы-якія інтэлектуальныя намаганні.

Канструяваць сёння не так ужо і цяжка. Інжынерная думка выпрацавала столькі дэталяў, вузлоў і прынцыпаў, што вопытны канструктар можа скампанаваць з іх амаль любую машыну. І вось якраз таму, што гэтых дэталяў, вузлоў і прынцыпаў так многа, канструяваць сёння ўсё ж надзвычай цяжка. Трэба перагартаць мноства даведнікаў, улічыць стандарты і нармалі, каб новая машына была тэхналагічнай, гэта значыць, каб яе можна было зрабіць як мага прасцей і танней. «Зброяй» канструктара да нядаўняга часу былі кульман, цыркуль, лагарыфмічная лінейка і даведнікі. Кожную лінію, перш чым яе правесці, канструктар разлічвае. З разлікаў і ліній атрымліваецца ўрэшце дэталь. Дэталі кампануюцца ў вузлы (зноў разлікі і даведнікі). Вузлы на стале вядучага канструктара злучаюцца ў машыну (і зноў разлікі і даведнікі).

Сучасны тэхнічны праект распрацоўвае вялікі калектыў, нават усё КБ. Больш-менш складаная машына праектуецца некалькі гадоў. Пакуль наладзяць яе серыйную вытворчасць, яна нярэдка ўжо маральна састарэе. А бывае і так, што ад канструкцыі адмаўляюцца яшчэ і тады, калі яна існуе толькі на паперы. Страшэнна крыўдна канструктару, але нічога не зробіш — тэхнічная рэвалюцыя свае ўмовы дыктуе жорстка.

Як паскорыць тэхнічную падрыхтоўку вытворчасці (г. зн. праектаванне)? Спрабавалі падвоіць-патроіць колькасць канструктараў, але і разбухлыя штаты не давалі прыкметных зрухаў, і іх давялося скараціць.

Тады сваё слова сказалі кібернетыкі.

* * *

З новых навуковых устаноў, што з'явіліся ў Беларусі за апошні час, бадай, найбольш характэрным можна лічыць Інстытут тэхнічнай кібернетыкі АН БССР. Сапраўды, кібернетыка займае зараз ключавыя пазіцыі ў вырашэнні многіх праблем, без яе немагчыма далейшае развіццё сферы матэрыяльнай дзейнасці чалавека. Электронныя робаты бяруць на свае плечы ўсё больш «чорнай» работы чалавечага розуму, вызваляюць яго творчыя магчымасці ад залішняй «будзённасці». У гэтым незвычайнасць кібернетыкі. Але ж не на голым месцы ўзнік інстытут — як-ніяк, у беларускай прамысловасці славяцца электроніка, дакладнае машынабудаванне. У нас ёсць свае традыцыі, свая школа, а камп'ютары «Мінск-32» пакуль што лепшыя ў краіне.

Інстытут тэхнічнай кібернетыкі створаны сем гадоў назад. Калі базай, на якой ён узнік, была электроніка, дык полем дзейнасці яго стала найбольш развітая ў нас галіна — агульнае машынабудаванне, а дакладней — тэхнічная падрыхтоўка машынабудаўнічай вытворчасці. Кібернетыкі замахнуліся на аўтаматызацыю інжынернай творчасці.

— Я — мастак, — сцвярджае канструктар, — я — творца. Тое, што я раблю, немагчыма ўцісніць у матэматычныя значэнні, хоць у сваёй рабоце я карыстаюся матэматыкай. Перш чым я вычарчу дэталь, я яе ўяўляю. У камп'ютара ўяўлення няма.

— Так, — сказалі кібернетыкі, — машына ўяўляць не можа. Але яна лічыць хутчэй і дакладней за канструктара. У машынную памяць можна змясціць увесь даведачны матэрыял, усе магчымыя разлікі. І няхай сабе канструктар уяўляе, толькі хай ён паведаміць машыне пра свае ўяўленне, а яна разлічыць праект і выдасць гатовую прадукцыю. Тую чарнавую работу, на якую ты, канструктар, траціш 50 працэнтаў свайго часу, няхай робіць машына...

Вось тут і выраслі перашкоды на шляху ўзаемаразумення паміж канструктарамі і машынай, бо ЭВМ не толькі не мае ўяўлення, але і не можа зразумець уяўленняў канструктара. Усе дадзеныя, якія ўводзяцца ў ЭВМ, павінны быць напісаны на яе, машыннай, мове. Лёгка скласці алгарытм нейкіх фармалізаваных паняццяў, а вось уяўленне фармалізаваць надзвычай складана, і на гэта будзе затрачана столькі часу, што хутчэй сам канструктар спраектуе тую дэталь.

Маладому інстытуту давялося вышукваць новыя сродкі «зносін» паміж чалавекам і машынай. Максімальная задача фармулявалася так: канструктар на сваёй мове дае машыне заданне, прыбор А імгненна перакладае ўсё на машынную мову, машына праектуе і пасылае на сваёй мове рашэнне ў прыбор Б, які выдае гатовы праект на мове канструктара. Калі ж канструктару нешта не спадабаецца, ён зробіць папраўкі, і машына паслухмяна ўдасканаліць свой праект.

Так з літаратуры ў кібернетыку быў перанесены тэрмін «дыялог» — дыялог чалавека з машынай. Першым памочнікам у гэтым дыялогу стаў вынайдзены ў інстытуце аўтакадзіроўшчык АК-1. Кадзіравалі больш-менш простыя заданні з дапамогай пішучай машынкі і спецыяльнага камандната пульта.

У лабараторыі кандыдата тэхнічных навук Эдуарда Мікалаевіча Левановіча сканструявалі другое прыстасаванне — паўаўтамат счытвання графічнай інфармацыі. На планшэт прымацоўвалі чарцёж і спецыяльнай указкай вадзілі па лініях чарцяжа. Абодва апараты падключаліся да ЭВМ. Яна добра разумела і спецыяльны код, і звычайны чарцёж.



Інжынеры Мікалай Палуэктаў і Уладзімір Смірноў настройваюць прыстасаванне для ўводу графічнай інфармацыі.

Фота аўтара.

Інструмент і дэталі, сканструяваныя машынай у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі.





У ЭВМ пастулае праграма.

У машыннай зале ЭВМ «Мінск-32».





**Уладзімір Янголь, Яўген Аранскі, Уладзімір Тарасевіч і Віталь Ліпень выпрабоўваюць «ІТАКАН-альфа».**

З дапамогай паўаўтамата счытвання графічнай інфармацыі ленінградскія інжынеры надзвычай эфектыўна разлічылі многія гідратэхнічныя збудаванні. Праца карабелаў таксама значна аблегчана, бо камп'ютар бярэ на сябе рацыянальную кампаноўку судна.

Праблема ўводу інфармацыі ад канструктара вырашалася зручна. Цяпер трэба было навучыць машыну пераўтвараць вынікі яе разлікаў у графічную форму, карацей кажучы, навучыць яе чарціць. У лабараторыі кандыдата тэхнічных навук Яўгена Дняпроўскага былі створаны 2 графічныя аўтаматы «ІТАКАН-2» і «ІТАКАН-3» («Інстытут тэхнічнай кібернетыкі Акадэміі навук»). Назва гэта нарадзілася ў апошнюю бяссонную ноч перад здачай прыбора дзяржаўнай камісіі. І хоць спачатку нязвыклае слова выклікала іранічныя заўвагі і каламбуры, яно хутка прыжылося. «ІТАКАНЫ» чэрцяць хутка і дакладна. Каманды, якія паступаюць з камп'ютара, імгненна пераўтвараюцца ў лініі і лічбы. Але ўся сістэма аўтаматычнага праектавання мае істотны недахоп: яна не наладжвае творчых адносін чалавека з машынай, бо не мае зваротнай сувязі. Цесны кантакт у дыялогу чалавека з камп'ютарам дасягаецца з дапамогай новых прылад, якія распрацаваны ў інстытуце. «ІТАКАН-альфа» (назва пакуль што ўмоўная), які стварылі маладыя інжынеры Віталь Ліпень, Уладзімір Тарасевіч, Яўген Аранскі і Уладзімір Янголь, мае тры органы кіравання: тэлевізійны экран, пішучую машынку і камандны пульт. З уведзеных дадзеных і са сваёй памяці ЭВМ стварае чарцёж канструкцыі і паказвае яго на экране. Калі канструктар чымсьці не задаволены, ён бярэ ў рукі светлавое пяро і сцірае «няўдалую» лінію. Гэтым пяром ён можа прачарціць новую лінію, пасунуць чарцёж па экране, састыкаваць ці раз'яднаць яго фрагменты, пасылаючы ў машыну каманды, можа павярнуць канструкцыю ў любы бок, паглядзець на яе з любога ракурсу.

У лабараторыі, якой кіруе дырэктар інстытута кандыдат тэхнічных навук Алег Ігнатавіч Семянкоў, створана яшчэ адна сістэма аўтаматызаванай тэхнічнай падрыхтоўкі вытворчасці. Прыстасаванне ўводу тэхнічнай інфармацыі знешне падобна на кульман і працуе з дакладнасцю 0,125 міліметра. А на выхадзе знаходзіцца электронна-прамянёвы індыкатар, на экран якога паступае інфармацыя з машыны. Гэтую інфармацыю можна карэкціраваць, як і на «ІТАКАНЕ-альфа».



**пошукі і здзяйсненні**

**Гэтая дэталь—наладка для аўтаматычнага станка—зроблена аўтаматам па праграме, выдадзенай АСТПВ.**



Практычныя вынікі, атрыманыя ў інстытуце пры дапамозе аўтаматызаванай сістэмы тэхнічнай падрыхтоўкі вытворчасці (АСТПВ), пераканаўча сведчаць аб поспехах беларускіх кібернетыкаў. У лабараторыі кандыдата тэхнічных навук Барыса Іосіфавіча Сініцына, напрыклад, распрацаваны метады аўтаматызаванага канструявання фрэзаў, працяжак, свердзелаў і г. д. Раней канструктар траціў на адзін інструмент два-тры дні. Машына робіць разлік за адну мінуту (праўда, трэба дадаць, што падрыхтоўка інфармацыі для ЭВМ займае дваццаць мінут). Эканамічны эфект — 15 рублёў на адзін інструмент. Сапраўдны пераварот у гадзіннікавай вытворчасці адбываецца з прыходам АСТПВ. Каб сканструяваць чарвячную фрэзу для гадзіннікавых шасцерань, канструктар траціў дзевяць дзён. Прычым метады, якімі ён карыстаўся, былі недасканалыя. Машына ж з высокай дакладнасцю разлічвае гэту фрэзу за мінуту...

Перавага АСТПВ яшчэ і ў тым, што яна разлічвае самы аптымальны варыянт. Камп'ютар, калі яму правільна задалі праграму, не можа памыліцца. Акрамя таго, ён выдае тэхналагічную карту і праграму для станка-аўтамата... Вось дзе будучыня кібернетыкі!

АСТПВ ужо сёння заваёўвае прызнанне ў машынабудаўнікоў. Ёю карыстаюцца Мінскі трактарны завод і Мінскі завод аўтаматычных ліній, а ўсяго ў СССР—каля 30 прадпрыемстваў. Інстытуцкія распрацоўкі аўтаматызаваных метадаў канструявання зубчастых і чарвячных перадач прыняты як стандарт у машынабудаванні.

Калектыў Інстытута тэхнічнай кібернетыкі малады, як і сама кібернетыка. Нядаўнія выпускнікі радыётэхнічнага інстытута і БДУ імя У. І. Леніна «давучваюцца» на практычнай рабоце. А да іх ідуць па веды інжынеры-практыкі. Бо сёння кожны сапраўдны інжынер павінен ведаць магчымасці робатаў.

І традыцыйнае на парозе сталасці «кім быць» сёння ўжо трэба вырашаць не толькі з пункту гледжання сваіх схільнасцяў, а з улікам новых умоў, якія раскрывае ў разумовай працы кібернетыка.

**Валянцін ЖДАНОВІЧ.**

● Васіль КАСЦЮЧЭНКА

# СУСТРЭЧЫ НА ТРАСЕ

**Пасля дэмабілізацыі з арміі ў 1960 годзе я прыехаў на будаўніцтва Полацкага нафтаперапрацоўчага завода. Працаваў шафёрам, мантажнікам, электразваршчыкам, брыгадзірам слесараў-мантажнікаў, майстрам, галоўным дыспетчарам агульнабудаўнічага ўпраўлення, начальнікам прарабскага ўчастка, завочна вучыўся. Зараз працую майстрам на будаўніцтве Мазырскай ЦЭЦ. Там, у Наваполацку, і тут, у Мазыры, мне шчасціла на сустрэчы з цікавымі—сумленнымі і душэўна прыгожымі—людзьмі. Яны і сталі героямі маіх навел.**

## ЛЯТУН

Начальнік аддзела кадраў доўга і засяроджана разглядаў працоўную кніжку Міхася Пашкова. Урэшце ён падняў галаву і кінуў на хлопца позірк, які не абяцаў нічога добрага:

— За доўгім рублём ганяешся? Больш чым на тры месяцы нідзе не прырастаў? Бач ты яго! Па працоўнай кніжцы геаграфію Саюза вывучаць можна: Сібір, Казахстан, Кольскі паўвостраў... Ну а да нас, у Наваполацк, чаго?

Міхась маўчаў, пераступаючы з нагі на нагу. Зрэшты, што тут казаць? Каб яшчэ жанчына ці якая-небудзь маладзіца, то хоць пажартаваць можна было б. А з гэтым сівавалосым не пажартуеш: абрэжа, як піць даць! Сур'ёзны занадта.

— Відаць, што ты за птушка! Лятун вышэйшай пробы!—падсумаваў начальнік і адсунуў убок Міхасёвы дакументы.

— Так ужо атрымлівалася, што пераходзіў з месца на месца. Клімат не падыходзіў...

Хацеў Пашкоў сказаць нешта яшчэ, але начальнік аддзела кадраў не даў дагаварыць:

— Наш клімат цябе таксама не задаволіць. Тут не Сочы! А галоўнае—не патрэбны нам шафёры!

— Як гэта—не патрэбны?—не зразумеў Міхась.

— А вось так! Не патрэбн-ы-ы!

Такога хлопец не чакаў. Пакажыце, назавіце яму такую аўтабазу, якой былі б не патрэбны шафёры! Ды яшчэ тут, дзе будоўля толькі-толькі пачынаецца! «Што ён, дурнем мяне лічыць?»

— Бярыце слесарам-рамонтнікам.

— І слесары не патрэбны!

— Ну не!—Міхась не стрываў, узгарэўся.—Не на таго натрапілі! Маю я права на працу? Маю! От і давайце работу! А не, дык я на вас управу найду!

Вось так, са скандалам, Міхась Пашкоў быў залічаны шафёрам аўтабазы. На другі дзень ён ужо сядзеў у кабіне МАЗа—вазіў мантажнікам жалезабетонныя панелі. А яшчэ праз некалькі дзён быў у брыгадзе мантажнікаў сваім чалавекам.

Мантаж стодваццацікватэрнага дома па Маладзёжнай вуліцы заканчваўся. Прыйшоў дзень, калі электразваршчыца Аленка Ізотава прыварыла апошнюю парапетную пліту.

— Пачнём перабазіравацца,—сказаў брыгадзір і, пачухаўшы патыліцу, уздыхнуў. — Разборка, перавозка, зборка крана зойме не менш двух тыдняў. Значыць, другі наш дом пачакае. А склад завода затаварвны сценавымі панелямі—хоць завод спыняй...

Міхась, задзёршы голаў, доўга глядзеў на сталёвую аграмадзіну.

— А калі яго зусім не разбіраць?—раптам сказаў ён нібы сам сабе.—Адняць ад партала стралу і хадавыя цялежкі...—Убачыўшы, што да яго прыслухоўваюцца, растлумачыў:—Я кажу, каб не разбіраць, а толькі стралу адняць і цялежкі... Мы на Кольскім буравыя вышкі так перацягвалі. Праўда, яны крыху меншыя...

Думка спадабалася. Пайшлі да галоўнага інжынера. Той пагадзіўся: у прынцыпе, кран можна транспартаваць, хоць, праўда, ніхто дагэтуль не перавозіў кран на тралеры. Рызыкоўна!

— А калі рызыкнуць?—насядаў Міхась.—Ніхто не перавозіў, а мы перавязём! Трэба ж некаму пачынаць!

На тым і парашылі. Да МАЗа прычапілі цяжкавагавыя цялежкі з кранам, Міхась сеў за руль, паціхеньку крануў з месца. Мантажнікі шапкі ўгору: пайшло! Яно і праўда—пайшло. Метр за метрам пасоўваўся кран да новай будаўнічай пляцоўкі. І толькі, бадай, адзін Міхась Пашкоў па-сапраўднаму ведаў, як цяжка даваліся гэтыя метры, як нялёгка было за рулём амаль трыццаціметровага аўтапоезда. Ды каб жа яшчэ дарога! А то ж—як пасля бамбёжкі! Добра, бульдозер выручаў...

І на пяты дзень кран падняў першую панель на будаўніцтве новага дома ў трэцім мікрараёне.

У той жа дзень з дыспетчарскай Пашкова выклікалі ў кантору аўтабазы.

— Ты?!—здзіўлена ўтаропіўся на яго начальнік аддзела кадраў.—Ну, герой, атрымлівай узнагароду.

І падаў Міхасю наручны гадзіннік з памятным надпісам.

...Карацей кажучы, асеў Пашкоў на Нафтабудзе. Спачатку думалі, што трымае яго тут пускавая прэмія. Але вось атрымана тая прэмія, атрымана трэцяя, чацвёртая палучкі, а Міхась нікуды не збіраецца ўцякаць. І толькі, бадай, адна Аленка Ізотава здагадваецца, якая ў тым прычына.

## СІНІЦА

Прыехала настаўніца—росту невялічкага, кволенькая, як падлетак. Прычоска—па апошняй модзе, блузка—нейлон, спаднічка—парасонік.

— Скончыла інстытут. Вось накіраванне ў вашу школу.

Сакратар камітэта камсамола будоўлі паклаў тэлефонную трубку на рычагі.

— Член ВЛКСМ?

— А як жа!

— Прозвішча?

— Дзянісава.

— Дык вось, таварыш Дзянісава, павінен прасіць у вас прабачэння. Фронт работ для вас не падрыхтавалі. Не паспелі.

— Не разумею...

— Ну, школу мы яшчэ не пабудавалі. Месяцы на два яшчэ работы. У вас ёсць мама?

— Ёсць, але...

— Вось і добра, што мама ёсць. Едзьце да яе, а да пачатку навучальнага года здадзім школу і вас сюды паклічам.

Яна сказала:

— Эх вы, бюракрат!

І пайшла, грымнуўшы дзвярыма.

— Ну і сініца!—толькі і прамовіў услед ёй сакратар.

...З парткома будаўнічага трэста пазванілі ў камітэт камсамола: прасілі вылучыць лепшага муляра на рэспубліканскую нараду маладых будаўнікоў. Сакратар пазваніў начальніку прарабскага ўчастка і перадаў просьбу парткома.

Прараб спытаў:

— Куды накіроўваць?

— Спачатку да мяне. Пагутарыць перад дарогай трэба.

Праз паўгадзіны ў пакой да сакратара камітэта камсамола зайшла дзяўчына: прычоска—па апошняй модзе, блузка — нейлон, спаднічка—парасонік.

— Таварыш Дзянісава? Настаўніца?

— Не, пакуль што—муляр. Школа яшчэ не дабудавана.

— Дык гэта вас?..

— Прараб сказаў зайсці да вас.

— Гм... Што ж вам сказаць? Ні пуху, як кажуць! І вось што яшчэ: дайце, я пацісну вашу руку...

## «ДЗЯКУЮ, ЛЮДЦЫ!»

Тэлеграма прыйшла такая: «Мазыр. Нафтахімбуд. Лунегаву. Сустракай дзесятага. Поезд 122. Вагон 6. Еду дзецьмі. Цалую. Маша.»

І трэба было ж стацца: да прыходу поезда заставалася некалькі хвілін, а Лунегаў—на прампляцоўцы, за дваццаць кіламетраў ад горада. Начальнік будупраўлення Павел Паўлавіч Ярцаў выклікаў вадзіцеля свайго «газіка» Канавалава:

— Баявое заданне, Уладзімір Іванавіч. Трэба сустрэць на вакзале жонку нашага брыгадзіра Лунегава. Яна едзе з Мінска ў шостым вагоне.

— Як я пазнаю яе?

— Арыентуйся на дзяцей. З ёй едуць дзеці. А я паеду на будпляцоўку, вазьму Лунегава і ўвечары прывязу яго ў абдымкі жонкі.

Так начальнік і зрабіў. Толькі не ўсё атрымалася так, як яму хацелася. Калі ён адшукаў Лунегава і паведаміў, што прыехала жонка, той аж падскочыў ад радасці:

— Жонка? Прыехала? От малайчына!

— І дзяцей прывезла,—дадаў начальнік упраўлення.

— Дзяцей? Сына, значыць, таксама прывезла?

— Сына? У тэлеграме сказана: еду з дзецьмі. Ды ты сядай, на месцы ўсё высветліш, сын у цябе ці сыны,—усміхнуўся Павел Паўлавіч.

Прыехалі ў кантору. На ганку — Канавалаў. Усміхаецца:

— Ну, Лунегаў, дочкі ў цябе — пісаныя красуні!

— Дочкі? Якія дочкі? Дзе жонка?

— У магазін пайшла... Ды вунь яна, лёгкая на ўспамін.
Лунегаў азірнуўся, утаропіўся ў жанчыну, затым паціснуў плячыма:
— Нічога не разумею! Гэта зусім не мая жонка!
Толькі цяпер Павел Паўлавіч схамянуўся:
— Чакай, чакай! У нас жа яшчэ адзін Лунегаў быў, электразваршчык...
— Правільна, мой муж—электразваршчык,—сказала ўзрадавана жанчына.—Але чаму вы кажаце—быў?
— Паехаў ён адсюль...
— Як—паехаў? Куды?
— Ды вось так. Сабраўся і паехаў. Не спадабаласе яму ў нас. Падаўся ў «дзякую» брыгаду.
— У «дзякую»?
— Яны па калгасах хаты рубяць, бадзяжнічаюць ад вёскі да вёскі, вось і празвалі іх «дзікімі».
Жанчына заплакала:
— Што мне рабіць? Мы—сюды, да яго, а ён—калыміць падаўся... Ну, нічога, я вярну яго сюды, бадзягу няшчаснага!
Яна развязала ражок хусткі, пералічыла грошы, уздыхнула:
— Малавата... Вы, даруйце, начальнікам тут? Пазычце грошай на дарогу: Прыеду—адраблю!
— А, думаеце, вернецца муж?—спытаўся Павел Паўлавіч.
— Вернецца! Абавязкова вернецца!
Канавалаў, які дагэтуль стаяў моўчкі, прапанаваў:
— А дзяцей пакуль што ў мяне пакіньце. Куды вы іх з сабой пацягнеце...
Жанчына зноў расплакалася:
— Дзякую, людцы...
Праз тыдзень яна вярнулася на будоўлю з мужам. Лунегаў-брыгадзір сказаў Лунегаву-электразваршчыку:
— Ганарыся жонкай, брат! Яна з цябе чалавека зробіць.

## ЗЯЛЁНАЯ ВУЛІЦА

— Праз гадзіну ты павінна быць на крэкінгу. Запомні: кісларод у мантажнікаў канчаецца!
— Помню!—махнула рукой дыспетчару мантажнага ўпраўлення Надзя Малейка.
На будоўлю яна прыехала зусім нядаўна. І з першых жа крокаў не пашанцавала: пайшоў дождж. Ды такі абложны, што хоць ты плач. Дарога раскісла—не праехаць! Не дарога, а сапраўдная калатуша.
І сёння вось: толькі выехала, а ўжо нервуецца. І як тут не нервавацца! Матор на ўсю моц раве, а машына ледзь сунецца: дарога разбіта МАЗамі, пераарана гусеніцамі бульдозераў і трубаўкладчыкаў. А ледзь звернеш з каляіны—машына пад адхон спаўзае. Баранку не ўтрымаць, з радыятара вось-вось пара зашыпіць. А тут яшчэ—сустрэчныя машыны. Паспрабуй, не саступі ім каляіны! Хто іх ведае, тутэйшую шафярню. На выгляд дык усе злыя, ваўкамі глядзяць...
Толькі прапусціла Надзя самазвал з бетонам, а тут з-за паваротні МАЗ выскачыў і, не збаўляючы хуткасці, распырскваючы гразь, напрамкі шыбуе — лоб у лоб. «Нізавошта не саступлю,— са слязьмі на вачах вырашыла Надзя.—Хай аб'язджае!» Шафёр МАЗа засігналіў. Надзя рукой з кабіны махнула «Аб'язджай!» Заскрыгаталі тармазы, і МАЗ цяжка асеў-гайдануўся перад самым радыятарам Надзінага газона. Вусаты шафёр выскачыў з кабіны, закрычаў:
— Ану, давай дарогу!
Надзя крутанула баранку—машына рванулася ўправа і папаўзла юзам. Хапіла дзяўчына ручку тормаза, ды позна: газон нахіліўся набок, у кузаве гулка загрымелі балоны.
— Што там у цябе? — спытаў шафёр.
— Кісларод,— адказала Надзя.
— Эх ты, мазіла! А там людзі, напэўна, чакаюць!.. Новенькая, ці што?
— Новенькая...
— Яно і відаць!
Шафёр падчапіў буксірны трос і выцягнуў Надзін «газон» на сярэдзіну дарогі. На развітанне вусаты параіў: «Прычапі да кузава чырвоны сцяжок. Каб відно было, што вязеш. А то ездзяць тут на газонах усялякія... Гарэлку па магазінах развозяць».
«Добры чалавек,— падумала Надзя.— Адразу зразумеў». Прымацавала дзяўчына да борта кузава чырвоны сцяжок, і пачаўся цуд: сустрэчныя ЗІЛы і МАЗы ветліва саступалі дарогу Надзінаму газону.
«Вось гэта людзі!» — захаплялася дзяўчына.
Кісларод быў дастаўлены своечасова.

## СУСТРЭЧА НА ТРАСЕ

Стаяла на дзіва пагодлівая восень. Яснелі сонцам ціхія дні бабінага лета, калі чамусьці асабліва задуменна-самотныя становяцца вочы ў жанчын, калі жоўтая мяцеліца ласкава шаргаціць пад нагамі. Ціха і ў зале аўтобуснай станцыі. Пасажыры чакаюць аўтобусаў на вуліцы.
Поруч са мной на доўгай рабрыстай лаўцы сядзіць сімпатычная чарнавокая дзяўчына. Пакрысе разгаварыліся. Суседка пачала расказваць пра сябе...
— Жылі мы з сяброўкай, яе Клавай зваць, у Наваполацку. Працавалі на будаўніцтве нафтаперапрацоўчага бетоншчыцамі. Памятаю — быў канец красавіка. Мы ўжо жаўранкаў слухалі... Дык вось. Аднойчы бетанавалі мы падмуркі. Зранку пагода стаяла, а тут раптам неба пачало мурзацца, а неўзабаве такі лівень уліў—як улетку. Да канца змены на нас сухой ніткі не было. Сабраліся дадому ісці, ажно бульдозер падышоў — блокі падцягнуў. Вырашылі на другую змену застацца. Ну і назаўтра ў Клавы тэмпература: ангіна ў цяжкай форме. Паклалі яе ў бальніцу ў Полацку. Давялося мне амаль шэсць тыдняў ездзіць туды з Наваполацка. Аднаго разу купіла ёй апельсінаў і пралічылася: ні капейкі не засталося на дарогу. Даеду, думаю, на спадарожнай. Стаю на скрыжаванні, чакаю. МАЗ спыняецца. Шафёр крычыць: «Куды?»
— На Нафтабуд!
— Сядай!
А падножка высокая, а спадніча на мне вузкая — ніяк не ўзлезу. Раззлавалася я. «Чаго глядзіш, кажу, памажы!» Ну, ён выскачыў з кабіны, памог мне. Селі, паехалі. Раптам ён пытаецца:
— Чаго азіраешся?
З ходу на «ты» перайшоў. Ну, я таксама яму грубавата адказваю:
— А табе што?
— А як цябе зваць? — пытаецца.
— Наташа,— кажу.
— Хлусіш, вядома! Ведаем мы вас! — зыркае ён на мяне.
Праехалі кіламетраў з пяць. Спыніліся. Бачу—усміхаецца. І гэтак мякка кажа:
— Пап'ём вадзічкі.
Побач з дарогай — калодзеж. Вада халодная, прыемная. Папілі мы і далей паехалі. На Нафтабудзе развіталіся са мной. Падаў руку і сказаў:
— Праз некалькі дзён еду зноў па гэтаму маршруту.
Я ўсміхнулася:
— Запомню!
Некалькі разоў ездзіла я да Клавы ў Полацк, але яго больш не сустракала. І вось аднойчы выйшла з бальніцы, падышла да прыпынка, чакаю аўтобуса, ажно чую, нехта крычыць:
— Наташа!
Ну, я, вядома, не азірнулася — мяне ж не Наташай завуць. А ён падыходзіць, кажа:
— Прашу ў машыну.
Ужо ў кабіне паківаў галавою:
— Значыць, цябе не Наташай завуць. Значыць, схлусіла. Яшчэ раз схлусіш — ніколі не падвязу.
— Лена я,— кажу, смеючыся.
А наперадзе нічога не відно. «Дворнікі» не паспяваюць ваду зганяць са шкла — такі дождж сячэ. І раптам наперадзе, на ўзбочыне, стаіць газон. У кузаве школьнікі ў белых сарочках з піянерскімі гальштукамі. Шафёр корпаецца пад капотам. Мой сусед прытармазіў, адчыніў дзверцы:
— Давай буксір!
Шафёр газона махнуў рукой убок:
— Мне туды, браток! Не па дарозе!
— Куды гэта «туды»? Далёка?
— Кіламетраў з дванцаць. А мо і з гакам.
Я назіраю, што будзе рабіць мой падвозчык. Цяжка паверыць, што ён з пароды жаласлівых. Хварсун! Маўляў: глядзі, вось які я! Думаю так, а ён між тым МАЗ свой да ўзбочыны крутануў, выцягнуў з-пад сядзення шынельку, шпурнуў дзецям у кузаў, пяцёра самых малых перацягнуў да сябе ў кабіну, узяў газон на буксір і... рушыў па прасёлку.
Ехалі мы ехалі, буксавалі некалькі разоў. Урэшце селі так, што ні з месца. Насек мой хварсун галля — нейк вылезлі з лужыны. Шафёр газона кажа: «Тут ужо недалёка. Пайду ў калгас, трактар прыганю». А ён злосна так адказвае: «Пакуль ты той трактар прыганіш, дзеці акалеюць. Лепш падумай, каб у другі раз свечы запасныя былі».
«Эге, думаю, раз злуешся, значыць, не прыкідваешся, значыць, ты і праўда пашкадаваў дзяцей».
Прыехалі мы тады на Нафтабуд, развіталіся, і стала мне нібы сумна ад таго. Неблагі ўсё-такі ён хлопец, думаю...
Мінула восень, затым зіма, зноў прыйшла вясна, але больш яго я не сустракала. А ўлетку пакінула Наваполацк — прыехала сюды, у Мазыр, на Нафтахімбуд. І вось іду колькі дзён назад на аўтобусную станцыю, назіраю на мазырскіх модніц і чую:
— Лена! Лен-к-а-а!
Голас, здаецца, знаёмы, але што з таго? Я ж ніякая не Ленка! Пакуль дайшло да мяне, што гэта ён, мой полацкі хварсун, мяне кліча, азірнулася, дык яго МАЗ ужо схаваўся за павароткай. І я ўспомніла яго словы: «Яшчэ раз схлусіш—ніколі не падвязу!» Думала, што пажартаваў. Доўга стаяла на прыпынку, прапусціла некалькі аўтобусаў. Але ён не вярнуўся...

■ ■ ■



# ЯГО ВУЧЫЛА НАША ЗЯМЛЯЧКА

Юрыя Гагарына ведае ўвесь свет. Гэты просты, усмешлівы хлопец, які першы пабыў у космасе, назаўсёды застаўся ў памяці чалавецтва. Усё, што звязана з яго імем, блізкае нам і дарагое.

Нарадзіўся ён самым звычайным хлопчыкам. Касманаўтам, героем яго зрабілі людзі, што жылі поруч з ім, школа, настаўнікі, сябры.

Усе мы вучыліся. І ў кожнага быў свой настаўнік. Любімы. Каму давяраеш самае патаемнае і дарагое. З каго бярэш прыклад. Быў такі чалавек і ў Гагарына. Нядаўна выдавецтва «Молодая гвардия» выпусціла кнігу Лідзіі Абухавай «Любімец веку». Кнігу цудоўную — аповесць пра Гагарына, аповесць пра людзей і пра час, што нараджаў першых касманаўтаў. Шмат старонак у ёй прысвечана Надзеі Антонаўне Бранько, былой выкладчыцы гісторыі, сакратару партыйнай арганізацыі Саратаўскага індустрыяльнага тэхнікума, дзе чатыры гады вучыўся Юры Гагарын. У кнізе прыгадвалася, што Надзея Антонаўна — наша зямлячка, з-пад Гродна. Я адразу ж адшукаў яе, папрасіў напісаць пра сябе, расказаць пра сустрэчы з Юрыем Гагарыным. Адказу доўга не было. І вось, нарэшце, паштальён уручыў мне ёмістую бандэроль.

З нецярпеннем прабягаю першыя радкі: «Выбачайце, што затрымалася з адказам на ваш ліст. Спачатку стала пісаць вельмі падрабязна. Спісала пяць сшыткаў. А потым падумала: навошта столькі падрабязнасцяў? Напісала самае галоўнае, але атрымалася зноў-такі зашмат. Цэлы сшытак. Пасылаю некалькі фотаздымкаў. Можа, яны дапоўняць мае ўспаміны. З павагай Н. Бранько». Усё, што было напісана ў сшытку, падалося мне надзвычай цікавым, і таму прыводжу пісьмо амаль цалкам. Вось што пісала Надзея Антонаўна:

**«Памяць аб цудоўным чалавеку**

Ад вашага пісьма стала цёпла на душы. Хоць я і была яшчэ малечай, калі нам давялося развітацца з Беларуссю, ды пачуццё замілавання да родных мясцін застаецца, відаць, у чалавека назаўсёды. Я нарадзілася ў 1910 годзе ў вёсцы Імяніны Гродзенскай губерні. Неўзабаве памёр бацька, і маці засталася з пяццю дзецьмі на руках. А тут яшчэ вайна. Восенню 1915 года мы эвакуіраваліся. Лёс закінуў нас у Астраханскую вобласць, у сяло Балхуны. Каб пракарміць нас, маці парабкавала, мыла бялізну ў багацеяў, прала воўну. Падрастаючы, мы таксама ішлі парабкаваць.

Пашчасціла мне трапіць у школу. А галоўнае—пашчасціла на сустрэчу з добрым чалавекам: настаўніцай Таццянай Якімаўнай Аўдзеевай. І вельмі захацелася стаць такой, як яна. Працавала і вучылася. Цяжкі то быў час. Памятаю, была ў аднаго кулака за няньку. Але ён прымушаў мяне быць пагоншчыцай коней на бахчы. Працавала ад усходу да заходу сонца. Гаспадар тры разы коней мяняў, а я не мела права прысесці на хвілінку.

Зарабіўшы крыху грошай, зноў ішла ў школу. Скончыла сем класаў, паступіла ў педвучылішча. Адтуль трапіла ў горад Вольск. Пасля мне далі пуцёўку ў Саратаўскі педінстытут. Так я трапіла ў Саратаў.

З Юрыем Гагарыным сустрэлася ў 1951 годзе. Ён абраў для сябе далёка не касмічную спецыяльнасць—ліцейшчыка. Пры паступленні ў наш тэхнікум (паступаў ён, дарэчы, з залатым медалём) напісаў у сваёй заяве: «Я жадаю прынесці як мага больш карысці сваёй Радзіме. Усе патрабаванні абавязваюся выконваць старанна і добрасумленна».

Як бачыце, васемнаццацігадовы юнак ужо глыбока задумваўся над тым, як прынесці Радзіме найбольш карысці. Сярод навучэнцаў-аднакурснікаў ён быў самы малодшы. У тэхнікуме вучыліся пераважна былыя франтавікі, людзі, што доўгія гады працавалі на вытворчасці. У многіх з іх былі ўжо такія сыны, як Юры. Ды вылучаўся ён не толькі сваёй маладосцю. Галоўнае—ён вучыўся надзвычай добрасумленна. Ён быў дысцыплінаваны, працавіты, ніколі не спыняўся на паўдарозе, даводзіў любую справу да канца. Таму і быў круглым выдатнікам. Гагарын не падзяляў вучэбныя прадметы на галоўныя і пабочныя. Аднолькавую ўвагу аддаваў ён і фізіцы, і алгебры, і літаратуры, і гісторыі. Шмат чытаў, актыўна ўдзельнічаў у грамадскай рабоце, быў намеснікам сакратара камсамольскай арганізацыі ліцейнага аддзялення. Любіў спорт, мастацкую самадзейнасць.

Вельмі часта выступаў з дакладамі на вучэбна-навуковых канферэнцыях па матэматыцы, фізіцы, гісторыі СССР, літаратуры. Усё гэта гаворыць аб тым, наколькі шырокае было кола яго інтарэсаў. Але ён не быў аскетам, гэтакім «узорным» хлопчыкам. Надараліся студэнцкія «свавольствы» і ў Гагарына. Памятаю такі выпадак. У дружнай сям'і ліцейшчыкаў старастам быў ужо сямейны, сталы чалавек, здаецца, Някрасаў. Ён ленаваўся вучыцца, і маладзейшыя аднакурснікі часта «выратоўвалі» яго. Дык вось, на экзамене па педагогіцы Гагарын узяў білет і сеў з ім за адзін стол. Юры і згледзець не паспеў, як Някрасаў «зграб» сабе ягоны білет. Выкладчык заўважыў штосьці падазронае ў паводзінах студэнтаў і тут жа выклікаў да стала Гагарына. Давялося яму адказваць па чужым білеце без падрыхтоўкі.

На чацвёртым курсе ў Юрыя паявілася новае захапленне—аэраклуб. Толькі вельмі дужыя, фізічна моцныя хлопцы маглі спалучаць вучобу ў тэхнікуме з заняткамі ў аэраклубе, бо ў аэраклуб трэба было хадзіць ноччу, а ў дзевяць раніцы пачыналіся лекцыі ў тэхнікуме. І тут Гагарын аказаўся на вышыні і ўжо тады зрабіў свой першы крок па дарозе ў космас. А што гэта быў менавіта крок да космасу, сведчыць такі выпадак.

Памятаю, здавалі яны апошні экзамен—па гісторыі КПСС. Пасля экзамена ўсе зайшлі да мяне. Разгаварыліся.

— Вось,— сказала я ім тады,—засталося вам абараніць дыпломныя праекты, і вы—тэхнікі. З цягам часу вы станеце інжынерамі, дырэктарамі рамесных вучылішчаў, начальнікамі цэхаў, а, магчыма, нават вучонымі. Зараз перад вамі ўсе дарогі адкрыты.

Хлопцы пачалі марыць. Запомніўся Юра. Напэўна, таму, што ў яго былі планы не такія, як у іншых.

— А мяне, Надзея Антонаўна, вы ўбачыце лётчыкам-выпрабавальнікам,—нечакана сказаў ён.—Трэба ж камусьці і справу Валерыя Чкалава працягваць.—Юра прыклаў левую руку да грудзей (была ў яго такая звычка) і проста, светла, па-юначы ўсміхнуўся.

Я тады паспрабавала адгаварыць Юрыя:

— Ну і выбраў сабе прафесію! Ніколі не бываць дома, вандраваць з месца на месца...

— І няхай! Няхай цяжка, але гэта—мая мара. І, выбачайце, Надзея Антонаўна, вы ж вучылі нас не баяцца, не палохацца цяжкасцяў!..

У чэрвені 1955 года ён атрымаў дыплом з адзнакай, у верасні скончыліся заняткі ў аэраклубе. Тут выпускнікам і ўручылі чыгуначныя білеты да Арэнбурга. Юры паехаў у вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча.

Перад палётам у космас Гагарын завітаў у Саратаў. Ён адразу ж зайшоў да нас, у тэхнікум. Сустрэліся мы з ім у вестыбюлі. Я, прызнаюся, не адразу і пазнала яго ў вайсковай форме. А ён смяецца:

— Вось я і лётчык. Памятаеце нашу гаворку пасля экзаменаў?

Мінула ўсяго некалькі месяцаў пасля той сустрэчы, і свет даведаўся аб яго найвялікшым подзвігу, аб яго касмічным палёце. Ён стаў дарагі і блізкі для ўсіх, а нам, людзям, што ведалі яго, дарагі бясконца.

Юры Аляксеевіч Гагарын пабываў у многіх краінах свету. Яго зямны

маршрут быў у шмат разоў даўжэйшы, чым касмічны. Яго ўсюды цёпла віталі. Ён стаў любімцам веку. Але гераічны подзвіг і сусветная слава не ўскружылі Гагарыну галавы. Юра заставаўся ранейшым — добрым, уважлівым, чулым, простым чалавекам.

5 студзеня 1965 года я зноў сустрэлася з Юрыем Аляксеевічам. Вось як гэта было. Споўнілася 20 гадоў нашаму тэхнікуму. На юбілей былі запрошаны ўсе выпускнікі. Разам з жонкай прыехаў і Юры Аляксеевіч. Распрануўшыся ў кабінеце дырэктара, ён зайшоў у настаўніцкі пакой і ўбачыў мяне. Мы абняліся, і Гагарын сказаў:

— Дарагая Надзея Антонаўна, я заўжды памятаю вас. Вы былі для мяне нібы родная маці. Спадзяюся, што вы калі-небудзь пагасцюеце ў нас, пабачыце маіх дачушак. Яны вас ведаюць, я шмат расказваў ім пра вас...

Гэтыя словы першага касманаўта былі для мяне самай высокай узнагародай. Я адчула асабліва вялікую радасць і нават пэўны гонар за тое, што ў фармаванні будучага касманаўта ёсць часцінка і маёй працы.

У той жа дзень у актавай зале тэхнікума адбыўся хвалюючы мітынг. Зала была, вядома ж, паўнюсенькая — як зачыніць. І калі Гагарын падняўся на трыбуну, доўга не сціхалі апладысменты. Ён выступаў з той жа трыбуны, з якой, будучы студэнтам, рабіў навуковыя даклады.

Седзячы ў прэзідыуме і слухаючы яго, я ўспаміналa Юрыя-трэцякурсніка, калі ён рабіў даклад пра вялікіх людзей зямлі рускай — Мініна і Пажарскага — на канферэнцыі па гісторыі. У сваім дакладзе тады ён прывёдзіў словы Бялінскага: «Вось два волаты стагоддзяў, што абяссмерцілі свае імёны палымянай любоўю да любай Айчыны. Яны дзеля яе ахвяравалі ўсім: любоўю, жыццём, крывёю. Можа быць, час разбурыць гэтую бронзу. Але імёны іх не знікнуць у акіяне вечнасці».

Так, думала я, імёны іх не знікнуць у акіяне вечнасці, гэтак жа, як застанецца бессмяротным і імя майго выхаванца — Юрыя Аляксеевіча Гагарына.

Увечары Юры Аляксеевіч запрасіў мяне да сябе на таварыскую вячэру. Я называла яго зараз Юрыем Аляксеевічам. Ён заўважыў гэта і папрасіў:

— Надзея Антонаўна, які ж я вам Юры Аляксеевіч? Завіце мяне гэтак жа, як і раней.

Потым, пасля вячэры, мы сядзелі ўтраіх — Юры Аляксеевіч, яго жонка Валянціна Іванаўна і я. Юры Аляксеевіч прыгадваў, як прыходзіў да нас, як гуляў з маім мужам, Юрыем Фёдаравічам, таксама выкладчыкам тэхнікума, у шахматы. Кватэра ў нас была маленькая, цеснаватая, і яны звычайна гулялі ў калідоры на прыступках альбо ў двары на бервяне.

Праводзячы мяне, Юры Аляксеевіч дапамог мне апрануцца, абняў, пацалаваў і запрасіў прыязджаць летам да яго ў госці...

Калі я ішла на пенсію, Юры і яго сябра па тэхнікуме і ваенна-паветранай акадэміі Віктар Парахня прыслалі мне тэлеграму. Яны пісалі: «Слаўны ваш жыццёвы шлях. Тысячы юнакоў і дзяўчат з вашых вуснаў спазналі глыбіню гісторыі нашай Радзімы. Дзякуем вам за атрыманыя веды. Віншуем з заслужаным адпачынкам. Жадаем доўгіх гадоў жыцця». Гэтую тэлеграму я берагу як самае дарагое, што ёсць у мяне. Яна — памяць аб незабыўным, цудоўным чалавеку, які навечна праславіў нашу зямлю, нашу Радзіму...»

Вось і ўсё, што напісала мне Надзея Антонаўна Бранько. Пра жыццё Юрыя Аляксеевіча Гагарына напісана нямала. І тым не менш пісьмо ягонай настаўніцы дапамагае нам дапоўніць чалавечае аблічча першага касманаўта, убачыць новыя, дарагія рысы незабыўнага чалавека.

**Аляксандр ЧАРНЯК.**

г. Гродна.

■ ■ ■

---




## 1973

### ЛІПЕНЬ

**5**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) В. Г. Панамарова, пісьменніка.

**11**

100 гадоў з дня нараджэння У. Д. Бонч-Бруевіча (1873—1955), савецкага дзяржаўнага і партыйнага дзеяча, гісторыка і літаратуразнаўцы.

95 гадоў з дня нараджэння Я. А. Міровіча (Дунаева) (1878—1952), драматурга, народнага артыста БССР.

**12**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) Б. М. Смольскага, вучонага-фізіка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) І. М. Ільюшына, вучонага-філосафа, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

30 гадоў назад (1943) Цэнтральны штаб партызанскага руху выдаў загад «Аб партызанскай рэйкавай вайне на камунікацыях ворага».

**19**

20 гадоў з дня ўступлення ў строй (1953) міжкалгаснай гідраэлектрастанцыі «Дружба народаў» на возеры Дрысвяты. З 1964 года ўключана ў Беларускую энергетычную сістэму.

**24**

75 гадоў з дня нараджэння (1898) Р. Я. Кобеца, драматурга, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**25**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) М. Д. Несцяровіча, вучонага-біёлага, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**30**

70 гадоў з дня адкрыцця (1903) II з'езда РСДРП.

**ЛІПЕНЬ**

75 гадоў назад нарадзіўся С. П. Сямашка (Сцяпан Чуткі) (1898—1965), беларускі пісьменнік.



В. Г. Панамароў.



Я. А. Міровіч (Дунаеў).

Р. Я. Кобец.



І. М. Ільюшын.



Б. М. Смольскі.



● Ніл ГІЛЕВІЧ

# НЕ ЗАБЫВАЦЦА ПРА ВЫТОКІ

### РОЗДУМ УГОЛАС АБ ЛЁСЕ ТРАДЫЦЫЙНАЙ НАРОДНАЙ ЛІРЫКІ

Аднойчы ў Доме творчасці імя Якуба Коласа мы сядзелі гуртам перад тэлевізарам і слухалі канцэрт песні ў выкананні майстроў мастацтва. Песні былі цікавыя—яны належалі таленавітым кампазітарам і паэтам, выканаўцы былі выдатныя, і ўсе прысутныя—людзі, якія самі служылі паэзіі і мастацтву,—слухалі канцэрт з прыемнасцю. Менавіта—з прыемнасцю, з роўным і спакойным задавальненнем. Калі ж з блакітнага экрана прагучала даўняя народная песня пра долю салдата—усе моўчкі пераглянуліся.

— Вось так,—прамовіў нарэшце адзін са старэйшых.—Толькі ў супастаўленні бачна, якая ўсё-такі істотная розніца паміж проста таленавітым і вялікім!

Не прыемнасць і не задавальненне пакінула ў душы даўняя народная песня. О, не! У душы было глыбокае і балючае ўзрушэнне, а на вачах былі слёзы. Адбылося спатканне з цудам—самае шчаслівае з усіх спатканняў, якія суджаны чалавеку на зямлі. І гэтым цудам была даўнейшая, забытая песня—невядома калі і кім складзеная, песня, якая дасталася нам у спадчыну ад дзядоў і прадзедаў...

У той вечар мы доўга гаварылі пра фальклор...

Фальклор, у тым ліку і традыцыйная народная лірыка—эстэтычная спадчына многіх пакаленняў працоўных. Гэта—частка той «сумы ведаў», тых духоўных багаццяў, якія выпрацавала за стагоддзі і тысячагоддзі чалавецтва і якія нам неабходна засвоіць, бо толькі тады, паводле вядомых слоў У. І. Леніна, можна паспяхова будаваць камунізм.

Беларуская народная лірыка—багацце надзвычай каштоўнае і своеасаблівае. У ёй сканцэнтраваны не столькі запас ведаў, колькі запас пачуццяў (сацыяльных, гістарычных, маральных і іншых), якія валодаюць здольнасцю перадавацца нам і выклікаць адпаведны «зрух» у душы і сэрцы. У ёй увасоблены ў паэтычных вобразах думкі і перажыванні чалавека працы, яго пакуты і радасці, надзеі і мары, яго адвечныя імкненні да міру і шчасця, праўды і справядлівасці на зямлі.

Вядомы кампазітар і прапагандыст народнай песні К. Масаліцінаў пісаў нядаўна на старонках «Правды»: «З глыбінь народных бярэ вытокі песня— наша гордасць. Ці ж дапушчальна забывацца пра гэта тым, хто займаецца музычным выхаваннем моладзі, прапагандай песеннага мастацтва?! Наш грамадзянскі абавязак і вялікая павіннасць—з павагай, беражліва адносіцца да песеннага багацця народа» («Правда», 31 кастрычніка 1972 г.).

Што ж менавіта з гэтага багацця можа быць скарыстана намі сёння? Якія «пачуцці і думкі» з'яўляюцца для нас несумненнай каштоўнасцю і ў чым заключаюцца іх ідэйна-мастацкія вартасці?

Цікавы матэрыял для роздуму, вывадаў і абагульненняў даюць назіранні над бытаваннем народнай лірыкі ў сучасных умовах, над лёсам яе асобных відаў і жанраў у сувязі з тымі карэннымі пераменамі, якімі характарызуецца сацыяльна-эканамічнае, палітычнае і культурнае жыццё беларускага народа ў паслякастрычніцкі перыяд.

Працэс заняпаду і адмірання традыцыйнай песеннай паэзіі, асабліва абрадавай, пачаўся даўно—пра гэта пісалі фалькларысты і этнографы яшчэ ў 70—90-х гг. мінулага веку—амаль сто гадоў назад. У Шэйна, Раманава, Карскага, Янчука і ў іншых даследчыкаў народнага побыту і творчасці мы знаходзім пацвярджэнне, што ў сувязі з развіццём капіталістычных адносін і выкліканай гэтым ломкай усяго грамадскага ўкладу і асабліва—патрыярхальнага вясковага ўкладу ідзе разбурэнне адвечных маральных «апор», сямейна-бытавых абрадаў і звычаяў, старажытных святкаванняў і гульняў, а разам з гэтым—затуханне жывых вуснапаэтычных традыцый, занядбанне і ігнараванне старой народна-песеннай спадчыны, адмаўленне яе мастацкіх вартасцяў перад тварам і на карысць новай эстэтыкі. Гэты працэс мастацка-паэтычнага пераўзбраення грамадства, а больш дакладна—агромністай масы сялянства і гарадскога люду, бачыўся тагачасным даследчыкам настолькі інтэнсіўным, што ў іх галасах гучала шчырая трывога за лёс традыцыйнай вуснай паэзіі народа. Яны заклікалі паспяшацца са збіраннем і запісам твораў фальклору, асабліва такіх яго архаічных пластоў, як абрадавыя песні, таму што не сёння-заўтра ўсё гэта згіне, адыдзе ў нябыт. Трывога гэтых нястомных рупліўцаў на ніве народнай паэзіі была недарэмнай, хаця мы і мусім адзначыць: іхняе «не сёння-заўтра» расцягнулася на цэлую сотню гадоў. Старыя фалькларысты, з аднаго боку, крыху перабольшвалі сілу і тэмп, з якімі будзе разбурацца і занепадаць традыцыйная народная творчасць; яны не ўлічвалі, што абнаўленне і перабудова эстэтычных поглядаў і густаў шырокіх працоўных мас наткнецца на такую перашкоду, як амаль пагалоўная непісьменнасць гэтых жа мас ва ўмовах капіталізму, недаступнасць для іх кнігі, тэатра і іншых відаў прафесійнага мастацтва. З другога боку, яны не маглі прадбачыць, што карэнныя перамены ў сацыяльна-эканамічным і грамадскім ладзе краіны, далучыўшы мільённыя масы працоўных да асветы і культуры, прымусяць паглядзець іначай на многія старыя традыцыі, звычаі і на традыцыйную вусную паэзію. Іначай паглядзець і іначай—разумна, па-гаспадарску—паставіцца да яе. Апрача таго, яны крыху недаацэньвалі, відавочна, жыццяздольнасць самой гэтай паэзіі, абумоўленую яе высокімі ідэйна-мастацкімі вартасцямі, глыбокай чалавечнасцю зместу і дасканалым хараством формы.

Што можна сказаць пра сённяшні стан традыцыйнай беларускай народна-песеннай лірыкі, пра яе жыццё і ўмовы бытавання, пра лёс яе асобных відаў і жанраў? Што змянілася за апошнія дзесяцігоддзі, што мяняецца і ў якім кірунку развіваюцца гэтыя перамены? Ці жыве яна сёння наогул, ці бытуе—старая традыцыйная песня? А калі жыве і бытуе—дык дзе і як, у якім асяроддзі і ў якіх маштабах, і якая можа яе чакаць будучыня, якая перспектыва? Усё гэта пытанні не марныя і не простыя, вычарпальны адказ на іх могуць даць толькі ўсебаковыя даследаванні многіх этнографаў і фалькларыстаў. Мы абмяжуемся ўсяго некаторымі канстатацыямі і меркаваннямі, якія, на наш погляд, з гэтых канстатацый вынікаюць.

Пачнём з таго, што ў Беларусі традыцыйная лірычная песня яшчэ жыве, яшчэ бытуе, і нават даволі шырока, хаця і выцясняецца з ужытку сваёй магутнай саперніцай—сучаснай лірычнай песняй літаратурнага паходжання. Толькі ў фальклорным архіве кафедры беларускай літаратуры БДУ імя У. І. Леніна захоўваецца каля дваццаці тысяч песенных тэкстаў, і ўсе яны сабраны, можна сказаць, у самы апошні час—на працягу 1961—1972 гг. А гэта ж толькі нязначная частка таго, што сабрана за пасляваенны перыяд і захоўваецца ў іншых фальклорных архівах рэспублікі (архівы ІМЭФ АН БССР, Рэспубліканскага і абласных Дамоў народнай творчасці, Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, Саюза кампазітараў Беларусі, філалагічных факультэтаў ВНУ і інш.). Да таго ж вельмі важна адзначыць, што кожная фальклорная экспедыцыя ў той або іншы раён дае значную колькасць тэкстаў новых, невядомых па ранейшых публікацыях, або такія варыянты тэкстаў, якія маюць большую ці меншую самастойную ідэйна-мастацкую вартасць.

У цэлым у новых запісах песеннага фальклору беларусаў па-ранейшаму колькасцю пераважае абрадавая лірыка. І да гэтага часу, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя ўмовы (адміранне саміх абрадаў, старых свят і інш.), жывуць у душы вясковай жанчыны сотні і тысячы песень—вясельных, радзінных, вясновых, купальскіх, жніўных... Асабліва багата—як і ў часы Раманава, Шэйна і Федароўскага—прадстаўлены ва ўсіх новых запісах вясельныя песні. Адна з прычын, чаму яны аказаліся больш жыццяздольнымі ў параўнанні з іншымі, заключаецца ў тым, што да нядаўняга часу ў беларускіх вёсках захоўваліся, а сям-там і цяпер захоўваюцца некаторыя элементы старога вясельнага рытуалу. Даўно і зусім перасталі святкаваць «загуканне», або «заклІканне» вясны, рэдка дзе яшчэ святкуюць купалле, амаль зусім перасталі хадзіць калядоўшчыкі на каляды, а валачобнікі—на вялікадня, даўно ўжо ніхто не водзіць карагоды і не ладзіць на вячорках забаўных гульні з песнямі, а вяселле — як абрад асабліва важны—у нейкай меры яшчэ жыве і працягвае захоўваць пэўныя атрыбуты сваёй ранейшай формы. Праўда, і тут — пытанне часу: усё часцей і часцей гэты прыгожы і вельмі складаны калісьці рытуал выступае ў сучаснай, мадэрнізаванай мадэлі, з якою, вядома, ужо не могуць увязацца старыя велічальныя, а тым больш—заклінальныя вясельныя песні.

І так, абрадаў амаль не стала, а розных абрадавых песень запісваецца ў

фальклорных экспедыцыях яшчэ вельмі многа. Дзе і ад каго яны запісваюцца? Хто і калі іх спявае? Адказ на гэтае пытанне не павінен пакідаць месца ні для якіх ілюзій: песні гэтыя захоўваюцца ў памяці пераважна толькі старых жанчын, можна нават сказаць—самых старых жанчын. Прывядзём для доказу хаця б наступныя падлікі: амаль палавіна ўсіх песень, сабраных у сямі вёсках розных раёнаў Беларусі, запісаны ад жанчын ва ўзросце сямідзесяці і болей гадоў; каля адной трэці песень — ад жанчын ва ўзросце ад шасцідзесяці да сямідзесяці гадоў; адна восьмая—ад жанчын ва ўзросце ад пяцідзесяці да шасцідзесяці гадоў; адна шаснаццатая—ад жанчын ва ўзросце ад сарака да пяцідзесяці гадоў; адна пяцідзесятая—ад жанчын ва ўзросце ад трыццаці да сарака гадоў. Ад жанчын ва ўзросце да трыццаці гадоў не запісана ніводнай песні. Значыць, асноўная маса песень (больш трох чацвёртых) запісана ад жанчын пажылых, якім ужо шэсцьдзесят і болей. Вывад напрошваецца сам сабой: сучасная моладзь традыцыйных песень амаль не ведае. Шматлікія апытанні сведчаць: калі яшчэ сёй-той з маладых можа назваць некалькі папулярных народных песень любоўнага або жартаўлівага зместу (таму, што яны часта гучаць па радыё і ў канцэртах), то пра абрадавыя песні і гаварыць не прыходзіцца.

Вось цяпер і наступіла пара прабіць, можа быць, у апошні раз трывогу, каб заклікаць на ўратаванне ад забыцця, ад беззваротнай страты неацэнныя скарбы вуснай паэзіі—сотні і тысячы традыцыйных народных песень, сотні і тысячы народных паданняў, прыказак і прымавак, загадак, замоў і іншых жанраў фальклору. Вось ужо калі сапраўды гэта трэба рабіць сёння, бо заўтра можа быць позна. Узроставыя паказчыкі сведчаць, што ў пакаленнях, якія сфармаваліся ў пасляваенны перыяд, назіраецца рэзкі спад цікавасці да традыцыйнай народнай лірыкі. У выніку ўсеабдымнага і нястрымнага разгортвання ўшыр і ўглыб навукова-тэхнічнай рэвалюцыі, высокага тэмпу індустрыялізацыі і урбанізацыі, якія карэнным чынам перайначылі за апошнія два дзесяцігоддзі аблічча Беларусі, у свядомасці, у псіхалогіі, у светаўспрыняцці народа адбыліся надзвычай істотныя перамены, не ўлічваць якія, вырашаючы любую эстэтычную праблему, цяпер нельга.

Вёска—апора даўніх звычаяў, абрадаў і старых, традыцыйных песень—небывала шпаркім крокам рушыла насустрач гораду, што азначае—насустрач асвеце, навуцы, культуры. Але ці не дапускаецца пры гэтым небяспечны адрыў ад духоўных вытокаў, ад глебы, на якой павінны грунтавацца сучасныя культура і мастацтва? Мінулае жыццё ў памяці многіх старых вяскоўцаў вяжацца перш за ўсё з беднасцю, нэндзай і цямнотай, а не з паэтычнымі момантамі вясковага побыту (земляробчыя святы, абрады, звычаі), якія на фоне сённяшняй рэчаіснасці не здаюцца ім асабліва прывабнымі. Ва ўсякім разе, на пытанне: «Ці шкада вам, што знікаюць даўнейшыя святы і песні?» адказ старых людзей у многіх выпадках адмоўны. «Шкада мне маладых гадоў, што так не ўмелі жыць. А шкадаваць даўнейшых свят і песень няма чаго. Хіба новыя песні і святы горшыя?»

Вядома, у такіх адказах вяскоўцаў ёсць жаданне патрафіць «сучаснаму» погляду і густу інтэлігента. І ўсё-такі сцвярджэнне, што даўнейшых песень шкадаваць няма чаго, не можа не засмучаць і не трывожыць. Кепска, калі хоць сярод часткі людзей пануе агульнае, без разбору, адмаўленне духоўнай спадчыны мінулага—у тым ліку і таго здаровага і прыгожага, што ў ёй ёсць і што патрэбна падтрымліваць і развіваць. Разам з тым у апытаннях засведчана і моцная душэўная прывязанасць старых людзей да традыцыйнай народнай песні, з якою прайшло іх жыццё, якая столькі разоў была ім уцехай і радасцю нават у самыя невясёлыя часіны. Васьмідзесяцігадовая вясковая спявачка Ганна Хіла (в. Альсевічы Мядзельскага р-на) успамінае так: «На панскім полі сабіралася шмат жанчын. Хаця і не сваё жалі, але песняй залівалася ўсё поле. Калі спяваеш—здаецца, і жыццё лягчэйшае, і жывецца багата. Мне часта прыходзілася пяяць на вяселлях... Песня—гэта мой лепшы сябар. Яна мяне засмуціць, але яна і развесяліць». Равесніца і сяброўка Ганны Хілы, такая ж здольная спявачка Тэкля Хіла прызналася, што любіць спяваць не толькі старыя песні, але і новыя, сучасныя: «Усё сваё жыццё не разлучалася з песняй. Яна мая першая памочніца ў горы і ў радасці. Бывала, паплачу, а тады і папяю. Хаця я цяпер старая ўжо, але люблю пяяць і нашы даўнейшыя песні, і тыя, што пяюць па радыё». (Таксама з в. Альсевічы. Дарэчы ад гэтых дзвюх спявачак запісана каля паўтараста народных беларускіх песень).

А калі ж і дзе спяваюцца даўнейшыя песні? З кніг старых этнографаў і фалькларыстаў мы ведаем, што, напрыклад, выкананне каляндарна-абрадавых песень вельмі строга прымяркоўвалася калісьці да народнага земляробчага календара і нават лічылася за грэх праспяваць тую або іншую песню «не ў пару». Пастунова гэтая



рэгламентацыя ў часе ўсё больш і больш парушалася, многія абрадавыя песні пачалі пераходзіць у разрад пазаабрадавых і выконвацца «хоць калі». Сёння многія выканаўцы старых каляндарна-абрадавых песень, можна сказаць, зусім не лічацца з генетычным прымацаваннем песні да пэўнага свята або абраду. Спявачка з вёскі Слабада Лагойскага раёна Міхаліна Левановіч на пытанне «Калі вы іх спяваеце, гэтыя старыя песні?» адказала: «Часцей за ўсё, дзеткі, у полі, кароў пасучы. Як прыйдзе радоўка і сама цэлы дзень у полі, каля статку, дык і пяю, каб не нудзіцца. Усё тады перапяю: і каліну (г. зн. купальскія і пятроўскія—**Н. Г.**), і жніво, і восень, і ўсякія розныя...» Прызнанне вясковай спявачкі дастаткова пераканаўча, на наш погляд, пацвярджае, што песні земляробчых святаў самі па сабе з'яўляюцца несумненнай эстэтычнай каштоўнасцю і валодаюць самастойнай жыццяздольнасцю. Нават будучы адарванымі ад абраду, які даў ім жыццё, яны могуць прыносіць вялікую мастацкую асалоду і эмацыянальнае задавальненне.

Гэтая іх здольнасць да незалежнага існавання мае, на наш погляд, выключна важнае значэнне: яна прымушае глядзець на старую абрадавую паэзію не як на мёртвы эстэтычны капітал, а як на жывую, жыватворную і жыццядайную сілу, у якое ёсць не толькі мінулае, але і будучае. Жыццёвая сіла гэтай паэзіі—у яе высокіх ідэйна-мастацкіх якасцях, у чалавечай высакароднасці зместу і паэтычным харастве формы.

Традыцыйная народная лірыка—абрадавая і пазаабрадавая—з'яўляецца адным з самых каштоўных дыяментаў у фальклорнай скарбонцы беларусаў. Жанравы склад і іншыя вызначальныя асаблівасці фальклору любой краіны абумоўлены ў першую чаргу гістарычным лёсам народа, яго нацыянальным характарам, спецыфічным «строем» яго душы. Лёс распарадзіўся так, што ў Беларусі—пры ўсім драматызме яе нацыянальнай гісторыі—слаба развілася эпічная паэзія вершаваных форм. Твораў, падобных рускім былінам, украінскім думам або паўднёваславянскім юнацкім песням, у беларускім фальклоры няма. Зрэшты, слаба развіты эпічныя творы і ў вершаванай народнай паэзіі нашых заходніх славянскіх суседзяў—палякаў, чэхаў, славакаў, лужыцкіх сербаў. Думаецца, што было б несправядліва тлумачыць гэта толькі меншай—у параўнанні з іншымі—актыўнасцю гістарычнага жыцця названых народаў. Гераічны і гістарычны эпас іх даволі багаты, толькі ён развіўся ў іншых—не вершаваных—жанрах і формах. Відавочна, ёсць многа складаных прычын і ўмоў, паводле якіх у фальклоры аднаго народа найлепш развітымі аказваюцца адны жанры, а ў фальклоры другога, нават кроўна блізкага народа—іншыя.

За кошт ці не за кошт гераічных і гістарычных песень (пэўнае сцвярджэнне тут можа быць вельмі рызыкоўным), але ў беларускім фальклоры надзвычай вялікае месца займае бытавая—абрадавая і неабрадавая—лірыка. Жыццё і праца народа (ва ўмовах старой Беларусі—гэта значыць, перш за ўсё вясковага сялянства), яго сацыяльны і сямейны побыт у традыцыйнай беларускай лірыцы адлюстраваны з выключнай паўнатой і падрабязнасцю. Паколькі праца і побыт з'яўляліся асноўнай сферай гістарычнай жыццядзейнасці, то менавіта ў бытавой лірыцы паўней і глыбей, чым у іншых фальклорных жанрах, адлюстраваўся духоўны свет беларускага селяніна, выявіліся найбольш істотныя рысы яго сацыяльнай псіхалогіі і маралі, найбольш характэрныя адзнакі яго светапогляду і светаўспрыняцця, адметныя асаблівасці яго эстэтычнага густу і мастацкага мыслення.

Вялікую цікавасць у гэтым сэнсе ўяўляе сабой беларуская каляндарна-абрадавая лірыка: песні-калядкі і шчадроўкі, масленічныя, песні-вяснянкі, валачобныя, песні русальнага тыдня («зялёных святак»), купальскія, жніўныя і асеннія.

Тут мы не маем магчымасці падрабязна разгледзець усе гэтыя цыклы, каб паказаць іх глыбока чалавечны змест і незвычайнае паэтычнае хараство. Але ў нас няма ніякага сумнення, што пры жаданні кожны чалавек, калі яго душу не дарэшты выветрылі згубныя вятры-пуставеі, можа адкрыць для сябе і высакароднасць іх зместу, і чароўнасць іх мастацкай формы. Вядома, закончанага цыкла наўрад ці кранеш, ці ўсхвалюеш чысцінёй маладога пачуцця, стрымана-сарамлівай пяшчотай, якімі поўняцца вось такія—просценькія, нібыта зусім звычайныя—радкі:

Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,
А дзе ж твая дочка?

Мая дочка у садочку
Ружу-кветку поле,
Ружу-кветку поле,
Белы ручкі коле.

Кветачкі рве, кветачкі рве,
Вяночкі звівае,
Вяночкі звівае,
Мілага чакае.

Але што нам да цынікаў, да чванлівых снобаў і бяздушных «прагматыкаў», якім ужо недаступна сапраўдная вартасць і хараство чалавечых узаемаадносін! Не для іх такія песні, дый не для іх гэтая размова. Тым, хто ўжо зусім адзічаў душой у пагоні за ўцехамі «цывілізацыі», наўрад ці дапаможа песенны напамін пра несмяротную першароднасць вялікага чалавечага пачуцця, якое мы называем каханнем. Але таму, хто здольны чуцца чалавекам сярод людзей, такі напамін—асабліва, калі ён будзе паўтарацца як мага часцей—несумненна дапаможа яшчэ мацней паверыць у чалавечнасць, яшчэ выразней убачыць яе сапраўднае аблічча і з яшчэ большай сілай пацягнуцца ўсім сэрцам і душой да яе святочна-зіхатлівых вышынь.

Святочна і ўзвышана гучаць нашы купальскія песні. Мы маем на ўвазе не тыя песні, якім надавалася магічна-ахоўнае значэнне (у купальскую ноч яны гучалі як заклянцне ад чараў і іншых варожых дзеянняў злых духаў), а тыя, што выяўлялі ўзнёсла-паэтычны настрой вясковай моладзі ў самую прыгожую пару летняга красавання, у перыяд найбольшага росквіту ў прыродзе, калі даспяваюць травы і кветкі, калі пачынаюць налівацца плады дрэў у садах, а калоссе збажыны—у полі. Асноўныя матывы гэтых песень—сямейна-бытавыя. Каханне і шлюб—вось што займае думкі і пачуцці хлопцаў і дзяўчат напярэдадні і ў самую дзівосную ноч купалля. Гэтыя ж матывы—каханне, выбар жаніха або нявесты, прадчуванне хуткага замужжа, падрыхтоўка да шлюбу—дамінуюць у беларускіх асенніх песнях і ў вясновых—карагодных. Нашы асеннія песні—з'ява вельмі арыгінальная і самабытная ў фальклоры славянскіх народаў. Яны ўражваюць непаўторнай адметнасцю старажытнай урачыста-працяжнай мелодыі і подыхам нейкай казачна-міфічнай язычніцкай даўніны, якая чуецца ў самой іх паэтычнай фактуры —і ў тым «вядзьмедзьку», што «кару дзярэць», каб «хату крыці», і ў той «перапёлцы-ластаўцы», што «лета летавала ў пшаніцы», а «зіму зімавалі будзе ў крыніцы, у сцюдзёнай вадзіцы».

Не ведаю, ці магчыма такое, каб зноў адрадзіліся ў сваім натуральным бытаванні вясновыя карагоды з цудоўнымі, надзвычай мілагучнымі і задушэўнымі песнямі. Але зусім магчыма, каб такія карагоды ажывалі на самадзейнай і прафесійнай сцэне. Хіба не выклікала б у душах гледачоў і слухачоў глыбокага чалавечага замілавання вось такая карагодная «Перапёлачка»?

— Устань жа раненька, перапёлачка,
Устань жа раненька, маладзенькая.
— Я ж ужо устала, мае дзевачкі,
Я ж ужо устала, мае сястрыцы.
— Умыйся бяленька, перапёлачка,
Умыйся бяленька, маладзенькая.
— Я ж ужо умылася, мае дзевачкі,
Я ж ужо умылася, мае сястрыцы.
— Прычашыся слізка, перапёлачка,
Прычашыся слізка, маладзенькая.
— Я ўжо прычасалася, мае дзевачкі,
Я ўжо прычасалася, мае сястрыцы.
— Надзень жа сукенку, перапёлачка,
Надзень жа сукенку, маладзенькая.
— Я ж ужо надзела, мае дзевачкі,
Я ж ужо надзела, мае сястрыцы.
— Прывяжы каралькі, перапёлачка,
Прывяжы каралькі, маладзенькая.
— Я ўжо прывязала, мае дзевачкі,
Я ўжо прывязала, мае сястрыцы.
— Надзень і панчошкі, перапёлачка,
Надзень і панчошкі, маладзенькая.
— Я ж ужо надзела, мае дзевачкі,
Я ж ужо надзела, мае сястрыцы.
— Абуй чаравічкі, перапёлачка,
Абуй чаравічкі, маладзенькая.
— Я ж ужо абула, мае дзевачкі,
Я ж ужо абула, мае сястрыцы.
— Прытанцуй цяпер нам,
перапёлачка,
Прытанцуй цяпер нам, маладзенькая!

Колькі сардэчнай павагі, цеплыні і пяшчоты ў гэтым паэтычным дыялогу «маладзенькай перапёлачкі» са сваімі сяброўкамі-сястрыцамі! А ці ж не па такой цеплыні і пяшчоце так часта сумуе на суровых і нялёгкіх дарогах жыцця чалавек?

Песні сямейных святаў такія ж старажытныя па паходжанні, як і каляндарныя, але яны яшчэ ў большай ступені страцілі свой першапачатковы магічна-абрадавы сэнс і характар і адпаведна гэтаму яшчэ ў большай меры набылі ўласцівасці песень «чыста лірычных», пазаабрадавых. У гэтым, між іншым, адна з асноўных прычын іх жывучасці: «адмацаваўшыся» ад канкрэтнага сэнсу старажытнага абраду, яны развілі ў сабе здольнасць непасрэдна выяўляць думкі і пачуцці працоўнага чалавека ў незвычайны момант яго жыцця.

Песні радзінныя, як і валачобныя і асеннія, складаюць нацыянальную спецыфіку вуснапаэтычнай творчасці беларусаў. Факт, варты ўвагі не толькі фалькларыстаў, але і прадстаўнікоў такіх сумежных навук, як этнаграфія, псіхалогія, сацыялогія, гісторыя. Бо трэба ж нечым растлумачыць, чаму менавіта ў беларускім фальклоры так моцна развіўся гэты від песеннай творчасці. Дзе тоіцца загадка: у самім нацыянальным характары, які, маўляў, патрабуе нейкіх асобых адносін да нараджэння дзіцяці, у сацыяльна-эканамічным становішчы беларускага сялянства, у прыродна-геаграфічных умовах ці яшчэ ў чым іншым?

Багаццем зместу, разнастайнасцю жанравых форм і паэтычнасцю вобразаў вызначаюцца нашы вясельныя песні. Тэматычна аб'яднаныя ў адзін цэласны цыкл, па змесце і характары, па мастацкай прыродзе і жанравым складзе яны вельмі розныя. Па-першае, трэба выдзеліць сярод іх—як найбольш старажытны пласт—песні заклінальныя з ярка выражаным магічна-абрадавым функцыянальным прызначэннем. Прыкладам могуць служыць песні каравайныя, вобразная сімволіка якіх мае выразны магічны сэнс (каравай—сімвал багацця, дастатку). Заклінальных вясельных песень захавалася мала, чаго нельга сказаць пра песні велічальныя. Вясельныя велічанні прысвячаліся маладой, маладому, дружкам, свату, бацькам маладых, вобразы якіх падаваліся звычайна ў плане фальклорнай ідэалізацыі з выкарыстаннем усіх уласцівых традыцыйнай паэтыцы прыёмаў і сродкаў мастацкай выразнасці: гіпербалы, метафары, увасаблення, сталага эпітэту, параўнання, вобразнай сімволікі, псіхалагічнага паралелізму, таўталогіі і г. д. Асабліва хораша паэтызаваўся вобраз нявесты—«маладой княгіні», «баярачкі», «дзевачкі», што калі «да шлюбу прыбіралася»—«расою ўмывалася, красою ўціралася», а як сватоў чакала—«кужалямі ў бары слала, дарожку—кітайкаю, а масты—чырванцамі», а як ехала да вянца—«сыпала золата з рукаўца», а як пачала красёнцы ткаць—«выткала красёнцы трыма страямі: а першы страёчак—ясны месячык, а другі страёчак—ясна сонейка, а трэці страёчак—дробны звёздачкі».

У вясельных песнях жартаўлівага зместу шырока выкарыстоўваўся прыём парадыйнага велічання, асабліва ў адносінах да вобразаў маладога, дружкі і свата. «Хваліліся цешча зяцем, што зяць маладзенькі. Аж ён маладзенькі—як дзядок старэнькі: барада лыкам сшыта, галава абручом збіта». Або: «А куды ж ты, наша Манечка, глядзела—за гэткага непрыгляднага захацела: зубы рэдкія, ногі крывыя, доўгі нос,—куды ж цябе, наша Манечка, бог занёс?» Так у строгі вясельны рытуал уплятаўся бяскрыўдны смех, уносіўся элемент камізму, забавы, весялосці. Звяртаем на гэта ўвагу таму, што ўвогуле гумар—якасць, у вышэйшай ступені ўласцівая прыроднаму характару нашага народа і яго вуснапаэтычнай творчасці.

Цэнтральнае месца ў традыцыйнай вясельнай лірыцы беларусаў займаюць песні элегічнага жанру. Узніклі яны, відавочна, значна пазней, чым заклінальныя або велічальныя, і сваім зместам і сэнсам вельмі розняцца ад апошніх. Іх «прывязка» да самога вясельнага абраду не мае магічнага характару, яна, можна сказаць, больш вонкавая і больш свабодная. Па сутнасці, гэта звычайная сямейна-бытавая лірыка, якая выяўляла настрой і перажыванні перш за ўсё і галоўным чынам нявесты, а таксама жаніха і ўсёй радні маладых. Асноўныя матывы яе: развітанне маладой з бацькоўскім домам, са сваёй дзявочай воляй («а ўжо ж табе ды мінаецца дзявочае пагуляннейка, маладое красаваннейка»), прадчуванне горкай, нешчаслівай долі замужам («ён п'яніца, няўдаліца, штодзень п'е, куды едзе—карчомачкі не міне, назад едзе—ўсё гэта паплаце, красна дзевачка ўсё гэта праплача»), нараканне на бацькоў, што так рана аддаюць замуж («жаль жа мне, мая мамачка, на цябе, нямножачка пагуляла я ў цябе: невялікую русу косу зрасціла, без розуму ў чужы людзі пусціла»), своеасаблівыя жыцейскія парады маладой і маладому («Прыданачкі ад'язджаюць, маладога навучаюць:—Не карай жонкі ў хаце, а карай на каравацi, не карай дубцом, а карай слаўцом: наб'еш дубцом—балець будзе, пакараеш слаўцом—разумець будзе»). У цэлым у гэтых вясельных элегіях праўдзіва адлюстраваны сямейны побыт старой патрыярхальнай вёскі, пераканаўча паказан лёс вясковай жанчыны, яе прававое і сацыяльнае становішча, хораша выяўлены погляды селяніна-хлебароба на шлюб і сямейныя адносіны, раскрыты характэрныя рысы псіхалогіі і маралі. Асабліва ж каштоўнае ў іх—вобраз чалавека працы, багацце яго духоўнага свету, гуманнасць, высакароднасць і паэтычнасць яго душы, якой знаёмы пачуцці тонкія, пяшчотныя, глыбокія, якая жыве імкненнямі светлымі, прыгожымі, справядлівымі.

Гэтыя ж якасці працоўнага беларуса, яго нацыянальнага характару яшчэ паўней, глыбей і больш усебакова раскрыты ў традыцыйнай пазаабрадавай лірыцы—у песнях любоўных, бяседных, сірочых, салдацкіх, жартоўных і інш. Да гэтага часу з усіх тэматычных цыклаў народнай лірыкі бадай што найбольш пашыранымі і папулярнымі (а значыць—і найбольш жывучымі) з'яўляюцца песні любоўныя. Няцяжка зразумець, чаму менавіта яны «не хочуць» старэць і адыходзіць у небыццё, паспяхова вытрымліваючы спаборніцтва з сучаснай любоўнай лірыкай кніжнага паходжання. Прычынаю—жыццёвасць, высакароднасць і глыбіня закладзеных у іх пачуццяў, сіла, яркасць і хараство іх паэтычных вобразаў. Асабліва пры-

вабны і абаяльны ў любоўных песнях вобраз маладой дзяўчыны, якая ўмее кахаць шчыра, горача і самаахвярна, для якое няма нічога даражэй у свеце, чым яе каханне, яе вернасць любаму. Услаўленне і паэтызацыя гэтага вечна маладога пачуцця дасягае ў народнай любоўнай лірыцы незвычайнай мастацкай выразнасці і сілы.

У колькасных адносінах над лірыкай кахання пераважаюць песні пра жаночую долю, г. зн. пра сямейнае жыццё і становішча замужняй жанчыны. Песні ў асноўным невясёлага, бязрадаснага зместу, тужлівага, элегічнага характару. Яны таксама яшчэ досыць пашыраны ў жывым бытаванні. Вядома, многія сацыяльна-грамадскія прычыны, якія некалі далі ім жыццё, змест і настрой, даўно ўжо адпалі, зніклі, перасталі існаваць, у выніку чаго значна звузілася і «жыццёвая прастора» для бытавання гэтых невясёлых песень. Але было б па меншай меры спрашчэннем лічыць, што ўжо не стала і маральна-псіхалагічнай глебы для іх жыўлення, што адлюстраваны ў іх драматызм сямейных узаемаадносін ужо зусім не адпавядае новай рэчаіснасці і не можа знаходзіць ніякага водгуку ў душы нашага сучасніка. У тым і рэч, што сапраўдны, глыбінны змест народнай паэзіі разлічаны на даўгавечнасць, што жыццё той або іншай песні можа не пакрывацца нейкай пэўнай гістарычнай паласой або эпохай.

Доля замужняй жанчыны, якой яна паўстае з беларускіх лірычных песень,—гэта часцей за ўсё доля нядобрая, ліхая, якую няшчасная маладзіца аплаквае горкімі слязамі:

Ці ты, мамачка, па брадзе не хадзіла?
Чаму ж ты мяне ў вадзе не ўтапіла?
Лепш жа мне было ў вадзе ляжаці,
Чымся маладзе гора гараваці.

Якая гэта доля—можна меркаваць па тым, што маладая жанчына, паводле другой песні, нікому не адважыцца яе ўзычыць: «ні брату раднoму, ні зверу лясному». Куды ўжо горш, калі нават і звера шкада надзяліць такой доляй!

Вялікую каштоўнасць у беларускай традыцыйнай лірыцы ўяўляюць сабой жартоўныя песні. Выдатныя ўзоры іх сустракаюцца сярод песень вясковых земляробчых святаў і сямейных урачыстасцяў. Яшчэ больш жартоўных песень пазаабрадавых, у якіх дасціпна, але не зласліва высмейваюцца заганы і хібы ў характары селяніна, падаюцца розныя камічныя сітуацыі або эпізоды з вясковага побыту, паказваюцца неверагодныя, небылічныя (а таму і смешныя) учынкі і паводзіны песеннага персанажа. Характэрным прыкладам можа быць песня пра «чатыры бяды» гаспадыні, тры з якіх яшчэ не вельмі страшныя, а вось чацвёртая...

А чацвёртая бяда—
Што мой муж не харош:
На базары была—
І цаны яму няма.
Усе водзяцца з бычком,
Я важуся з мужычком.
Усім грошы даюць—
Майго й дарам не бяруць.

Здольнасць і ў цяжкім, беспрасветным жыцці ад душы пасмяяцца над сапраўды смешным і недарэчным у побыце і паводзінах людзей, уменне дасціпна паіранізаваць нават над уласнай бядой і горам і, нарэшце, проста прыдумаць «смех»,—гэта яскравае сведчанне моцнага маральнага здароўя, жывога розуму і высокай акрылёнасці духу працоўнага беларуса. Не дзіва, што старыя жартоўныя песні карыстаюцца такой папулярнасцю ў народзе, што без іх не абыходзіцца бадай што ні адзін канцэрт мастацкай самадзейнасці.

Значнае месца займалі некалі ў вясковым побыце песні-гульні—такія, як «Сядзіць, сядзіць яшчар», «А на гарэ мак», «Пасаджу я грушку», а таксама песні да танцаў, накшталт шырока вядомых па ўсёй Беларусі «Лявоніхі», «Юрачкі», «Падушачкі» і іншых. Трэба сказаць, што і тыя і другія ў натуральным бытаванні цяпер ужо сустракаюцца вельмі рэдка, аб чым можна толькі пашкадаваць. Тое ж самае можна сказаць і пра народныя калыханкі: сучасныя маладыя маці ўсё часцей абыходзяцца без іх. Але ці добра гэта? Ці не абкрадаецца тым самым маленькі чалавек, над калыскай якога не паўстае казачна-дзівосны, паэтычны свет матчыных калыханак? Дасціпныя людзі жартуюць, што цяпер маладая маці ўсыпляе малое з дапамогай якой-небудзь сучаснай эстраднай песні любоўнага зместу. Смешна, вядома. А падумаўшы, дык не так смешна, як трывожна і сумна.

Памылкова думаць, што ў наш век—век грандыёзнай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі з усімі яе вынікамі ў сферы грамадскай псіхалогіі і маралі—традыцыйная народная паэзія нібыта канчаткова страціла сваё ранейшае значэнне і больш не з'яўляецца жыццядзейнай духоўнай сілай, здольнай уплываць на фармаванне асобы чалавека, яго светапогляду, мастацкага густу і г. д. У фальклоры абагулены шматвяковы сацыяльны, маральны і эстэтычны вопыт народа, у ім акумуляваны ідэйна-эмацыянальны зарад велізарнай магутнасці, які здольны «прыводзіць у рух» думкі і пачуцці мільёнаў, калі, вядома, з гэтай творчай энергіяй разумна абыходзіцца.





Мы, напрыклад, яшчэ недастаткова выкарыстоўваем скарбніцу народнай паэзіі для развіцця нацыянальнай літаратуры. Тое, што зрабілі ў гэтых адносінах (а яны зрабілі нямала!) Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Купала, Колас, Багдановіч, Гарэцкі, Чорны, Крапіва, Лынькоў, Броўка, Танк, Куляшоў, Панчанка, Мележ, Брыль і іншыя нашы паэты і пісьменнікі—павінна разглядацца толькі як пачатак неймаверна вялікай работы, што яшчэ наперадзе, што чакае творчай энергіі многіх новых пакаленняў. Мы яшчэ павінны даць свету сваіх беларускіх Фауста і Дон-Кіхота, Тыля Уленшпігеля, Кала Бруньёна і іншых несмяротных—несмяротных таму, што яны ўвабралі і ўвасобілі ў сабе самыя адметныя і яркія рысы нацыянальнага характару, выявілі вечна існы, неўміручы дух народа. Само сабой зразумела, што ствараць такія манументальныя вобразы ў наш час—не значыць паўтарыць, хаця і на іншай нацыянальнай глебе, зробленае геніямі мінулых эпох; такое паўтарэнне немагчыма. Гаворка ідзе пра ступень пранікнення ў глыбіню народнага духу, пра сілу і яркасць выяўлення яго непаўторнай гістарычнай і чалавечай сутнасці, пра меру авалодання мовай народа—яе лексікай, фразеалогіяй, сінтаксісам. Мы яшчэ павінны даць свету вобразы, якія раскрыюць увесь драматызм і трагізм гістарычнага лёсу народа, што на працягу стагоддзяў нёс на сабе, як праклянцце, пакутны крыж сацыяльнай і нацыянальнай няволі. Мы павінны куды смялей, пакупалаўску, выкарыстоўваць у камедыях і трагікамедыях сілу народнага смеху, у тым ліку і «смеху праз слёзы», дзівосны бляск самабытнага гумару, іранічна-з'едлівай насмешкі і проста трапных, вясёлых дасціпаў, якімі так іскрацца народныя прыказкі і прымаўкі, казкі і жарты, прыпеўкі і песні.

Калі мы не можам быць задаволены тым, як ставіцца да фальклорных крыніц наша краснае пісьменства—літаратура, то яшчэ больш незразумелымі і, мякка кажучы, безгаспадарчымі з'яўляюцца адносіны да нацыянальнага фальклору з боку сучаснага беларускага музычнага мастацтва. Народны беларускі мелас—адзін з самых багатых у свеце—выкарыстоўваецца нашымі кампазітарамі недаравальна мала. Мы ведаем і не збіраемся замоўчваць тых пэўных, часам нават значных творчых поспехаў, якіх дасягнулі ў гэтым кірунку кампазітары Туранкоў, Чуркін, Цікоцкі, Багатыроў і іншыя дзеячы музычнай культуры Беларусі. Але пакладзем руку на сэрца і прызнаемся, што яшчэ няма беларускіх «Івана Сусаніна» і «Лебядзінага возера», «Наталкі-Палтаўкі» і «Венгерскіх рапсодый»—і запомнім, што шлях да такіх зіхатлівых вышынь мастацтва неадменна праходзіць праз душу і сэрца свайго народа, тую душу і сэрца, што жывуць у яго песнях і танцах, паданнях і казках, у шуме-гомане яго лясоў і ніў, у плёскаце хваль яго рэк і крыніц, у трывожным, гнеўным і радасным гуле яго далёкай і блізкай гісторыі.

Што і казаць: мы яшчэ нярэдка бяжым услед за каляровымі «мыльнымі бурбалкамі» мастацкай моды, якія заносіць да нас ветрам часу, даганяем і хапаемся за гэтую расфарбаваную прыманку, як быццам не знаючы, што ад бурбалкі застаецца ўрэшце толькі слата; бяжым і не бачым, што сапраўдныя каштоўныя дыяменты тым часам топчам нагамі—топчам неацэнныя скарбы народнай паэзіі і музыкі, якія ніколі не страцяць сваёй высокай вартасці, бо яны ёсць плод паэтычнага і музычнага геню народа, вынік яго шматвяковай духоўнай дзейнасці, набытак яго калектыўнай творчасці. А ў творчасці яшчэ ніхто не падняўся і ніколі не падымецца вышэй народа. Вялікія мастакі заўсёды разумелі гэта і гаварылі так: «...Найбольш глыбокія і яркія, мастацка дасканалыя тыпы герояў створаны фальклорам, вуснай творчасцю працоўнага народа». (Горкі). Або так: «Стварае музыку народ; а мы, мастакі, толькі яе аранжыруем». (Глінка).

Яшчэ не глянулі пільным, уважлівым вокам на паэтычную скарбніцу народа беларускія філосафы і гісторыкі, сацыёлагі і педагогі, яшчэ не разабраліся як след у яе грамадска-сацыяльным і ідэйна-эстэтычным змесце, не ацанілі належным чынам яе значэння, ролі і месца ў сучасным жыцці, на сучасным этапе будаўніцтва камуністычнага грамадства. Мы ўсё яшчэ не навучыліся і не ўмеем так, як трэба, выкарыстоўваць паэтычную творчасць народа ў мэтах сацыяльнага, патрыятычнага, маральнага і эстэтычнага выхавання працоўных. Якім чынам гэта лепш зрабіць, якія метады, формы і спосабы выкарыстання нацыянальнага фальклору больш прыдатныя, больш дзейсныя і больш перспектыўныя—гэта тэма асобнай гаворкі. Але ясна, што да фальклору павінны звяртацца як мага часцей і школы, і культасветустановы, і тэатры, і кіно, і радыё, і тэлебачанне—усе, хто закліканы дбаць і клапаціцца пра ідэйна-эстэтычнае выхаванне сучасніка, пра шырыню яго духоўных гарызонтаў, пра вартасць і змястоў-

насць яго пасведчання аб адукацыі, пра сапраўднасць яго духоўнай і маральнай «прапіскі» ў сучасным высокаразвітым сацыялістычным грамадстве.

Трывалы поспех многіх—прафесіянальных і самадзейных—хораў народнай песні і ансамбляў народнага танца, таксама як і розных вакальных груп, якія падаюць традыцыйную песню ў сучаснай эстраднай інтэрпрэтацыі (як, напрыклад, «Песняры»), якраз і сведчыць аб тым, што адварочвацца ад паэтычнай, музычнай і харэаграфічнай спадчыны народа—неразумна, што яе магутны эстэтычны патэнцыял не вычарпаны ды і не будзе вычарпаны, бо кожная новая эпоха будзе падыходзіць да яго са сваёй меркай і браць тое, што ёй найбольш адпавядае. А браць заўсёды будзе што—браць, каб абнаўляць, узбагачаць і развіваць суладна з патрабаваннямі часу. У гэтым—адна з агульных дыялектычных заканамернасцяў мастацкага развіцця грамадства, яго духоўнага прагрэсу.

Многімі, вельмі многімі ідэйна-мастацкімі вартасцямі вызначаюцца беларускія народныя песні—і тыя, што спяваліся на старажытных язычніцкіх і хрысціянскіх святах, і тыя, што суправаджалі сямейныя ўрачыстасці селяніна—нараджэнне новага чалавека і шлюб, і тыя, што спяваліся «абыкалі»—на самоце ў дзявочай святліцы, за праснiцай на вячорках, у полі каля статку, за бяседным сталом. Вядома, што ўсе яны маюць і вельмі вялікае пазнавальнае значэнне, паколькі раскрываюць нам многія істотныя бакі гістарычнага быцця народа, выяўляюць характэрныя асаблівасці светапогляду нашых далёкіх і не так далёкіх продкаў, адметныя рысы іх сацыяльнага і сямейнага побыту, характар іх працоўнага занятку. Але мы не зразумеем самага галоўнага, калі за ўсім гэтым не зможам убачыць вялікі чалавечы змест песеннай паэзіі беларускага народа, яе выключна гуманны і высакародны накірунак, калі не ўбачым ва ўсім харастве і велічы душу працоўнага чалавека, якая—праз крыўду і пакуты, праз кроў і пот, праз цемру і забабоны—вечна імкнулася да святла і праўды, прагла шчасця і згоды, дабра і справядлівасці на зямлі. Будзем жа ўчытвацца іменна ў гэты яе змест і паглыбляцца ў іменна гэты яе сэнс—і тады нам стануць больш зразумелымі і больш даступнымі яе неўміручыя ўрокі.

# ПЕСНІ АЎДОЦЦІ КЛЕЎЖЫЦ

Яна стаяла сярод гарода, засаджанага бульбай, молада зялёнай на шэрым улонні поля. На нашы словы аб тым, што прыйшлі пачуць яе песні, уважлівыя цёмныя вочы асвяціліся скупой радасцю. Абтрэсла рукі ад зямлі, прапусціла наперад у цеснаватыя сенцы, у хату, дзе па-даўнейшаму на куце сышліся дзве лавы, а невялікія вокны засцiў буйна пакрыты суквеццямі мушкат.

Змахнула фартухом зэдлік і непадалёк села сама. І неяк адразу стала зразумела, што не трэба лішне тлумачыць, дзеля чаго нам гэта, нашто. Не трэба просьбаў, лішніх пытанняў. Песні нібы самі паліліся адна за другой. І голас быў грудны, і яшчэ зусім не старэчы, хоць маладосць прамінула даўно: восемдзесят вёснаў спаткала і праводзіла Аўдоцця Клеўжыц на зямлі, у гэтым ціхім палескім кутку—ні то вёсцы, ні то мястэчку, некалі адгароджаным пяскамі, лясамі ад шырэйшага свету. І казалі песні пра жыццё, можа, не пра тое, якім яно было, а якім адбілася ў сэрцы, што праспявала яго.

Эпічна, трохі велічна, як і павінна быць у баладзе, гучаў зачын:

Усе палі засеяны,
І жыта ўрунілася...

Даўняя, як свет, песня расказвала пра даўнюю гісторыю, пра жаночы лёс і складанасць людскіх адносін. А потым песня станавілася шчадроўкай, бадзёрай і звонкай, як навагодні мароз, як сіні заснежаны вечар пад вокнамі колішніх сялянскіх хат.

Ходзіць, паходзіць месяц па небе,
Шчодры вечар, добры вечар!
Заву, пазаву зоры з сабою:
Ходзіма, зоры, калядаваць...

І снавала песня абразок за абразком і расхінала сцэны гаспадаровай хаты, каб паказаць, што там дзеецца ва ўрачысты святочны вечар:

Сам гаспадар за сталом сядзіць,
За сталом сядзіць, тры кубкі дзяржыць.
У адным кубку п'янка гарэлка,
У другім кубку віно зялёна,
У трэцім кубку мядок салодак.
П'янка гарэлка для пана гаспадара,
Віно зялёна для яго жоны,
Мядок салодак для яго дзетак.

І папярэджвала песня-вяшчуння аб набліжэнні сімвалічных калядных госцікаў—памагатых хлебароба-аратага.

Насцілайце сталы, накладайце хлябы,
Ды прыдуць к нам да тры госцікі:
Адзін госцічак—свецел месячык,
Другі госцічак—ясна сонейка,
Трэці госцічак—дробен дожджычак...

Па хаце спявачкі, не мінаючы блакнотаў нашых, пачаў распаўзацца змрок. Ён паволі гусцеў, рабіўся бэзавы за акном. А песні ўсплывалі ў памяці лёгка, то журачыся, то скупа свецячыся ўсмешкай, радасцю.

Гаворка пра летнія песні непрыкметна перайшла на русалак. Вочы спявачкі загарэліся ўзрушанай ўпэўненасцю, калі яна пачала расказваць, як аднойчы, у часы яе маладосці, яны запрудзілі крыніцу, і потым, калі вада спала, на пяску ля крыніцы было відаць безліч басаногіх маленькіх слядоў.

І неяк не заставалася месца цвярозаму скептыцызму, які толькі што прасіўся на вусны, а прыгадалася збянтэжанасць і крыўда Уладзіміра Лугаўскога, калі малады, добра падкаваны літаратар перапыніў яго расказ аб сустрэчы з русалкай разумным папрокам: «И Вы в самом деле верите этой чепухе?» Ёсць штосьці агульнае, што лучыць летуценні народнай спявачкі з далёкай палескай вёскі і сусветна вядомага паэта,—якаясь повязь-лучво ўсіх рамантыкаў.

...Назаўтра раніцай мы ізноў пераступілі парог Аўдоцціпай хаты. У печы весела палалі дровы, водсвет полымя скакаў на шыбах. Спявачка сустрэла нас у святочным уборы—вышываным фартуху, густоўным кабацiку. Але гэта яна—не толькі дзеля нас. Відаць, усё, што ў яе ўяўленні было звязана з песняй, патрабавала не будзённага. Бо хіба сама песня, спяванне, слуханне яе не ёсць свята душы, прасвятленне, сама ўрачыстасць? Ізноў удумліва слухала яна сваю і крыху ўжо не сваю песню з магнітафоннай стужкі. І толькі ўключалі на запіс, спявачка ізноў без адзінай запінкі, нідзе не бунтуючыся, засяроджана і строга вяла сваю песню. І пэўна ж бачыла цяпер зрокам, скіраваным у далеч гадоў, мо ў сваю маладосць, тую Іванкаву маці з вясельнай песні, што, поўная гордасці і матчынай пяшчоты, пыталася ў суседзяў пра сына:

А любыя суседзі, глядзеце,
У каго мой сыночак удаўся,
Што па поясе у золацечка ўбраўся.
Сам жа ён убраўся, каня не —
Поўна грывачка зеллейка,
Поўны капыцечкі крамення.
— Не журыся, мамачка, аба мне,
Ёсць у мяне кавалі на дварэ,
Падкую коніка я ў сядле...

Так шчыра журыцца і расказваць можа толькі песня, што ідзе з самага сэрца.

Ой, вялікі збор,
Да на ўвесь род...

Вяселле... Яно пад'язджае да хаты маладой. І голас спявачкі наказвае маршалкам і ўсёй дружыне маладога:

Маладыя маршалачкі,
Набівайце стрэлачкі,
Да прабівайце сценачкі,
Да пабачым дзевачкі,
Ці хараша яна нараджона,
На пасадзе да пасаджона.
Нараджона, як панянятка,
Пасаджона, як князянятка.

Нам пара ўжо было збірацца ў дарогу і пакідаць Сінкевічы, што на Лунінеччыне, а песні яшчэ снавалі і снавалі, і не цесна было ім у Аўдоццінай хаце, дзе яны здаўна прыжыліся. І шкада было нам, не вычарпаўшы ўсіх іх, развітвацца. Ды і вычарпаць іх было не проста. Хіба можна вычарпаць крыніцу? А на адвітанне, калі мы задалі сваё звычайнае пытанне, ад каго бабуля пераняла свае песні, пачулі штосьць нечаканае. Аўдоцця Клеўжыц успомніла, як прыйшлі да яе гэтыя песні: пры працы і ў святочныя дні, калі дзяўчынкай хадзіла са сваімі дзвюма бабулямі збіраць зёлкі, кветкі. «Запамінай нашы песні,—казалі яны.—Калі ты іх навучышся і будзеш спяваць, нам будзе лягчэй у зямлі ляжаць». І тут спявачка сказала такое, ад чаго мы адразу крыху разгубіліся:

— Вось, дзеткі, вы чулі мае песні і з сабой іх бярэце. Калі там дзесь будзеце іх спяваць і другім людзям перакажаце, каб навучыліся, мне не будзе цяжкай зямля. Жывіце ў здароўі і радасці. А песні нашы праўдзівыя, бо з жыцця ўзятыя...

Мы пайшлі далей у сваё падарожжа. Яшчэ і яшчэ сустракаліся нам спявачкі: маладзейшыя, шчыра-заліўістыя ў сваім пянні і ціхагалосыя, з одумам пражытага ў вачах бабулі. І міжволі дзесь даводзілася лавіць сябе на думцы, што ў кожнай прыроджанай спявачкі раптам прамільгне штосьць ад Аўдоцці Клеўжыц: ад адухоўленага аблічча яе, жывога позірку чалавека, заслуханага ва ўнутраны голас песні.

**Арсень ЛІС.**

● Яўген ЛЕЦКА

# У ДНІ СЁННЯШНІМ

## НАТАТКІ АБ МАЛАДОЙ ПРОЗЕ 1972 года

Літаратура, бадай, менш чым якая іншая сфера чалавечай дзейнасці, паддаецца планаванню і размеркаванню здабыткаў па месяцах і гадах. У канцы пяцідзесятых і пачатку шасцідзесятых гадоў, напрыклад, дружна і ўпэўнена заявіла пра сябе тое пакаленне празаікаў, чые кволыя і па-дзіцячаму ўражлівыя душы былі абпалены полымем мінулай вайны, а грамадзянскае ўзмужненне праходзіла пад уплывам гістарычных партыйных рашэнняў. Тагачасная маладая проза выявіла новыя тэндэнцыі развіцця літаратуры, перадавала дух свайго часу, і гэта было асноўнай прычынай таго, што першыя кніжкі І. Пташнікава, В. Адамчыка, Б. Сачанкі, Ул. Дамашэвіча, М. Стральцова, І. Чыгрынава выклікалі даволі шырокі грамадскі водгук, ажыўлена абмяркоўваліся крытыкай. У наступныя гады, хоць і з'яўляліся новыя імёны і новыя зборнікі, водгук на іх быў прыглушаны, і толькі першыя кніжкі А. Кудраўца і М. Капыловіча зноў абудзілі цікавасць беларускай крытыкі, далі падставу гаварыць аб наяўнасці новых, у параўнанні з творчасцю папярэдняга пакалення, тэндэнцый у маладой прозе.

Пасля выхаду ў свет зборнікаў «На зялёнай дарозе» А. Кудраўца і «Скрозь жывуць людзі» М. Капыловіча мінула пяць гадоў. За гэты час наша літаратура папоўнілася новымі імёнамі, творамі. У гэтым сэнсе леташні год быў адметны— адразу выйшла чатыры кніжкі маладых празаікаў. Для паэзіі такая з'ява, магчыма, звычайная, але каб у адзін год выходзіла столькі першых зборнікаў прозы—такога даўно не здаралася ў нашым літаратурным жыцці. Гэты факт не можа не выклікаць пачуцця радасці ў таго чытача, які заклапочаны лёсам беларускага мастацкага слова, не можа пакінуць абыякавай і не паклікаць да зацікаўленай гаворкі нашу крытыку. Тым больш, што зборнікі А. Жука, У. Кузьмянкова, Я. Радкевіча, А. Рыбака даюць цікавы матэрыял для разважанняў.

Маладыя даволі смела і актыўна імкнуцца па-мастацку асэнсаваць тыя жыццёвыя сферы, якія да гэтага часу недастаткова поўна і глыбока даследаваны пісьменнікамі старэйшага і сярэдняга пакаленняў. У нас ужо даўно чуліся нараканні на тое, што беларуская літаратура да гэтага часу не можа даць высокамастацкіх твораў, прысвечаных тэме рабочага класа Беларусі. Пра рабочых, праўда, браліся пісаць многія, але атрымлівалася так, што, за рэдкім выключэннем, аўтары раманаў, аповесцяў і апавяданняў альбо дрэнна ведалі жыццёвы матэрыял— і тады з-пад іх пяра выходзілі надуманыя канфлікты, хадульныя героі, альбо паказвалі добра вядомае ім жыццё на недастаткова высокім мастацкім узроўні. А найчасцей адно спалучалася з другім. Маладая проза дае нам падставу для аптымістычных прагнозаў на будучыню. І мне здаецца, што не зусім прадуманую пазіцыю займаюць часам нашы крытыкі, калі пры разглядзе творчасці маладых аўтараў не столькі імкнуцца адкрыць чытачу рысы іх таленту, колькі засяроджваюць увагу на прыватных дробязях. І тады атрымліваецца, што рэестр недакладна ўжытых слоў, недастаткова трапных дэталяў засланяе ад нас самога аўтара, разбурае ўражанне ад яго зборніка як ад мастацкай з'явы, якая нясе пэўныя адметныя рысы.

Вось, напрыклад, кніжка Я. Радкевіча «Плытагоны». У асобе маладога празаіка прыходзіць у літаратуру чалавек, які добра ведае жыццё і, думаецца мне, свядома імкнецца даследаваць жыццёвыя пласты, недастаткова глыбока ўзараныя ў творах папярэднікаў. І ў гэтым ён дасягае пэўных поспехаў. Не так і многа ў нас твораў, дзе б з такой пераканаўчасцю і натуральнасцю быў намаляваны вобраз сучаснага рабочага, як гэта зроблена ў апавяданні «Казка пра белага Арапа».

Чаго ў нас толькі ні прыдумлялі, каб штучна надаць прадстаўніку рабочага класа як мага больш фармальна станоўчых рыс, «прыўзняць» яго над іншымі! Яго прымушалі выступаць з цэлымі трактатамі па пытаннях літаратуры і мастацтва, выказвацца пра дасягненні сучаснай навукі і тэхнікі, нудна даводзячы чытачу сваю «мысліцельную» перанапоўненасць, або кідалі яго ў «філасофію» і ў глыбокія перажыванні з выпадку даволі пустых любоўных прыгод. Але ж справа не ў паказной інтэлектуальнасці ці празмернай чуллівасці героя. Галоўнае ў тым. каб паказаць чалавека такім, які ён у жыцці. А што датычыць станоўчага ў сучасным рабочым, то зусім няма патрэбы ператвараць яго ў лакіраваную мумію, бо само па сабе прызначэнне стваральніка, ці, як гаварыў некалі К. Чорны, утварыцеля жыцця, і ёсць найлепшым паказчыкам той вялікай ролі, якая адведзена рабочаму класу ў сучасным грамадстве.

Але звернемся да «Казкі пра белага Арапа» — апавядання, бадай, найлепшага ў зборніку Я. Радкевіча. Брыгадзір цяслярскай брыгады Пракаповіч выконвае сваю паўсядзённую работу — рамантуе старыя кватэры. Адносіны да працы і з'яўляюцца найлепшым паказчыкам сутнасці яго. Гаворачы пра гэта, я зусім не хачу спрашчаць праблему і даводзіць, што ўсё астатняе ў яго жыцці—другараднае і неістотнае. Майстэрства маладога празаіка і выявілася ў тым, што праца тут не выступае самамэтай, а служыць добрым паказчыкам грамадзянскай і чалавечай сутнасці героя. Зухаваты Вакулаў дык лішне не прыглядаецца да работы і размашыста забівае цвікі ў дошкі, якія, нібы клавішы разбітага раяля, пачынаюць рыпець і пасля рамонту. Такога не можа дараваць Пракаповіч. Пачаўшы з апісання звычайнага цяслярскага занятку, празаік пераходзіць да адлюстравання вытворчых—зусім няма чаго баяцца гэтага тэрміну— і грамадскіх узаемаадносін сваіх герояў. Сацыяльны канфлікт спалучаны ў апавяданні з аналізам інтымных узаемаадносін паміж Пракаповічам і рана аўдавелай Галяй. Перапляценне грамадскага і асабістага цалкам апраўдана ў творы. І вельмі добра было б, калі б аўтар здолеў па-мастацку пераканаўча завяршыць цікавыя жыццёвыя канфлікты, больш глыбока асэнсаваць іх. А то, папраўдзе, як слушна заўважае А. Мажэйка ў рэцэнзіі на кніжку Я. Радкевіча, размова з Валодзькам пра яго бацьку не з'яўляецца дастаткова важкім аргументам, які змог бы паўплываць на рашэнне героя разлучыцца са сваёю жонкай Надзяй і пачаць з Галяй новае жыццё. Ды і ўвогуле, здаецца мне, само рашэнне Пракаповіча пра развод выглядае трохі надуманым.

З большай псіхалагічнай матываванасцю і мастацкай стройнасцю напісана апавяданне А. Жука «Замеценыя дарогі», галоўным героем якога таксама з'яўляецца сучасны рабочы. Радкевіч і Жук, вырашаючы розныя мастацкія задачы, кіруюцца аднолькавымі эстэтычнымі прынцыпамі. Як у першага, так і ў другога мы бачым спалучэнне канфлікту сацыяльнага з канфліктам маральным. І там, і тут герой паказваецца за сваім звычайным паўсядзённым заняткам. Праўда, герой Жука пастаўлены ў некалькі незвычайныя ўмовы—Павел пасля працы ахвяруе сваім адпачынкам і згаджаецца адвезці жанчын на вяселле ў далёкую вёску. Але гэтая выключнасць сітуацыі не толькі не парушае праўдзівасці характару трактарыста, але яшчэ больш прасвятляе сутнасць яго натуры. Галоўны герой «Замеценых дарог» намаляваны так, што чытач не толькі даведваецца пра яго працу, але і пранікаецца яго трывогай. Першая частка апавядання моцная паказам барацьбы чалавека са стыхіяй, што дазваляе аўтару наблізіць чытача да героя, прасвятліць яго характар. І, разам з гэтым, недзе незаўважна Жук пачынае «закручваць» канфлікт паміж чулым да людскога гора Паўлам і тымі, хто мае чэрствую душу, глядзіць на жыццё з пазіцыі рубля. Ва ўзаемаадносінах трактарыста са спадарожніцамі гэты канфлікт усяго толькі прадчуваецца, ледзьледзь прасвечваецца праз некаторыя трапныя дэталі. Але вось Павел трапляе на вяселле, і тое, што жыло як магчымасць, становіцца рэальнасцю ў характары сквапнага на грошы і ўчэпістага Тараса. У першым варыянце апавядання, вядомым па «палымянскай» публікацыі, гэты канфлікт быў даведзены да свайго лагічнага і па-мастацку завершанага канца. Тут было паказана, як Павел кідае ў снег падарункі, атрыманыя ад Тараса. Але ці Жук збаяўся, каб гэты выпадак не выглядаў залішне эфектна, ці, можа, захацеў паказаць свайго героя больш уважлівым сем'янінам, толькі ён перарабіў канцоўку, засяродзіўшы ўвагу на перажываннях Паўла за сваю жонку, якая вымушана чакаць яго ў адзіноце.

На прыкладзе апавяданняў А. Жука і Я. Радкевіча нам хацелася б адзначыць плённасць звароту маладых празаікаў да паказу канкрэтных спраў нашага сучасніка, што дае магчымасць вылепіць рэальны да адчувальнасці мастацкі вобраз. Аднак ці значыць гэта, што ўжо адно адлюстраванне працоўнай дзейнасці можа гарантаваць поспех аўтару? Вядома, не. Апавяданні А. Жука і Я. Радкевіча цікавыя для нас не толькі і не столькі дакладнай перадачай занятку рабочага, колькі, перш за ўсё, той мастацкай думкай, якая больш або менш арганічна працізвае «Замеценыя дарогі» і «Казку пра белага Арапа». Менавіта ў спалучэнні дакладнасці з праблемнасцю і бачыцца нам адна з магістральных дарог сучаснай маладой прозы. Там, дзе гэтая гармонія парушаецца, звычайна атрымліваецца або

штосьці надуманае, або, ва ўсякім разе, мала цікавае, нешта такое, што большменш чытаецца, але не ўзбагачае нас.

Дзеля пацвярджэння сваёй думкі спашлюся на два апавяданні У. Кузьмянкова — аўтара цікавага ў асноўным зборніка «Ішла вясна». У «Вяснушцы» ён, напрыклад, імкнецца ўзняць і вырашыць актуальную на сённяшні дзень праблему выхавання чалавека ў рабочым калектыве. Аднак паставіўшы перад сабой важную мэту, малады празаік не столькі ідзе ад жыцця, колькі імкнецца ілюстраваць ідэю падабранымі прыкладамі. І галоўнае—нам не вядомая жыццёвая філасофія прагульшчыка і п'яніцы Бялова, не вядомыя тыя прычыны, пад уздзеяннем якіх гэты чалавек адыходзіць ад агульнапрызнаных жыццёвых нормаў. Перад намі выступае не непаўторны чалавечы характар, а ўсяго толькі «падвопытны экземпляр», на якім аўтар праводзіць «эксперымент». Вось і атрымліваецца, што над Бяловым, як над маленькім хлопчыкам, устанаўляецца дробязная апека—перадавыя рабочыя за руку водзяць яго на працу. Асабліва хуткімі тэмпамі перавыхаванне пайшло тады, калі за справу ўзялася мілая і смяшлівая дзяўчынка Вяснушка. Пад яе ўздзеяннем Бялоў у канцы апавядання становіцца паўнапраўным членам брыгады камуністычнай працы.

Чытач, на жаль, не атрымлівае павучальнага ўроку з гэтага вельмі і вельмі прыблізнага і ў асноўным схематычнага нараджэння новага чалавека. Ён ведае аб перавыхаванні Бялова, але сутнасць яго застаецца невядомай для яго. А што датычыцца дзявочых чараў, то ў гэтым факце падмены характэрнага выпадковым таксама ёсць пэўнае спрашчэнне праблемы. Так, пазбаўленая моцнай сувязі з жыццём, важная грамадская тэма вырашаецца схематычна і надумана.

А вось апавяданню «Падыход» якраз бракуе праблемнасці. У. Кузьмянкоў у асноўным займальна і цікава апавядае аб працы брыгадзіра на чале дзявочай брыгады муляраў, засяроджвае ўвагу на смешных выпадках, што здараюцца ў рабочым калектыве, але пасля прачытання твора мала што застаецца ў памяці і амаль нічога—у душы. У гэтым сэнсе нашмат большую ідэйна-мастацкую нагрузку мае апавяданне «Споведзь», у якім вырашаецца значны маральна-сацыяльны канфлікт, сутнасць якога можна вызначыць як супярэчнасць паміж сумленнем чалавека і тымі метадамі, якімі кіруецца ён у жыцці пад уздзеяннем адпаведных абставін. Умельства маладога празаіка выявілася ў тым, што ён здолеў спалучыць прыватны выпадак з біяграфіі свайго героя з пэўнымі заканамернасцямі жыцця, удала «скрыжаваў» знешні канфлікт з унутраным, калі ў душы Піліпа Пятровіча нараджаецца нездаволенасць самім сабой, пачынаецца самаасуджэнне за ганебны ўчынак, зроблены ў маладосці. Герой апавядання, нягледзячы на паспяховы службовы рост — ён працуе начальнікам аддзела кадраў на будаўніцтве,— не можа набыць душэўнай раўнавагі, нібы нанова пераглядае жыццёвы шлях і імкнецца асэнсаваць памылкі, праз якія ў яго не атрымалася чалавечага шчасця. Прычына Піліпам Пятровічам вызначана правільная: вельмі часта ён ішоў на кампраміс са сваім сумленнем, імкнуўся знайсці лёгкую дарогу ў жыцці. І хоць ён дасягнуў матэрыяльнага дабрабыту, а застаўся, па сутнасці, няшчасным чалавекам. Аўтар зусім не павучае нас — ён праўдзіва паказвае чалавечы лёс, і гэта пераконвае...

Тэма рабочага чалавека — шматгранная. І нягледзячы на тое, што за яе браліся многія пісьменнікі, вычарпаць яе немагчыма. Скажам шчыра: няма яшчэ ў нас твора, у якім быў бы выведзены такі вобраз рабочага, па якім мы маглі б прасачыць тыповыя рысы рабочага класа нашай рэспублікі, якая яшчэ зусім нядаўна была сялянскай. Яшчэ і цяпер многія нашы рабочыя не вельмі далёка адышліся ад зямлі—і сваёй псіхалогіяй, побытам бліжэй стаяць да сялянства, чым да карэнных гараджан. Усё гэта дае вельмі цікавы і ўдзячны матэрыял для мастацкага даследавання, для значных ідэйна-мастацкіх абагульненняў. У гэтым сэнсе, як здаецца мне, малады празаік М. Гіль аповесцю «Вяртанне» зрабіў шмат у чым удалую спробу. Аповесць напісана з належнай жыццёвай пераканаўчасцю, дакладная ў паказе побыту, натуральнасці дыялогаў, веданні спраў сваіх герояў. Пісьменнік не абыходзіць жыццёвых супярэчнасцяў, і таму верыш у паводзіны Сцяпана, які вымушаны ісці з пасляваеннай вёскі ў горад шукаць там больш надзейнага кавалка хлеба, з цікавасцю сочыш за станаўленнем асобы маладога рабочага. Вельмі многа ў ім застаецца ад селяніна, ад вёскі, з якой Сцяпан ніколі не траціў сувязі. Больш таго, цяга героя да зямлі не толькі не меншае, усё больш узмацняецца з гадамі і становіцца такой неадольнай, што рабочы вырашае пакінуць горад і назаўсёды перасяліцца ў вёску.

М. Гіль імкнуўся падкрэсліць глыбінную сувязь вясковага жыхара з зямлёй, любоў і цягу да якой не можа перакрэсліць ні час, ні адлегласць, ні змена прафесіі і месца жыхарства, і, праводзячы гэтую думку, пайшоў, на жаль, на пэўнае спрашчэнне. А ілюстрацыя, як вядома, ніколі не садзейнічала творчай удачы.

Возьмем галоўную думку, якая вынесена ў загаловак твора і якой у значнай меры падпарадкоўваецца ўвесь змест аповесці. Скажам шчыра, ідэя вяртання гараджан у вёску не з'яўляецца такой ужо характэрнай для нашага часу, у жыцці





мы наглядаем часцей адваротнае. Настойлівае падкрэсліванне вяртання ў вёску прывяло ў аповесці да пэўнага перакосу: калі гарадское жыццё, маўляў, не садзейнічае росквіту асобы, не можа забяспечыць Сцяпану нармальнага чалавечага існавання, то вёска дасягнула нейкага «зямнога раю» і дала ўсе магчымасці для гарманічнага развіцця індывідыума... Я разумею добрыя намеры аўтара, выкліканыя заклапочанасцю тым, што моладзь пакідае вёску, што тут не заўсёды хапае рабочых рук. Але толькі добрымі намерамі наўрад тут ці дапаможаш, у жыцці ўсё больш складана...

І ўсё ж, нягледзячы на пэўныя пралікі асобных апавяданняў і аповесці, некаторыя з якіх я ўжо адзначаў, варта прывітаць пошук маладых менавіта ў той жыццёвай сферы, якая недастаткова даследавана ў беларускай прозе. А што датычыцца слабасці іх асобных твораў, то яны ў значнай меры абумоўлены і пэўнай навізной тэматыкі, і творчай нявопытнасцю аўтараў. Галоўнае і раднаснае ў тым, што маладыя даволі смела пераадольваюць «супраціўленне матэрыялу», імкнуцца даць адказы на актуальныя пытанні нашага часу, досыць добра ведаюць сваіх герояў. Зацікаўленасць сучаснасцю з'яўляецца добрым паказчыкам таго, што большасць маладых празаікаў стаіць на правільнай дарозе. І яшчэ адно—у лепшых з іх ёсць свая ясная грамадзянская пазіцыя.

У сувязі з гэтым хачу нагадаць агляд маладой беларускай паэзіі, зроблены У. Гіламёдавым на старонках «Маладосці». Аўтар вельмі правільна тлумачыць слабасць некаторых паэтычных зборнікаў невыразнасцю, а то і адсутнасцю грамадзянскай пазіцыі маладых паэтаў. Аднак, думаецца мне, памылкова будзе спрошчана разумець грамадзянскасць, калі ўвага пісьменніка акцэнтуецца не на ўсёй паўнаце жыцця, а толькі на пэўных асобных баках, да чаго, па сутнасці, зводзіцца пафас палемічных нататак Я. Каршукова, змешчаных 26 студзеня гэтага года ў «Літаратуры і мастацтве». Аўтар крытыкуе маладых празаікаў не за тое, што вобразы, створаныя ў апавяданнях, не адпавядаюць жыццю, неглыбока раскрываюць яго, а за тое, што яны звяртаюцца да таго ці іншага характару. Пры гэтым ён чамусьці атаясамлівае пазіцыю аўтара з пазіцыяй героя, выведзенага ў творы. Усё гэта больш чым дзіўна. Калі з такімі меркаваннямі падыходзіць да ацэнкі з'яў літаратуры, то давядзецца падвергнуць сумненню многія класічныя рэчы—успомнім хаця б герояў М. Шолахава, А. Талстога, І Мележа, Ч. Айтматава, Й. Авіжуса, В. Быкава, якія маюць сваю, часта вельмі няроўную сцяжыну ў жыцці.

Я. Каршукоў, праўда, прадбачачы пярэчанні, заўважае, што аўтар мае права паказваць і адмоўныя персанажы, але ў такім выпадку ён абавязкова павінен іх рэзка крытыкаваць. Дзе ж тады задача мастацкага даследавання чалавека, выяўлення тых прычын, якія садзейнічалі з'яўленню ў яго характары пэўных адмоўных рыс? Спрашчэнне і аголены дыдактызм ніколі не рабілі гонару ніводнаму творцу і не прыносілі карысці літаратуры.

Не пагаджаючыся з пафасам артыкула «Выбар героя», я зусім не хачу сказаць, што апавяданні, якія разглядае Я. Каршукоў, дасканалыя ва ўсіх адносінах. Не. Пісалі іх маладыя аўтары, якім яшчэ трэба ўдасканальваць ды ўдасканальваць сваё майстэрства. Але ж не трэба іх скіроўваць на схематызм і зададзенасць.

У апавяданні М. Капыловіча—«Сяргей, Антолін сын», напрыклад, паказваецца трагедыя чалавека, які не мае за душой колькі-небудзь значных духоўных набыткаў, які, па сутнасці, страціў адчуванне роднай зямлі. Адсюль у яго няўпэўненасць у сабе, адсутнасць цвёрдай перакананасці. Нараджаецца непрыкаянасць, і Сяргей, каб неяк запоўніць духоўную пустату, пераязджае з месца на месца, шукаючы лепшага заробку. Грошы, аднак, патрэбны Сяргею не для ўзбагачэння, а дзеля таго, каб апраўдацца перад людзьмі, што і ён не горшы за іншых, што і ён, хаця і не вучаны, а зарабляе не горш за тых, хто закончыў тэхнікумы і інстытуты. Грошы выступаюць для Сяргея мерай чалавечага шчасця, сімвалам аўтарытэту...

Ці аднолькавая тут пазіцыя ў аўтара з героем? Не. Аўтар зусім не захапляецца Сяргеем. Ні ўчынкі, ні душэўны стан героя ніяк не могуць пацвердзіць думкі аб апраўданні аўтарам гэтага героя. Трывожны, шчымлівы боль пісьменніка за чалавека, які так марна губіць сваю маладосць, вельмі адчувальны ў апавяданні «Сяргей, Антолін сын».

Не магу пагадзіцца і з крытыкай у адрас маладога празаіка Г. Далідовіча. Я. Каршукоў разгледзеў чамусьці толькі адно—і не самае лепшае—апавяданне Далідовіча, хаця ў мінулым годзе празаік выступаў у друку вельмі актыўна. Я. Каршукоў зноў жа крытыкуе героя апавядання «Сустрэча» — маладога рабочага Варлена,— а з ім і самога аўтара за тое, што Варлен не ўступіў у бойку з браканьерам. Знешне крытыка выглядае пераканаўчай і слушнай. Аднак аўтар артыкула, абвінавачваючы празаіка ў тым, што той «падмяняе жыццёвую сітуацыю надуманай схемай», сам, на жаль, ішоў не ад жыцця, а ад прывычнай схемы, падмяняючы канкрэтнасць абстракцыямі.

Каб не гаварыць увогуле, давайце пазнаёмімся з Варленам, паспрабуем зра-

зумець яго. Гэта малады хлопец, які вельмі слаба ведае жыццё, марыць, ідучы ад кніжак, аб нечым высокім і гераічным. І вось першае жыццёвае выпрабаванне, як часцей за ўсё бывае,—нечаканае і суровае... Аўтар, безумоўна, мог бы паказаць, як кволы непрактычны Варлен кідаецца да ўзброенага браканьера і альбо гіне, альбо перамагае чырванашчокага здаравяку, што і ўявіць нялёгка. Як бы там ні было, але, паказаўшы такое, празаік, відаць, пайшоў бы супраць псіхалагічнай праўды ўчынку менавіта гэтага героя — Варлена і ў значнай меры спрасціў бы жыццёвую сітуацыю. Сапраўды, хіба заўсёды ў жыцці слабое дабро атрымлівае перамогу над моцным злом? І потым—хіба Далідовіч апраўдвае зло і свайго маладога героя, у якога ў адказны момант не знайшлося патрэбнай мужнасці і рашучасці? Ніякім чынам. У душы маладога героя нараджаецца незадаволенасць, ён пачынае крытычна глядзець на сябе. Там жа, дзе ёсць незадаволенасць і самакрытыка, ёсць перадумовы таго, што можа сфармавацца новая душэўная якасць. Герой Далідовіча, а разам з ім і чытач, атрымлівае павучальны жыццёвы ўрок.. А гэта не так ужо і мала.

Перад нашай літаратурай стаіць адказная задача выхавання перакананага, актыўнага грамадзяніна, будаўніка камунізму. Аднак нельга разумець праблему выхавання толькі як стварэнне літаратурай ідэальнага героя, хаця і такая задача перад майстрамі слова пастаўлена самім часам. Жыццё вучыць нас не толькі на станоўчых, але вельмі часта і на адмоўных прыкладах. Гадоў дзесяць таму назад крытык С. Гусак, зборнік артыкулаў якога выйшаў пасля смерці аўтара, вельмі слушна гаварыў аб такой асаблівасці таленту К. Чорнага, як здольнасць сцвярджаць новыя ідэалы ад адваротнага, гэта значыць праз выкрываўчы паказ таго, што засталося ў спадчыну ад буржуазнага грамадства і перашкаджае нам ісці да светлай будучыні. Нельга гэты метад рэкамендаваць маладым як адзіна плённы, але нварта і адкідаць яго. Бо вельмі часта маладыя пісьменнікі любяць паказваць той момант у станаўленні героя, калі ён вымушаны выбіраць толькі адзін з магчымых шляхоў у жыцці.

Зрэшты, я тут не наважваюся даваць нейкія рэкамендацыі, а спрабую зрабіць пэўныя вывады пасля прачытання твораў, якія належаць пяру маладых празаікаў. У «Другім варыянце» А. Кудраўца—адным з лепшых апавяданняў, надрукаваных на старонках перыядычнага друку ў мінулым годзе,—расказваецца пра тое, як вясковы хлопец прыязджае паступаць у інстытут, аднак не набірае патрэбных балаў і зноў вяртаецца ў вёску. Выпадак даволі «ардынарны». Аднак Кудравец здолеў яго ўзняць да ўзроўню значнага мастацкага абагульнення. Перад Васілём была магчымасць звярнуцца да нейкага сваяка Шуры, які гарантаваў яму паступленне ў інстытут, аднак у хлопца ёсць пачуццё ўласнай годнасці, якое не дазваляе яму ісці на кампраміс са сваім сумленнем і выбіраць крывенькую дарогу ў жыцці. Грамадзянская думка пісьменніка заклапочана тым, каб ліквідаваць усякую несправядлівасць, каб у нашым жыцці было ўсё трывала і сумленна. У гэтым сэнсе з ідэяй апавядання вельмі тонка зніто́ўваецца тая, нібы незнарок выпісаная сцэнка, якой заканчваецца твор,—рабочыя нанова ўзломваюць адрамантаваны летась асфальт. Калі б усё было прадумана і па-гаспадарску зроблена, то тады б не прыйшлося марна затрачваць дзяржаўныя сродкі. Такім чынам, перад кемлівым хлопцам Васілём і тут праходзіць жыццёвая сітуацыя, з якой ён здабывае павучальны ўрок на будучыню.

Праблема жыццёвага выбару вырашаецца і ў адным з лепшых апавяданняў У. Кузьмянкова, якое дало назву яго першай кніжцы. Апавяданне «Ішла вясна» прысвечана працы маладых журналістаў. Аўтар некалькімі дакладнымі штрыхамі абмалёўвае характары двух герояў, для аднаго з якіх уласцівы сумленныя адносіны да жыцця, імкненне ва ўсім дайсці праўды, а для другога—бяздумнасць і абыякавасць. Галоўнае для Саломкі—спакой і ўласны дабрабыт. І хаця ў апавяданні гэтаму вобразу адведзена мала месца, яго прысутнасць адчуваецца на працягу ўсяго твора. Тое заданне, якое выконвае Павел, па першапачатковым намеры рэдактара павінен быў здзейсніць Саломка. А заданне ў тым, каб напісаць крытычны матэрыял пра адзін саўгас. Саломка перад ад'ездам дае парады Паўлу—ты, маўляў, не зважай, вінаваты там ці не, а раз маеш заданне крытыкаваць, то і збірай факты для крытыкі, утойваючы свае намеры. І Павел, які не раз ужо чуў ад рэдактара ўшчуванні за няўменне даць у час тое, што патрабавалася, на гэты раз вырашае пайсці па Саломкавым шляху. У апавяданні завязваецца цікавы канфлікт паміж сумленнем героя і спосабам паводзін, абраным ім на гэты раз. Павел, які дасюль, як і многія ў рэдакцыі, з пагардай адносіўся да Саломкі, цяпер амаль нічым не адрозніваецца ад гэтага чалавека. Але наступае момант прасветленасці, і герой пачынае адчуваць небяспеку, што трацізь у сабе ўсё шчырае і чалавечае. Ён ідзе ў райком партыі, знаходзіць там дырэктара саўгаса, якога збіраўся лаяць, і шчыра гаворыць з ім, выяўляючы сапраўднае становішча спраў. Загадзя прадуманы план праваліўся, заданне асталося



нявыкананае, аднак Павел радуецца, што не здрадзіў сваім прынцыпам, ураtаваў добрага чалавека ад бяздушнай Саломкавай крытыкі.

У апавяданнях Кудраўца і Кузьмянкова вельмі дакладна ўлоўлена сувязь паміж прыватным і агульным, маральным і сацыяльным. Маладыя героі стаяць перад выбарам нейкага рашэння, і гэта нараджае ў іх душах канфлікт, які пазбаўляе іх унутранага спакою і ўраўнаважанасці. Але гэты душэўны неспакой дапамагае нам выявіць лепшае ў чалавеку, падкрэсліць вызначальнае ў яго характары...

У пачатку свайго агляду я разглядаў маладую прозу па тэматычным прынцыпе, але потым неяк незаўважна адхіліўся ад яго. І справа тут не столькі ў падборы твораў. Часам увогуле цяжка вызначыць «прыналежнасць» таго ці іншага апавядання да нейкай канкрэтнай жыццёвай сферы. Аповесць М. Гіля «Вяртанне», напрыклад, напісана недзе на стыку гарадскога і сельскага матэрыялу. Тое ж можна сказаць пра «Замеценыя дарогі» А. Жука, «Другі варыянт» А. Кудраўца, «Ішла вясна» У. Кузьмянкова і пра многія іншыя апавяданні. Сапраўды, герой Кудраўца, вясковы жыхар, трапляе ў такую сітуацыю, якая звязана выключна з горадам. У творах Жука і Кузьмянкова—наадварот, гараджанін трапляе ў вёску. Такія перамяшчэнні герояў цалкам апраўданы—яны адлюстроўваюць актыўнае збліжэнне вёскі з горадам. І таму, на маю думку, памыляецца малады крытык Алесь Марціновіч, калі ў рэцэнзіі на зборнік У. Кузьмянкова («Маладосць» № 10 за 1972 год) кідае папрок аўтару за тое, што ён у апавяданні «Два білеты ў цырк» даследуе псіхалогію старой жанчыны, якая ўпершыню трапіла да сына ў горад. Пра гэта, маўляў, пісалі прадстаўнікі сярэдняга пакалення пісьменнікаў—маецца на ўвазе Міхась Стральцоў,—і сучасным празаікам не варта за падобнае брацца. Бясспрэчна, і ў іншых рэчах М. Стральцоў (зборнік «Сена на асфальце») цікава даследаваў нагаданую тэму, аднак гэта зусім не значыць, быццам праблема далучэння вяскоўца да гарадскога жыцця вырашана і адлюстравана ім цалкам. Для літаратуры, зрэшты, не так важна сама сітуацыя, колькі паводзіны чалавека ў ёй, што заўсёды выяўляе нейкае адметнае бачанне жыцця. А названае апавяданне У. Кузьмянкова вызначаецца добрым разуменнем чалавечай псіхалогіі. Малады празаік, паказваючы асуджэнне Васіліхай царкавых умоўнасцяў, калі яна не можа апраўдаць гульню чалавека са смерцю, бачыць у гэтым не толькі праяўленне чыста вясковай псіхалогіі. На рашэнне жанчыны ехаць з горада да малодшага сына ў вёску паўплывала не столькі непрыняцце гарадскога побыту, колькі памяць аб мужу, які загінуў у Іспаніі, і клопат пра малодшага сына Міхася.

Гаворачы пра сувязь гарадской і сельскай тэматыкі, хачу звярнуць увагу на адну асаблівасць так званых вясковых апавяданняў. Цікава, што выбар героя—гараджаніна, які па нейкай патрэбе едзе ў вёску, не толькі не адцягвае ўвагу пісьменнікаў ад надзённых праблем вясковага жыцця, але наадварот, дазваляе паўней іх выявіць. Гэтаму спрыяе абвостранасць позірку героя, які прыкмячае ў вёсцы тое, з чым ужо звыклася вока вясковага жыхара. Дзеля прыкладу нагадаю «Нарыс пра вёску» Г. Далідовіча. Як і ў апавяданні У. Кузьмянкова «Ішла вясна», у ім аўтар расказвае, як журналіст Валодзя Дубанец атрымлівае заданне напісаць пра адзін з калгасаў. Толькі Дубанец, у адрозненне ад героя Кузьмянкова, павінен даць станоўчы нарыс...

Вернасць праўдзе жыцця, імкненне найбольш поўна і дакладна выявіць характэрныя рысы сучаснай вёскі, паказаць яе ў руху і развіцці—такая пазіцыя Далідовіча абумоўлівае пафас апавядання. Пра сюжэт, пра знешнюю займальнасць падзей менш за ўсё дбае аўтар. Ён нібы бярэ чытача за руку і паказвае яму вясковыя справы такімі, як яны ёсць. Увага чытача падтрымліваецца як свежым і трапным адкрыццём нейкіх не вядомых нам жыццёвых граняў, так і арыгінальнасцю бачання свету Валодзем Дубанцом.

Узаемасувязь вёскі з горадам адчуваецца і ў апавяданні А. Жука «Вінцэсеў дзень». Малады празаік, які, зазначым, з вялікай адказнасцю адносіцца да літаратурнай працы, не задавальняецца знешняй рэгістрацыяй фактаў. Слушная і на сённяшні дзень актуальная думка А. Жука, што зямля аддзячыць па-сапраўднаму толькі таго, хто будзе адчуваць сябе яе родным сынам, а не заезджым госцем. З гэтай думкай пераклікаецца і другая—аб неабходнасці павагі і клопату пра сапраўдных гаспадароў зямлі, якія не ніколі не пакідалі і, не зважаючы ні на што, без гучных слоў здзяйснялі свой абавязак. Селянін Вінцэсь, нягледзячы на пенсійны ўзрост, працуе на канавах. Не хоча ён сядзець дома: тут і спрадвечная сялянская цяга да работы, і практычная мэта накасіць на карову сена. Апошняе Жук асабліва не падкрэслівае, але відавочна, што калі б праца на канавах і не забяспечыла Вінцэсю пералічаных выгод, то ён усё адно не змог бы адмовіць старшыні калгаса. Маладзейшыя ж не хочуць ісці на гэтую недастаткова аплатную работу, а некаму ж і там працаваць трэба! Пры ўсім сваім традыцыйным практыцызме, абумоўленым абставінамі жыцця героя, у характары Він-

цэся выразна выяўлены рысы працаўніка нашага часу, які ўжо не падзяляе свет на сваё і чужое. І абражаны і пакрыўджаны старшынёю, Вінцэсь усё ж застаецца капцаваць бульбу—некаму ж рабіць трэба! Вось гэты сыноўні клопат аб зямлі, аб ураджаі характарызуе сутнасць Вінцэся, падкрэслівае асноўную думку апавядання—сапраўдным гаспадаром зямлі можа быць толькі той, хто душою, кроўна зросся з ёю.

З апавяданнем Жука пераклікаецца «Салвэсіха» А. Рыбака. Напісана апавяданне з добрым разуменнем душы простага чалавека, з увагай да яго паўсядзённых клопатаў і спраў. Як і Вінцэсь, Салвэсіха шчыра адносіцца да сваёй работы, як і Вінцэся, яе не заўсёды начальства адорвае належнай увагай. У гэтым сэнсе ў апавяданні ёсць цікавая сцэна: да хворай жанчыны наведваецца старшыня калгаса Кандакоў, і яго візіт вельмі напалохаў Салвэсіху, яна падумала, што той хоча звольніць яе з работы па старасці. Вось як дынамічна і дакладна перададзены гэты эпізод у апавяданні.

«Усё ўнутры ў яе аж пахаладзела. Аж галава закружылася. Як ап'янелая, пацопала да ложка, лягла. Але супакаенне не прыйшло. Ужо з нецярпеннем чакала Стэпку ці Аню.

Першая прыбегла Аня. Салвэсіха расказала, хто прыязджаў нядаўна да яе.

— А я ведаю. Кандакоў сам казаў, што даў дыхту яму Сумкін...

— Гэта за што ж?—выдыхнула Салвэсіха.

— А за тое, што не дбае пра людзей.

Салвэсіха ажно не заплакала ад гэткай навіны. Ёй не верылася, што нехта, а тым больш сам Сумкін, можа падумаць пра яе і нават паўшчуваць некага праз яе».

Якую б сферу рэчаіснасці ні адлюстроўвала літаратура, задачы, якія стаяць перад ёю, у галоўным адны і тыя ж—раскрываць унутраны свет чалавека. І нярэдка здараецца так, што і прычыны творчых пралікаў адны і тыя ж. Аблегчаны падыход да жыцця, няўвага да душы чалавека прывялі, напрыклад, да сур'ёзных пралікаў здольнага маладога празаіка У. Кузьмянкова ў апавяданнях «Падыход» і «Вяснушка». Аналагічную з'яву мы назіраем у «Першых кроках» і «Механізатары» А. Рыбака. Дзіўна, як можа празаік, які толькі што дакладна вывяраў кожны душэўны зрух, кожнае слова персанажа, раптам адасобіцца ад герояў, проста плесці няхітрую інтрыгу. Замест натуральнай і стрыманай гаворкі, характэрнай для апавядання «Салвэсіха», у «Першых кроках» з'яўляецца націск на эфектнасць, незвычайнасць паводзін маладых людзей. Мне не хочацца пераказваць сюжэт гэтага апавядання—зводзіцца яно да таго, што дзве сумленныя дзяўчыны ўзяліся навесці парадак у калгасе, але намеснік старшыні павёў супраць іх барацьбу і напісаў паклёп на Люсю ў райком камсамола. Да гэтага і пасля гэтага адбываюцца розныя слёзна-чуллівыя сцэны, а само апавяданне канчаецца тым, што Люся, як і трэба было чакаць, атрымлівае перамогу над намеснікам старшыні, «а тым часам моцная хлапечая рука горача сціснула яе пальцы»...

Калі паказ працоўнай дзейнасці маладога рабочага ці калгасніка, пры пэўных выдатках, удаецца пісьменнікам, то вось з інтэлігенцыяй справы абстаяць куды горш. Атрымліваецца крыху парадаксальна: большасць маладых празаікаў нядаўна закончылі ўніверсітэты і інстытуты і цяпер заняты так званай інтэлектуальнай працай, а паўнакроўны вобраз інтэлігента ім стварыць не дужа ўдаецца. А ў нашай жа літаратуры ёсць у гэтым напрамку свае традыцыі. Назавём тут М. Гарэцкага і К. Чорнага, а з пісьменнікаў сярэдняга пакалення—М. Стральцова.

Нельга сказаць, што маладая проза зусім абыходзіць жыццё інтэлігенцыі. Зрэшты, «Ішла вясна» У. Кузьмянкова, «Нарыс пра вёску» Г. Далідовіча, «Другі варыянт» А. Кудраўца прысвечаны якраз гэтай тэме, хаця ў першых двух закранаюцца перад усім праблемы вясковага жыцця. Але небагата... Таму з асаблівай цікавасцю сустрэў я надрукаваную ў мінулым годзе ў «Маладосці» аповесць Э. Ярашэвіча «Дзень далёкі і блізкі», прысвечаную студэнцкай моладзі. Празаік імкнецца прасачыць станаўленне характару маладога чалавека, які прыязджае на вучобу ў горад. Не заўсёды вясковаму хлопцу лёгка ўсцерагчыся ад уяўнай спакусы вясёлага жыцця, бесклапотных пагулянак... Такое, безумоўна, даволі часта здараецца. І літаратура можа і павінна гаварыць і аб гэтым. Бяда ў тым, што маладому празаіку не хапіла ўмення ўзняцца да значнага мастацкага абагульнення, глыбока зазірнуць у душы герояў. Аповесць залішне расцягнутая і неапраўдана перанагружаная неабавязковымі дыялогамі і падзеямі. Яна прыкметна выйграе ў тых месцах, дзе аўтар больш увагі аддае сацыяльнаму аналізу, прасочвае сувязь учынкаў герояў з пэўнымі тэндэнцыямі развіцця нашага часу. Старонкі, дзе паказваецца выступленне Алега супраць сваіх сяброў, якія паводзілі сябе нядобра, з'яўляюцца не толькі ключавымі для раскрыцця задумы твора, але і чытаюцца з найбольшай увагай. Аднак шырокага выхаду ў жыццё, вострага сутыкнення характараў і поглядаў, роздуму над пільнымі праблемамі сённяшняга дня ўсё ж аповесці нестае.





Даволі камерна гучыць і апавяданне А. Жука «Сок манга». Малады празаік імкнецца паказаць думкі, пачуцці і адчуванні маладога чалавека, які, падобна герою Стральцова з апавядання «Свет Іванавіч, былы дон-Жуан», у нечым расчараваўся і цяпер глядзіць на многія з'явы са скептыцызмам. У Жука гэта датычыцца выключна асабістых адносін паміж маладымі людзьмі. Нельга не заўважыць, што Стральцоў нашмат шырэй звязваў характар чалавека са сваім часам. Дзеянне ў апавяданні Жука можа быць аднесена да любога часу—і я не назваў бы гэта ўдачай ці дасягненнем. З большай канкрэтнасцю і роздумам напісана апавяданне гэтага ж празаіка «Завулак».

У аснове і першага і другога—каханне. Зварот маладога празаіка да гэтай тэмы лагічны і правамерны. Каму ж, як не маладым, паказваць непаўторнасць і сілу аднаго з самых прывабных чалавечых пачуццяў! І дзіўна, што маладыя празаікі праяўляюць тут сябе, бадай, найслабей. У некаторых іх творах героі не столькі жывуць пачуццямі, колькі проста называюць іх, быццам паўтараючы аднекуль чутыя ці вычытаныя словы. Я ўжо называў аповесць Э. Ярашэвіча «Дзень далёкі і блізкі». Добрая палова яе прысвечана каханню. Але ж яно, на жаль, не ўзрушвае, бо пачуцці герояў не столькі выяўляюцца, колькі называюцца.

Уменне дэталлю прасвятліць стан душы героя, паказаць развіццё яго характару ў нейкі асобны момант—шчаслівы дар пісьменніка. Гэтага якраз і бракуе апавяданню А. Рыбака «Паездка ў Сваячыцы», якое чамусьці расхваліў у рэцэнзіі на яго кніжку М. Паслядовіч. Зусім слушна, што ў аснову апавядання пакладзена важная маральная праблема, ілюструюць яе факты. Але ж нельга абыходзіць тое, што зусім не паказана душа Косціка і Ані, якія здрадзілі юначым ідэалам і ператварыліся ў звычайных мяшчан. Празаік прыводзіць дэталі, якія павінны характарызаваць іх перараджэнне: багатая абстаноўка кватэры, поўны двор свіней і, нарэшце, высечаныя бярозы, якія некалі радавалі душу Косцікавага сябрука Вадзіма. Дэталі праўдзівыя, але існуюць яны адасоблена ад характару Косціка і Ані. Чытачу зусім невядомы тыя матывы, якімі кіраваліся ў жыцці героі, тыя зрухі ў іх характарах, якія чамусьці адбыліся. Аўтар арыентуецца не на псіхалагічную дакладнасць дэталі, а на знешні эфект ад яе. Вось як паказана сустрэча Вадзіма з бярозамі, якія ў апавяданні адыгрываюць своеасаблівую ролю касцяка, арганізуючага цэнтра: «Так, гэта быў сапраўдны райскі куточак! Як толькі Вадзім першы раз прыехаў да Косціка, ды яшчэ ў такую задуху, то ледзь не ашалеў ад радасці. Ён гатоў быў маліцца на таго, хто пасадзіў, вырасціў гэтыя бярозы» і г. д. Нельга не заўважыць, што герой паводзіць сябе залішне чулліва, празмерна «прыгожа». Недастаткова матываваны і раптоўныя ўцёкі Вадзіма ад сваіх былых сяброў.

З большай глыбінёй і пераканаўчасцю характары інтэлігентаў створаны ў апавяданні Я. Радкевіча «Дома» і асабліва ў яго аповесці «Буяла лета», у трыпціху Г. Далідовіча «Настаўнікі». Праблемнасцю, жывымі характарамі вызначаюцца апавяданні трыпціха «Хлеб», «Чуйнае добрае неба», «Пенсіянер». Яны прываблiваюць не толькі дакладным веданнем цяжкой настаўніцкай працы, але і роздумам аўтара над складанасцю выхавання, над месцам настаўніка ў жыцці сучаснай вёскі. Малады празаік добра разумее, што са зменамі ў грамадстве змяняецца і сам чалавек—у кожнага наступнага пакалення выпрацоўваецца свой адметны погляд на жыццёвыя з'явы і працэсы. У сённяшніх вучняў, напрыклад, зусім іншыя адносіны да жыцця і да вучобы, чым, скажам, некалі былі ў іх бацькоў. Быкоўскі з апавядання Далідовіча «Хлеб», якому пасляваенная нястача не дазволіла скончыць школу, стварыў свайму сыну ўсе ўмовы, ды той не толькі не вызначаецца асаблівай стараннасцю, але чакае не дачакаецца таго часу, калі можна будзе кінуць навуку і падацца ў горад. Трывогу настаўнікаў выклікае тое, што так думае і так ставіцца да вучобы, на жаль, не адзін Пецця. Жыццё, як бачым, ставіць перад школай новыя, часам нечаканыя праблемы і цяжкасці. І адказ на іх знайсці не так проста. Гэта добра разумее Логвін—чалавек неспакойны, цалкам адданы сваёй працы, добрасумленны ў выкананні службовых абавязкаў і разам з тым вельмі тактоўны ў абыходжанні як з настаўнікамі, так і з вучнямі.

Аповесць Я. Радкевіча «Буяла лета» таксама прысвечана настаўнікам. Праўда, яе галоўны герой, ад імя якога вядзецца апавяданне, працуе шафёрам, аднак увага засяроджваецца на надзённых пытаннях выхавання моладзі, на роздуме над грамадскім абліччам выхавацеляў. Ды і сам апавядальнік—чалавек складаны, інтэлектуальны.

Патрэба ў інтэлектуальным героі востра адчуваецца ў нашай беларускай літаратуры. Ён, безумоўна, па складзе сваёй натуры абавязкова будзе адрозніваца ад прывычнага традыцыйнага «сялянскага» складу героя. І таму, на мой

погляд, крытыка не мае рацыі тады, калі папракае такога героя за яго схільнасць да разважанняў, да імкнення па-філасофску зірнуць на падзеі, пашукаць паралелі ў гістарычным мінулым. Дрэнна, калі пісьменнік прымушае чалавека гаварыць і рабіць тое, што не ўласціва яго натуры, але калі чалавек паводзіць сябе згодна са сваім характарам, сваёй прафесіяй—гэта трэба толькі вітаць.

Я. Радкевіч добра ведае сваіх герояў, ведае тыя праблемы, якія даводзіцца ім вырашаць. Празаік не спяшаецца навесіць на персанаж адпаведную бірку, а затым «падганяць» пад яе адпаведна падабраныя прыклады. У аповесці разгортваецца жыццё складанае, няпростае. Спачатку, да прыкладу, буфетчыца Валя здаецца нам сімпатычнай асобай, і толькі пазней жыццёвая сітуацыя дапамагае нам распазнаць пад прывабным абліччам недалёкую і шмат у чым жорсткую жанчыну. То лепшымі, то горшымі сваімі рысамі паўстае перад намі дырэктар школы Паўловіч. Высокія словы Паўловіча, яго знешняя актыўнасць, імкненне вывесці інтэрнат у передавікі па ўсіх паказчыках не падмацоўваюцца, аказваецца, высокімі маральнымі прынцыпамі, грамадзянскай пераконанасцю. Напружаны канфлікт паміж Паўловічам і маладой настаўніцай Людмілай—асобай унутрана перакананай, маральна светлай, абаяльнай—разгортваецца сур'ёзна і паслядоўна. Непрынцыпова Людмілай усялякага фальшу, яе зацятасць у барацьбе з несправядлівасцю, яе знешняя і ўнутраная прыгажосць паказаны аўтарам у праўдзівых сітуацыях, пераконваюць чытача...

Ёсць у беларускай літаратуры тэма, цікавасць да якой не слабне ўжо больш як трыццаць гадоў. Гэта—тэма Вялікай Айчыннай вайны. Цікава, што яна час ад часу напамінае пра сябе і ў творчасці тых празаікаў, якія нарадзіліся ўжо ў мірны час. У гэтым ёсць свая логіка: мінулая народная вайна, апаліўшы сваім смяротным агнём практычна кожную беларускую сям'ю, настолькі ўвайшла ў свядомасць людзей, у іх адчуванні і думкі, што пераступіла свае храналагічныя рамкі і ўспрымаецца як рэальнасць нават тымі, хто яе не бачыў.

«Ужо больш за дваццаць пяць год,—піша ў навеле «За дзедавым лесам» А. Жук,—гараць лясы і вёскі, і ўсё ідзе тая страшная вайна. І на самых вясёлых бяседах падсядае яна, нябачная, побач, вядзе за сабою бясконцыя ўспаміны. І сняць вайну сыны партызанаў, і дзіка крычаць спрасонку». Дадамо да гэтага, што абвостранае адчуванне вайны сынамі былых партызанаў—і ад сённяшняга становішча на зямлі з яе атамнаю і вадароднай трывогай. Вось чаму ў звароце маладых празаікаў да тэмы вайны няма нічога дзіўнага. Іншая справа, наколькі глыбока зразумелі яны тыя падзеі, аб якіх пачулі ад бацькоў і старэйшых таварышаў, наколькі арганічна прынялі ўсю праўду пра небывалы чалавечы гераізм і небывалыя чалавечыя пакуты. Подзвіг савецкага воіна, які ўратаваў чалавецтва ад карычневай чумы фашызму, павінен быць па-новаму адчуты і дакладна адлюстраваны, незалежна ад году нараджэння пісьменніка. Тым больш, што тут у нашай літаратуры і слаўныя традыцыі і бясспрэчныя поспехі. Таму незразумела і дзіўна, калі сёння на старонкі твораў пачынаюць выходзіць тыя міфічныя дзяды, якія разгульвалі ў некаторых кнігах першага пасляваеннага дзесяцігоддзя, разганяючы дубінай палкі гітлераўцаў, узброеных самай дасканалай на той час тэхнікай. У апавяданні М. Капыловіча «На сваім селішчы» сваяк тых паўзабытых дзядоў абыходзіцца ўжо нават і без дубіны—ворага, аказваецца, можна абяззброіць і звычайнай чапялой. Адным словам, «традыцыі» і «наватарства»! З чапялой дык нават і цікавей—нездарма ж учынак дзеда так спадабаўся фашысту, які пахваліў старога ваяку за адвагу і знаходлівасць.

Жарты жартамі, але нельга не звярнуць увагі на гэтыя трывожныя сімптомы ў адлюстраванні найвялікшага народнага подзвігу. Прыклад М. Капыловіча, на жаль, не адзінкавы. Летась былі змешчаны апавяданні і некаторых старэйшых пісьменнікаў, у якіх падзеі Вялікай Айчыннай вайны паказваюцца спрошчана і аблегчана. Будзем спадзявацца, што гэта прыкрая выпадковасць.

Якія ж словы хочацца сказаць у заключэнне нататак аб маладой беларускай прозе мінулага года?

Добра, што маладыя пісьменнікі ўсё пільней углядаюцца ў сучаснасць. Галоўны герой пераважнай большасці іх мінулагодніх апавяданняў і аповесцяў—малады чалавек нашых дзён, які альбо яшчэ шукае сваю дарогу, альбо ўжо мае сталае месца ў жыцці. Ён няўрымслівы, гэты малады чалавек. Даводзіцца яму часам і памыляцца. Але яго імкненне адно—рабіць як мага больш і лепш для роднага народа, для яго сённяшняга і заўтрашняга дня.

А якія прагнозы на будучыню? Аптымістычныя. Бо ёсць усе падставы спадзявацца, што наша маладая проза будзе і надалей, але яшчэ глыбей і паўней, паказваць жыццё з яго радасцямі і пошукамі, спадзяваннямі і трывогамі. Дык добрай вам хады, дужых крыл для здзяйснення гэтай пачэснай задачы, нашы маладыя празаікі!






Зорка Венера

**«ЗОРКА ВЕНЕРА».**
**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972.**

# КНІГА ПІСАЛАСЯ 60 ГАДОЎ...

Як жа нам пачаць размову пра «Зорку Венеру»—кнігу, 97 аўтараў якой пішуць пра адно: пра каханне?.. Вядома, што тут больш за ўсё будуць да месца проста думкі з прычыны гэтага самага цудоўнага пачуцця, якое дадзена чалавеку, а таксама думкі пра лепшыя ўзоры беларускай любоўнай лірыкі, дзе ўслаўляецца гэтае пачуццё. А крытыка? Кніга, можна сказаць, загадзя была «асуджана» на поспех (і гэта, здаецца, адзіна прымальны від калектыўнай творчасці), таму што пісалася не спехам і не абыякава, а доўга і з захапленнем.

...Ва ўсе папярэднія стагоддзі чалавеку жылося ў асноўным цяжка і горка. У яго адбіралася ўсё: хлеб, праца, свабода, розум і само жыццё. Нельга было адабраць толькі адно—каханне. Толькі яно адно, па сутнасці, падтрымлівала схаладалы касцёр чалавечага існавання, калі ўмовы жыцця рабіліся зусім невыносныя. Слодыч даступнай кожнаму любові толькі і магла ў нейкай меры ўраўнаважыць сапраўды нечалавечы цяжар пакут, на якія часам асуджаўся чалавек. Ужо якім цяжкім было жыццё для героя дарэвалюцыйнай лірыкі Я. Купалы, для селяніна, забітага вечнай галечай і катаржнай працаю, а прыходзіць да яго каханне—і яму здаецца, што свет стане праўдзівы, калі ён ажэніцца з каханаю:

Разам будзем жыці ў хатцы,
Разам песні пець;
Будзе р а е м свет здавацца,
Ўсё праўдай яснець.
(«Пакахай мяне, дзяўчынка...»)

Каханне можна было зняважыць, абылгаць, як гэта рабілі царкоўнікі, на яго можна было цюгакаць, як гэта рабілі ханжы-маралісты, а вось знішчыць—нельга. Але і з-пад ілжы і зняваг каханне выходзіла чыстае і цнатлівае.

Дык чаму ж улада, царква і ханжы-маралісты ваявалі з каханнем? Чым яно ім дапякала?

У каханні, як у зародку, схаваны і разам з ім выходзяць на волю ўсе астатнія праявы чалавечай асобы, сярод якіх — ідэі роўнасці і свабоды. Той жа купалаўскі мужык, на кліч якога адгукнулася каханая, адчувае сябе тым, чым ён ніяк не можа стаць у жыцці:

І сагрэла ты мяне
Ў палуцьме, у палусне;
Паня ты была, я пан...
(«Даўгажданая».)

А чаму каханне несла заўсёды ідэю свабоды? Таму што яно і зараджаецца свабодна (ніколі па прымусе), і для свайго праяўлення шукае менавіта свабоды таемнасці: сарамлівая цнота не церпіць наглядчыка. Калі сустракаюцца перашкоды—нараджаецца натуральнае жаданне іх пераадолець. Але адначасова можа прыйсці ў галаву і думка аб неабходнасці і магчымасці разбурыць усе астатнія ўмоўнасці—родавыя, маёмасныя і г. д. Так з'яўляюцца Рамэо і Джульета...

Паэт-рэвалюцыянер Валянцін Таўлай у вершы «Таварышу маёй вясны» сцвярджае адзінства кахання і барацьбы за свабоду: каханне дапамагае яму пераносіць нягоды ў той барацьбе:

Хоць шыпшына даўно адцвіла—
засталася на памятку радасць,
Захаваю паблеклы пялёстак,—
далёкі ўспамін,—
Пранясу праз жыццё,
непакорны ні бурам, ні здрадам,
Каб і сэрцу цяплей,
каб сінелі прыветней палі.

## Папытай у кнігарні

**«З СЯМ'І САКАЛІНАЙ».** Зборнік нарысаў пра нашых выдатных землякоў — «людзей з сакалінай сям'і рэвалюцыянераў» — падрыхтаваў дырэктар Крычаўскага краязнаўчага музея М. Мельнікаў. Тут змешчаны нарыс «Легендарны доктар» — пра Мікалая Канстанцінавіча Судзілоўскага, які вядомы ў сусветным рэвалюцыйным руху пад імем «доктара Руселя». Чытач знойдзе ў зборніку таксама нататкі пра дзейнасць аднаго з першых рэвалюцыйных агітатараў на Беларусі Л. І. Каменскага, пра вядомага народавольца, сябра Кібальчыча Р. П. Ісаева (аднаго з арганізатараў і ўдзельнікаў замахаў на цара), пра рэвалюцыянера С. М. Мяржынскага і інш. Яркія старонкі прысвечаны чырвонаму камісару А. І. Попелю (гэта ён першы даставіў У. І. Леніну ў Смольны данясенне аб узяцці Зімняга), герою грамадзянскай вайны М. С. Кісялёву і іншым славутым ураджэнцам нашага краю.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973. На рускай мове.**

**«ПОДЗВІГ ПРАЦЯГВАЕЦЦА».** Размініраванне склада варожых боепрыпасаў, што засталіся ў зямлі яшчэ з вайны... Пасадка баявога самалёта ў аварыйнай сітуацыі... У гэтых надзвычайных абставінах асабліва ярка выяўляюцца адметныя якасці савецкага воіна — гатоўнасць да подзвігу, да самаахвярнасці, мужнасць, высокая баявая вывучка і майстэрства.

Аб гэтым і расказваецца ў зборніку нарысаў пра воінаў Чырванасцяжнай Беларускай Ваеннай акругі. Склаў яго У. Скарынкін. Прадмову напісаў начальнік Палітупраўлення ЧБВА генерал-лейтэнант А. Дзебалюк.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973. На рускай мове.**

**«ВЕРШЫ»** Пімена Панчанкі — кніга выбраных твораў паэта з серыі «Бібліятэка беларускай паэзіі». У зборнік уключана лепшае, што напісана П. Панчанкам за апошнія тры дзесяцігоддзі, пачынаючы з суровага сорак другога... Многія з вершаў — узоры сапраўднай грамадзянскай лірыкі. Яны адметныя надзіва тонкім адчуваннем пульсу часу, шчырасцю і свежасцю пачуцця, сыноўняй любоўю да Радзімы.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

## Папытай у кнігарні

З'яўляючыся самым цудоўным з духоўных перажыванняў чалавека, каханне разам з тым — магутны рухавік матэрыяльнага прагрэсу...

Але хопіць тэорыі! «Зорка Венера» тым і моцная, што ў ёй — адна «практыка»!..

Беларуская любоўная лірыка, пэўна, не можа быць зусім адметнай ад іншай — рускай, украінскай, іспанскай. «Сюжэт» жа заўсёды аднолькавы: ён і яна. Ці дзіўна таму, што ў «Зорцы Венеры» сустракаюцца вершы, якія не толькі вельмі нагадваюць шэдэўры сусветнай лірыкі, але і выкананыя, як кажуць, «на ўзроўні сусветных стандартаў»! Напрыклад, пасля перакладу С. Маршаком Р. Бёрнса стаў шырока вядомы верш апошняга «Фіндлей». З. Бядуля наўрад ці быў знаёмы з ім — а свой верш «Свеціць месяц...» будуе дакладна гэтак жа:

Свеціць месяц. Б'ецца сэрца.
Янка стук і грук у дзверцы:
— Адчыні, мая дзяўчына,
Будзе радасць уначы нам!
— Маці злосная аблае.
Маці кажа: я малая.

І той жа шчаслівы фінал:

За сцяною чую шолах:
— Адчыні — я друг, не вораг.
Ціха дзверцы адчыніла.
— Дзе ты, Янка? Дзе ты, мілы?

Адна з самых любімых гераінь любоўнай лірыкі даўніх часоў — сірата, нясмелая, абсмяяная, сціплая прыгажуня, усё тая ж вечная Папялушка — адгукаецца і ў цудоўным па пачуцці і майстэрстве вершы М. Грамыкі «Марынка»:

Але ж вочкі ў Марынкі — агні!
Не пазнаеш, — ці сінь, ці чарнота,
Так стаяў бы, здаецца,
ля плота, —
І ні гуку, ні слова, ані.
Хоць шапнуць ёй даўно ёсць
ахвота,
Што па сэрцу мы, мусіць,
зрадні...

А спрадвечная тэма мужчынскай гордасці! Дужы, незалежны чалавек, што падковы гне, — і рассыпаецца дробным макам... Перад кім? «А яна была толькі... дзяўчына!» (Я. Купала. «А яна...»)

І самы распаўсюджаны матыў любоўнай лірыкі — неадольная сіла кахання. Ты гані яго ў дзверы — яно ўскочыць у акно, зачыні яго на замок — замок адамкнецца сам сабою. Забароны, угаворы, упрошванні, запалохванне — бяссільныя. Ніякія перашкоды не спыняць закаханых. Вершам на гэтую тэму няма ліку. Да іх дастойна і на роўных далучаецца і тэмпераментны верш С. Дзяргая «Ой, дзяўчо!..»:

Кроў кіпіць і віруе,
І агонь ва ўсім целе.
— Што ж, калі і згару я
На імшанай пасцелі!..

Ну, дык вось: няхай даруе мне «наогул паэзія», але мне здаецца, што любоўная лірыка «Зоркі Венеры» ў тым-сім яе пераўзыходзіць. Па глыбіні пачуцця, па багацці яго адценняў і «сітуацый», па прыгажосці і майстэрстве «Зорка Венера» вылучаецца сярод іншых калектыўных зборнікаў. І прычынай не толькі выдатны густ складальніка М. Аўрамчыка, а і тое, што ў кнізе залаты фонд беларускай паэзіі.

Цікавая асаблівасць многіх вершаў зборніка: менш за ўсё яны гавораць менавіта пра само каханне. Часцей гэта або кліч, прага сустрэчы, або ўспамін, шкадаванне, горыч ад разлукі, нараканне на немагчымасць новай сустрэчы. Гэтаму ёсць тлумачэнне. Будучы доўгі час пераважна сялянскай, беларуская паэзія ўслаўляла каханне мужыка, працаўніка, які бачыў у прадмеце сваёй любові перш за ўсё сяброўку цяжкога жыцця, памочніцу, а не крыніцу пачуццёвай асалоды.

Высокі паэтычны, мастацкі ўзровень большасці вершаў «Зоркі Венеры» вызначаецца і тым, што лірыка кахання не выносіць няшчырасці, фальшы. Калі для паэта каханне — толькі «тэма», калі няма ніякага канкрэтнага «прадмета» кахання, няма сапраўднага пачуцця — адкуль жа ўзяцца яму і ў вершы! Абыякавасць у любоўнай лірыцы ўтаіць яшчэ цяжэй, чым у «проста паэзіі».

Будучы заўсёды моцным перажываннем, каханне, пра якое напісана шчыра, сумленна, дае па-сапраўднаму моцныя вершы.

Дык што ж — суцэльнае свята паэзіі? О, не! У каханні ёсць і пакуты: разлука, рэўнасць, непадзеленае пачуццё, нарэшце, здрада... Так што і ў лірыцы кахання — невычарпальная дыялектыка пачуццяў, канфлікты і высокія трагедыі.

Толькі гэтыя пакуты не прыніжаюць чалавека, а ўзвышаюць яго, прымушаюць імкнуцца быць лепшым, каб заваяваць каханне... І шкада, што пра гэта напісана ў нас яшчэ мала...

Ва ўступе да «Зоркі Венеры» А. Вялюгін піша: «Лірыка кахання, як і наогул Паэзія, з'яўляецца маральным багаццем нацыі». Гэта, безумоўна, справядліва. У гэтым пераконваешся пасля прачытання «Зоркі Венеры».

**Хведар ЯФІМАЎ.**

## Папытай у кнігарні

**«РЭПАРТАЖ З РУБЦОМ НА СЭРЦЫ».** «Мы захапілі ў сэрцы хатні вецер, а ў ім — усплёск чырвонага сцяга над Крамлёўскай сцяной і шолах трыснягоў на Браслаўскіх азёрах...» Гэтыя словы — нібы запеў да амерыканскага рэпартажа-дзённіка Максіма Лужаніна. Паездка паэта ў Амерыку ў якасці дэлегата на сесію ААН у 1968 годзе, назіранні і ўражанні ад заморскіх сустрэч склалі гэты своеасаблівы па форме рэпартаж. Уражанні ад краіны «жоўтага д'ябла», часцей балючыя і невясёлыя, суседнічаюць у кнізе са светлым роздумам аб Радзіме, з экскурсамі ў гісторыю, літаратуру, мастацтва, з успамінамі пра сяброў, пра незабыўнага дзядзьку Коласа...

Па-за ўвагай чытача не застануцца вострая назіральнасць аўтара, трапнасць дэталяў, сакавітая мова рэпартажу.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«НЕЗАБЫЎНЫ ДЗЕНЬ».** У перакладзе на беларускую мову выйшаў зборнік апавяданняў пісьменнікаў Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. Побач з вядомымі майстрамі прозы Аннай Зэгерс, Вілі Брэдэлем, Бертальдам Брэхтам, Эрвінам Штрытматарам у кнізе бяруць удзел і маладыя пісьменнікі ГДР — Герберт Махбар, Ёахім Новатны, Зігфрыд Пічман і інш. Крытык Вернер Лірш у прадмове да зборніка дае сціслы аналіз літаратуры «малога жанру», коратка характарызуе тэматыку змешчаных твораў.

Пераклады з нямецкай мовы зроблены В. Сёмухам, Я. Семяжонам, С. Дорскім, М. Навіцкім і іншымі беларускімі літаратарамі.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ЖУРАВІНКА».** Назву свайму новаму зборніку — на гэты раз гумарыстычнаму — Рыгор Барадулін даў па аднайменным вершы. У кнізе сабрана каля сямі дзесяткаў твораў, напісаных паэтам у розныя гады. Яны прывабліваюць адметнай барадулінскай усмешкай, досціпам. Чытач знойдзе тут гумарыстычныя вершы пра каханне, паэзію, а таксама пародыі, эпіграмы на сяброў-літаратараў.

Ілюстраваў «Журавінку» мастак Б. Збораў.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

## Папытай у кнігарні



Г. ВАШЧАНКА. Раніца.



Э. КУФКО. Будаўніца.



**В. ЖОЛТАК.** Званочкі.



**Г. ХАНДЖАН. У гарах.** (Армянская ССР.)

Букварь языка славенска, сирѣчь начало ученія дѣтемъ, хотящымъ ученія чтенію писаній: Повелѣніемъ благочестивѣйшагѡ великагѡ г(осу)д(а)ря нашегѡ ц(а)ря, и великагѡ кн(я)зя Феодѡра Алеѯїевича, всея великія и малыя, и бѣлыя россіи самодержца:



# БУКВАР СІМЯОНА ПОЛАЦКАГА

Сённяшні падручнік для першапачатковага навучання грамаце—усім вядомы буквар—мае шматвяковую гісторыю. На жаль, мы яе мала ведаем.

Гісторыя стварэння буквара звязана з вядомымі ўсяму свету імёнамі Івана Фёдарава, Лаўрэнція Зізанія (Тустаноўскага), Васіля Бурцава, Спірыдона Собаля і інш.

Шмат цікавых старонак у гісторыю развіцця асветы было ўпісана беларускім паэтам, педагогам, выдаўцом Сімяонам Полацкім. Чалавек высокаадукаваны, Сімяон Полацкі займаў выключнае становішча пры Маскоўскім двары. Без дазволу патрыярха ён адкрыў у Маскоўскім Крамлі сваю друкарню. У ёй пачалі выдавацца вучэбныя кнігі, якія прызначаліся ў першую чаргу для царскай сям'і.

Ёсць меркаванні, што і «Буквар» Сімяона Полацкага быў складзены для малога Пятра I, якому ў той час было сем гадоў.

Вядома, што цар Аляксей Міхайлавіч звяртаўся да Сімяона Полацкага, каб той праверыў веды Мікіты Зотава, які павінен быў стаць настаўнікам Пятра I. А для навучання Пятра, зразумела, патрэбны быў падручнік, які б дапамог будучаму цару авалодаць граматаю. Вось такую кнігу і ўзяўся скласці Сімяон Полацкі. Ён вывучыў такога тыпу падручнікі, якія меліся ўжо ў яго на радзіме ў Беларусі, і 3 снежня 1679 года «Буквар» Сімяона Полацкага выйшаў з друкарні Маскоўскага Крамля.

Пасля выхадных звестак у «Буквары» змешчана прадмова «К юношам учитися хотящим», дзе ў форме сілабічнага верша даводзіцца неабходнасць авалодваць ведамі і вялікая карысць адукацыі. Заклік Сімяона Полацкага «письмена знати» праходзіць праз увесь падручнік. Ён прымушае разумна ацаніць карысць ведаў для кожнага чалавека і для радзімы. Ёсць тут і панегірык цару (звярніце ўвагу—цару, а не патрыярху, з якім паэт заўсёды канфліктаваў).

У той час звычайна заняткі пачыналіся малітвай у школе альбо ў царкве, таму складальнік пад назвай «Благословения отроков во училище учитися священным писаниям идущим» змяшчае ў «Буквары» малітвы, у якіх праводзіць думку аб неабходнасці асветы. Потым пад прыгожай застаўкай ідзе рубрыка «Буквы или письмена», дзе дадзены славянскі алфавіт вялікіх і малых літар. Ад літар педагог і выдавец пераходзіць да складоў. Такая падача алфавіту і складоў узята Сімяонам Полацкім з «Буквара» Спірыдона Собаля (Куцейна, 1631; Магілёў, 1636), які карыстаўся ў сваіх падручніках такімі прыёмамі для навучання чытанню.

Сімяон Полацкі ў сваім «Буквары» зрабіў палёгку для вучняў. Пасля вывучэння складоў ён змясціў алфавіт з назвай усіх літар (аз, букі, ведзі, глаголь і г. д.). Гэты прыём наводзіць на думку, што вопытны настаўнік Сімяон Полацкі пачынаў вучыць чытаць з засваення гукаў, а потым пераходзіў да літар.

Самым складаным для вучняў, якія пачыналі вывучаць царкоўнаславянскую мову, было засваенне слоў з цітламі (значкамі над словамі, якія абазначалі пропускі літар). Таму аўтар у алфавітным парадку прыводзіць шэраг падобных слоў, каб яны запомніліся.

Асноўныя палажэнні праваслаўнай царквы былі выкладзены ў выглядзе невялікага катэхізіса, які Сімяон Полацкі ўзяў з «Азбукі» Лаўрэнція Зізанія (Тустаноўскага), надрукаванай у Вільні ў 1596 годзе. Да катэхізіса прымыкаюць розныя біблейскія запаведзі.

У «Буквары» даецца таксама вучэбны матэрыял па вершаскладанні, які, на думку Сімяона Полацкага і яго папярэднікаў, вельмі патрэбны моладзі. Пад загалоўкам «Прасодія верхняя, или ударения гласа яже употребляют славяне» ён прыводзіць такі падзел усёй прасоды: «Цяжкая, облегченная, тонкая, густая, слитная, мягкая».

Пад рубрыкай «Строчная препинания» прыводзяцца самыя неабходныя звесткі пра сінтаксіс: вучню патрэбна ведаць, дзе ставіцца коска, двухкроп'е, кропка, «отложная» (круглыя дужкі) і г. д.

Аўтар «Буквара» знаёміў вучняў са славянскай літарнай нумарацыяй, якая ў той час выконвала ролю лічбаў. Тут ёсць адзінкі, дзесяткі, сотні і тысячы. З гэтых лічбаў можна было скласці любы лік, трэба было толькі трохі падумаць. Таму ў самым нізе старонкі ёсць такая заўвага: «По сих и прочая да разумеются».

Сімяон Полацкі склаў і змясціў у падручніку шэраг рэлігійна-маральных зваротаў-прывітанняў да бацькоў і дабрадзеяў на розныя царкоўныя святы. У сваім «Увещании», змешчаным у канцы «Буквара», ён зноў гаворыць аб вялікай карысці ведаў і стараецца ўтлумачыць неабходнасць пакарання за благія ўчынкі. У вершаваным звароце да вучняў ухваляецца жэзл, дубец і біч, якія павінны былі заахвоціць вучня да засваення канонаў навукі.

Розга ум острит, память возбуждает
И волю злую к благу прилагает.
. . . . . . . . . . . . .
Бич возбраняет скверно глаголати
И дел лукавых юным содевати.
Жезл ленивыя к делу понуждает,
Рождьших слушати во всем
поучает.

Такія думкі, але ў менш дасканалай форме, можна знайсці і ў шмат якіх падручніках сярэднявякоўя: у тую пару лічылі, што розум вучня знаходзіцца ў яго спіне.

«Буквар» Сімяона Полацкага мае 160 лістоў. Старонкі аздоблены лінейнымі рамкамі. У кнізе ёсць застаўкі, цікава і проста надрукаваныя ініцыялы (вялікія літары) і канцоўкі. Паліграфічнае афармленне гаворыць аб шчырай зацікаўленасці С. Полацкага ў знешнім афармленні гэтай кнігі, каб яно адпавядала зместу і было накіравана на пашырэнне адукацыі.

Кніга Сімяона Полацкага для пачатковага навучання—цікавая з'ява ў гісторыі асветы ўсходнеславянскіх народаў.

**Марат БАЦВІННІК,**
**кандыдат гістарычных навук.**



# ПАДАРОЖЖА НА КРАЙ АЙКУМЕНЫ

Чукотка... Суровы, некалі цяжкадаступны край, які з даўніх часоў выклікаў цікавасць у даследчыкаў. Навуковы інтарэс канцэнтраваўся не толькі на разнастайнай прыродзе Чукоткі, багацці яе флоры і фаўны, але і на яе насельніках, гісторыі засялення.

Мара ўбачыць казачныя землі гэтай каралевы снягоў зусім нечакана ператварылася для нас у рэальнасць: мы атрымалі запрашэнне прыняць удзел у аб'яднанай экспедыцыі АН СССР і МГУ. Узначальваў экспедыцыю вядомы савецкі антраполаг, доктар гістарычных навук В. П. Аляксееў, у яе складзе былі антраполагі, археолагі, этнографы. І вось...

## КРЫХУ ГІСТОРЫІ

У 1642 годзе казак Іван Ерастаў дасягнуў Чукоцкага паўвострава і сустрэў на рацэ Алазеі аленных (тундравых) чукчаў. У 1648 годзе казак Сямён Дзяжнёў падарожнічаў уздоўж паўночна-ўсходняга ўзбярэжжа Азіі і пазнаёміўся з прыморскімі (аседлымі) чукчамі. Так пачыналася гісторыя руска-чукоцкіх адносін і асваення Паўночнага Усходу.

Рускія падарожнікі, якія ў XVII—XVIII стагоддзях пабылі на Чукоцкім паўвостраве і ў суседніх землях, сустрэлі тут плямёны чукчаў, эскімосаў, каракаў, ітэльменаў. Для ўсіх іх была характэрна даволі нізкая ступень культурнага развіцця—амаль на ўзроўні каменнага веку. Калі меркаваць па шырока распаўсюджаных перажытках матрыярхату, дык толькі незадоўга да прыходу рускіх на Поўнач, тут пачаўся працэс перарастання матрыярхату ў патрыярхат.

Праваслаўных рускіх падарожнікаў, якія асвойвалі Поўнач, здзівіла тое, што тут не было цэркваў і храмаў. Мясцовыя плямёны пакланяліся добрым і злым духам, жывёлінам і каменням, а таксама таямнічым з'явам прыроды. Духоўнымі пастырамі для іх служылі шаманы. Праваслаўная царква спрабавала ахрысціць чукчаў і іншыя мясцовыя плямёны, але поспеху не мела, і толькі ў некаторых гарадах былі пабудаваны цэрквы, якія наведвала ў асноўным рускае насельніцтва.

Адкуль паходзяць эскімосы і чукчы—гэтае пытанне з даўніх часоў цікавіла айчынных і замежных вучоных. Цікавасць выклікала мова і багаты фальклор мясцовых плямёнаў, гісторыя іх культуры.

Першым з рускіх вучоных, якія спрабавалі даць адказ на гэтае пытанне, быў С. П. Крашанінннікаў. Ён выказаў гіпотэзу, якая, дарэчы, цяпер пацвярджаецца, аб тым, што Чукоцкі паўвостраў у далёкім мінулым злучаў амерыканскі мацярык з азіяцкім і што засяленне амерыканскага мацерыка ішло з Азіі, што плямёны алеутаў маюць пэўную роднасць з эскімосамі.

У 1889 годзе на Калыму была саслана група рускіх рэвалюцыянераў. Сярод іх былі В. Г. Багараз (Тан) і В. І. Іахельсон, якія прысвяцілі сваю дзейнасць вывучэнню мовы, побыту,



сучаснай і старажытнай культуры народаў Поўначы.

Багараз лічыў, што эскімосы засялілі паўночны ўсход Азіі раней, чым эскімосы Аляскі, і што хваля перасялення эскімосаў ішла з Захаду на ўсход. Чукчы і каракі перасяліліся з больш паўднёвых раёнаў. Гэта, лічыць Багараз, адлюстравалася ў фальклоры чукчаў і каракаў. Ён запісаў іх цікавае фальклорнае паданне пра «вялікага чарвяка», які жыве паблізу ад краіны мерцвякоў. Гэты вялізны чарвяк паглынае цалкам сваю ахвяру, нават калі яна і буйная жывёліна. Потым ён спіць на працягу некалькіх дзён. На падставе гэтага падання Багараз лічыць, што чукчы і каракі прыйшлі з месцаў, дзе водзяцца ўдавы. Далей ён падкрэслівае, што назвы месяцаў у чукчаў і каракаў таксама гавораць у карысць таго, што гэтыя плямёны прыйшлі з больш паўднёвых краін.

У далейшым, па меры накаплення археалагічных, этнаграфічных і фальклорных дадзеных, погляды савецкіх і замежных вучоных разышліся ў двух напрамках: адны лічаць эскімосаў выхадцамі з Азіі, другія сцвярджаюць, што яны паходзяць з Амерыканскага мацерыка. Трэцяя гіпотэза больш нейтральная і мае менш прыхільнікаў. Яна была выказана ў 1867 годзе англійскім археолагам В. Бойдам-Даўкінсам, на думку якога эскімосы з'яўляюцца патомкамі мадленскіх паляўнічых, гэта значыць прыйшлі з Заходняй Еўропы.

Археалагічныя матэрыялы, на якіх будавалі свае гіпотэзы замежныя вучоныя, былі атрыманы толькі з палярных раёнаў арктычнага ўзбярэжжа Амерыкі. Чукоцкі ж паўвостраў да апошняга часу амаль што не даследаваўся.

У вывучэнні гісторыі культуры і паходжання абарыгенаў Чукоткі важную ролю адыграла адкрыццё Д. А. Сяргеевым у 1955 годзе Уэленскага могільніка. З 1957 па 1966 гады Уэленскі і Эквэнскі могільнікі даследаваліся Чукоцкім атрадам Паўночнай экспедыцыі Інстытута этнаграфіі АН СССР пад кіраўніцтвам прафесара М. Р. Левіна.

У вырашэнні праблемы паходжання народаў (этнагенезу) важная роля па праву належыць антрапалогіі. Прыкметы, на падставе якіх робіць вывады антрапалагічная навука, з'яўляюцца спадчынна абумоўленымі і менш зменлівымі ў часе, чым мова і культура народа. Мова і культура, уласцівая пэўнай групе насельніцтва, пад уплывам запазычання можа з цягам часу змяніцца альбо і зніхнуць зусім, антрапалагічны ж тып застаецца амаль нязменны.

У апошні час праграма антрапалагічных даследаванняў значна пашырылася. Антраполагаў цікавяць не толькі знешнія прыкметы чалавека: рост, памеры галавы і твару, прапорцыі цела, колер скуры, вачэй і валасоў, але і функцыянальныя прыкметы—такія, як гемаглабін, група і іншыя спадчынныя фактары крыві, ступень насычанасці крыві кіслародам, мінералізацыя касцей, колькасная характарыстыка бялкоў, вугляводаў, вугляродаў, ліпідаў і халестэрыну ў сываратцы крыві, будова рэльефу скуры (дэрматагліфіка) і зубной сістэмы (аданталогія) і інш. Вывучэнне гэтых адзнак уваходзіць у план Міжнароднай біялагічнай праграмы.

Антрапалагічнае вывучэнне чукчаў і эскімосаў планавалася правесці яшчэ ў даваенныя гады. Першыя антрапалагічныя даследаванні на Чукотцы, якія паспяхова пачаў выконваць выдатны савецкі антраполаг Г. Ф. Дэбец, былі спынены вайной. У пасляваенныя гады іх прадоўжыў М. Р. Левін.

Мэта нашай комплекснай экспедыцыі—вывучэнне насельніцтва Чукоткі па шырокай антрапалагічнай праграме са збіраннем археалагічных і этнаграфічных матэрыялаў.

## ПАЛЯРНЫ ДЗЕНЬ НАД ЧУКОТКАЙ

Больш дванаццаці гадзін пералёту ад Масквы да Анадыра— і вось яна, рамантыка!

Маленькі аэрапорт перапоўнены транзітнымі пасажырамі, экзатычнымі, як і прырода Чукоткі. Вось група салдатаў. Кожны з іх вязе на мацярык няхітры сувенір—разгалістыя аленевыя рогі. Тут жа палярнікі, якія вяртаюцца з адпачынку. Гурточкам сядзяць дзеці чукчаў і эскімосаў: вучні спяшаюцца дадому на канікулы са школ-інтэрнатаў. А там—аленяводы, яны ляцяць на міжраённую нараду па аленяводстве. Звяртаюць на сябе ўвагу жанчыны ў нацыянальным уборы—каляровых камлейках. У дзвюх пажылых чукчанак татуіроўка на шчоках. Гэта азначае, што жанчыны сямейныя. У даўнейшыя часы татуіроўка ў жанчыны была не толькі ўпрыгожаннем, але і сімвалам багацця, прыналежнасці яе да знатнага роду, болей татуіроўкі на твары—большы аленевы статак у сям'і. Цяпер «знак сям'і» сустракаецца ў рэдкіх выпадках—як перажытак мінулага.

Чукотка ўразіла нас белымі начамі, незвычайным кантрастам суровасці прыроды і яе прыгажосці. Тут расце амаль шэсцьсот відаў кветкавых раслін. У букеце Чукоткі кветкі ўсіх кантынентаў—вечназялёны рададэнд-



**Жыццё паляўнічых і аленяводаў—абавязковая тэма гравіроўкі на маржовых клыках.**

ран і ярка-жоўтыя палярныя макі, пушысты анемон і незвычайнай блакітнасці незабудкі. Флора Чукоткі багатая лекавымі раслінамі: валяр'ян, драсён, чамярыца, палын, палявы хвошч, ёсць нават атрутныя травы— цыкута і аканіт. І ўжо зусім незвычайнымі здаюцца для вока жыхара сярэднееўрапейскай паласы тутэйшыя дрэвы: у невысокіх раслінах, якія дасягаюць дваццаці сантыметраў альбо якія рассцілаюць галіны па зямлі, дзіўна было пазнаваць нашых зямлячак—бярозу ці вярбу. А побач, на сопках—снег, які так і не паспявае растаць за кароткае палярнае лета. Лета на Чукотцы каля двух месяцаў (паміж чэрвенем і жніўнем), а ў кастрычніку настае васьмімесячная суровая зіма.

Работа нашай экспедыцыі пачынаецца з Уэлена—самага ўсходняга населенага пункта Азіі, мяжы, дзе заходняе паўшар'е пераходзіць ва ўсходняе. Яго аддзяляе ад Аляскі нешырокі Берынгаў праліў. Ясным летнім днём з высокіх сопак можна ўбачыць вузенькую палоску аляскінскай зямлі.

Жыхары Уэлена першымі ў нашай краіне сустракаюць усход сонца. Уэлен па-эскімоску—нож, якім кроЯць, скрыляюць здабычу. Назва пасёлка адпавядае яго выгляду. На пясчанай касе ўздоўж адной вуліцы выстраіліся ланцужком дамы. Вузкая доўгая каса, якая цягнецца з усходу на захад, аддзяляе Уэленскую лагуну ад Чукоцкага мора і на ўсходзе пераходзіць у горную тундру. Да мора тундра спускаецца ўступамі высокіх скал, ля падножжа якіх знаходзіцца вузкі, але доўгі галечны пляж. У старажытныя часы, сцвярджае В. Г. Багараз, на гэтым пляжы бывалі кірмашы, у якіх прымалі ўдзел розныя плямёны Поўначы: чукчы, эскімосы, юкагіры, ітэльмены. Для таго, каб абмяняцца таварамі, не абавязкова было ведаць чужую мову. Людзі прапаноўвалі адзін другому тавар на канцы кап'я альбо трымалі некалькі звязаных скурак у адной руцэ, а ў другой—нож, каб адразу ўступіць у бойку пры парушэнні правіл гандлю.

На гэтым жа пляжы на свае сезонныя лежні збіраліся маржы. Але цяпер маржы выбралі сабе другое месца—пясчаную касу каля мыса Дзяжнёва, непадалёк ад Уэлена. Адтуль хвалі Чукоцкага мора часта прыносяць да берага Уэлена абломкі маржовых касцей, клыкоў, маржовыя зубы.

У цэнтры Уэлена знаходзіцца вядомая Уэленская касцярэзная майстэрня. Чукоцка-эскімоская разьба і гравіроўка па косці—адзін са старажытнейшых відаў мастацтва народаў Поўначы. Ужо каля трох тысяч гадоў таму назад аседлыя прыморскія чукчы і эскімосы выкарыстоўвалі клыкі маржоў для вырабу фігурак жывёл, якія, магчыма, мелі магічны сэнс. Творы мастакоў, што працуюць ва Уэленскай касцярэзнай майстэрні, упрыгожваюць лепшыя музеі свету.

Ва Уэлене мы пазнаёміліся з мясцовымі промысламі: паляваннем на нерпу, лахтака, маржа, а таксама з апрацоўкаю здабычы. Асабліва зацікавіла нас свежаванне кіта: яго прывезла ў пасёлак кітабойнае судна ў самую «поўнач», калі можна так сказаць пра тыя гадзіны кругласутачнага палярнага дня, якія ў нашым разуменні адпавядаюць ночы.

Рабочы дзень на Чукотцы залежыць ад светлавога дня. Летам ён цягнецца круглыя суткі. Наогул улетку тут спяць мала. Сярод «ночы» можна ўбачыць, як гуляюць на вуліцы дзеці, альбо назіраць, як хто-небудзь палюе на дзікіх качак каля самага свайго парога.

Ад кітабойнага судна кіта цягнулі на сталёвых тросах два вельботы. І хоць кіт быў параўнаўча невялікі (усяго 16 тон), два трактары ледзь выцягнулі яго на бераг. Амаль усё насельніцтва пасёлка, і старыя і моладзь, сабраліся, каб не толькі паглядзець на кіта, але і дапамагчы, калі ў гэтым будзе патрэба. Свяжуецца кіт спецыяльнымі закругленымі нажамі з доўгімі тронкамі. Спачатку здымаюць скуру і тлушч, потым дастаюць печань, і толькі тады рэжуць мяса. Адрэзаныя кавалкі мяса і тлушчу складваюць тут жа, на прыбярэжную гальку. Мяса кіта—цёмначырвонае, са спецыфічным вострым пахам. Падсмажанае, яно даволі смачнае. Вялікім ласункам лічыцца свежы кавалачак скуры кіта. Мы таксама захацелі паласавацца, і нам прапанавалі па кавалачку цёмнай скуры. Але гэты ласунак здаўся нам не смачнейшы за кавалак гумавай халявы. Магчыма, жыхару Поўначы здаліся б гэткімі, скажам, нашы дранікі...

Цікавага многа. Але ж мы прыехалі сюды працаваць. Трэба разгарнуць лабараторыю і растлумачыць насельніцтву мэту нашых даследаванняў так, каб людзі пайшлі да нас. Вялікую дапамогу ў арганізацыйных пытаннях аказвалі нам работнікі партыйных і савецкіх устаноў і самі жыхары гэтага суровага і гасціннага краю.

Пад лабараторыю быў выдзелены домік у цэнтры Уэлена, побач з касцярэзнай майстэрняй. Першы ж дзень работы паказаў, што людзі прыхільна аднесліся да нас і нашых даследаванняў. Яны ішлі ў лабараторыю цэлымі сем'ямі. Тут мералі іх рост, аб'ёмы галавы, прапорцыі цела, узважвалі, вымяралі крывяны ціск і бралі кроў з вены на аналіз, рабілі рэнтген косці для вызначэння насычанасці мінеральнымі рэчывамі, вызначалі ўзровень акісляльных працэсаў у арганізме пры дапамозе оксігемометра і, нарэшце, бралі адбіткі пальцаў, рабілі антрапалагічныя (у трох пазіцыях) фотаздымкі.

У сучасных антрапалагічных абследаваннях цесна пераплятаюцца біялагічныя і сацыяльныя праблемы, таму што чалавек—істота не толькі біялагічная, але ў роўнай ступені і сацыяльная. Вывучаючы марфафізіялагічныя асаблівасці чалавека ў сувязі з уплывам знешняга асяроддзя, антрапалаг не можа не цікавіцца яго фізічным, духоўным і сацыяльным дабрабытам. Таму мы рашылі пазнаёміцца з медыцынскім абслугоўваннем, з ежай, бытам і культурай мясцовага насельніцтва.

Мова чукчаў адносіцца да паўночна-ўсходніх палеаазіяцкіх моў. Мы гаварылі з чукчамі на рускай мове, бо па-чукоцку ведалі толькі некалькі ходкіх слоў. Быт чукчаў падобны на быт іншых народаў нашай краіны. Аленяводы толькі на лета ідуць са статкамі ў тундру, астатні ж час вядуць аседлае жыццё. У калгасных і саўгасных пасёлках амаль не засталося ярангаў. Ва Уэлене—толькі адна. І мы доўга шукалі яе, каб мець уяўленне, якія былі ярангі. У ёй цяпер нейкі склад.

Жыхары Чукоткі жывуць у шматкватэрных і аднакватэрных дамах. У кожным доме ёсць тыя рэчы, якія падарыла нам цывілізацыя—радыёпры-



**Сушыцца на зіму юкала—рыба Поўначы.**

ёмнікі, пральныя машыны. Тэлебачанне ва Уэлене пакуль не прыжылося—метэаралагічныя ўмовы перашкаджаюць устойліваму прыёму перадач. У пасёлках ёсць школы, інтэрнаты, клубы, бібліятэкі, электрастанцыі, лячэбныя ўстановы.

У адзенні мясцовага насельніцтва спалучаюцца элементы еўрапейскай і мясцовай вопраткі. Элегантныя гарнітуры і прыгожыя шарсцяныя кофтачкі апранаюць пад камлейку (шырокая сукенка з доўгімі рукавамі). Жаночыя камлейкі шыюцца з паркалю альбо іншай лёгкай тканіны і ўпрыгожваюцца аборкамі. Мужчынам камлейкі служаць за дажджавікі і шыюцца з кішак нерпы альбо з балонні (мадэрн-камлейка). Якую перавагу камлейка мае перад плашчом, мы пераканаліся ў час падарожжа на вельботах, калі вецер рваў крыссе нашых плашчоў і сыпаў дажджом. Камлейку ж



**І які паляўнічы, скажыце, не ўзрадуецца, вяртаючыся дадому вось з такою ўдачаю!**



**Аленевыя аргішы—своеасаблівыя дарогі тундры.**

вецер не прадзімаў, яна не прапускала вільгаць.

Басаножкі на Чукотцы не прыжыліся, а боты з аленевай скуры, выробленыя мясцовымі майстрамі, цэняцца тут больш за самыя лепшыя гумавыя і нават перламутравыя. У ежы пераважае мяса: аленіна, мяса кіта, нерпы, маржа, дзікіх качак. Меней ужываецца гародніна, хоць у магазінах багата кансерваваных агуркоў, памідораў, зялёнага гарошку. Бульба, цыбуля і часнок—дэфіцытны тавар: усё гэта цяжка вазіць на Чукотку. У калгасных і саўгасных пасёлках ёсць добрыя сталовыя, і большасць насельніцтва харчуецца там...

### ЧУКОЦКАЯ ШВЕЙЦАРЫЯ

Прайшлі два тыдні ва Уэлене. Намечаны план даследчай работы выкананы. Наступнае месца, якое нам трэба даследаваць—пасёлак Лорына. Тое, што сярэдняя тэмпература летам на Чукотцы не перавышае —5°, мы асабліва востра адчулі ва Уэлене. Пасёлак, які з усіх бакоў абдзімаюць вятры і амаль штодзённа ахінаюць туманы, даволі рэдка радаваў нас сонечнымі днямі. А перад самым ад'ездам надвор'е зусім сапсавалася, і мы цэлы тыдзень, як кажуць, сядзелі на беразе мора, чакаючы добрага надвор'я. Але вось вецер крыху сціх і, нягледзячы на туман і дождж, удалося выбрацца з Уэлена на вельботах—маторных лодках. Нават не верылася, што невялікія вельботы возьмуць усё наша абсталяванне, нас саміх (дзесяць чалавек) і яшчэ дзесяць пасажыраў. На ўспамін аб Уэлене мы везлі з сабою выразаных з маржовага клыка маленькіх смешных чалавечкаў-пеліканаў і рознакаляровую гладкую ўэленскую гальку—падарунак чукоцкай зямлі.

На вельботах ідзём уздоўж берага. Мора штарміць, таму адыходзіць ад берага небяспечна. Праз заслону дажджу і туману насустрач плывуць высокія абымшэлыя скалы самых фантастычных форм з гротамі і выступамі. Пейзаж суровы і велічны. На сіне-шэрым фоне адзіная яркая пляма—аранжавая камлейка рулявога чукчы Лёліча. Зверабой Лёліч, якому даводзіцца ў любое надвор'е выходзіць у мора на вельбоце, добра ведае паўночныя марскія дарогі.

Праходзім побач са скалой Трох братоў—тры вастраверхія камяні ўзвышаюцца непадалёку ад мора. Затым абыходзім мыс Дзяжнёва (старая назва—Чукоцкі Нос). На мысе ўзвышаецца маяк-помнік Сямёну Дзяжнёву. Драўляны крыж з надпісам быў пастаўлены ў 1910 годзе, а ў 1955 годзе побач узведзены вежа-абеліск з бюстам Дзяжнёва...

Пасёлак Лорына размяшчаецца на беразе Берынгава мора. З боку мацерыка ад вятроў яго засланяе ланцуг сопак. Маляўнічы пейзаж, параўнальна цёплы клімат... Нездарма мясцовыя жыхары называюць яго Чукоцкай Швейцарыяй. Непадалёку ў тундры ёсць нават гарачыя серавадародныя крыніцы. Тут у аранжарэях вырошчваюць памідоры, агуркі і адпраўляюць самалётамі ў другія населеныя пункты Чукоткі. Ля гарачых крыніц пабудаваны санаторый.

Лорына яшчэ славіцца па ўсёй Чукотцы і за яе межамі сваёй пушнінай—блакітнымі пясцамі і норкамі. Але сучасная Чукотка—гэта не толькі пушніна, аленегадоўля, марскі зверабойны промысел. Гэта таксама прамысловы край: каменнавугольны Анадыр, залатаноснае Білібіна, буйныя парты і аэрадромы.

У Лорыне мы заканчваем сваю экспедыцыю. На мацярык вязём цікавыя навуковыя матэрыялы. Абследавана каля 400 чалавек мясцовага насельніцтва. Дадзеныя даследаванняў будуць апрацоўвацца ў лабараторных умовах.

Развітваемся з Чукоткай і адчуваем, што ўсё ж часцінка сэрца застаецца тут, у гэтым рамантычным, суровым краі.

**Лідзія ЦЯГАКА,**
**Інэса САЛІВОН.**

■ ■ ■



# ЖЫВОЕ СЛОВА НА ЭКЗАМЕНЕ

Аналіз уступных экзаменаў па беларускай мове і літаратуры і кантрольных работ слухачоў падрыхтоўчых курсаў паказвае, што большасць выпускнікоў школ валодае навыкамі вуснай і пісьмовай мовы. Аднак некаторыя абітурыенты пры вусных адказах і ў сачыненнях дапускаюць шмат памылак і недакладнасцяў. Пра асноўныя з іх і пойдзе ніжэй гаворка.

Выпускнікі школ часта не разумеюць розніцы паміж гукамі і літарамі. Таму, напрыклад, у слове **мёд** называюць чатыры гукі **(м, й, о, д)**, дапускаючы пры гэтым дзве памылкі. Яны не ведаюць, па-першае, правіла фанетыкі, дзе сказана, што літары **(падкрэсліваю:** літары, а не гукі) **е, ё, ю, я** ў пачатку слова, у сярэдзіне **і** ў канцы слова пасля галосных, пасля апострафа, раздзяляльнага **ь** (мяккага знака) і **ў** (нескладовага) абазначаюць два гукі: **й (ёт)** і адпаведны галосны гук **(э, о, у, а)** і называюцца ў гэтым выпадку ётавымі, а па-другое, не ведаюць правіла арфаэпіі — звонкія зычныя на канцы слоў і перад глухімі аглушаюцца, а глухія перад звонкімі вымаўляюцца, як адпаведныя ім звонкія. Таму ў слове **мёд** наступныя гукі: **м′, о, т**; у слове **аб'ява — а, б, й, а, в, а; саюз — с, а, й, у, с; дождж — д, о, ш, ч; просьба — п, р, о, з′, б, а; дзверы — дз′, в′, э, р, ы; насенне — н, а, с′, э, н, э.**

Некаторыя абітурыенты не разбіраюцца ў марфалагічнай структуры слова. Няправільна, напрыклад, у словах **навечна, класці, па-беларуску, гуляючы** канечныя галосныя **а, і, у, ы** лічыць канчаткам (нязменныя словы канчаткаў не маюць!). І наадварот, у словах **прыйшлі, прынесла** канечныя **і, а** з'яўляюцца канчаткамі дзеясловаў прошлага часу.

Абітурыенты іншы раз блытаюць скланенне састаўных колькасных і састаўных парадкавых лічэбнікаў. Трэба памятаць, што пры скланенні першых змяняецца кожнае слова, а пры скланенні другіх — толькі апошняе, якое і надае ўсяму лічэбніку значэнне парадкавага. Напрыклад:

**Састаўны колькасны лічэбнік**

Н. **дзве тысячы дзвесце трыццаць сем**
Р. **дзвюх тысяч двухсот трыццаці сямі**
Д. **дзвюм тысячам двумстам трыццаці сямі** і г. д.

**Састаўны парадкавы лічэбнік**

Н. дзве тысячы дзвесце трыццаць **сёмы**
Р. дзве тысячы дзвесце трыццаць **сёмага**
Д. дзве тысячы дзвесце трыццаць **сёмаму** і г. д.

Складаныя прыметнікі тыпу **двухсотсаракакіламетровы, трохкілаграмовы, пяцітонны** многія выпускнікі школ лічаць лічэбнікамі з назоўнікамі і пішуць асобна, а назоўнікі са значэннем ліку **(двойка, тройка, сотня, дзесятка і г. д)** адносяць да разраду лічэбнікаў.

Часта абітурыенты няправільна вызначаюць катэгорыі дзеяслова, не ведаючы, што па асобах змяняюцца (спрагаюцца) толькі дзеясловы цяперашняга і будучага часу, а дзеясловы прошлага часу змяняюцца па родах. Таму пры разборы, скажам, дзеясловаў **расказвае, пішуць, гуляем, пойдзем, прынясе** трэба вызначаць асобу, лік, спражэнне, а ў дзеясловах **прачытаў, спяваў, насіў і г. д.** — род, лік, прычым у дзеясловах прошлага часу множнага ліку **(прачыталі, спявалі, насілі)** род не вызначаецца, паколькі гэтыя дзеясловы ў множным ліку маюць адну форму для ўсіх трох родаў.

У сачыненнях абітурыенты часам няправільна ўжываюць дзеепрыслоўі і дзеепрыслоўныя словазлучэнні, не ведаючы, што дадатковае дзеянне, выражанае дзеепрыслоўем, павінна заўсёды адносіцца да таго ж прадмета ці асобы, што і дзеянне, выражанае дзеясловам-выказнікам. Нельга, напрыклад, сказаць: **Вучыўшыся яшчэ ў сёмым класе, у мяне была мара стаць настаўніцай; чытаючы гэту кнігу, яна мне спадабалася.**

У першым сказе дзеяслоў-выказнік адносіцца да дзейніка **мара,** а дзеепрыслоўе **вучыўшыся** да гэтага дзейніка не адносіцца. Тое ж і ў другім сказе. У такіх выпадках лепш ужываць не дзеепрыслоўнае словазлучэнне, а даданы акалічнасны сказ: **Калі я вучылася яшчэ ў сёмым класе, у мяне была мара стаць настаўніцай.**

Выпускнікі школ робяць многа сінтаксічных памылак. Пры вызначэнні зваротку, напрыклад, у сказах — **Жыві, народ свабоднае краіны! Квітней ты, беларуская зямля! Нам Леніным паказаны пуціны і зоркамі асветлены Крамля** (Я. Колас) — з двух бакоў коскамі выдзяляюць у першым сказе слова **народ,** у другім — **ты,** забываючыся, што зваротак коскамі выдзяляецца разам з паясняльнымі словамі **(народ свабоднае кра-**

**іны),** а займеннікі, як правіла, зваротkамі не бываюць. Звароткам у другім сказе з'яўляецца слова **зямля** разам з паясняльным словам **беларуская.**

Іншы раз не ставяць коску перад спалучальным злучнікам **і**, які звязвае тры аднародныя члены і паўтараецца двойчы: **Мы сабе сеем і сеем пшаніцу, і радасць, і кветкі, ачышчаным сеем насеннем шчаслівыя нашы палеткі** (Я. Купала); **Да хваль тваіх, і соснаў, і бяроз вяртаўся ў думках я не раз, бывала** (Н. Гілевіч), і калі аднародныя члены сказа звязаны паміж сабой спачатку без злучнікаў, а потым ідзе злучнікавае злучэнне: (**Жыццё чулася ў траве, у гаёчку, у лясочку, і на лугах, і ў зялёненькім лужочку, і ў крынічных берагах** (Я. Колас); **Ды успомню пажары, варожыя хмары, завеі халодных вятроў, і слату, і нягоды, і начныя паходы, і агні партызанскіх кастроў** (А. Русак).

Многа пунктуацыйных памылак дапускаюць выпускнікі школ у складаназалежных сказах з некалькімі дададзенымі. Напрыклад, у сказе: **Каб не зблытаўся жораў і не збіліся гусі, восенню выткалі зоры шлях на маёй Беларусі** (А. Астрэйка) ставяць коску перад злучнікам **і**, хаця ў дадзеным выпадку злучнік **і** звязвае два аднародныя дададзеныя сказы і не паўтараецца, а таму і коска перад злучнікам, як і пры аднародных членах сказа, не ставіцца. Не заўсёды коска ставіцца і ў тым выпадку, калі побач стаяць два злучнікі, але яны адносяцца да розных сказаў. Напрыклад: **Я зачытаўся да таго, што, калі пачуў званок у парадным ганку, не адразу зразумеў, хто гэта звоніць і чаму** (М. Горкі). Але: **А каму і дзеля чаго трэба было расказваць, што калі Русаковіч абараняў дыплом, дык за яго хваляваўся не толькі Даніла Мікалаевіч, але і генерал** (М. Паслядовіч).

У першым сказе паміж злучнікамі **што** і **калі** коску трэба ставіць таму, што дададзены сказ **калі пачуў званок у парадным ганку** можна апусціць, і гэта не выкліча перабудовы дададзенага сказа са злучнікам **што,** чаго нельга сказаць пра другі складаназалежны сказ. Гэтае ж правіла адносіцца і да сказаў, у якіх стаяць побач злучальны злучнік і адноснае слова ці падпарадкавальны злучнік.

Выпускнікі школ часта не ведаюць значэння слоў, не могуць вызначыць іх сэнсавае адценне, не ўмеюць разабрацца ў структуры складанага сказа. Адсюль недакладнасці і памылкі пры разборы сказаў, вызначэнні сувязі паміж імі і г. д.

Напрыклад, у сказе **І легенды лунаюць над роднай зямлёй (1), што адважны Гаркуша драпежнікаў глушыць (2), што Кастусь Каліноўскі выходзіць на бой (3); што ўсталі з магіл партызаны Дукоры (4), каб адвагу ў сэрцах юнацкіх расціць (5); што бушуе і пеніцца Нарач, як мора (6); Нёман гнеўна гамоніць (7) і Прыпяць кіпіць (8)** (П. Панчанка) выпускнікі часта ставяць пытанне: «Легенды лунаюць аб чым?» І дададзеныя сказы (2, 3, 4, 6, 7, 8) называюць дапаўняльнымі. Яны не разумеюць значэнне слова **лунаюць,** г. зн. лятаюць, носяцца над зямлёй. Адсюль і пытанне трэба ставіць: «Легенды якія?» Значыць, і сказы будуць дададзенымі азначальнымі.

У сказе **Калі ехаў, сябры, на кангрэс я да вас (1), мне радзіма давала ў дарогу наказ (2), гаварыла зямля(3), што не хоча яна (4), каб палі арашала крывёю вайна (5), каб гарматы і танкі ўзрывалі яе (6), каб слязамі сірот засявалі яе (7)** (М. Танк) падчас не бачаць сувязі паміж дададзеным акалічнасным сказам часу (1) і другім галоўным сказам (3) і разглядаюць увесь сказ як сказ камбінаванай будовы, які складаецца з двух самастойных складаназалежных сказаў. На самай жа справе схема гэтага сказа наступная:






Ці, напрыклад, у сказе **Цвіў сіні бэз (1), была вясна (2) і па палях праходзіў квецень (3), калі ўсхадзілася вайна і нас раскідала па свеце (4)** (А. Астрэйка) апошняя частка **нас раскідала па свеце** з'яўляецца аднародным выказнікам (**вайна ўсхадзілася і раскідала**) з паясняльнымі словамі, а не асобным дададзеным сказам, як лічаць некаторыя выпускнікі. Коска пасля слова **вясна** не ставіцца таму, што злучнік і тут злучае простыя сказы, якія маюць агульны дададзены сказ.

Схема гэтага сказа такая:




У сачыненнях абітурыентаў сустракаецца многа выпадкаў няправільнага ўжывання слоў і словазлучэнняў, накшталт: **У гэтым мы бачым той пратэст, які неабходны для лепшага жыцця; Калісьці іх радаслоўе (?!) было дваранамі; За бескарысную (?!) дапамогу лясніцтву ў пасадцы лесу вучні агрымалі падзяку; Буйнейшыя вершы Я. Колас адносіць (?!) да рэвалюцыйнай барацьбы сялянства за свабоду і незалежнасць** і г. д.

Такія найбольш характэрныя памылкі па беларускай мове, якія сустракаюцца ў абітурыентаў і слухачоў падрыхтоўчых курсаў.

Пазбегнуць іх можна толькі пры свядомым, удумлівым вывучэнні правілаў арфаграфіі і граматыкі, пры трывалым засваенні ўсяго матэрыялу, прадугледжанага школьнай праграмай.

Свядомае засваенне граматычных правілаў не толькі садзейнічае павышэнню пісьменнасці, але і дапамагае правільна будаваць сказы, разумець адценні ў сэнсавым значэнні слоў, правільна ўжываць іх у вуснай і пісьмовай мове, г. зн. павышае агульную культуру мовы. Пры гэтым трэба заўсёды памятаць словы М. І. Калініна, сказаныя ім аднойчы на сустрэчы з вучнямі сярэдніх школ г. Масквы: «Вывучэнне роднай мовы — гэта вялікая справа... Мова — гэта сродак для выражэння думкі. І думка толькі тады становіцца думкай, калі яна выказана ў мове, калі яна выйшла наверх пры дапамозе мовы... Вось чаму я гавару, што веданне роднай мовы — гэта самае асноўнае, што патрабуецца для вашай далейшай работы».

***

Абітурыентам Мінскага педагагічнага інстытута замежных моваў у 1972 годзе прапанаваліся наступныя тэмы сачыненняў па беларускай літаратуры:

***Францішак Багушэвіч — пачынальнік рэалізму ў беларускай літаратуры;***

**Паказ росту рэвалюцыйнай свядомасці сялянства ў драме Янкі Купалы «Раскіданае гняздо»;**

**Паказ бяспраўнага становішча сялянства ў паэме Я. Коласа «Новая зямля»;**

***Народ у трылогіі Я. Коласа «На ростанях»;***

**У чым знайшла шчасце Зося Тварыцкая? (Паводле рамана К. Чорнага «Трэцяе пакаленне»);**

**Ідэйны змест і вобразы камедыі К. Крапівы «Хто смяецца апошнім»;**

***Услаўленне савецкай рэчаіснасці ў творах Я. Купалы;***

**Патрыятычныя матывы ў паэзіі П. Броўкі.**

Віктар **РУДАКОЎСКІ,**
**выкладчык кафедры агульнага мовазнаўства**
**Мінскага педагагічнага**
**інстытута замежных моваў.**

■ ■ ■

# КАЛІ НЯМА СВЕДКАЎ...

Чалавек ляжаў дагары, шырока раскінуўшы рукі і ногі. Здавалася, што смерць прыйшла да яго нечакана, без папярэджання, і ён не паспеў асцерагчыся, абараніць сябе.

— Смерць, несумненна, гвалтоўная,—падсумаваў вынікі беглага агляду медыцынскі эксперт.—І нядаўняя. Гадзіны дзве-тры назад чалавек быў яшчэ жывы...

Невялікі ўчастак ў раёне вуліц Вялікая Слепня і Славінскага ачэплены міліцыяй: хоць час і позні, але яшчэ трапляюцца зрэдку прахожыя—перад выхадным днём людзі не вельмі спяшаюцца дадому. Хтосьці паведаміў па «02», што тут ляжыць скрываўлены чалавек.

Святло фар міліцэйскіх машын скіравана на забітага. Вакол яго асцярожна тупае крыміналіст, пстрыкае «бліцам». Поруч—купка людзей. Гэта супрацоўнікі крымінальнага вышуку і старшы следчы пракуратуры Мінска Віктар Міхайлавіч Белавусаў. Сцішанымі галасамі абменьваюцца яны ўражаннямі. Так, смерць відавочна гвалтоўная, карацей—забойства. Але якое—выпадковае ці наўмыснае? А можа, машына забіла?

Шмат пытанняў узнікае ў часе следства, шмат дзён і начэй будуць яны турбаваць і следчага Белавусава, і інспектараў крымінальнага вышуку, але першнаперш трэба высветліць асобу забітага—ніякіх дакументаў пры ім не было.

На другі дзень крыміналісты паведамілі: забіты—Васіль Іванавіч Казін. Жонка нябожчыка апазнала яго і расказала:

— Была субота. Раніцой Васіль кудысьці пайшоў. Вярнуўся пасля абеду, гадзіны ў тры. На падпітку. Паабедаў, адпачыў. Гадзіне а пятай сабраўся ў госці да сваяка, узяў тры рублі і пайшоў. Ды так і не вярнуўся...

У сваякоў Казін гасцяваў прыкладна да дваццаці трох гадзін. Пасля, ужо даволі ап'янелы, вырашыў ісці дахаты. Яго не пускалі, але ён настойваў. Грошай на таксі ў яго не было. Ад прапанаванага рубля адмовіўся, спаслаўшыся на тое, што яшчэ не позна і ён дасдзе на аўтобусе. Прыпынак недалёка...

— Усё супадае,—сказаў Белавусаў, калі намеснік начальніка Першамайскага раённага аддзела ўнутраных спраў капітан Чаргінец азнаёміў яго з вынікамі допыту ўдзельнікаў застолля ў сваякоў Казіна.—Усё, акрамя аднаго. І гэтае «адно»—самае істотнае: чаму Казін трапіў сюды, у гэтае бязлюднае месца, якое так далёка ад аўтобуснага прыпынку? Тут жа ніякія аўтобусы не ходзяць,—следчы абвёў алоўкам кружок, якім на плане было пазначана месца, дзе знайшлі Казіна.

Чыргінец кіўнуў галавой, дадаўшы:

— Таксі сюды таксама не заязджаюць.

— А як госці?—спытаўся следчы.

Пытанне не было выпадковае. Калі сутыкаешся са злачынствам, дзе няма ніводнага сведкі, даводзіцца правяраць і вывучаць усё і ўсіх, а людзей, якія апошнімі бачылі загінуўшага, тым больш.

— З гасцямі ўсё ў парадку,—адказаў Чаргінец.—Ва ўсіх поўнае алібі.

— Значыць, больш да гэтага пытання не вяртаемся,—сказаў Белавусаў і закрэсліў слова «госці».—Пагаворым аб транспартным здарэнні. Што ты, Мікалай Іванавіч, думаеш пра гэта?

Чаргінец паціснуў плячыма. З самага пачатку ён не сумняваўся, што перад імі—наўмыснае забойства. І хоць ён пакуль што не мог лагічна абгрунтаваць гэтую сваю версію, усё ж упарта адкідваў думку аб тым, што Казін загінуў пад коламі аўтамабіля. Яго не маглі пераканаць нават эксперты, якія не выключалі гэтага.

— Пахвальна, што ты так цвёрда стаіш на сваім,—заўважыў следчы.—Але было б лепш, каб ты сваю версію падмацаваў хоць якімі-небудзь доказамі...

Сапраўды, доказаў і звестак было не багата. Агляд месца здарэння і самога загінуўшага даў мінімальнае ўяўленне пра злачынства. А з рэчавых доказаў знайшлі толькі грабянец ды стрыжань ад шарыкавай ручкі, што валяліся непадалёк.





Тут жа ляжаў кавалак жалезабетоннай пліты, на якім былі сляды крыві і прыліплыя валасы. Судовыя медыкі выказалі даволі ўпэўненае меркаванне, што кроў і валасы—казінаўскія. Неабходны складаныя спецыяльныя даследаванні, каб пацвердзіць гэтае меркаванне. Следчы не сумняваўся, што кавалак бетону так ці інакш мае дачыненне да смерці Казіна. Параўнальная экспертыза дала катэгарычнае заключэнне: канфігурацыя пашкоджанняў на галаве забітага цалкам супадае з шарахаватасцю паверхні кавалка бетону. І гэта ў чымсьці пацвярджала версію транспартнага здарэння: забіты аўтамашынай, Казін мог упасці тварам на тую бетонную пліту.

Але... Жонка Казіна сцвярджала, што муж заўсёды насіў з сабой вязку ключоў—ад хаты і службовых памяшканняў па месцы работы. А ключоў пры ім не было. Агледзелі ўсё навокал, прасачылі мяркуемы шлях Казіна ад аўтобуснага прыпынку—ключоў не знайшлі. Не аказалася іх ні дома, ні на рабоце. Магчыма, яны прапалі там, дзе яго знайшлі? Усё можа быць. Да прыезду міліцыі каля забітага пабывала нямала людзей. Яго пераварочвалі. Можа, нехта паспеў зазірнуць у кішэні забітага ў надзеі на грошы, а ключы прыхапіў проста так, інстынктыўна...

У той жа час поруч з забітым заўважаны прыцярушаныя снегам сляды колаў грузавіка. Аўтаспецыялісты сказалі: праязджаў аўтамабіль маркі «ГАЗ-51». Машына праходзіла па лужыне, якраз там, дзе ляжаў Казін...

Карацей кажучы, трэба было шукаць машыну. І не толькі таму, што Казін мог быць збіты грузавіком. Белавусаў дапускаў і іншае: Казіна маглі забіць дзесьці і прывезці сюды, у бязлюднае месца. Маўляў, пакуль яго знойдуць, міне нейкі час, можна будзе замесці сляды. Гэта, зноў жа, магло быць і аўтадарожнае здарэнне, і наўмыснае, загадзя спланаванае забойства. У апошнім выпадку гаворка павінна ўжо ісці пра нешта накшталт помсты. Тады злачынцаў трэба шукаць сярод знаёмых альбо там, дзе працаваў Казін...

...Ужо не першы раз перачытваючы заключэнне медыцынскай экспертызы, Белавусаў раптам спыніўся на радку: «у верхняй сківіцы адсутнічае адзін зуб, ён выламаны, а тое, што ад яго засталося, дазваляе меркаваць, што здарылася гэта зусім нядаўна». А калі ў дзень смерці? Следчы некалькі разоў перачытаў гэтую мясціну.

— Вось гэта, бадай, ужо сёе-тое. Давай, Мікалай Іванавіч, хуценька выклічам пажарнікаў. Па дарозе растлумачу. Апранайся...

Помпа пажарнай машыны хутка выкачала з лужыны ваду. Тады за работу прыняліся работнікі міліцыі—асцярожна і ўважліва, шуфлік за шуфлікам, пачалі прапускаць праз густое металічнае сіта ліпкую калатушу, што засталася ад лужыны. Час цягнуўся марудна. І вось...

— Ёсць!—адзін з міліцыянераў трымаў на далоні—не, не ключы, а штосьці маленькае. Белавусаў паспяшаўся да яго. Так і ёсць—кавалак зуба! Цяпер слова за медыцынскімі экспертамі.

У той жа вечар стала вядома: знаходка—частка таго самага зуба.

— Цяпер зусім іншая справа,—заключыў Белавусаў.—Мы можам пэўна сказаць, што Казіна ніхто туды не прывозіў, і месца здарэння называць месцам злачынства. Ён быў забіты там. Але як? Дарэчы, капітан, што чуваць наконт машыны?

— Пакуль нічога,—адказаў Чаргінец.—Аўтагаспадарак многа, доўга правяраць. Ды і, шчыра кажучы, калі ўжо шукаць машыну, дык трэба мець на ўвазе грузавік, які трапіў у той раён выпадкова.

— Як гэта—выпадкова?—не зразумеў Белавусаў.

— Вельмі проста. Няма куды там ехаць грузавіку: ні дарогі, ні гаражоў. Няма чаго рабіць там шафёру ў дзве гадзіны ночы, ды яшчэ ў перадвыхадны дзень. Хіба толькі на ўкрадзенай машыне... Злодзей пастараецца ехаць там, дзе менш святла і людзей. А ўжо калі збіў каго, дык, будзьце пэўны, не спыніцца!..

— Што ж, усё можа быць,—пагадзіўся следчы.—І што ж вы...

— Усё зроблена,—апярэдзіў яго Чаргінец.—З адной аўтагаспадаркі паведамілі, што ўкралі «ГАЗ-51», але дзе машына—пакуль невядома.

Машыну знайшлі ўначы непадалёку ад Мінска. А раніцою злодзей—амаль падлетак—сядзеў у кабінеце Белавусава. Хлопец не адпіраўся, прызнаўся ва ўсім: узяў машыну, захацеў праехацца да бацькоў у вёску. Пра здарэнне нічога не ведае. Так, ён праязджаў па той вуліцы, і лужыну запомніў, але там нікога не было.

Аўтатэхнічныя эксперты, агледзеўшы машыну, не знайшлі нічога, што пацвярджала б версію аб наездзе. Прамер часу таксама паказаў, што хлопец праехаў там раней, да забойства. Шэраг іншых доказаў, здабытых следчым у ходзе праверкі гэтай версіі, цалкам адводзілі падазрэнне ад хлопца.

Перадаўшы яго следчым органам унутраных спраў, Белавусаў застаўся з адзінай версіяй: наўмыснае забойства...

Крымінальны вышук працаваў на поўную сілу. Правяраліся, як звычайна ў такіх выпадках, паводзіны людзей, якіх судзілі раней за небяспечныя злачынствы. Адшукваліся і апытваліся людзі, якія ў тую ноч выпадкова апынуліся ў раёне злачынства. Распытваліся супрацоўнікі Казіна. Усё гэта не было марнай тратай часу.

На чацвёрты дзень, калі Белавусаў пакутліва думаў над далейшым ходам расследавання, у кабінет зайшоў капітан Чаргінец.

— Вось, Віктар Міхайлавіч, прывёз грамадзяніна, які мае сёе-тое нам рас казаць,—паведаміў ён, прапускаючы наперад невысокага мужчыну.

Па голасе капітана Белавусаў зразумеў, што Чыргінец прыйшоў не з пустымі рукамі.

Мужчына прысеў на крэсла і, кашлянуўшы ў кулак, пачаў:

— Значыць, было так. Мы з жонкай вярталіся з гасцей. Ну, і праходзілі там... Там, дзе міліцыя была ўжо. Нас папрасілі далей не ісці, абысці тое месца. Мы і пайшлі...

— І ўсё?

— Не,—адказаў мужчына.—Калі мы адышліся крыху ад міліцыянера, я звярнуў увагу на высокага хлопца, што ішоў нам насустрач. Ён ішоў якраз туды, куды нас не пусцілі...

— Чым жа ён вас зацікавіў?

— Ну, па-першае, час быў позні... Не,—мужчына махнуў рукой,—не таму... Выгляд у яго быў нейкі...

— Які?—не стрываў следчы.

— Вось тут, спераду,—мужчына правёў рукой па грудзях,—усё ў гразі. Шапка на патыліцы вісіць, і вочы... Ён глядзеў прама перад сабой, туды, дзе свяціліся фары, але як быццам нічога не бачыў, бо ледзь не сутыкнуўся з намі. А калі я загаварыў з ім, ён як быццам схамянуўся, уздрыгнуў.

— Быў п'яны?

— Мусіць. Перагарам ад яго патыхала.

— Пра што гаварылі?

— Я сказаў яму, што туды міліцыя не пускае. Ён спытаўся: чаму? Я коратка растлумачыў. Але ён усё роўна пайшоў у той бок. А праз хвіліну дагнаў нас і, не сказаўшы ні слова, пайшоў кудысьці. Мо мне падалося, але ён быццам сам з сабой размаўляў...

Белавусаў разгарнуў папку і паклаў перад сведкам план месца злачынства:

— Вы не змаглі б паказаць, хоць бы прыблізна, дзе вы спаткаліся з ім?

Мужчына ўважліва паглядзеў на план, узяў у рукі аловак, колькі часу паводзіў ім па паперы, потым торкнуў туды, дзе канчалася ледзь прыкметная пункцірная лінія:

— Здаецца, тут. Ага, тут,—сказаў ён упэўнена. Падняўшы вочы на следчага, нечакана спытаў:—А што гэта за пункцірная лінія? Гэта ж мы якраз так ішлі са сваёй жонкай:

— Вы раней хлопца таго не бачылі?—не адказаўшы на пытанне сведкі, пацікавіўся Белавусаў.

— Не.

— А маглі б пазнаць? Пры сустрэчы?

— Вядома! Было відна. Ад фар. Я добра разглядзеў яго.

— Дзякую,—следчы падняўся.—Вы пакінулі свае каардынаты капітану? Мо давядзецца патурбаваць яшчэ. Тэлефон ёсць?

— Я запісаў, Віктар Міхайлавіч,—замест сведкі адказаў Чаргінец.

Мужчына выйшаў. Белавусаў і Чаргінец моўчкі ўзіраліся ў кропку, пастаўленую на плане сведкам. Маўчанне парушыў капітан:

— Вам нічога яна не гаворыць?

— А вам?

— Тут канчаецца пункцірная лінія—шлях следчага сабакі. Памятаеце, як дзіўна паводзіў сябе сабака?

Следчы кіўнуў. Сапраўды, сабака паводзіў сябе больш чым дзіўна. Спачатку ўпэўнена ўзяў след, павёў праваднік да бліжэйшага прыпынку аўтобуса. Зараз можна зусім пэўна сказаць, што гэта быў след злачынцы. Затым сабака закапрызнічаў—згубіў след. Праваднік накіраваў сабаку ў адзін бок, у другі, і сабака зноў узяў след таго ж чалавека. Спачатку след гэты вёў ад месца злачынства, затым сабака павярнуў назад і прывёў да таго месца, дзе сведка толькі што паставіў кропку. Тут след канчаткова быў згублены.

Белавусаў зразумеў, на што намякаў капітан. Складвалася такое ўражанне, што хтосьці даволі густа наслядзіў каля месца злачынства. Відаць, злачынца павёў Казіна ад прыпынку з зусім акрэсленым намерам. У лагічную схему ўкладваліся зараз і вывернутыя кішэні—злачынца абшукаў сваю ахвяру, і бруднае паліто, і паламаны лёд лужыны—Казін, хоць і нядоўга, але, відаць, супраціўляўся. А кавалак бетону не такі ўжо і цяжкі для маладога хлопца. Дастаткова





аднаго ўдару... А ён быў не адзін—да такога вываду прыйшлі эксперты. Ды вось гэты другі след. Нібыта злачынца не толькі прыйшоў са сваёй ахвярай, а затым пакінуў месца злачынства, але і вяртаўся туды. Навошта? Ці толькі па той прычыне, што, як сцвярджаюць судовыя псіхіятры, забойцу міжволі цягне зноў і зноў туды, да месца свайго страшнага злачынства? І ці была гэтая цяга чыста падсвядомая? Наўрад...

— Значыць, Мікалай Іванавіч,—усе сілы на пошук гэтага чалавека,—падсумаваў следчы.—Слоўны партрэт мы маем. Вось бы яшчэ і адзенне яго...

Зараз, следчы ведаў гэта, раскрыццё злачынства—справа бліжэйшых сутак альбо нават гадзін.

У той жа дзень крыміналісты—са слоў позняга прахожага—намалявалі даволі ўдалы партрэт мяркуемага злачынцы. Разам са слоўным гэты размножаны партрэт быў дастаўлены ва ўсе аддзелы сталічнай міліцыі, і з гэтымі дадзенымі азнаёміліся работнікі ўсіх службаў. Цяпер, дзе б яны ні былі, чым бы ні займаліся, іх погляд занатоўваў і параўноўваў усіх маладых мужчын з вядомымі ім прыкметамі.

Аднойчы капітана разбудзіў тэлефон—званіў дзяжурны Заводскага раённага аддзела ўнутраных спраў.

— Тут у нас хлопец адзін,—гаварыў дзяжурны.—Учора ўвечары ўзялі ў рэстаране «Колас»—бойку ўчыніў. Афармляем матэрыял па дробным хуліганстве...

— Дык што?—Чаргінец спрасонку не мог зразумець, чаго ад яго хочуць.

— Выбачайце, таварыш капітан,—спахапіўся дзяжурны.—Самага галоўнага не сказаў. Прыкметы быццам супадаюць. Не ўсе, але вельмі падобны...

— Не спяшайцеся адпраўляць яго. Я хутка буду... Прозвішча, месца работы? Так, зразумела. І яшчэ адна просьба: пастарайцеся да майго прыезду падшукаць людзей для апазнання і панятых.

Гэты званок мог быць, вядома, і памылковай трывогай—некалькі такіх выездаў ужо было, і кожны раз той адзіны сведка не пазнаваў свайго начнога субяседніка. І ўсё ж ехаць трэба. Чаргінец выклікаў дзяжурную машыну, пазваніў сведку, папрасіў аднаго са сваіх аператыўнікаў хуценька навесці даведкі адносна Васіля Барзюкова—так звалі затрыманага ў рэстаране «Колас».

У Заводскім аддзеле міліцыі капітан убачыў рослага, моцнага хлопца гадоў дваццаці. «Такому пудовы кавалак бетону—цацка»,—міжволі падумаў Чаргінец, але пачаў здалёк.

— Ну што, малады чалавек, павясяліцца вырашылі? Кулакі засвярбелі?

Хлопец зірнуў на свае здаравенныя рукі і ўхмыльнуўся:

— А чаго яны... Самі палезлі. Мне таксама змазалі па мордзе. Ну, і я ім. Перабраў крыху. Вінават, не адпіраюся. Судзіце...

Капітан усміхнуўся:

— Ого, судзіце. Адразу? Раскажыце лепш спачатку, як вы правялі адну ноч,—Чаргінец назваў дату злачынства,—і дзе?

Бесклапотная ўхмылка знікла з твару Барзюкова. Было такое імгненне, калі ў яго вачах мільгануў жах, але—толькі імгненне. Барзюкоў тут жа ўзяў сябе ў рукі:

— Не магу сказаць—не памятаю. Усе гэтыя дні п'ю...

Чаргінец слухаў і ўважліва разглядаў яго. Спрактыкаванае вока аператыўніка ўгадвала ў твары Барзюкова быццам ужо знаёмыя рысы. Заўважыў капітан і тое імгненне. А мо падалося? «Не, штосьці было. І голас перамяніўся—як бы фальшывіць пачаў. Не помніць нічога—знаёмая песенька, абы час адцягнуць».

— Што, ранні склероз? Вынік інтэнсіўнай разумовай дзейнасці?

Бразюкоў клюнуў на жарт, асмялеў:

— Ага. Як у тым анекдоце...

— Ну, хопіць,—абарваў яго Чаргінец.—Павінен вам сказаць, грамадзянін Бразюкоў, што вы падазраецеся ў забойстве.

Мінула, відаць, цэлая хвіліна, перш чым затрыманы выціснуў з сябе:

— Я? У забойстве? Вы нешта не тое гаворыце... Я даў таму па мордзе, у рэстаране...

Чаргінец падняў руку:

— Я ж не кажу—абвінавачваецеся. Толькі—падазрэнне. А гэта зусім розныя рэчы. Зараз мы правядзём апазнанне, а тады пагаворым больш падрабязна.

У кабінет прывялі двух хлопцаў, нечым—у агульных рысах—падобных на Барзюкова. Чаргінец растлумачыў ім, у сувязі з чым праводзіцца апазнанне і як яны павінны паводзіць сябе. Праз хвіліну ў кабінет запрасілі сведку. Некаторы час ён уважліва глядзеў на трох маладых мужчын, паволі пераводзячы позірк з аднаго на другога. Капітан заўважыў, як рука сведкі нібы прыўзнялася, і ў думках сказаў: «Ну, смялей, смялей!» Але сведка чамусьці вагаўся, бездапаможна азірнуўся на капітана, быццам просячы ў яго дапамогу. «Зноў не тое,—падумаў Чаргінец.—Але чаму ж так дзіўна паводзіць сябе сведка? Гэтая яго няўпэўненасць...»

— Здаецца... вось гэты,—нерашуча сказаў сведка, кіўнуўшы ў бок Барзюкова.—Але—не магу пэўна сказаць...

Праз паўгадзіны Чаргінец паехаў да Белавусава. Па дарозе капітан зноў і зноў прыгадваў сцэну апазнання. Сведка не пазнаў таго начнога хлопца, але і не сказаў катэгарычнае «не». Можа, ён, Чаргінец, недзе зрабіў памылку? Вядома ж! Тады была ноч, сведка бачыў хлопца ў святле фар, у руху, а зараз шэрая раніца...

Белавусаў, выслухаўшы даклад Чаргінца, таксама пагадзіўся, што з апазнаннем капітан відавочна паспяшаўся. А зараз... А зараз здарылася непапраўнае—яны страцілі адзінага сведку: у другі раз прыводзіць яго для апазнання Барзюкова нельга.

— Засталіся мы са злачынцам адзін на адзін, без сведкаў,—уздыхнуў следчы.—Што будзем рабіць? Правяраць Барзюкова?

Чаргінец моўчкі кіўнуў і падсеў да тэлефона:

— Алё, хто гэта? Прывітанне, Чаргінец гаворыць. Я прасіў наконт Барзюкова... Так, зразумела... Ну і што?!—капітан падхапіўся з месца і ледзь не закрычаў:—Неадкладна вязіце ў пракуратуру! Да Белавусава. Чакаем!

Следчы запытальна глядзеў на капітана.

— Дык вось, Віктар Міхайлавіч, літаральна некалькі хвілін назад мае хлопцы вярнуліся ад Барзюковых—гаварылі з яго маці. У тую ноч ён вярнуўся дадому каля чатырох гадзін раніцы. У тую ноч, разумееце?

— Так, так... Але ж гэта яшчэ не доказ...

— Але ў якім выглядзе? Усё адзенне мокрае, бруднае...

— Ага, значыць, сюды вязуць яго адзенне? Цудоўныя вашы хлопцы, капітан!

Барзюкоў быў здзіўлены (ці, прынамсі, стараўся паказаць сваё здзіўленне), калі назаўтра апынуўся ў пракуратуры. Пабачыўшы ў кабінеце ўжо знаёмага капітана, ён нерашуча прысеў на прапанаванае яму крэсла.

— Не будзем траціць часу, Барзюкоў,—пачаў Белавусаў.—Раскажыце нам падрабязна аб тым, як і дзе вы правялі суботнюю ноч.

— Я ўжо гаварыў,—пацісну плячыма затрыманы,—не памятаю, усё чысцютка з галавы выскачыла. Трэба кідаць піць.

— Дапусцім, што сапраўды не памятаеце,—пагадзіўся Белавусаў.—Але тады напэўна памятаеце іншае—дзе пакінулі сваё бруднае і мокрае адзенне?

Барзюкоў быў раскрыў рот, але так нічога і не прамовіў, ашалела гледзячы на следчага. Урэшце сказаў:

— Якое... адзенне?

— Тое, у якім прыйшлі дадому ў чатыры раніцы.

Чаргінец не бачыў твару Барзюкова, але па тым, як той згорбіўся, зразумеў: Белавусаў патрапіў у цэль. Цікава, будзе затрыманы адпірацца ці пачне гаварыць праўду?

Барзюкоў выбраў першае. Так, зараз ён прыгадвае, што ў той вечар быў з маці ў гасцях у дзядзькі, што там здорава набраўся. Недзе каля дванаццаці паплёўся дадому—спаць захацелася. На вуліцы была слізгота, некалькі разоў падаў. Плёхнуўся ў нейкую лужыну. А калі дабрыў дахаты, дык агледзеўся, што няма ключоў. Зноў пайшоў да дзядзькі, але не дайшоў, дзесьці прабадзяўся. Правільна, толькі пад раніцу трапіў дадому—мокры, брудны. Верхнюю вопратку скінуў.

Барзюкоў хлусіў і даволі няўмела. Наколькі падрабязна гаварыў ён пра вечарынку ў дзядзькі, настолькі ж бегла і няўцямна тлумачыў, дзе быў паміж адзінаццацю ночы і чатырма раніцы. Гаварыць праўду яму, вядома, не выпадала. Але—на што ён разлічвае? Мяркуючы па ўсім, алібі ў яго няма. Ён не думаў, што апеpатыўнікі так хутка натрапяць на яго след. І наогул ці думаў ён пра тое? Злачынства адбылося без сведкаў. Адзіны чалавек, які бачыў яго той ноччу, не апазнаў. І таму цяпер Барзюкоў (калі толькі ён забойца) мог разлічваць, што яму ўдасца заблытаць сляды, а калі пашанцуе, дык і зусім выйсці сухім з вады.

Нічога, думаў Белавусаў, хай пагаворыць, спяшацца няма куды. Эксперты-біёлагі якраз у гэты час знімаюць з вопраткі Барзюкова напластаванні бруду, спадзеючыся знайсці сляды крыві. Яна павінна быць, калі забойства Казіна—справа рук Барзюкова. Дарэчы, яго рукі... Аб іх чысціні Барзюкоў яўна не клапаціўся. Пад пазногцямі бруду—на паўсантыметра.

— Мікалай Іванавіч, зрабіце ласку, запрасіце сюды двух чалавек, панятыя патрэбны,—павярнуўся следчы да Чаргінца.

У прысутнасці панятых Белавусаў выкалупаў на ліст паперы з-пад пазногцяў Барзюкова некалькі кавалкаў бруду. На гэтым допыт быў спынены.

Позна ўвечары Белавусаў і Чаргінец чыталі акт біялагічнай экспертызы. Ён сведчыў: на вопратцы была кроў. Кроў чалавека. Удалося нават устанавіць, што належала яна Казіну.

— Вось цяпер усё зразумела,—сказаў капітан.





Аднак следчы з ім не пагадзіўся:

— Толькі нам з вамі, Мікалай Іванавіч. А для суда гэтага доказу наўрад ці будзе дастаткова. Таму—пачакаем вынікаў фізіка-тэхнічнай экспертызы. Яна павінна сказаць, якім чынам кроў трапіла на адзенне—гэта вельмі і вельмі важна. І яшчэ. Хачу спадзявацца, што не дарэмна «чысціў» яму пазногці. Пачакаем і вынікаў мікраскапічных даследаванняў.

Праз некалькі дзён акты экспертызаў былі гатовы, і Барзюкоў зноў сядзеў у кабінеце Белавусава. Следчы ўключыў магнітафон і сказаў:

— Раскажыце, калі, дзе і пры якіх абставінах вы забілі грамадзяніна Казіна?

Барзюкоў паводзіў сябе ўжо не так, як у час папярэдніх допытаў—быццам пра штосьці пачаў здагадвацца, але—«не раскалваўся».

— Нікога я не забіваў,—са злосцю прагаварыў ён.—І не ведаю ніякага Казіна. Першы раз чую такое прозвішча.

— Ахвотна веру,—спакойна сказаў следчы.—Вы сапраўды маглі не ведаць таго чалавека. Але пра злачынства, зробленае вамі, расказаць усё ж давядзецца. Спадзяюся, што, пазнаёміўшыся з гэтым дакументам, вы са мной пагодзіцеся.—Белавусаў узяў са стала адзін з актаў экспертызы.—Паслухайце, што знайшлі эксперты ў вас пад пазногцямі. Вось, чытаю: «Адзінкавыя валаконцы воўны карычневага і шэра-карычневага колераў супалі па прыродзе, асаблівасцях будовы, колеру, таўшчыні, уласцівасцях палярызацыі з аналагічнымі валаконцамі з тканіны паліто загінуўшага». Цікава, ці не праўда? Вы спадзяваліся, што сведкаў няма, і не ўяўлялі, што носіце іх пад сваімі пазногцямі... Што скажаце на гэта?

У кабінеце запанавала цішыня. Толькі чуваць было, як пераматваецца са шпулькі на шпульку магнітафонная стужка. Нарэшце Барзюкоў адказаў:

— Не ведаю, што гэта за паліто асаблівае ў гэтага Казіна. Карычневых паліто ў горадзе шмат. Ёсць і ў маіх сябрукоў. Мо за каго і трымаўся. Вось і засталіся гэтыя вашы валаконцы. Яшчэ да той ночы, пра якую вы гаворыце. Я манікюры не раблю...

— Ну, добра. А як вы растлумачыце—не мне, а суду—тую акалічнасць, што на вашай вопратцы знойдзена кроў, прычым кроў Казіна? Маеце жаданне пазнаёміцца з актам экспертызы?

Барзюкоў узяў лісткі паперы, паднёс іх да вачэй, але следчы быў перакананы, што той не чытае напісанага. Думкі злачынцы былі далёка, на цёмнай пустэчы, і цяпер Барзюкоў ліхаманкава шукаў выйсця з крытычнага становішча, у якое трапіў. Якраз самы падыходзячы момант пайсці на частковае прызнанне. Ну вось, так яно і ёсць.

— Добра,—уздыхнуў Барзюкоў і паклаў паперы на стол.—Усё раскажу. Толькі ўсё адно я ні ў чым не вінаваты. Проста баяўся расказваць, каб мяне не западозрылі. Скажаш, а пасля апраўдвайся...

— Я вас слухаю. Толькі—бліжэй да справы.

— Значыць, так. Калі я выйшаў ад дзядзькі, дык пайшоў дадому напрасткі, цераз пустэчу. Гляджу, каля лужыны нешта чарнее. Падыходжу бліжэй—чалавек ляжыць. Падумаў, што п'яны. Пачаў падымаць—ён увесь у гразі. Запалкай чыркнуў, гляджу—ажно твар у крыві. Вось я і вымазаўся...

«Цікава, што ён скажа, калі я пакажу яму заключэнне фізіка-тэхнічных экспертаў?»—падумаў Белавусаў, а ўголас сказаў:

— Ну, і што далей?

— Шмат крыві было. Я тады падумаў, што чалавека нехта забіў. Ну, і хутчэй адтуль. Дамоў пайшоў.

— А навошта вярталіся туды?

— Вяртаўся. Ага, праўда, я яшчэ раз праходзіў там. Калі да дзядзькі вяртаўся. Там ужо міліцыя была...

Барзюкоў змоўк: у кабінет якраз зайшоў Чаргінец. Капітан прывітаўся, прысеў на сваё звычайнае месца каля акна, затым апусціў руку ў кішэнь паліто і штосьці пакратаў там. Белавусаў хутчэй здагадаўся, чым пачуў, што ў кішэні бразнулі ключы. Следчы, усё зразумеўшы, падняўся і, выйшаўшы з-за стала, пачаў:

— Хопіць, Барзюкоў. Зараз я вам раскажу, як вы забілі Казіна. Дык вось... Сваю ахвяру вы ўбачылі на аўтобусным прыпынку, на вуліцы Вялікая Слепня. Мужчына быў вельмі п'яны, і вы вырашылі, што ён стане лёгкай здабычай. Вы павялі яго ў бок пусткі. Але калі палезлі да яго ў кішэні, мужчына занепакоіўся і пачаў супраціўляцца. Вам гэта не спадабалася. Усчалася тузаніна. Вы абодва ўпалі. Тонкі лёд праламаўся, і вы апынуліся ў лужыне, у халоднай ліпкай гразі, што яшчэ больш раззлавала вас. Тут пад руку вам трапіўся кавалак бетону. Вы схапілі яго і апусцілі на галаву Казіна. Затым яшчэ раз...

— Не!—істэрычна закрычаў Барзюкоў.—Не, не, не! Нічога гэтага не было. Вы ўсё прыдумалі. Вам трэба знайсці злачынцу, вось вы і звальваеце на мяне...

— Супакойцеся,—абарваў яго Белавусаў.—Выпіце вады. І паслухайце, што сказалі спецыялісты. На вашым паліто не мазкі крыві, а пырскі. Трапілі яны на паліто тады, калі вы ў другі раз ударылі Казіна кавалкам бетону. І ляцелі яны знізу ўверх. Разумееце? Даказана гэта з неабвержнай дакладнасцю. Можаце прачытаць, калі жадаеце...

Следчы пачакаў, пакуль Барзюкоў узяў сябе ў рукі, і працягваў:

— А зараз—аб ключах. Вы нічога не знайшлі ў кішэнях забітага вамі—з мэтай пажывіцца—чалавека. Былі там толькі ключы. У вас жа ў галаве гнездзілася нейкая неадступная думка наконт ключоў. Вось вы іх і прыхапілі. А што з імі зрабілі, раскажа капітан.

Чаргінец, не мяняючы позы, роўным і спакойным голасам, нібы дапаўняючы Белавусава, прамовіў:

— Не трапіўшы дадому, вы зноў пайшлі да дзядзькі знаёмым вам завулкам. Зайшоўшы ў двор, спыніліся, выцягнулі з кішэні вязку ключоў. Гэта быў рэчавы доказ, і прытым сур'ёзны. І вы тут жа вырашылі пазбавіцца ад яго: размахнуўшыся, шпурнулі вязку ключоў у агарод... Гэта тыя самыя ключы, Віктар Міхайлавіч,—павярнуўся Чаргінец да Белавусава і паклаў на стол вязку ключоў.—Шукалі з мінашукальнікам, але ўсё ж знайшлі...

Барзюкоў маўчаў, доўга маўчаў. Потым, не падымаючы галавы, сіпла спытаўся:

— Што ж са мной цяпер будзе? Мяне...

— Гэта вырашаю не я,—суха адказаў следчы і, прачыніўшы дзверы, сказаў канвойным:—Можаце забраць арыштаванага. Допыт закончаны.

...Канчаўся дзень. Ужо загарэліся вулічныя ліхтары. У іх святле падалі-мітусіліся зіхатлівыя сняжынкі. Рэдкія прахожыя, падняўшы каўняры, ішлі хутка, ледзь не ўподбежкі.

У акне кабінета старшага следчага Белавусава патухла святло. Сёння крыху раней, чым звычайна.

**Юры ТАПАРАШАЎ.**

■ ■ ■



# ЭВМ ПРЫХОДЗІЦЬ У ВЁСКУ

**Сёння прымяненне кібернетыкі ў сельскай гаспадарцы не абмяжоўваецца асобнымі, прыватнымі задачамі. Усё шырэй яе метады і сродкі выкарыстоўваюцца для аўтаматызаванага кіравання многімі працэсамі сельскагаспадарчай вытворчасці.**

**Ствараецца інфармацыйна-вылічальная сістэма Мінскага раёна, вылічальны цэнтр дыспетчарскай сувязі і кіравання ў Гродне. Машыны «Мінск-32» працуюць у Беларускім інстытуце эканомікі і арганізацыі сельскай гаспадаркі, у аб'яднанні «Белсельгастэхніка», у шэрагу інстытутаў і вылічальных цэнтраў, якія абслугоўваюць калгасы і саўгасы рэспублікі.**




## ЭЛЕКТРОННЫ АГРАНОМ

**Для стварэння аўтаматызаванай сістэмы кіравання полем ужо зроблены першыя крокі. Па праграме, якую распрацавалі ЭВМ, на палях Валгаградскага і іншых навукова-даследчых інстытутаў праводзяцца доследы па вырошчванні кукурузы і іншых культур.**

**Нашы біякібернетыкі стварылі датчыкі для назірання за цеплавым балансам раслін. Адзін з датчыкаў сочыць за тэмпературай ліста, другі — за цеплынёю ўнутры тканак і трэці — у карнявой сістэме. Калі расліне не хапае вільгаці і яе цеплавы рэжым парушаецца, мікрадатчыкі адразу пасылаюць сігналы ў блок апрацоўкі інфармацыі. Уключаецца аўтаматыка — і расліна атрымоўвае ваду.**

**З наступленнем у земляробстве «веку кібернетыкі» ў барацьбу за высокі ўраджай сельскагаспадарчых культур уключацца кібернетычныя машыны. «Электронны аграном» распрацуе аптымальную праграму атрымання высокага ўраджаю на аснове наяўнай тэхнікі, якасці насення і ўгнаенняў, уласцівасцяў і стану глебы. Калі зменіцца надвор'е і адбудуцца нейкія змены на полі, ён унясе ў праграму неабходныя папраўкі і дапаўненні.**

**Кібернетычнае кіраванне полем нельга ажыццявіць без вялікага аб'ёму інфармацыі аб умовах жыцця раслін і іх уплыву на фармаванне ўраджаю. Для гэтых мэт ствараюцца новыя, вельмі адчувальныя і дакладныя прыборы.**

**Адзін з такіх прыбораў — «тэрмапавук» няспынна сочыць за тэмпературай глебы. Сістэма яго «ножак» — датчыкаў тэмпературы — раскідана на невялікай пляцоўцы ў адзін квадратны метр. Прыбор паведамляе на пункт кіравання тэмпературу глебы, і аграном даведваецца аб «пасляванні» глебы і вызначыць лепшыя тэрміны сяўбы.**

**Ужо створаны і распрацоўваюцца кібернетычныя прылады для аўтаматызаваных і самакіруемых цяпліц. Ёсць паўправадніковы аўтамат, які бесперапынна кантралюе ўмовы развіцця раслін. У будучым над цэлымі палямі падымуцца велізарныя пластмасавыя купалы ці іншыя збудаванні, і раслінамі, якія паселяцца там, будуць кіраваць кібернетычныя прылады.**

## КІБЕРНЕТЫКА І СЕЛЕКЦЫЯ

**Расліны і дагэтуль застаюцца адзінай на зямлі лабараторыяй, якая стварае з неарганічных рэчываў глебы, вады і вуглекіслаты пры ўдзеле сонца арганічныя рэчывы — ежу для чалавека і жывёлы. Навуцы пакуль што не**



пад сілу стварэнне чагосьці накшталт вяленага лісця. Але яна ведае шляхі павышэння ўрадлівасці палёў, і рашаючая роля тут належыць селекцыі.

У наш час селекцыя павінна ствараць не проста высокаўраджайныя расліны, а такія іх гатункі, каб яны абараняліся ад уздзеяння неспрыяльнага надвор'я, ад шкоднікаў і хвароб. І ў гэтым ёй можа добра дапамагчы кібернетыка.

Вывучаючы сувязі раслін з навакольным асяроддзем, характар іх рэакцый на яго змены, можна з упэўненасцю сказаць, што расліны самі ўяўляюць сабою кібернетычныя сістэмы, у якіх няспынна адбываецца ўраўнаважанне іх унутранага стану са знешнім асяроддзем. Расліны — самарэгулюючыя сістэмы, якія наладжваюцца на аптымальны рэжым жыццядзейнасці пры самых разнастайных умовах.

Для карэннага паляпшэння селекцыйнай работы ў краіне ствараюцца селекцыйныя цэнтры. Адзін з іх — пры Беларускім інстытуце земляробства. У селекцыйных цэнтрах будуюцца станцыі штучнага клімату з праграмаваным кіраваннем — фітатроны. «Фіта» — расліна, «трон» — месца вырошчвання. Фітатроны дазваляюць у параўнаўча кароткі тэрмін выводзіць новыя гатункі высокаўраджайных раслін, якія будуць засухастойкімі, не будуць баяцца хвароб, будуць мець высокую якасць зерня.

Фітатроны — цэлыя збудаванні, якімі кіруюць ЭВМ па праграмах зададзеных кліматычных і пагодных умоў ва ўсіх памяшканнях. Напрыклад, у Харкаве ствараецца фітатрон плошчай 1500 квадратных метраў, фітатрон у Кіеве мае 80 памяшканняў-камер для доследаў селекцыянераў. У камерах і цяпліцах усе ўмовы для жыцця раслін — кандыцыянаванае паветра, патрэбны светлавы рэжым, вільготнасць і тэмпература глебы, святло, вельмі блізкае да сонечнага.

Фітатроны рэзка павышаюць «тэмпы» селекцыйнай работы. Калі ў звычайных умовах на вывядзенне новага гатунку селекцыянеру патрэбна 12—15 гадоў, то цяпер гэты тэрмін скарачаецца ўтрая.

### ЭВМ НА ФЕРМЕ

Кібернетыка ў жывёлагадоўлі? Так. Жывёлы, як і расліны,— вельмі складаныя, няспынна зменлівыя кібернетычныя «сістэмы». Селекцыянер, паляпшаючы статак, адбірае на племя лепшых па надоях і тлустасці малака кароў, з найлепшай воўнай авечак і г. д.



Каб аблегчыць апрацоўку інфармацыі, якая патрэбна для селекцыянера, узнікла неабходнасць прымянення ў жывёлагадоўлі вылічальных машын. ЭВМ дае якасную ацэнку вялікім статкам жывёлы, характарызуе племянных жывёл па ўсіх пародах і катэгорыях гаспадарак. З дапамогай яе складаюцца абгрунтаваныя рэкамендацыі аб паляпшэнні якасці жывёлы.



Прыходзіць кібернетыка і на фермы. ЭВМ «кіруюць» усімі аперацыямі на іх, задаюць рэжым установам мікраклімату, разлічваюць аптымальныя рэцэпты камбікармоў, даюць «указанні» заатэхніку аб тым, калі і пры якіх умовах патрэбна праводзіць штучнае асемяненне жывёл. Распрацавана мадэль для аўтаматычнага кармлення парасят — «аўтасвінаматка», што дае магчымасць у рэкордна кароткія тэрміны адкармліваць да тысячы парасят ад іх нараджэння да зададзенай кандыцыі.

Так што кібернетыка стала прапісвацца ў вёсцы.

Сяргей БОБАЎ.

■ ■ ■



# ЧЫЙ НОС ЛЕПШЫ?

Прырода мае безліч пахаў. З іх чалавек адрознівае некалькі тысяч. Вопытны спецыяліст — больш.

Праўда, для гэтага неабходна з органам нюху — носам — абыходзіцца па-гаспадарску. Яго нельга капціць дымам, атручваць «водарам» бензіну, рознымі хімікатамі. Той, хто вядзе строгі лад жыцця і беражэ свой нос, можа навучыцца адрозніваць не толькі безліч пахаў, але і самыя іх тонкія адценні, нюансы.

Адзін мільён долараў — вось як ацаніў свой нос англічанін Георг Томсан. Славуты нос Томсана знешне нічога асаблівага не мае. Нос як нос, але як органу нюху яму няма цаны. Томсан служыць у фірме Джоні Уокер, якая спецыялізуецца па вытворчасці сусветна вядомага віскі. Адзін з членаў праўлення фірмы аднойчы заявіў: «Нос містэра Томсана для нас мае велізарную каштоўнасць. Можна смела сказаць, што якасць нашага віскі залежыць ад носа Томсана».

Не менш унікальны нос мае таксама яго суайчынніца Бэці Медзісон з горада Блайта. У яе такі нюх, што яна імгненна выяўляе практычна няўлоўны пах мыла, масла парафіну ў бутэльцы, якая знешне выглядае ідэальна чыстай. Дзяўчына працуе на ліманаднай фабрыцы. За год яна «пранюхвае» каля 70 тысяч бутэлек. І не было выпадку, каб яна прапусціла хоць бы адну бутэльку, пах якой паўздзейнічаў бы на смак ліманаду.

Калі для сучаснага чалавека абвостранае ўспрыняцце водару — гэта ўжо свайго роду атрыбут раскошы, то ў свеце жывёльным нюх мае такое ж значэнне (а часам і большае), чым зрок і слых. Некалькі гадоў назад у Каліфорніі загарэлася каля 120 тысяч тон нафты. На пажар зляцелася безліч насякомых, «дымных жукоў». Яны падалі дзе папала, кусалі людзей. Хвойнага лесу бліжэй чым за 80 кіламетраў не было. А жукі маглі прыляцець толькі адтуль. Выявіць, якія менавіта рэчывы, што меў дым, вабілі насякомых, не ўдалося. Але ўстанавілі, што тытунёвы дым таксама прыманьвае гэтых жукоў і час ад часу аматары футбола на стадыёнах бываюць ахвярамі іх «увагі».



Варта прыгадаць яшчэ некаторыя з'явы. Звычайны сабака, напрыклад, здольны адрозніваць да паўмільёна пахаў. А муха (падумаць толькі!) у лабараторных умовах распазнае сваім органам нюху да 30 тысяч хімічных рэчываў, на кожнае з іх дае дакладную і адзіную рэакцыю! Але ні сабакі, ні мухі не могуць канкурыраваць па чуйнасці органаў нюху з матылямі сатурніямі. Вучоныя праводзілі такія доследы з гэтымі насякомымі. Самцоў адлучалі ад самак і спінку кожнага памячалі кропелькай яркай фарбы. Потым іх размяшчалі ў маленькіх клетках, развозілі ў розныя месцы і на розную адлегласць, потым выпускалі на волю. Не прайшло і паўгадзіны, як першы памечаны самец вярнуўся да клеткі, дзе былі самкі сатурній. Ён адолеў пяць кіламетраў. А адзін самец прыляцеў на «кліч кахання» аж за адзінаццаць кіламетраў!..

Мы так дэталёва спыніліся на органах нюху чалавека, жывёл і насякомых, таму што ў гэтых высокадасканалых «прыстасаваннях», створаных і «адладжаных» прыродай на працягу мільёнаў гадоў эвалюцыі і незаслужана забытых інжынерамі, закладзены бязмежныя магчымасці для мадэліравання і пабудовы многіх тэхнічных сістэм хемарэцэпцыі, у якіх маюць патрэбу большасць галін чалавечай практыкі. Штучныя органы нюху маглі б стаць незаменнымі прыстасаваннямі ў розных галінах хімічнай прамысловасці. Цяперашні асартымент электрыч-

ных датчыкаў для збору інфармацыі хімічных працэсаў вельмі малы, параметры датчыкаў даўно ўжо не задавальняюць патрабаванняў сучаснай і будучай хімічнай прамысловасці. Тэхнічны аналог чалавечага органа нюху можна даволі паспяхова скарыстаць у парфумнай і харчовай прамысловасці. На прадпрыемствах, у навукова-даследчых інстытутах, у лабараторыях, якія маюць справу з таксічнымі матэрыяламі, штучны нос дазволіць своечасова выявіць небяспечную ўцечку ядаў і перш за ўсё тых, якія не паддаюцца выяўленню, не ўспрымаюцца нюхам чалавека. Нарэшце той жа «нос» можа папярэдзіць аб канцэнтрацыі забруджанага паветра ў міжпланетных караблях, падводных лодках, самалётах, у аперацыйных, рудніках, шахтах, на складах, на тэрыторыі фабрык і заводаў.

Галоўная цяжкасць у мадэліраванні створаных прыродай органаў нюху заключаецца ў тым, што для вучоных да гэтага часу застаецца многа невядомага ў прыродзе пахаў. Ніхто дакладна не ведае, чаму адны рэчывы валодаюць моцным пахам, а іншыя не пахнуць зусім, чаму адзін пах прыемны, а іншы невыносны.

Біёнікі мяркуюць, што прынцып дзеяння органаў нюху насякомых можна будзе ў будучым шырока выкарыстоўваць ва ўваходных прыстасаваннях вылічальных машын і газавых храматографаў. А пакуль што...

Пакуль што вучоныя заняты пошукамі ў жывёльным свеце арганізмаў, здольных аўтаномна выконваць функцыі газааналізатараў і пахалакатараў. Для такой ролі біялагічныя сістэмы павінны валодаць высокаадчувальным нюхальным апаратам, які мог бы ўспрымаць неабходны нам пах у самай мізэрнай канцэнтрацыі, і рэакцыя на выяўлены пах павінна быць неадкладнай, простай, нагляднай і зразумелай.

Ідэя гэта ўвогуле не новая, але шырокай рэалізацыі дагэтуль не атрымала. І па зусім простай прычыне: мы вельмі мала ведалі пра органы нюху жывых істот, дакладней—пра іх здольнасці і магчымасці. Мы і не думалі, напрыклад, што такія экзатычныя птушкі, як папугаі, могуць у пэўных умовах выдатна «працаваць» газааналізатарамі. З усёй разнастайнасці жывёльнага свету чалавек доўгі час выкарыстоўваў у якасці «пахалакатараў» толькі тры-чатыры віды. Вядома, напрыклад, што яшчэ на пачатку нашага стагоддзя ў многіх краінах свету функцыю «дэгустатараў» руднага газу выконвалі канарэйкі. Гэтыя пеўчыя птушкі настолькі чуйныя да атрутных газаў, што пры самай мізэрнай наяўнасці іх у шахце канарэйкі трацяць прытомнасць. Аднак добрая порцыя кіслароду зноў ажыўляе птушак.

*Бывалыя маракі, безумоўна, помняць*, як у спісах экіпажаў падводных лодак былі ...белыя мышы. Справа ў тым, што ў свой час нават «уладальніца мораў» Англія будавала лодкі, якія асвятляліся газалінам — вадкім вуглеродам, небяспечным рэчывам пры абыякавым абыходжанні з ім. Высветлілася, што белыя мышы надзвычай адчувальныя да паху газу. Калі газ працякае дзе-небудзь на падводнай лодцы, яны сваім піскам імгненна папярэджвалі экіпаж. На ўтрыманне мышэй выдзялялі грошы, якія ўлічваліся ў агульнай ведамасці каманды.



«Пахалакацыйныя здольнасці» белых мышэй выкарыстоўваюцца і зараз. Гэтых жывёлін бяруць з сабой на працу гарнякі многіх краін для выяўлення выбухованебяспечнага руднага газу. Яго наяўнасць выяўляецца па зменах паводзін звычайна ціхіх мышэй, — адчуваючы пах газу, яны пачынаюць мітусіцца ў клетцы.

У гарнякоў ёсць яшчэ адзін даўні і верны сябар — чыж. Кожную раніцу перад пачаткам работы ў лабірынт вугальных шахтаў англійскага горада Мансфільд апускаюцца два спецыялісты. Яны вязуць з сабой вялізную клетку з... чыжамі. Шахцёры з вялікай увагай і даверам адносяцца да гэтай птушкі, якая не раз выратоўвала іх ад смяротнай небяспекі. Справа ў тым, што чыж зусім не пераносіць прысутнасці вокісу вугляроду. Ён памірае, удыхнуўшы мізэрную порцыю гэтага газу.

Не менш важную выратавальную службу, праўда, іншага роду, даўно выконваюць нашы чатырохногія сябры— сабакі ў Аўстрыйскіх Альпах, дзе кожную зіму з горных хрыбтоў спадаюць уніз лавіны, засыпаючы прорвы і зносячы дамы і цэлыя паселішчы.

Мясцовыя жыхары добра ведаюць усе прыкметы лавінанебяспечных схілаў. Яны нават «ахрысцілі» некаторыя лавіны, што спаўзаюць з гор у адных і тых жа месцах і ў адну і тую ж пару, уласнымі імёнамі. І ўсё ж на горных дарогах Аўстрыі падарожніка пастаянна чакае небяспека быць засыпаным снегам. Не раз у лавіны траплялі лыжнікі, лесарубы, сяляне, якія працавалі ў гарах, дзеці, што вярталіся са школы. У такіх выпадках адразу ствараюцца выратавальныя атрады з добраахвотнікаў. І на дапамогу чалавеку прыходзяць «жывыя пахалакатары»— сабакі.

Не кожны сабака можа адшукаць засыпаных снегам. Адна справа — адрозніць сярод іншых чалавека, пах якога знаёмы сабаку, і зусім іншая — у завіруху ці туман знайсці невядомага, засыпанага снежнай лавінай. Дрэсіроўка лавінных сабак вельмі складаная. Спачатку іх звычайна прымушаюць шукаць якую-небудзь рэч гаспадара, якую закапалі ў снег. Наступны этап —адшукаць схаванага пад снегам гаспадара. Далей самае цяжкае — навучыць сабаку знаходзіць незнаёмых людзей. Пасля ўмелай дрэсіроўкі лавінны сабака адшуквае і тых, хто заблудзіўся ў гарах у туман ці ноччу. «Чатырохногі пахалакатар» нясе сваю цяжкую і складаную горнавыратавальную службу бездакорна ў любое надвор'е, у любых умовах.

Жыхары Альпаў здаўна расказваюць казачныя гісторыі пра легендарных сенбернараў, якія выратавалі ад смерці многіх. У Швейцарыі, напрыклад, добра вядомы сабака па клічцы Гары, які за сваю доўгую службу адшукаў ля перавала Сен-Гатард каля пяцідзесяці чалавек.



Канарэйкі, белыя мышы, чыжы, сабакі — гэта, так сказаць, піянеры пахалакацыйнай службы. За апошнія гады вучоным удалося выявіць і ўзяць на службу чалавеку мноства новых «жывых пахалакатараў». Так, у новай «прафесіі» пачалі нядаўна выступаць папугаі. Высветлілася, што гэтыя птушкі могуць не толькі добра імітаваць чалавечую гаворку, але і лепш за любы сучасны прыбор адчуваць прысутнасць у паветры нават самых мізэрных колькасцяў сінільнай кіслаты. Яны паказалі сябе такімі дасканалымі дэтэктарамі гэтай страшэннай атруты, што венгерская фармацэўтычная фабрыка «Кабанія» купіла дзевяць какаду і залічыла іх у штат супрацоўнікаў прадпрыемства. Папугаі пастаянна дзяжураць у цэху, дзе вырабляюцца розныя лекавыя спалучэнні сінільнай кіслаты, папярэджваючы людзей аб небяспецы атручвання.

Шмат новых «спецыяльнасцяў» за апошнія 25 гадоў набылі сабакі дзякуючы свайму тонкаму нюху. Так, у гады Вялікай Айчыннай вайны мінёры мелі даволі абмежаваныя сродкі для пошуку старанна замаскіраваных ворагам мін: мінашукальнікі таго часу выяўлялі толькі міны ў металічных «апратках», а драўляныя і шкляныя даводзілася намацваць доўгім шостам з вострым металічным наканечнікам. Пры такіх сродках жыццё мінёра заўсёды было ў небяспецы. Маленькія супрацьпяхотныя, вялізныя супрацьтанкавыя і іншыя міны, расстаўленыя ворагам на дарогах, на вуліцах, у будынках вызваленых гарадоў, — усюды, дзе толькі магла ступіць нага чалавека,— чакалі сваіх ахвяр. Трэба было знайсці і абясшкодзіць тысячы, дзесяткі і сотні тысяч мін. Найменшая памылка — смерць. Сабакі ж востра адчуваюць пах узрыўчаткі, фугасаў і іншых «сюрпрызаў». І вось у 1942 годзе ў Цэнтральнай школе ваеннага сабакаводства былі падрыхтаваны і прайшлі строгія выпрабаванні на палігоне і ў баявых умовах першыя сабакі-мінашукальнікі.

Выкарыстанне сабак у якасці мінашукальнікаў значна аблегчыла цяжкую працу мінёраў. Ідучы ўслед за сабакам па правераным ім шляху, мінёр ужо не рызыкаваў падарвацца. Паласа адшукання стала шырэйшай у дзесяць-пятнаццаць разоў. Хуткасць пошуку павялічылася больш чым у дваццаць разоў. Сабакі працавалі ў высокай траве, у лясных зарасніках, у памяшканнях, дзе не мог працаваць мінёр з мінашукальнікам ці шчупам.

Нядаўна сабакі пачалі працаваць у якасці «інспектараў» газавых сетак. Ініцыятыва гэтага новаўвядзення належыць дырэкцыі гарадскіх газавых магістраляў у Франкфурце-на-Одэры (ГДР).

Пры вядзенні газаправодаў у новых раёнах гарадоў нярэдка даводзіцца спыняць работу з-за таго, што ўжо засыпаная магістраль дзесьці прапускае газ. У такіх выпадках выйсце адно — адкапаць лінію. Але гэта яшчэ паўбяды. Вельмі цяжка выявіць месца ўцечкі. Нават рэнтгенаўскія здымкі не выяўляюць пашкоджанняў. А мано-

метр працягвае паказваць спад ціску. Зразумела, «хворае» месца заўсёды знаходзяць, але на гэта патрабуецца шмат часу. Вось тут на выручку газавікам і прыходзяць сабакі, якія валодаюць цудоўным нюхам і вельмі хутка выяўляюць уцечку ў газавых магістралях.

У 1968 годзе супрацоўнікі ўпраўлення «Талінгаз» адабралі для «інспектавання» гарадской газавай сеткі некалькі дужых і разумных усходне-еўрапейскіх аўчарак. Лепшая з іх — Дзінга — пасля трохмесячнай вучобы стала высокакваліфікаванай працаўніцай. Яе вельмі цэняць. Яна афіцыйна залічана ў штат упраўлення «Талінгаз», атрымлівае зарплату 20 рублёў у месяц (а не кожны ж сабака можа пахваліцца дзяржаўным заробкам). Пад кантролем Дзінгі 23 вуліцы Таліна працягласцю 5713 метраў. На магістралі заўсёды парадак.

Гэтак жа сумленна нясуць службу назірання за газавымі магістралямі дзесяткі сабак-аўчарак у ГДР, ПНР і іншых краінах. Па дадзеных Варшаўскага ўпраўлення газавых сетак аўчаркі за год выяўляюць да 200 месцаў, дзе падземныя камунікацыі далі трэшчыну. Выявіўшы ўцечку ў газаправодзе, сабака-«інспектар» кладзецца і гучна брэша да таго часу, пакуль не прыйдзе аварыйная брыгада і не адрамантуе магістраль.

Выключную здольнасць нашых чатырохногіх сяброў выяўляць і вельмі дакладна адрозніваць пахі некалькі гадоў назад вучоныя рашылі выкарыстоўваць і ў... геалогіі. Вялікай вядомасцю карыстаецца ў суседняй нам Фінляндыі аўчарка-геолаг Лары. Пошуку карысных выкапняў яго пачалі вучыць з 1962 года. Спачатку сабака выяўляў кавалкі парод на паверхні і неглыбока ў зямлі. А праз два гады на плошчы ў тры квадратныя кіламетры Лары адшукаў 1330 узораў, якія мелі практычную цікавасць. На гэтай жа тэрыторыі спецыяліст-геолаг выявіў толькі 270 узораў! Геалагічныя здольнасці Лары заснаваны на цудоўнай чуйнасці, уменні адрозніваць пах сернага калчадану ці пірыту, якія прысутнічаюць у многіх комплексах жалезнай руды. Такі добра натрэніраваны сабака, як Лары, можа знайсці серны калчадан на глыбіні сямі і болей метраў! Поспехі Лары і яго гаспадара Пенці Матсана на ніве геалогіі ў 1966 годзе былі адзначаны прэміяй Дзяржаўнага савета Фінляндыі, якая даецца за паспяховую разведку месцазнаходжанняў калчаданавай руды і складае сем тысяч фінскіх марак.



У той жа Фінляндыі сабак пачалі прыцягваць на барацьбу з распаўсюджваннем наркаманіі, хоць у параўнанні са сваімі скандынаўскімі суседзямі краіна Суомі менш за іншыя закранута гэтай гібельнай з'явай. Справа ў тым, што міжнародныя гандляры марыхуанай, гашышам і іншаю атрутаю ўключылі ў сферу сваёй злачыннай дзейнасці і Фінляндыю. Кантрабанда наркотыкаў у гэту краіну ўзрастае. Улады ўжо прынялі шэраг мер, каб прадухіліць прывоз шкоднага зелля. Таможная служба атрымала падмацаванне ў выглядзе некалькіх спецыяльна абучаных сабак-лабрадораў, якія, як кажуць, за вярсту чуюць наркотыкі. Ім дазваляюць абнюхваць адзенне і багаж прыезджых на таможні і ў порце. Пачуўшы пах наркотыка, сабака пачынае моцна брахаць. Вопыт фінскіх таможных чыноўнікаў у выкарыстанні сабак для лоўлі кантрабандыстаў перанялі і шведы. Тут праславіўся сабака лабрадорскай пароды па клічцы Какетка. Кантрабандысты завуць яго «Чорны сатана». Какетка надзвычай адчувальны да наркотыкаў, і яму даручаецца адшукваць тайнікі з гэтым зеллем на аўтамашынах. Чатырохногі дэтэктыў адносіцца да сваіх абавязкаў вельмі добрасумленна: ён абнюхвае вялікі транспартны грузавік за тры гадзіны.

Напэўна, высокаўдасканаленаму органу нюху нашых чатырохногіх сяброў біёнікі знойдуць яшчэ не адно новае практычнае прымяненне. Трэба меркаваць, што з часам, акрамя сабак, канарэек, чыжоў, белых мышэй і папугаяў, чалавек знойдзе і возьме на службу яшчэ многа іншых жывых «пахалакатараў».

Ізот ЛІЦІНЕЦКІ,
кандыдат тэхнічных навук.

■ ■ ■





# Цікава ведаць

●

Калі ў Англіі абмяркоўвалася пытанне, які надпіс зрабіць на пастаменце помніка Дарвіну, то было прыслана больш як дваццаць тысяч прапаноў. Адны стараліся, каб у надпісе была раскрыта сутнасць вучэння аб паходжанні відаў, другія — каб бліснуць рыторыкай. Аднагалосна быў прыняты надпіс з двух слоў: «Чарльз Дарвін».

●

У Амерыцы часта праводзіліся конкурсы на лепшага перайМальніка ролі Чарлі Чапліна. Аднойчы на такі конкурс у Галівудзе з'явіўся сам Чаплін.

Журы, на яго вялікае здзіўленне, прысудзіла яму толькі трэцюю прэмію.

●

Герой Севастопальскай абароны, славуты рускі хірург Пірагоў наведаў у Парыжы вядомага французскага прафесара Бяльпо.

— Я рускі лекар,— коратка сказаў ён.— Прыехаў у Парыж вучыцца.

— Навошта вы так далёка ехалі!! Перад вашым прыходам я якраз чытаў вашага суайчынніка прафесара хірургіі Пірагова. Вельмі цікавая і павучальная кніга. Скажыце, ён вам знаёмы!

Усміхнуўшыся, госць адказаў:

— Знаёмы.

— Будзьце ласкавы, калі вернецеся ў Расію, скажыце яму, што я ўдзячны яму і вельмі яго паважаю.

— Для гэтага, дарагі прафесар, мне неабавязкова вяртацца на радзіму: прафесар Пірагоў перад вамі.

●

Лангбарда, аўтара вядомых у Беларусі будынкаў Дома ўрада, Дома афіцэраў, Опернага тэатра, аднойчы мастакі запыталі:

— Чаму вы не задаволены, што вас выбралі членам-карэспандэнтам Акадэміі архітэктуры, а не правадзейным членам!

— А вы ведаеце розніцу паміж правадзейным членам і членам-карэспандэнтам! — спытаўся той.— Не! То слухайце. Калі на вечарынцы некалькі хлопцаў завіхаюцца ля адной дзяўчыны, а яна выбірае аднаго, які яе праводзіць дахаты,— гэта і ёсць правадзейны. Астатнія, якія праводзяць дзяўчыну вачыма,— члены-карэспандэнты...

●

Амерыканскі фізік Роберт Мілікен (1868—1953) быў надта гаваркі. Жартуючы з яго, ягоныя супрацоўнікі прапанавалі ўвесці новую адзінку — кен — для вымярэння гаварлівасці. Яе тысячная частка, гэта значыць, мілікен, павінна была перавышаць гаварлівасць сярэдняга чалавека.

●

У пачатку навуковай кар'еры Эйнштэйна адзін журналіст спытаўся ў пані Эйнштэйн, што яна думае пра свайго мужа.

— Мой муж геній! — сказала пані Эйнштэйн.— Ён умее рабіць абсалютна ўсё, акрамя грошай.

●

Вядомы дацкі фізік Нільс Бор быў вымушаны ратавацца ад гітлераўскіх акупантаў і ў 1943 годзе выехаў з Капенгагена. Ён не рызыкнуў забраць з сабой залаты Нобелеўскі медаль — масіўны металічны кружок — і растварыў яго, а бутэлечку з растворам схаваў у сваёй лабараторыі.

Пасля вайны, вярнуўшыся на радзіму, ён хімічным шляхам вылучыў з раствору золата і заказаў з яго медаль.

●

Аднойчы Нільс Бор дрэнна падрыхтаваўся да калоквіуму, і яго прамова аказалася нецікавай. Бор аднак не збянтэжыўся і ў заключэнне з усмешкай сказаў:

— Я выслухаў тут столькі дрэнных прамоў, што прашу разглядаць маю цяперашнюю, як помсту.

# ПЕРАМОЖЦЫ НАЗВАНЫ

На другім Усесаюзным чэмпіянаце па шашачнай кампазіцыі спаборніцтвы праходзілі адначасова па ўсіх асноўных творчых жанрах. У чэмпіянаце бралі ўдзел складальнікі канцовак, эцюдаў і задач. На вельмі строгі адбор судзейскай калегіі па раздзеле канцовак на стоклетачнай дошцы было пададзена 187 кампазіцый. Новыя правілы падвядзення вынікаў чэмпіяната выклікалі жаданне ўсіх яго ўдзельнікаў стварыць максімальную колькасць першакласных твораў. Правілы гэтыя аказаліся вельмі зручнымі, і можна спадзявацца, што і далей, на наступных чэмпіянатах, яны будуць без змен. Згодна з гэтымі правіламі, пераможца вызначаецца па суме балаў, прысуджаных шасці яго лепшым кампазіцыям, прычым кампазіцыям толькі якасна добрым і выдатным. Мінімальная адзнака, якую можа атрымаць канцоўка, — пяць балаў, максімальная — дзесяць балаў. За камбінацыі недастаткова ўдалыя балы не налічваюцца зусім. Як бачым, такія правілы спрыяюць выяўленню як асобных бліскучых кампазіцый, так і сталых аўтараў, якія здольны ствараць першакласныя творы.

Канчатковыя вынікі чэмпіяната былі вельмі радасныя для выхаванцаў беларускай шашачнай школы. Пераможцам у раздзеле канцовак стаў дваццацічатырохгадовы афіцэр Савецкай Арміі Уладзімір Паўлавіч Матус. Апошнія гады У. Матус служыць у Валгаградзе, але аматары шашак нашай рэспублікі ведаюць, што свае першыя крокі ў шашачнай кампазіцыі Уладзімір Матус зрабіў, будучы школьнікам Шоўкінскай школы на Гродзеншчыне. На чэмпіянат Матус прадставіў восем канцовак, і сума балаў, атрыманых найлепшымі з іх, аказалася роўнай 53. Вопытны складальнік кампазіцый Рыгор Кетлер, які заняў другое месца, атрымаў на восем балаў менш за Матуса.

Падаём лепшую з камбінацый У. Матуса, якая атрымала ацэнку 9,5 бала.



Белыя пачынаюць і выйграюць.

Шлях да перамогі пачынаецца ў гэтай камбінацыі нечаканым маршам да дамачнага поля: 1. 15—10! 29 : 49. Чорныя прымушаны біць найбольшую колькасць шашак.

2. 10—5 49 : 16
3. 48—43 16 : 49
4. 30—25 19 : 30
5. 5 : 44!! 49 : 40
6. 25 : 45, і чорныя пазбаўлены хадоў.

Аўтар здолеў паказаць багатую камбінацыйную гульню, карыстаючыся на дошцы мінімальнай колькасцю шашак.



Высокімі конкурснымі баламі былі адзначаны камбінацыі і іншых беларускіх складальнікаў. Леанід Чарноў атрымаў 21 бал, Н. Іржаўскі — 21 бал, Д. Сухарукаў — 19 балаў, А. Сафроненка — 5 балаў. Вельмі высокую адзнаку — 9,5 бала — атрымала адна з канцовак Л. Чарнова. Вось яна.



Белыя пачынаюць і выйграюць.

1. 37—31! 39:46

І ў гэтай камбінацыі з многіх напрамкаў бою чорныя вымушаны збіць большасць шашак.

2. 34—30! 24 : 44

Яшчэ адзін раз трэба біць большасць.

3. 38—32! 26 : 28

Зноў большасць!!

4. 22 : 2 15 : 24
5. 2 : 16 12 : 21
6. 16 : 5!

Фінальная пазіцыя проста цудоўная!

Чорная дамка, якая атрымала права ходу, павінна загінуць. Такое становішча дамак на дошцы атрымала назву «слупняк».

*Макс ШАВЕЛЬ,*
*міжнародны майстар.*

Рыгор ІГНАЦЕНКА

# ЗЯЛЁНАЯ ПЕСНЯ

## ЖЫТА КАЛАСІЦЦА

Гэты час, бадай, самы цудоўны ў леце. Дрэвы і хмызнякі ў мяккай свежай зеляніне. Пазней лістота на іх трохі паблякне, агрубее. Цяпер жа, на пачатку лета, усё маладое, пышнае і зялёнае.

Доўгія чэрвеньскія дні звычайна стаяць пагодлівыя, цёплыя. Ночы ж, наадварот, кароткія, але яшчэ не душныя, свежыя.

У час калашэння жыта летняе паветра густа настоена водарам жытнёвых палёў і расцвіўшых красак, да якіх яшчэ не дакранулася каса.

Над раўчукамі і рачулкамі, да якіх падступаюць жытнёвыя палі, яшчэ разлягаюцца песні салаўя. А ў лясах і пералесках заліваюцца берасцянкі, валасянкі, пеначкі.

Кукуе зязюля. Яе гучную песню можна пачуць і ранкам, і днём, і надвячоркам, а часам нават і ў змроку, калі зямля засне салодкім сном. Але нядоўгі яе спеў — хутка шэрая пяюха «падавіцца каласком» і змоўкне аж да наступнай вясны.

Крочачы ўзмежкам жытнёвага поля, якое падступае да лесу, альбо дарогай між палёў, часам можна натрапіць на сюрпрыз. Зірнеш убок, а ля сцежкі стаяць маладзенькія баравічкі. Ды такія крамяныя, пругкія! Каласавікамі іх, гэтыя першыя грыбы, у народзе называюць. Час іх жыцця нядоўгі — пакрасуюцца тыдзень-паўтара і знікнуць.

Жыта каласіцца — каліна маладзіцца, драч з перапёлкаю весяліцца, каса вострыцца.

## НАРАДЖЭННЕ РАНІЦЫ

Яшчэ толькі тры гадзіны раніцы, а руплівай ластаўцы ўжо не спіцца. Сядзіць яна на сухой галінцы лазовага куста, што нізка нахіліўся над вадою, ды весела шчабеча.

Каля рэкі змрок, а ў блізкім лесе, што вострым клінам урэзаўся ў някошаныя лугі ля Бярэзіны, сапраўдная цемра. Там дзесьці, напэўна, яшчэ гаспадарыць ноч. Паміж зялёнымі купінамі клапатліва мітусяцца калючыя вожыкі, гойсаюць хітрыя лісіцы, бегаюць асцярожныя зайцы, уздоўж лясных прасек лётаюць лупатыя совы, драпежна выглядаючы з вышыні здабычу.



Над лугам заружавеў усход. Шэры змрок таропка папоўз у густы ракітнік.

На вадзе ўжо добра можна распазнаць каляровыя паплаўкі, а птушыных галасоў усё яшчэ не чуваць. Адно мая касатачка жвава шчабеча на галінцы.

Толькі мо праз паўгадзіны дзесьці за ракой закукавала зязюля. Яе гучны, чысты голас добра чуваць у гэтай ранішняй цішыні.

За зязюляй азваўся лугавы чакан, неяк нясмела заспявала валасянка-стракатка. І ўжо толькі тады рассыпала срэбра ў бярэзніку галасістая берасцянка, заспявалі іншыя дробныя птушкі.

Пачуўшы галасы лесу, які прачнуўся, ластаўка сарвалася з куста і гулліва закружыла над вадою, усё гэтак жа весела шчабечучы.

Нарэшце яна схапіла на ляту кроплю вады і хутка падалася да вёскі.

На адной маёй вудзе весела заскакаў паплавок. Калі ён таропка пайшоў уніз, я падсек. На лесцы бойка захадзіла невялікая рыбіна. Значыць, і там ужо настала раніца.

Першая на рацэ прачнулася ластаўка-касатка. А хто ж, цікава, першы абудзіўся ў вадзе?..



## ПТУШЫНАЯ ЧАХАРДА



На лузе стаяць стагі духмянага сена.

На адным з іх на канцы жэрдкі сядзіць лугавы чакан — маленькая стракатая птушачка. Сядзіць і весела спявае.

Вось ён сарваўся са свайго вартавога паста, злавіў у паветры, шчоўкнуўшы дзюбай, даўганогага камара і вярнуўся на месца. З'еў яго, расправіў адно крылца, потым другое і зноў заспяваў.

Але вось да стога падляцеў саракуш. Спіхнуў з жэрдкі слабую птушку і сам на яе месца сеў. Надзьмуўся і паважна доўгім хвастом пачэквае.

Доўга ён так моўчкі на жэрдцы сядзеў. Потым спрытна апусціўся на зямлю і злавіў коніка. Толькі на сваё месца хацеў вярнуцца, як аднекуль узялася сарока: хоп — і села на жэрдку. Давялося саракушу сабе іншае месца шукаць. Хіба яе згоніш? Лепей не звязвайся з балаболкай, спакайней будзе.

Здалёк паказалася варона. Шмат на лузе ёсць добрых мясцін, дзе птушцы адпачыць можна. Дык не, там ёй не падабаецца, сюды ляціць...

Сагнаўшы з наседжанага месца сароку, варона чагосьці папаролася дзюбай на грудках і прыціхла.

Доўга б яна яшчэ, напэўна, павесіўшы нос, так час бавіла, каб у небе ястраб не паказаўся. Не чакаючы яго набліжэння, варона сарвалася з жэрдкі і хуценька паляцела прэч. А ястраб як сеў на жэрдку, дык быццам прырос да яе.

Так я і пайшоў з лугу, не дачакаўшыся той птушкі, якая б змагла прагнаць з месца гэтага драпежніка. Відаць, не знайшлося ў нашым лесе птушкі, дужэйшай за яго.

## ЛІСІЧКІ

Тым яны і дарагія, што паяўляюцца першыя.

У лесе няма яшчэ ніякіх грыбоў, а яны жоўтымі грамафончыкамі пачынаюць радаваць вока грыбніка.

У вёсцы жанчыны не атрэслі рук ад чарніц, а я ўжо іду ў лес па лісічкі.

— Ці не па грыбы накіраваліся? — здзіўляюцца людзі.

— Па грыбы.

— Якія ж цяпер грыбы яшчэ, калі лес ягадамі завалены?

— Што ж, праверым,— адказваю.

Прыходжу ў стары бор, знаходжу гнілы пень на прагалінцы. Пень рассыпаецца ў рыжую пацяруху. Калі няма на гэтым месцы лісічак — значыць, не будзе іх яшчэ нідзе. Зажаўцеюць тут — праз тыдзень-паўтара будуць і па ўсім лесе.



І вось знаёмае месца. Акідваю позіркам руды подсціл каля пня — няма грыбоў. Ну што ж, няма дык няма. Прысядаю, каб сарваць некалькі буйных ягад, якія так і просяцца самі ў рот.

Наперадзе нешта зажаўцела. Таропка расхінаю зялёны ягаднік — лісічка! А крыху правей яшчэ некалькі грыбкоў.

І толькі цяпер заўважаю каля пня месцамі прыўзнятую леташнюю лістоту, з-пад якой хітравата пазіраюць малюсенькія, па напарстку, грыбкі.

Тыя лісічкі, якія выраслі ў цяністым ягадніку, буйныя, ломкія, з прыліпплым да спацелых шапачак лясным смеццем. На адкрытым жа месцы грыбкі маленькія, сухія, з падсмажанымі на сонцы да бураватасці краямі.

Пачынаеш нетаропка таптацца вакол пня, угледаючыся ў спляценне густога ягадніку. І кошык, хоць і марудна, але ўсё ж напаўняецца малымі залацістымі грыбкамі.

Вось і будзе што паказаць сваім суседзям...

Мал. М. Меранкова.

● Рыгор ЛАЗУРКІН

# БУРБАЛКІ

### ГУМАРЭСКА

Аднойчы ў наш рабочы пакой зайшоў дырэктар.

— Хто з вас умее пускаць мыльныя бурбалкі? — запытаўся ён.

Усе мы пераглянуліся. Малодшыя інжынеры паглядзелі на старэйшых, старэйшыя — на малодшых. І што за пытанне? Бурбалкі, ды яшчэ мыльныя — каму яны патрэбныя ў нашай установе?

Таму ўсе прамаўчалі.

— Няўжо ўрэшце-рэшт ніхто не ўмее пускаць бурбалкі? — з расчараваннем у голасе спытаўся шэф.— Можа, вы думаеце, што я жартую? — паспрабаваў ён нас разварушыць.— Дык не. Праблема гэта сур'ёзная, вельмі нават сур'ёзная.

— Я некалі ўмеў пускаць,— азваўся інжынер Ягадкін, і ўсе заўважылі, як на момант пасвятлеў шэфаў твар.— Але цяпер, баюся, не змагу... Забыўся,— вінавата дадаў Ягадкін.

Убачыўшы, як зноў спахмурнеў шэф, я рашуча ўзняўся з месца і аб'явіў:

— Я ўмею!

Усе з палёгкай уздыхнулі, а дырэктар прыязна сказаў:

— Перад абедам, Бублікаў, зайдзіце да мяне ў кабінет.

Увесь час да абеду я з хваляваннем думаў: «Што ён такое мне скажа? Можа, прапануе тэму для дысертацыі? Сам жа сказаў, што праблема гэтая сур'ёзная...»

Нарэшце, я дачакаўся абеду, зайшоў да шэфа.

— Паедзеш са мной,— сказаў мне дырэктар.

Селі ў «Волгу», паехалі па горадзе. Сышлі ля вялікага дома, заходзім у кватэру.



Чую, з аднаго пакоя даносіцца такі дзіцячы гвалт і крык, нібы там каго сілаю кормяць ці даюць горкія лекі. А гэта дырэктараў сын, карапуз гадоў на пяць, аж разрываецца ад крыку:

— Хачу бурбалак! Бурбалак хачу!

Хто яму калі паказваў тыя бурбалкі, ліха яго ведае. Бачу — на падлозе, на канапе, на стале — усюды гэтулькі розных цацак, што свет не бачыў. Але ж не — давай яму бурбалкі! Побач сівая бабуля стаіць, напэўна, нянечка, сама ледзь не плача, а перад ёю — начоўкі, поўныя мыльнай пены. Як відаць, спрабавала бурбалкі рабіць, ды нічога ў яе не выйшла.

Тут я развёў мыла ў вадзе, папрасіў у бабулі макаронаў — замест саломы — і пусціў першую бурбалку!

Як узрадуецца карапуз, як заплешча ў ладкі, як забегае ад радасці па пакоі! Не, не такі ўжо гэта просты занятак — пускаць бурбалкі! Відаць, не кожнаму давялося це-





шыцца, як плавае ў паветры, пераліваючыся колерамі вясёлкі, шар, як важна лопаецца ён, а на яго месца падплывае ўжо другі, яшчэ прыгажэйшы!

Прайшло мо з паўгадзіны, і я нават рады быў, што супакоіў шэфавага карапуза. Але вось бачу: шэф апрануўся, выходзіць збіраецца, а пра мяне быццам забыўся.

— А як жа я? — пытаюся.

— Заставайся тут, Бублікаў. Будзеш пускаць бурбалкі, у цябе гэта здорава выходзіць. Дарэчы, заўтра на работу не прыходзь. Адразу ж сюды. Ты мяне зразумеў?

— Зразумеў,— адказваю.— Але як жа...

— Не хвалюйся. Тваю работу будзе часова выконваць Ягадкін. Ён у нас усё роўна не загружаны!

— Зразумеў,— адказваю.— Але як жа...

— Пра гэта таксама не хвалюйся. Твая зарплата будзе табе ісці, як ішла.

І паехаў. А я застаўся. Карапуз мяне палюбіў — і за мыльныя бурбалкі і за тое, што я ўмеў з ім забаўляцца. Ён то ездзіў на мне верхам, то, як утаймавальнік тыграў, уціхамірваў мяне палкай, то, на правах работніка заапарку, зачыняў мяне ў клетцы. А я быў — адпаведна — то ў ролі асла, то тыгра, то малпы, і ў кожным выпадку мне даставалася. Але я цярпеў: а раптам ён раскажа свайму бацьку, што я нікуды не варты... гм, інжынер? Што тады пра мяне падумае шэф?

Так праходзілі дні за днямі. Прызнаюся, я вельмі сумаваў па сваёй рабоце, па сваім стале, за якім было так спакойна і ўтульна, дзе на мне ніхто не ездзіў і не садзіў у клетку. Але я мужна пераносіў сваю новую работу, разумеючы, што гэта мне залічыцца ў актыў: авось павысяць!

Аднойчы шэф вярнуўся з работы дадому ўзрушаны і нейкі сумны — такім я яго ніколі не бачыў.

— Заўтра можаш ісці на работу,— абыякава сказаў ён мне.

— А як жа... з сынком вашым?

Дырэктар толькі махнуў рукой.

Прызнаюся, у мяне былі нядобрыя прадчуванні, але таго, што адбылося, я ніяк не чакаў.

За маім сталом, нібы не заўважаючы мяне, сядзеў інжынер Ягадкін. Калі ж я папрасіў яго перасесці за свой стол, ён суха сказаў:

— Азнаёмцеся з загадам нумар 185, таварыш Бурбал..., прабачце, Бублікаў. Вось цяпер ваша месца,— паказаў Ягадкін на стол, за якім ён нядаўна сядзеў сам.

Загад нумар 185 быў падпісаны... новым дырэктарам! У ім мне аб'яўлялася строгая вымова за прагулы, я пераводзіўся ніжэй, на месца Ягадкіна. А я так спадзяваўся на павышэнне! Нібы мыльная бурбалка, лопнула мая мара!

Да ўсяго праз гэтую гісторыю з бурбалкамі я нават прозвішча новае заслужыў. У дакументах і загадах, праўда, яшчэ пішуся Бублікаў. А так — у вочы і за вочы — усе завуць мяне Бурбалкай. Вось як!




Мал. **С. Волкава.**

## нашы аўтары

●

**БРОЎКА Пятрусь** нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Пуцілкавічы на Ушаччыне. Аўтар зборнікаў «Прамова фактамі», «Гады, як шторм», «Цэхавыя будні», «Шляхамі баравымі», «Вясна Радзімы», «Насустрач сонцу», «У роднай хаце», «Сонечнымі днямі», «Дарогай жыцця», «А дні ідуць», «Між чырвоных рабін», «Калі ласка» і інш., а таксама рамана «Калі зліваюцца рэкі».
Пятрусь Броўка — народны паэт БССР, лаўрэат Ленінскай і двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, Герой Сацыялістычнай Працы.

●

**ПАЛЬЧЭЎСКІ Алесь** нарадзіўся ў 1905 годзе ў вёсцы Прусінава Уздзенскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна.
Працаваў у рэдакцыях часопісаў, выкладаў мову і літаратуру, быў рэдактарам у выдавецтве.
Аўтар кніг «Беражанкі», «Родныя берагі», «Жнівеньская раніца», «Разбітае люстэрка», «Мора на камені» і інш.

●

**ДЗМІТРУСЁВА Таццяна** нарадзілася ў 1948 годзе ў вёсцы Студзянец Касцюковіцкага раёна. Працавала ў рэдакцыі клімавіцкай раённай газеты. Зараз працуе ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена». Завочна вучыцца ў БДУ імя У. І. Леніна.

●

**КУЛЬЧЫЦКІ Вячаслаў** нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Карпавічы Нараўлянскага раёна Гомельскай вобласці. Скончыў дзесяцігодку, а затым — Мазырскі вячэрні тэхнікум па спецыяльнасці тэхнік-электрык. Цяпер працуе старшым інжынерам Мазырскай канторы разведчага бурэння.
У «Маладосці» друкуецца ўпершыню.

●

**ГАЎРУСЁЎ Сцяпан** нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Нова-Аляксандраўка Шклоўскага раёна. Скончыў педвучылішча. Служыў у арміі, працаваў у рэдакцыях. Аўтар зборнікаў «Паходныя кастры», «На грэбнях хваль», «Шчодрасць», «Ураган», «Профіль веку».

●

**ДЗЯТЛАЎ Алесь** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Туркі на Бабруйшчыне. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыі глыбоцкай раённай газеты. Цяпер — загадчык аддзела «Чырвонай змены».

**ЖУРНАЛ «МАЛАДОСЦЬ» № 6**

**(на белорусском языке)**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Тэхнічны рэдактар **Уладзімір КОНАШ.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 29-38-54 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 29-35-92 — аддзелы паэзіі і прозы, 29-38-92 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 29-37-75 — аддзел інфармацыі.

Папера 70×108 1/16 Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
АТ 15 117. Здадзена ў набор 26.IV.73 г. Падпісана да друку 29.V.73 г.
Тыраж 17 203 экз. Зак. 249. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**



*У ДРУГІМ ПАЎГОДДЗІ ЧАСОПІС НАДРУКУЕ:*

●

Раман Івана **НАВУМЕНКІ**
**«СОРАК ТРЭЦІ»**
Аповесць Эдуарда **ЯРАШЭВІЧА**
**«ЛЕТНЯЯ ПРАКТЫКА Ў ВЕРБІЧАХ»**
Раздзелы з дакументальнай кнігі
Алеся **АДАМОВІЧА**, Янкі **БРЫЛЯ**
і Уладзіміра **КАЛЕСНІКА**
**«Я — З ВОГНЕННАЙ ВЁСКІ»** —
пра беларускія Хатыні

●

*Вершы Ніла ГІЛЕВІЧА*
*Паэму Івана ЛАСКОВА «ТРЫЦЦАЦЬ»*

●

Нарыс Анатоля **АСТРЭЙКІ**
пра салігорскіх шахцёраў
Нататкі Івана **ДЗЯДЗЮЛІ**
пра чэкістаў
Дзённік археолага
Міхася **ЧАРНЯЎСКАГА**

●

*Творчыя партрэты драматурга Андрэя МАКАЁНКА, спявачкі Тамары РАЕЎСКАЙ, мастака Васіля ШАРАНГОВІЧА*